У 2021 годзе спаўняецца:

**Анатолю ВЯРЦІНСКАМУ**
– 90 гадоў

**Яўгену ГАРАДНІЦКАМУ**
– 70 гадоў

**Хрысціне ЛЯЛЬКО**
– 65 гадоў



Сардэчна віншуем Юбіляраў, зычлівых сяброў
“Тэрмапілаў” з прыгожымі жыццёвымі датамі.
Шчыра жадаем далейшага творчага плёну
ў прасторах роднага космасу.

*“Белавежцы”*

# Т Э Р М А П І Л Ы

Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс

**№ 25 Беласток 2021**

## Змест

Рэдактар

***Ян ЧЫКВІН***

Яўген ГАРАДНІЦКІ

# ВЕРШЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ

***

цяпер або ніколі
на ўзлобку лета
на ўзмежку жыцця
выспела яснасць
жніўеньскай ночы
так назаўжды
пакідаюць мяне
адчай і трывога
цяпер і навекі
дзень добры
ваша вялікасць
выпадак
ручайся
ваша вялікасць
цярпенне

***

– Я буду прыяць табе... –
маці сказала.
Не дагаварыла адкуль...
Адпалі ўсе неабходнасці
ў відавочным кантэксце.
Стала вядома тое,
што не настане.
........................

Апусцела тваё цела.
Пустата. Глыбіня.
Гулкі прывід
нямых сутарэнняў
Хто суцешыць?
Расстайны вецер.

***

Ляціш, не ведаючы спыну
цераз карчэўе і нуду.
Нібыта ў парус, дзьме у спіну
дзівоснай песні дзіўны гук.

Ляціш, аддаўшыся палёту,
На суд яго і правату.
І праляцеўшы існасць, потым
між крыл адчуеш пустату.

Я праляцеў чыесьці твары,
сівы падзол і хмараў медзь.
Слязой прастору пратараніў.
І ўжо няма куды ляцець.

## ДАРОГА

Дарога пахне кветкамі і потам,
вясновым сонцам, маладой лістотай.
Дажджамі вымыта дарога
і слёзамі ўсіх мацярок
і ўсіх каханак.
У далеч нас вядзе дарога.
І ў час мінулы,
пройдзены, знябыты.

## ПЕРАСЯЛЕННЕ ДУШ

Снег адрынуты ад зямлі.
Перасяляецца ў неба.
Сонца воблакі замялі,
Пасміхаецца слепа.

Я працую анёлам
І два крылы
Дараваны мне лёсам.
У небе прасторным
Між стылай імглы
З таварышам душы ўзносім.

Схапіўся за дзядзькаў парваны рукаў,
Цягну за яго целагрэйку.
Унізе змяёю віецца рака,
Дыміцца касцёр недасмаленай цыгарэткай.

Было б на чаўне нам спрытней,
Чым насіцца ў небе замглёным.
А хто там, у тумане, кліча мяне
На беразе лета зялёным?

І я над дымнай вадой
Крылы ў адчаі ламаю!
Цень мамы маёй маладой
Над горкім стаіць малачаем.

І праўда ў далеч заве
Да вузкага небакраю.
І бацькі адбітак ў вадзе
Рукой мне махае.

Два юныя дзядзькі мае
У дыме ваеннай нядолі.
Матуля іх снедаць заве,
Сыночкаў сваіх, у ніколі.

Не перанесці мне іх
Туды, дзе прагал між хмараў.
Стаю на зямлі. Снегапад перасціх.
Абломкі крыл за спіной
Непатрэбным цяжарам.

***

*Т.Ч.*

Мы збеглі… Натужна сіпеў на пад’ёме матор.
Ён нас не падвёў і цяпер аддалялася вечнасць.
А ты заставалася з марным пытаннем – за што?..
А ты заставалася… Дапамагчы было нечым…

І сонца спускалася долу ў няўцямную ноч,
Надрыўна пад колы  пласталіся ўсцяж кіламетры.
І тое, што ты забірала, сыходзіла з воч
У нам недаступныя,  у пракаветныя нетры…

З надзеяй адчайнай, што заўтра настане ізноў
Імкнулі наперад адмеранай мерай. Наперад…
І толькі вярэдзіла нешта, што, можа, назоў
І мела на мове, якой аніхто з нас не ведаў.

***

неадступна па сцежцы няўлоўнай
цень паперадзе выжлаю бег
ён высочваў прыкметы часу
ён вынюхваў адзнакі шчасця

чорнай кропкай – у сіні прасцяг
а ў далечы неймавернай
будзе стол і сціплы наедак
будуць подзвіг, адданасць, здзяйсненне.

зморыць сон нас ідылія ўрэшце
прынясе нечакана дары
і над ветраным гарызонтам
загучыць песня новых дзён

Хрысціна ЛЯЛЬКО

# З шуфляды пісьмовага стала

«Дарога пад гару» — так называлася мая першая кніга прозы, якая выйшла ў 1985 годзе ў сталічным выдавецтве «Мастацкая літаратура». Менавіта гэтае апавяданне, якое я прапаную ўвазе шаноўных чытачоў часопіса «Тэрмапілы», дало назву кнізе, але тады яно было знята з яе выдавецкаю цэнзураю «з-за неадпаведнай тэматыкі».

Аднак, па іроніі лёсу, за тую першую кнігу мне была прысуджана прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, хоць у кнізе не было аніводнага «камсамольскага» апавядання. Проста, на той час у рэспубліцы гэта была адзіная прэмія, якою ўзнагароджвалі маладых творцаў...

Памятаю, што за нейкі месяц да прысуджэння прэміі, у Саюзе пісьменнікаў на вул. Фрунзе, 5 у Мінску, адбылася творчая вечарына намінантаў на гэтую ўзнагароду. На той вечарыне прысутнічалі не толькі пісьменнікі, але і камсамольскія функцыянеры, ад якіх залежаў лёс прэміі.

Намінанты па чарзе выходзілі на сцэну і чыталі вершы і прозу з вылучаных на прэмію кніг. Тады я і вырашыла прачытаць урывак з гэтага, знятага з кнігі, апавядання, зрабіўшы адпаведны ўступ... Што гэта было: маладая бравада ці своеасаблівы пратэст супраць цэнзуры, які я выказала такім чынам? Хто яго ведае. Але добра памятаю не толькі здзіўленне на тварах камсамольскіх начальнікаў, што сядзелі ў першым радзе перад сцэнаю, але і недаўменне маіх старэйшых сяброў-пісьменнікаў, а пасля вечарыны — іх адназначны вердыкт: плакала, маўляў, цяпер твая прэмія... І ўсё ж, нягледзячы на такі мой выпад, прэмію мне далі. Відаць, справа была вырашана значна раней за тую фармальную вечарыну... Гэтыя свае прэміі мы пасля ўрачыста перадалі дзіцячаму дому-інтэрнату на Магілёўшчыне, а апавяданне праляжала ў шуфлядзе майго пісьмовага стала амаль 40 гадоў. Таму цяпер я стаўлю да яго падзагаловак *(не) сучасная* проза, але *не* бяру ў дужкі, бо галоўная думка апавядання пра тое, што нельга ісці на кампраміс са сваім сумленнем, застаецца заўсёды актуальнаю. І, на жаль, у кожным часе знаходзяцца тыя, хто хоча, каб мы заглушылі голас свайго сумлення, ідучы з ім на кампраміс. Вядома, што рана ці позна гэта прыводзіць чалавека да глыбокага ўнутранага канфлікту з самім сабой або нават да драмы ці трагедыі ў асабістым лёсе. Гэтак, як сталася ў выпадку з галоўнай гераіняй апавядання «Дарога пад гару».

Чамусьці менавіта цяпер мне захацелася яго надрукаваць.

Аўтар

# ДАРОГА ПАД ГАРУ
(Не)сучасная проза

Хвойнік, нізкарослы і часты, зялёнаю лавінаю сцякаў з крутабокіх узвышшаў і, здавалася, падаў у нешырокую, з пакатымі берагамі Бацянку. Стаяў у яе павольных водах нерухомы, кашлаты, непрыветны.

Ледзь прыкметная, сыпкая сцяжына жоўтаю змейкаю вілася праз хвойнік, збягала ўніз, на момант хавалася ў ім, але тут жа, не паспеўшы як след заглыбіцца, вырывалася на прастор і, не набраўшы разгону, упіралася ў высокі, непасільны для яе пагорак.

Па гэтай сцяжыне, заязджаючы ў пясок па самыя костачкі, басанож ішло цыбатае танклявае дзяўчо ў светлай паркалёвай сукеначцы. У адной руцэ моцна, аж успацела далонька, трымала за пругкія раменьчыкі новыя жоўтыя дзеравянікі, другою ўчапілася за край доўгага, да пятаў, бурачковага андарака свае спадарожніцы, старой і суровай на выгляд кабеты. На старой быў такі ж паркалёвы каптан, толькі выдаваў ён нясвежым і бляклым побач з вясёлаю, гарэзнаю сукенкаю дзяўчаці. Хустка з гэтакага ж самага паркалю тугім вузлом была заціснута «пад барадою» і вострым дзюбам насунута на самыя вочы. Праз плячо, перакінутыя на пацёртых шнюрках, целяпаліся вялікія, паточаныя шашалем і пабітыя чарнатою дзеравянікі.

Старая даўно парывалася прысесці, перадыхнуць, але ўсё не здавалася, ішла, адчуваючы, як учэпіста-моцна трымаецца за фалду яе цяжкога бурачковага андарака Сабіна.

Старая Агата ўпершыню вяла адзіную ўнучку, дачку таксама адзінага, непуцёвага сына Болюся, да касцёла.

Хвойнік раптоўна скончыўся. Гэтаксама нечакана абарвалася вузенькая сцежка, расплылася ў шырокую, размешаную дзясяткамі калёсаў, разбітую конскімі капытамі дарогу, якая падымалася, паволі ўспаўзала на высокую, крутую гару. Там, на самай яе вяршыні, у вян-

цы выносных і стромых хвоек, годна трымаў свае вострыя вежы, мурамі і крыжамі глядзеўся ў глыбокія воды Бацянкі стары наўроцкі касцёл.

Сабіна ад нечаканасці спынілася, моцна тузанула за андарак старую. Тая рэзка павярнулася, зыркнула на ўнучку:

— Ну, што стала, як укопаная? Званіць зараз пачнуць. Людзі за браму ўжо зайшлі. З табою ніяк не дацягнешся.

Ухапіла, ціскануla халоднымі сухімі пальцамі тонкую слабую руку, шпарка пакрочыла пад хвойкі, да ракі: трэ было абмыць ногі і абуцца.

Званы ўдарылі, як толькі яны нахіліліся да вады. Сабіна ўздрыгнула, ад нечаканасці выпусціла з рук дзеравянікі. Яны мякка чмякнулі каля самага берагу, чаўначкамі калыхнуліся на дробных хвалях. Агата борздка махнулася да самай вады, замачыўшы край шырокага, маршчонага рукава, выхапіла іх, спачатку адзін, пасля другі, выкінула на бераг, засіпела:

– Што гэта з табою? Зараз сама ўскочыш, лапаць цябе буду! Абувайся ўжо!

Але Сабіна як не чула яе. Дзяўчынка была аглушана магутнымі бомамі, што ляцелі, падалі з вышыні, запаўнялі ўсё наваколле, плылі далёка за пакатыя берагі Бацянкі, за цёмную грыву хвойніку, даляталі, мусіць, ажно туды, адкуль так доўга ішлі яны сёння.

Абуўшыся і агледзеўшыся, Агата расправіла пад андараком ніжнюю спадніцу і тады зноў ухапіла малую за руку, павяла за касцёльную браму.

З натужным рыпам адчыніліся цяжкія дзверы і хутка, ледзь яны паспелі зайсці, гухнулі, зачыніліся.

Сабіна застыла здзіўленая, уражаная. Баялася ўзняць галаву, каб глянуць туды, адкуль лілося вузкімі струменьчыкамі святло, што падала на алтары, гуляла на пышных букетах кветак, асвятляла маўклівыя твары святых, якія адусюль строга і запытальна глядзелі на яе. Яна сумелася, ступіла крок назад, але Агата тут жа падштурхнула яе, упэўнена павяла за сабою.

Крыху асмялеўшы, Сабіна пачала паціхеньку азірацца. Угледзела

шмат такіх, як сама, хлапчукоў і дзяўчатак, з палёгкаю ўздыхнула. Аднекуль зверху, праз высокае каляровае акенца падаў на яе ружовы вузкі струменьчык святла, цёпла трапятаў на руках, казытаў твар. Лёгкім спалохам кранулі душу першыя гукі арганаў – паліліся, ніколі раней не чутыя, поўнячы яе нязнаным смуткам, уздымаючы, чаруючы...

Сабіна раптам са страхам адчула, як разам з гэтымі магутнымі гукамі ўздымаецца і яна сама – высока – над людскімі галовамі, над мігатлівымі агеньчыкамі свечак, туды, дзе ў блакітных аблачынках плавалі, распрасцёршы белыя крылы пухнатыя анёлкі, да самых глыбіняў, адкуль спускаліся долу зялёныя, вітыя з дзеразы, вянкі. Ад гэтай вышыні ёй захапіла дых, яна адчула, што вось-вось не ўтрымаецца і рухне на гладкія пліты касцельнай падлогі...

***

Сабіна ўскрыкнула і ад гэтага свайго крыку тут жа ачомалася. Расплюшчыла вочы і ўся сцялася, глыбей падшылася пад суконную калючую коўдру, не хочучы бачыць ні змрочнага пакою з паабсыпанаю па кутах старою вапнаю (так і не дабралася сёлета пабяліць хату перад Вялікаднем), ні гэтага абшарпанага старога вакна з мутнаю шыбаю, праз якое яна ўжо каторы дзень глядзела невідушчымі вачыма. Часам у вачах праяснялася, і тады яна з нейкім пякучым жалем заўважала, як бязлітасна сячэ халодны і часты дождж цёмную кволую галінку маладой яблыні. Але зрок зноў туманіўся, і тады тонкія шнюры касога дажджу зліваліся ў адну суцэльную завесу. На вочы наплывала мутная і шарая, як гэта вясновая раніца, смуга. Карціна за вакном размывалася, некуды адступала. Сабіна зноў правальвалася ў забыццё, якога яна найбольш прагла і з якога не хацела вяртацца.

І цяпер доўга даходзіла яна да памяці, аніяк не могучы пазбавіцца ад толькі што ўбачанага, адчутага. У душы ўсё яшчэ трапятаў лёгкі трывожны спалох, стаяла ў вачах старая Агата – сурова, моўчкі глядзела на яе. Сабіне здалося, што аднекуль, з-за сцяны, яна чуе яе хрыплы, вечна як прастуджаны голас. Услухалася, зразумела: ніякая гэта не Агата – на кухні зноў галосіць Шэрчыха. Агаты даўно няма на

свеце, а тут, у адной хаце з ёю, сыходзіць праклёнамі і злосцю яе старая свякроў. І ад гэтага разумення зноў скамянела Сабініна нутро. Яна ўжо не чула нічога, акрамя асіплага ад доўгага, здавалася, бясконцага крыку свекрыві і тых гукаў, якія далятралі з кухні. Старая бразгацела засланкаю, з грукатам, з усяе сілы кідала на падлогу дровы – пэўна, збіралася паліць у печы.

Сабіна напружана чакала. Яна ведала: зараз пачнецца самае страшнае. Яно прыходзіла з першымі ўсхліпамі, з няясным, ледзь чутным шэптам, які паступова пераходзіў у доўгае і нуднае, не вытрываць, «а-а-а-а», якое абрывалася на нейкай немагчыма высокай ноце, і тады ўжо пачыналася вылічанне: «А сыночак ты мой, а родненькі, а мы ж з табою былі, а мы ж з табою жылі як людзі, а нашто ж ты затруў нашую хатку, нашто ўзяў гэтую грахаводніцу, а яна ж за-а-агубіла нас...».

Сабіна не вытрымлівала – адрывала нерухомы позірк ад вакна, парывалася ўстаць з ложка, каб уцячы з гэтай хаты, ад гэтага крыку, але тут жа ўспаміінала, што ісці ёй няма куды, што няма дзе схавацца ні ад сябе, ні ад Шэрчыхі...

Сёння якраз тыдзень як пахавала Сабіна мужа, а старая Шэрчыха сына. І як на добры толк, то трэба было б сысці Сабіне адсюль, але якраз усё і ўпіралася ў тое, што ісці ёй не было куды. Сабініну хату, як толькі пажаніліся, Чэсь разабраў і перавёз на сваё селішча, злажыў курнік. Хата была старая, дрэва марнае, і яны тады памеркавалі ды вырашылі, што на курнік якраз прыдасца. Хто ж думаў, што ўсё яно так павернецца...

Сабіна цяпер многае аддала б, каб стаяла тая маленькая, з падслепаватымі акенцамі, але ж свая, бацькоўская хатка. Там, у сваіх вуглах, не было б так невыносна цяжка. Не чула б штодня гэтага галашэння і праклёнаў, ад якіх ужо, здаецца, траціць Сабіна розум.

Галінка за вакном з буйнымі кроплямі дажджу то набліжалася да Сабініных вачэй, то зноў аддалялася. Цяпер, здалося, яна ўперлася ў самую шыбіну і цікавала за Сабінаю – круглыя, празрыстыя кроплі ўвачавідкі большалі, ператвараючыся ў застылыя, ашклянелыя Чэсевы вочы... Тады, у той страшны полудзень гэтыя вочы глядзелі не-

рухома-здзіўлена некуды ўверх: на вершаліну выноснай хвойкі ці, можа, на вежы наўроцкага касцёла, які ўзвышаўся і над гэтаю хвойкаю, і над мёртвым ужо Чэсем, і над людзьмі, што як мурашы мітусіліся каля яго...

Чэсь ляжаў распластаўшыся, шырока раскінуўшы рукі. Убаку ад яго, як раптоўна спуджаны конь, стаяў, высока задраўшы пярэдняе кола, яго чорны, пашарпаны «Іж».

Чэсь насмерць разбіўся аб гэтую старую хвойку, злятаючы на шалёнай хуткасці па пясчаным схіле Наўроцкай гары...

Было штосьці ў гэтай п'янай, недарэчнай смерці такое, чаго аніяк не магла зразумець Сабіна, і, напэўна таму, учэпіста трымаючы ў памяці нерухома-здзіўлены позірк мужавых вачэй, яна так напружана ўслухоўвалася ўжо каторы дзень у зняможана-асіплае галашэнне свекрыві, як бы мірачыся з тым, што чула, прымаючы з маўкліваю пакораю яе абвінавачанні і яе праклёны. Шэрчыха зноў і зноў звярталася да сына, быццам гэта ён, а не Сабіна, быў у суседнім пакоі: «А сыночак ты мой, а чаму ж гэта Бог цябе пакараў за яе грахі, а чаму ж яна не скруціла сабе галавы ў тую ноч, а можа, тады ты жывы застаўся б...».

Так, гэта яна, Сабіна, вінавата ў Чэсевай смерці, вінавата тая каламутная, цёмная ноч, якая, быццам непераадольная мяжа, падзяліла Сабініна жыццё на дзве паловы. І ўжо не выкінуць яе з гэтага жыцця, не забыць, не адкаснуцца...

***

У Наўроты выбраліся амаль апоўначы. Выехалі на сельсавецкім «казле» ўчатырох: старшыня сельсавета – малы, чорны, як жук, Сямён Сатольчык, ягоная сакратарка – вёрткая, смяшлівая Зінка, шафёр Эдзік і Сабіна. Яна рабіла ў сельсавеце бухгалтаркаю. Па сутнасці ўвесь іх невялікі штат. Калі праязджалі каля хаты дырэктара мясцовай васьмігодкі, Эдзік тармазнуў, павярнуў галаву да Сатольчыка:

– Можа, Тамашэвіча прыхопім?

Сатольчык мрукнуў нешта невыразнае. Растлумачыла, як заўсёды, Зінка – яна і тут не забывалася пра свае сакратарскія абавязкі:

– Тамашэвіч не едзе. У яго іншыя пераконанні. Ён, бачыце, лічыць, што барацьбу з рэлігіяй трэба пачынаць з атэістычнага выхавання. – Зінка хіхікнула: – Пакуль ты іх выхаваеш...

Зноў штосьці незадаволена мрукнуў Сатольчык, і яна не дагаварыла, змоўкла.

Да Наўротаў было каля сямі вёрст, але як па іхніх дарогах, ды яшчэ поначы, то ехаць давялося каля добрай гадзіны.

Была ранняя вясна. Снег ужо сагнала, каляіны блішчэлі, поўныя мутнай вады. Яшчэ з вечара зрываўся мокры снег, выдавала на добрую завею.

– Ну і выбраў ты, Сямёнавіч, ночку! Сабакі з хаты не выгнаць. – Эдзік на хвіліну адарваў ад дарогі вочы, злосна зыркнуў на Сатольчыка. Той не азваўся, толькі яшчэ мацней уціснуўся ў сядзенне, глыбей уцягнуў галаў у плечы. За яго зноў адказала Зінка:

– А што? І правільна выбраў! Па крайняй меры, у такую каламуць нікому не ўздумаецца шляцца па вуліцы! А то ж вунь, ці чулі, што ў Шнюрах было, калі царкву шнюроўскую закрыць хацелі? Пад’ехалі во так, як бы і мы сёння, сельсавецкія з канторскімі разам. Нават участковага прыхапілі. Вы ж ведаеце Сашку аднавокага?

– А як жа ж, хто ж яго не ведае?! – не паварочваючы галавы і пільна ўглядваючыся ў ледзь асветленую слабымі фарамі дарогу, азваўся Эдзік. – Як той казаў, бацька быў стралок – такі ж і сынок. У крыжы страляў твой Сашка і дастраляўся – без вока застаўся!

Эдзік любіў гаварыць складна.

– Ну добра ўжо, паэт! – Зінка зазлавала. – Пры чым тут Сашкавы стрэльбішчы? Я тут якраз пра тое, што ноччу бяспечней, бо ў Шнюры тады дадумаліся сярод белага дня прыехаць, дык і да царквы нават не паспелі наблізіцца: званы адразу ўдарылі. Пільнаваў нехта на званіцы. Што там пачалося! Вясковыя ўмомант хто з чым да царквы пачалі збягацца: хто з вілмі, хто з сякераю, хто з лапатаю – як на пажар зляцеліся. Расказвалі, што сельсавецкія і канторскія адразу назад у машыну зашыліся, а Сашка, смелы такі, застаўся, лекцыю ім пра рэлігію ўзяўся чытаць. «Рэлігія, кажа, дарагія мае цёмныя людзі, – гэта опіум для народа, а цэрквы і касцёлы – рассаднік гэтага опіуму.

Так што ліквідзіраваць іх трэба». Ну тут старая адна і скочыла да Сашкі – і дзеркачом яму па плячах, ды як загалосіць: «А вось табе расаднік! Дуй яго, бабы!» Сашка, казалі, голаў угнуў і таксама кулём да машыны. З бабамі ж біцца не будзеш...

– Мог без другога вока Сашка твой застацца, – засмяяўся Эдзік.

– А што, запраста: народ тут такі, зацяты. – Зінка раптам змоўкла, як падавілася. Відаць, успомніла, што суседка яе, Шэркава Сабіна, якая ўсю дарогу моўчкі сядзела побач, уткнуўшыся ў халоднае мутнае шкло, якраз адсюль, з гэтага народу.

Быццам угадваючы Зінчыны думкі, да Сабіны нечакана рэзка павярнуўся Сатольчык:

– А што Сабіна Баляславаўна па гэтаму поваду думае?

Сабіна ўздрыгнула, адарвала позірк ад цёмнай шыбкі:

– А што тут думаць? Народ як народ. Век народ гэты ў касцёлы і цэрквы хадзіў, а вы хочаце, каб у адзін дзень ён ад іх адрокся і вам паверыў?

Сатольчык здзіўлена прыцмокнуў:

– Каму гэта «вам», Сабіна Баляславаўна? А вам? А вы куды, да каго сябе адносіце? Вы, прадстаўнік савецкай улады, сельсавецкі работнік?

Сабіна сцялася, не адказала. Невядома, чым бы скончылася гэта непрыемная для абоіх размова, каб нечакана не забуксаваў і не заглух іх газік.

Эдзік адпусціў руль, стомлена выдыхнуў:

– Здаецца, прыехалі.

– Што, загразлі? – Сатольчык прыадчыніў дзверцы, высунуў галаў. – Так і ёсць, селі. А ну, таварышы, выходзім!

Нехаця пачалі вылазіць з цяпла ў халодную, волкую цемень. Сабіна паспяшалася, няўдала ступіла і тут жа войкнула, адчуўшы, як палілася праз кароткія халяўкі снягоўцаў, апякла ногі сцюдзёная вада.

Стаяла такая цемень, хоць на воўка збіся. Злева шурхала дробнымі крыгамі Бацянка, справа глуха шумеў хвойнік, наперадзе, у цьмяным святле фараў, ледзьве праглядвалася разбітая калясьмі дарога: ездзілі тут пераважна фурманкамі.

Патаптаўшыся вакол «казла», Эдзік сеў за руль, даў задні ход. Натужна сапучы, «козлік» высунуўся з каляіны і цяпер тросся, стоячы ўжо на сухім – чакаў, пакуль зноў пасядуць пасажыры. Але Сатольчык закамандаваў далей ісці пешшу. Эдзік заглушыў машыну і навакол запанавала цемра. Да касцёла заставалася якой з паўвярсты...

Пайшлі адзін за адным, няспешна, амаль вобмацкам падымаючыся ўгору.

Сабіна ступала як не сваімі нагамі, адчуваючы, як праціўна хлюпае ў снягоўцах вада, азіралася па баках, быццам выбірала зручны момант, каб шуснуць у гэты густы хвойнік, што шумеў зусім побач. Але ўвесь час чула, што след услед за ёю, як бы ўгадваючы яе жаданне ўцекчы, неадступна сунецца Сатольчык, цяжка, перарывіста дыхае ў самую патыліцу. І Сабіна дыбала і дыбала наперад, бы тая авечка перад пастухом...

Мабыць, ратуючыся ад гэтай цемры, што стаяла таксама і ў яе душы, Сабіна ўспомніла, як тры гады таму ішлі яны па гэтай дарозе з Чэсем. Гэтаксама ўпоцемках, пакрыёма. Украдкам ад начальства і чужых выпадковых вачэй ішлі ў наўроцкі касцёл вянчацца. Якая ж інакшая тады была гэтая дарога пад зорным жнівеньскім небам! Яны ішлі, пабраўшыся за рукі, ціха размаўлялі, і Сабіне хацелася, каб дарога гэта ніколі не заканчвалася. Тады ў касцёле іх чакаў ксёндз Стэфан...

«А што, калі і цяпер ён там, у касцёле?» – падумала раптам Сабіна і ажно прыпынілася, стала пасярод дарогі і тут жа адчула, як яе падштурхнуў, натыкнуўшыся ўпоцемку, Сатольчык: «Ну-ну, давайце не спыняйцеся», – мрукнуў незадаволена, раздражнёна...

***

Невядома, ці гэта недзе зусім блізка шурхаюць, труцца адна аб адну крыгі ў вузкіх берагах Бацянкі, ці глуха шуміць хвойнік каля дарогі, ці спорны веснавы дождж сячэ галінку маладой яблыні, і яна ўгінаецца ад ветру, шорхае і шорхае па шыбе...

Сабіна цяжка вярталася да памяці, напружана слухаючы гэтае няяснае, трывожнае шурханне, пакуль не пачула выразныя галасы,

што далятталі сюды з кухні.

Свякроў была не адна. Па нізкім сіпатым голасе Сабіна пазнала Настулю, родную сястру Шэрчыхі. Здзівілася, што не чула, калі тая ўсунулася ў кухню. Прыслухалася. Настуля сіпела:

– Што ты яе трымаеш у сваёй хаце, вуглы паганіш? Як Чэся пахавалі, трэ было ў той жа дзень выгнаць, ы-ы-ы, дурніца. Сына твайго з'ела, шчэ й на цябе Божую кару накліча. Не слухаеш ніколі. Ці не казала я табе, як Чэсік толькі да яе хадзіць стаў: не пушчай, Стэфка, крыжам ляж на дарозе, а не пушчай да яе. А ты – сірата, шкода... Во табе – сірата, што ўтварыла, усю сям'ю апазорыла...

Сабіну як варам абліло. А Настуля гаварыла ўсё мацней, не тоячыся, каб чула Сабіна.

– Гэта ж во, дырэктар наш школьны, Тамашэвіч, не ёй раўня, вучаны які, а за касцёл – гарою. Казалі, адразу, як толькі стала вядома пра гэты рабунак у касцёле, у сельсавет пайшоў, Сатольчыка за грудзі браў, гразіўся ў раён, да начальства паехаць... Рыгнецца ім яшчэ іх зладзейства, паглядзіш, так не будзе, Бог пакарае...

– Ага, пакарае. Ці бачыць Бог, каго карае? Пакуль ім што будзе, а Чэсічак мой ужо ў зямліцы сырой ляжыць. А-а-а, сыночак ты мой...

Чутно было, захліпала разам і Настуля, а потым перайшла на шэпт, і Сабіна ўжо не магла разабраць, пра што яны там. Ды й без таго было ясна, пра яе. Раптам, упершыню за ўсе дні гэтай страшнай хваробы, Сабіна адчула, як недзе, каля самага сэрца запякла крыўда на Чэся, што не падтрымаў яе, не дапамог, калі яна кідалася па хаце, не ведаючы, што рабіць, як вызваліцца ад Сатольчыкавай авантуры з Наўротамі. Заікнулася, каб муж паразмаўляў з ім, бо ведала, што былі яны ў хаўрусе, не раз выпівалі разам. Ды дзе там, адмахнуўся толькі: чаго ты, маўляў, баішся, час цяпер такі – раней, за Польшчаю, з Богам жылі, цяпер, за саветамі – без Бога. «А як жа ж мы з табою? Навошта тады вянчацца хадзілі?» Зарагатаў: «Матка настояла, з карку не злазіла, што ў граху жывем, без шлюбу...» Сабіна ажно заплакала тады ад крыўды і абразы, але бачыла, што нічым яго ўжо не праймеш, ніякімі слязьмі. Для яго ўжо гарэлка стала важнейшаю і за Бога, і за жонку, і за ўвесь свет...

Не знаходзячы ніякай рады, Сабіна змірылася: хай будзе што будзе. Не магла яна страціць працу ў сельсавеце: жылі з Чэсем даўно на яе заробак, свае грошы ён амаль усе прапіваў. А цяпер, выходзіць, яна ва ўсім вінавата. І ў Чэсевай смерці таксама...

Пачула, як зноў загаварыла Настуля:

– Да нас учора Казік заходзіў, арганіст касцельны, дык казаў, што арганы ўшчэнт патрушчылі, пацеркі з шыі ў Матачкі Божай пазрывалі, начынне касцельнае пакралі. Во зладзюгі якія, падумай ты толькі! Спадзяваліся, што шыта-крыта будзе, ніхто не ўбачыць, не дазнаецца. Дазналіся. Ты глядзі, Стэфка, можа й твая нявестачка прывалакла што дахаты ды дзе прыхавала...

– Ну што ты? Што ты гародзіш? – запярэчыла, загаласіла Шэрчыха...

Сабіна ўжо не магла далей слухаць, нацягнула на галаву коўдру. «Божа мой, дык яны думаюць, што і я была ў касцёле, што і я там ламала й крала... А як, як цяпер апраўдацца, чым даказаць, што нагі мае там не было, што толькі да брамы касцельнай дайшла – і ўсё, а далей ні кроку не зрабіла. Стала, як укопаная. Сатольчык ужо гатовы быў сілком яе ў касцёл цягнуць, але ўступіўся Эдзік: «Ладна, Сямёнавіч, кінь, не змушай, хай сабе тут, каля брамы пастаіць, папільнуе. Самі справімся...»

Колькі яна там стаяла ў цемры, на пранізлівым ветры, скалелая ад холаду і здранцвелая ад страху, напружана ловячы кожны гук і чуючы толькі шурхат крыгаў у блізкай рацэ?.. Колькі яна там стаяла? Сабіна цяпер не памятала, не хацела памятаць. Яна нічога не хацела памятаць, таму зноў правалілася, як у глыбокую прорву, у волклы морак забыцця і ўжо зноў чула толькі выразны і блізкі шурхат нябачнага крыгалому, зноў бачыла ашклянелыя Чэсікавы вочы. Яна ведала, што ён недзе адзінока ляжыць на высокай гары пад хвойкаю і чакае яе. Сабіне трэба было абавязкова дайсці да яго, бо толькі яна магла дапамагчы яму. Толькі яна. Але якая ж крутая гэта Наўроцкая гара, якая непераадольна-сыпкая пад нагамі дарога! Ногі не слухаюцца Сабіны, і як бы яна іх ні ставіла, яны ўсё едуць і едуць уніз, аб’язджаюць разам з гэтым зыбучым жоўтым пяском, які, здаецца,

засыпле ўсю яе з галавою. Не ўзысці Сабіне на гару. Праходзяць узбоч, мінаюць яе людзі. Так шмат людзей, а ніхто не спыніцца, не азірнецца, хоць ёсць і знаёмыя, і нават родныя. Вунь зусім побач прайшла яе бабуля Агата. Так блізенька, што можна было, як у маленстве, ухапіцца за фалду яе бурачковага андарака, але рукі ў Сабіны слабыя, бязвольныя, а бабуля нават не прыпынілася, не зірнула на яе. «Крыўдуе за нешта», – падумала Сабіна.

Вунь прабегла, віхляючы крутымі клубамі, Зінка і таксама нават не азірнулася. Воддаль прайшоў Тамашэвіч – не дакрычацца да яго, не даклікацца. Неяк дзіўна, з падскокам круцячы ўбакі асмолкам чорнай галавы, пагардліва мінуў яе Сатольчык...

– Сямён Сямёнаві-іч! – крык захрас у горле, патануў у сыпучых пясках. Але Сатольчык пачуў яе, нахаду азірнуўся:

– Давайце, давайце, Сабіна Баляславаўна, падымайцеся! А то звольню, заўтра ж!..

Нечакана для сябе самой, сабраўшы апошнія сілы, Сабіна крыкнула ўслед гэтаму чорнаму, такому ненавіснаму ёй чалавечку, крыкнула надрыўна, роспачна:

– Ну й звальняй, звальняй! Я не баюся цябе, чуеш? Я не баюся!..

І ад гэтага крыку здрыганулася ўся, расплюшчыла вочы. Проста над сабою ўбачыла перапалоханы, змарнелы твар свякроўкі. Чэсева маці стаяла каля яе ложка, аберуч трымала вялікі паліваны кубак.

– Малінніку во табе запарыла, на, выпі, лягчэй будзе, – прамовіла ціхім, зняможаным ад доўгага плачу голасам.

Сабіна, як не верачы сабе, убачыла над кубкам лёгкі струмок пары, пачула саладжавы, такі знаёмы з маленства водар, і ўпершыню за ўсе гэтыя пакутныя дні горка, наўзрыд заплакала...

1981 г.

*Хрысціна Лялько*

Анатоль БРУСЭВІЧ

# ПАЭТ І МАНАХ

**Паэт:**
Люблю Радзіму, каб смяяцца
З таго, хто любіць яе менш.
Хай на грудзях няма распяцця –
Жыве ў душы прыгожы верш.

Люблю Радзіму, каб засведчыць,
Што нехта ўсё ж яе любіў.
Перад Радзімай я не кленчыў,
Але і крыж з ёй не дзяліў.

Бо што дзяліць? Я вольны крочу.
Струхнелі ўсе мае крыжы.
Люблю Радзіму, каб у вочы
Яе глядзець і проста жыць...

**Манах:**
Прабач яго, Божа,
Калі толькі зможаш,
За ўчынены здзек:
У шэрым натоўпе
Ён выкінуў компас,
Што вёў да Цябе.
А ў выніку страціў
І сцежку да маці,
І шлях да дабра,
І нават Айчыну,
Што нёс за плячыма,
Як торбу жабрак.
Цяпер ні Айчыны,
Ні дрэва, ні сына,

Ні куфра з дабром.
Нічога не мае
І злодзеі нават
Мінаюць яго.
Прасі на каленях,
Паэце, збаўлення
Ад зробленых спраў!
А я пamалюся,
Каб дух твой прачнуўся
І болей не спаў.
Каб дух твой убачыў,
Як ты перайначыў
Світанак на змрок…
Ты любіш Радзіму?
Мне чуць гэта дзіўна.
Любоў – гэта Бог!

**Паэт:**
Бог з табой! Глядзі: вакол Радзімы
Дзікія натоўпы злых людзей!
Не хацеў бы я дзяліцца з імі
Нават словам. Гэта быў бы здзек!

І не я, а неба вершы піша
Бачыш хмары-літары? А дух
Мой не спіць, бо ён да Бога бліжай,
Чым любы з усіх Ягоных слуг!

**Манах:**
Вось і ўсё. Больш няма
Неўміручай душы.
Ты – за колам святла,
У абдымках ілжы!
Па-за колам святла
Спяць малітваў званы.
Ды не дрэмле імгла
У вачах Сатаны.

*Анатоль Брусэвіч*

Юрый БАЕНА

# ВЕРШЫ ЧАКАННЯ

***

Жывым сэрцам
няспынна шукаю
яркіх жарынак
у дарагіх мне словах
айчыннай вялікакняскай мовы

***

На белай паперы
кладу шчырыя словы,
А тое, што найважнейшае,
пішацца між радкамі верша.

На чырвоных лісцях клёну
восень піша
сваю вечную сімфонію.

***

Усё жыццё ствараю сябе –
для радасці дня,
для шчасця, праўды і справядлівасці,
для веры, надзеі і любові,
для малой і вялікай Айчыны,
для творчага палёту...

Разам са мной,
крок у крок,
ідзе час,
мой інквізітар.

***

У краіне свабоды і дэмакратыі
пратэставалі беспрацоўныя,
галодныя і бяздомныя.
Згодна з дзяржаўным законам
яны дамагаліся гульняў
і новых стадыёнаў.

Падтрымлівала пратэстуючых
Партыя Усеагульнай Радасці.

## ТРОЯ

Троя памерла.
Разам з трагедыяй
узняліся каменныя руіны.
Разам з руінамі
узнялася жывая памяць.

Трывай Троя.
Ты – жывая.

## НА ПАЛЯНЕ

На лясной паляне
прачнулася прадвесне.
Жоўты матылёк
арэшнікам калыша.
Пралескі ў карагодзе
ўсміхаюцца сабе і сонцу.

Нам тут няма ўжо месца.

***

Я – безыменны,
ужо падымаюся з зямлі.

Птаха майго сэрца
кармлю зернем любові.
У садзе яблык і вішняў
сустрэну вецер падарожны.
За блакітную раку
з ім паплыву.

У светлай алеі лісцяў
спаткаем вечнасць.

***

Калі акамянее вецер,
калі высахнуць крыніцы зорак, –
астануцца гербарыі слоў.

Свет згорнуты ў газету.
Засушаныя кветкі –
вёсны ў томіках паэзіі...

***

Далей нікуды..
Застануся на сваім месцы,
у вечна зялёным Мокрым –
цэнтры майго сусвету.

Інакш –
перастану памятаць.

***

Між Дубровай і Драгічынам,
на берагах Буга і Нарвы,
ля цяністых дарог,
пры палыновых межах,
у гушчарах зялёных кнеяў,
у пасляледніковых марэнах,

у адбітках акамянелых раслін,
у аскепках бурштыну,
у попеле Троі,
у пясках Сахары,
у снягах Сібіры,
на горных вяршынях
ды ў марскіх глыбінях –
шукаю зярнят будучыні.

Днямі і начамі,
на грані жыцця і нябыту
лістаю рукапісы і старадрукі,
чытаю карты зямлі і неба,
напружваю зрок.
Сярод айчынных гоняў
сэрцам і душой малюся –
дзе стаіць новы каўчэг Ноя?

**Зняволены**

Маламястэчковыя інквізітары
пакаралі паэта –
паднебным мурам
з чэсанага каменя цішыні
акружылі зняволенага.

У сценах астрога
душа паэта адчула свабоду.
Муры цягам гадоў
сталіся часовым пансіянатам
для грэшнага розуму.
Паэт чорным па беламу
піша свае гімны адкрытаму жыццю
і на чорна-белых буслiных крылах
шле іх у вольны свет.

*Юрый Баена*

# ВАМ УСЯГО ДОБРАГА

## Галіна Бурына – Алесь Разанаў: *ліставанне*



**Фота. Брэст. 15–16 кастрычніка 2011**
10.11.11

Добрага Вам дня, дарагі Алесь Сцяпанавіч!

Высылаю фотаздымкі, магчыма, некаторыя пададуцца Вам цікавымі альбо з'явіцца жаданне ўспомніць гэтыя імгненні ў Брэсце... Адправіць адным архівам не атрымліваецца (вялікі аб'ём), таму будзе некалькі пісьмаў. Спадзяюся пагаварыць з Вамі па тэлефоне, калі застану Вас у Мінску ў бліжэйшыя дні. Дай Бог Вам здароўя, вялікі дзякуй за ласку, цярпенне і дабрыню... З самымі светлымі пачуццямі і пажаданнямі для Вас,

Галіна Іосіфаўна

**Дзякуй**
11.11.11

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Дзякуй за дасланыя газеты – мне было цікава пачуць меркаванне людзей пра тое, у чым сам удзельнічаў; дзякуй за дасланыя фотаздымкі – нанова знаёмлюся са знаёмымі і аднойчы ўбачанымі абліччамі, яны красамоўныя; дзякуй за ліст, за вымаўленыя словы – яны асветленыя сонцам і мне ў радасць.Мерапрыемства, што адбылося ў Брэсце, усё яшчэ адбываецца, магчыма, яно змагло нейкім чынам вымавіць тое істотнае, што мае дачыненне да ўсіх.

Маё шчырае прывітанне берасцейцам – нашым агульным знаёмым. Абяцаныя кнігі чакаюць нагоды, каб апынуцца ў бібліятэцы.

Вам усяго добрага.

Алесь Разанаў

**Дзякуй**
16.11.11

Шаноўны Алесь Сцяпанавіч!

Вельмі радавалася і радуюся Вашаму пісьму, дзякуй! Прабачце, калі ласка, што не адразу адказваю – хацела дакладна даведацца пра нагоду для кніг, але пакуль нічога не высветлілася, акрамя таго, што, магчыма, – у снежні.

Ваша прывітанне перадала нашым з Вамі знаёмым людзям, але пакуль што не ўсіх бачыла, і такая прыемнасць яшчэ чакае гэтых людзей і мяне.

Алесь Сцяпанавіч, мне хочацца запытацца пра Вашыя ўражанні ад паездкі ў Каўнас, калі не памыляюся, але не магу Вас турбаваць і "забіраць" Ваш час, таму проста буду чакаць інтэрв'ю з Вамі ў газетах ці часопісах. Такім жа чынам буду шукаць адказы на свае пытанні ў Вашых творах... Хіба што будзе такая вострая неабходнасць, такая нагода і такая ласка з Вашага боку, як у той самы дзень, 16 кастрычніка – вельмі Вам удзячныя! Так, мерапрыемства сапраўды адбываецца і пакуль што канца не відаць, ва ўсякім выпадку, для мяне. З Вашага дазволу буду інфармаваць Вас аб агульных справах па тэлефоне ці электроннай пошце, а зараз развітваюся з Вамі з пажаданнямі самага добрага!

Галіна Іосіфаўна

**Вокны**
18.11.11

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

На дварэ глыбокая восень, і я засяроджаны. У вясны і лета набіраўся ўражанняў і назіранняў, а цяпер тая пара, калі словы дзівяцца ў вынік, а дні ў вокны. У Коўне звычайная, з музыкай, літаратурная вечарына – нагода, каб паразумецца і аб'явіцца, але там я не быў амаль дваццаць гадоў (а гэта старадаўняя сталіца літоўшчыны), і вось ён апынаецца цяпер у новых акалічнасцях, той самы і ўжо не падобны да сябе ранейшага, і самае глыбокае ў ім тамтэйшыя людзі. Услухоўваўся ў іхнюю гаворку (трохі валодаю літоўскай – жамойцкай), углядаўся ў твары: у іх захоўваецца тое самабытнае, што памятае вякі. Вякі памятаюць таксама і нас, але па-свойму, і калі мы гутарым між сабой, то і з імі, і тое, што чытаем, чытае таксама нас. Вядома, калі яно тое. Рады, што маё для Вас тое.

Пішыце, тэлефануйце, перадавайце прывітанні. Вы шчыры чытач, я таксама.

Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**Вокны**
21.11.11

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

З удзячнасцю і хваляваннем чытала Ваша пісьмо і з цікавасцю таксама... Вы так паэтычна і так проста адказалі на маё пытанне, дзякуй! Сёння ў нашай бібліятэцы прайшлі літаратурныя чытанні з твораў Генрыха фон Клейста (на нямецкай і рускай мовах). Мы адзіныя ў Беларусі далучыліся да Сусветных чытанняў, якія прайшлі 21 лістапада, у дзень смерці нямецкага паэта, драматурга, пісьменніка, які скончыў сваё жыццё самагубствам разам з жанчынай, якая згадзілася прыняць смерць з яго рук... Але ж не буду Вам пераказваць гісторыю яго жыцця і творчасці, ды Вы і ведаеце, думаю, але неяк гэта ўсё мяне ўсхвалявала...

1 снежня у нас будуць літаратурныя чытанні з нямецкім пісьменнікам Лео Тома з дапамогай Гётэ-інстытута. Карын пryме самы непасрэдны ўдзел, таму што аўдыторыя будзе толькі нямецкамоўная. Нешта не магу пагаварыць з Аляксандрам Фамічом, не застаю яго дома, можа, хварэе... Мікола Пракаповіч зрабіў перадачу з Вамі, абяцаў перапісаць на дыскі для Вас і для бібліятэкі. Ён рэдка бывае задаволены тым, што робіць, але цяпер сказаў, што атрымалася цікава.

Прабачце, калі ласка, за сумбурнае пісьмо: пачуцці і думкі – раскіданыя і ад гэтага нервуюся... Прывітанні Вам ад Тамары Паўлаўны і Алы Міхайлаўны, Таццяна Вам вельмі ўдзячная за час, які Вы былі з намі, і за размову...

Усяго Вам добрага,
Галіна Іосіфаўна

**Мір**
24.11.11

Добры дзень, Галіна Іосіфаўна!

Мір дому Вашаму! Мір – тое, што заўсёды  маем загадзя, а асягаем потым, у ім духоўная Айчына, і ўсе сцежкі, якімі б блытанымі яны ні былі, скіроўваюцца туды, Генрыха фон Клейста таксама. Калі я быў у Берліне, наведваўся некалькі разоў да яго магілы, яна ўпісана ў тамтэйшы краявід, непадалёку чыгуначны паўстанак і возера Ванзээ, пры ім літаратурны калёквіюм (LCB), і ад яго да Генрыха фон Клейста, вечнай выспы нямецкай літаратуры, нейкі дзесятак-другі хвілінаў хады. Тое, што Клейст у Брэсце, кажа, што гісторыя там становіцца сучаснасцю тут і што наогул паміж сучаснасцю і гісторыяй для сэрца і розуму няма неадольных межаў.

Пра перадачу, створаную Міколам Пракаповічам, чуў ад Алеся Зайкі, ён яе хваліў.

Пазаўчора ў музеі гісторыі беларускай літаратуры адбывалася творча-юбілейная вечарына Анатоля Вярцінскага, ён па-маладому няўрымслівы, у

дыялозе з людзьмі і светам, і “мір дому твайму” – яго заўсёднае вітанне. Чыталіся вершы ( у тым ліку ім самім і ў тым ліку прысвечаны мне “Закон адпаведнасці”), гучалі віншаванні, прыгадваліся карцінкі, а я правальваўся ўглыб, у двубой, у сутыкненне, у нежаданне хаўрусаваць з імітацыяй, што авалодвала прасторай, і, калі А. В. запрасіў  да слова, сказаў, расчытваючы адзін яго верш, у якім ёсць канстатацыі, кшталту “Суддзя ў змагары хулігана знайшоў”, тое, што хацела казацца (і, відаць, не адным мною, бо пасля завяршэння некалькі чалавек падыходзілі і, як сакрэтам, як з-пад накінутай на галовы сеткі, дзяліліся ўхвалай). Вось аскепак з таго выступу: “Мы прыйшлі ў шоў… Махляр, што робіць ён?!. Хлус, што робіць ён?!. Мы недастаткова ёсць, таму ашукваемся і ашукваем…” Казаў, маючы на ўвазе прысутных там дзвюх дваістасцяў – кадравых гульцоў, і калі гэта казаў і паказваў на іх рукой, яны сядзелі, угнуўшы галовы, а ў зале панавала  ціша, якая, здавалася, звініць – такую цішу чуў, калі ў Доме літаратара аднойчы казаў свае слова пра Максіма Багдановіча. Напрыканцы вярнуўся (узняўся) ў гутарлівы тон вечарыны, згадаў, што калі атрымаў кватэру на Веры Харужай 46, то нічога не меў з сабою, а Анатоль Ільіч жыў побач, у доме 48, і я падаўся да яго: дайце што-небудзь!.. – і ён мне падарыў тады лямпачку Ільіча. Свяціла доўга. Свяціла доўга?

А Ваша бібліятэка як сям"я, свая многім, мне ў тым ліку.

Перадавайце прывітанне тым людзям, каго назвалі ў сваім лісце, і, пры нагодзе, тым, каго не назвалі.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Добрая навіна**

30.11.11

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

Калі прыйшоў Ваш ліст, я была ў Івацэвічах. Выдалася нагода паехаць на машыне праведаць родных і дапамагчы ім. Хацела напісаць Вам пра свае ўражанні, але не магу, слёзы – на вочы...

Не, дзякаваць Богу, усё добра, але ўспаміны – роем, ніяк не атрымліваецца жыць сённяшнім днём, не хачу, а вяртаюся думкамі ў мінулае – гэта цяжка, перашкаджае адэкватна пражываць менавіта гэтую хвіліну, гадзіну, дзень ці ноч... Прабачце, калі ласка, не звяртайце ўвагі – эмоцыі...

Добрая навіна – сёння ў газеце "Вечерний Брест" выйшаў артыкул пра кнігу Алеся Зайкі "Дым з коміна". Аўтар Іван Арлоў, карэспандэнт газеты, наш добры сябра. Ён вельмі любіць чытаць, чытае многа і на старонках дадатку да гэтай газеты "Вечёрочка" распавядае пра кнігі з фондаў абласной бібліятэкі, цікавыя, на яго погляд. Рубрыка называецца "Буквоед". Можна паглядзець у інтэрнэце ці магу даслаць, калі хочаце. Алесю Фамічу абавязкова патэлефаную, але, напэўна, ён ведае ад сяброў. Дні бягуць за днямі, не паспяваю нават асэнсаваць усё, што адбываецца за дзень, нейкае ва-

вёрчына кола, “суета сует”, але ўсё звязана з людзьмі і таму важна... Заўтра – першы дзень зімы... Вы так прыгожа і правільна сказалі пра гісторыю і сучаснасць, дзякуй за такія цёплыя словы пра нашу бібліятэку, для нас – гэта гонар! Прывітанне ад Вас перадаю абавязкова, усе, хто Вас ведае, зычаць Вам дабра і здароўя.

З удзячнасцю,
Галіна Іосіфаўна

**Водгук**
02.12.11

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

Толькі што праглядзела і праслухала перадачу, якую стварыў, як Вы сказалі, Мікола Пракаповіч. Нібыта зноў апынулася ў тым часе, у атмасферы, напоўненай Вашай прысутнасцю, а водгук відаць у людскіх вачах... Дыск я перадам Карын, яна звяжацца з Вамі, а плануе быць у Мінску ў наступныя выхадныя дні.

Учора ў нас прайшлі літаратурныя чытанні паспяховага, як напісана ў інтэрнэце, пісьменніка і настаўніка нямецкай мовы Леанарда Тома. Можна яшчэ дадаць, што ў яго вялікія акцёрскія здольнасці. Вывучаў германістыку і філасофію ў Мюнхене. Потым працаваў настаўнікам нямецкай мовы, выкладаў яе ў якасці замежнай у Італіі і Францыі. З 1996 года працуе ў Іспаніі і выкладае ва ўніверсітэце Барселоны. Раніцою ён праводзіў семінар у школе, дзе працуе Карын, потым – экскурсія па крэпасці, абед і літаратурныя чытанні. Ён чытаў урыўкі са сваіх кароткіх апавяданняў, у асноўным, дыялогі, і жэстамі і мімікай маляваў партрэты сваіх герояў, ды так трапна, што зала смяялася праз кожныя 5-7 хвілін. Школьнікі актыўна ўдзельнічалі, таму што па ходу мерапрыемства Лео, як яго называюць, пытаўся ў іх пра тыя ці іншыя рэчы. А дзяўчынка, якая сядзела побач са мною ў перапоўненай зале, сказала сваёй сяброўцы, што на Разанаве – яна так сказала – было больш цікава... Бачыце? Мне вельмі спадабаўся гэты чалавек, ён такі жывы, адкрыты, відаць, што яму самому падабаецца тое, што ён робіць, што ён любіць людзей... А адбылося ўсё дзякуючы Гётэ-інстытуту. Дарэчы, калі Леанарда запрасілі паглядзець выставу плакатаў аб жыцці і творчасці Генрыха фон Клейста, памятаеце? – то ён сказаў, што гэта яго любімы пісьменнік і што яго дыпломная работа была прысвечана Клейсту. Такая цікавая рэч...

Не ведаю, ці звярнулі Вы ўвагу на старыя будынкі каля нашай бібліятэкі: жылы дом і дзве "канторы" побач, – то зараз іх ужо няма, разбурылі... За працэсам назіралі рабочыя, супрацоўнікі, проста прахожыя. Глядзець на гэта было балюча – адразу будаваўся асацыятыўны рад, звязаны з чалавечым жыццём, ды і сам дом было шкада: ён таксама шмат чаго бачыў і перажыў разам з людзьмі, якія ў ім жылі, а магчыма, у яго было сваё жыццё...

Алесь Сцяпанавіч, прабачце мне, калі ласка, можа, у Вас не заўсёды ёсць час, каб адказаць мне, то я гэта разумею і прымаю. Шчыра ўдзячная Вам за давер і дапамогу, найлепшыя пажаданні Вам – ад Міколы Пракаповіча, Тамары Паўлаўны і Алы Міхайлаўны, пакуль што бачу толькі іх...

Галіна Іосіфаўна

**Сябрына**

04.12.11

Галіна Іосіфаўна, добры вечар!

Я не кожны дзень звяртаюся да кампутара і не заўсёды адразу адгукаюся лістом на дасланы ліст, але адгукаюся, нават нічога не атрымаўшы: некалі, у неймавернай наступнасці, мы пакінем словы – навучымся абыходзіцца без іх, і творчасць, па самым апошнім (ці, лепш, перадапошнім) рахунку, і ёсць вызваленне ад слоў. Але цяпер словы кажуць, і калі яны кажуць, рэчаіснасць набывае аблічча, людзі ажываюць і Брэсцкі краявід вымалёўваецца ў вачах. Мы да ўсяго маем дачыненне, праўда?

Дзень гэтаксама добры. І ўчора, і сёння далёка нікуды не хадзіў, адно на рынак і ў краму, але лагчынай – наваколле заходзіла за небакрай і ў сонцы была спагада. Спагада таго, што адыходзіць, да таго, што застаецца, спагада таго, што застаецца, да таго, што адыходзіць, а мы аднгачасова адыходзім і застаёмся, і промні, аддаючыся, маюць уласцівасць вяртацца туды, адкуль узяліся, мы не адразу мы, доўжыцца час, узаемадзеянне пераадольвае распадзелы, і потым – яно і цяпер.

Чаго нам заўсёды не хапае, дык гэта відушчасці, але ў спагадзе яна ўжо (ці, можа, яшчэ) ёсць. Хто ў Вас у Івацэвічах?

Вы адгукаецеся на мае словы – дзякуй! Я не настаўнік і не прапаведнік, а з той самай сябрыны, што і Вы. Яна самае істотнае, што можа ўзнікаць у людскіх стасунках.

Прывітанне сябрыне!

Алесь Разанаў

**Душа**

05.12.11

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

Не ведаю нават, з чаго пачаць... Пачну з галоўнага: шчасце ёсць! Я была вельмі рада чуць Ваш голас і размаўляць з Вамі па тэлефоне – усё ж жывы голас, інтанацыі, гаворка, паўзы; калі ты адразу адказваеш, а не пішаш; калі ты адчуваеш, як пачынае хутчэй біцца сэрца і ружавее твар; калі ты ўвесь ператвараешся ў слых: з аднаго боку, жадна ўбіраеш у сябе кожнае слова, кожную інтанацыю, з другога, – стараешся адказваць "упапад" (баюся, няма такога слова), і ад гэтага працэсу ты мяняешся сам – пачынаеш усміхацца, усё тое, што нядаўна было шэрым, пачынае набываць фарбы, ты пачынаеш

любіць усё жывое і проста ўсё на зямлі і ў небе, і нейкая радасць, нейкія сонечныя праменьчыкі пранізваюць цябе наскрозь... Вось такія былі ў мяне адчуванні, калі я з Вамі гаварыла, і потым доўжыліся...

Дзіўна, але гэта адчуванне (не пачуццё, а менавіта адчуванне, як нечага рэальнага) шчасця, радасці нікуды не падзелася, яно ўва мне засталося і спадзяюся, што змагу ўспамінам вызваць яго зноў... Так было добра Душы, я не магу перадаць словамі, ніякага параўнання з фізічнымі адчуваннямі, я не ведаю, што гэта, магу толькі здагадвацца, але думаю, што Вы мяне разумееце, як разумееце і тое, чаму я Вам пра гэта кажу: таму што перажыла гэта разам з Вамі, Вы прабудзілі маю Душу, і гэта цудоўна! Алесь Сцяпанавіч, я вельмі ўдзячная Вам за тое, што Вы адгукаецеся, нават, калі не пішаце, я гэта адчуваю.

Ведаеце, мне неяк няёмка было Вам пісаць, было адчуванне таго, што я забіраю ў Вас час, што Вам нецікава і непатрэбна, што я задаю "дзіцячыя" пытанні, што Вы – на вяршыні гары, а я – унізе... Але Вы такі шчыры ў лістах, такі спагадлівы і далікатны, а Ваш голас такі цёплы і нават трошкі ўсхваляваны (можа, мне падалося?)... Вы спыталі пра Таццяну, дзякуй, яна вельмі ўзрадавалася і абяцала лішні раз не турбаваць, толькі калі вельмі будзе трэба, – адным словам, я Вам давяраю і пастараюся не злоўжываць Вашым даверам ... Прабачце, калі ласка, маю, можа, залішнюю эмацыйнасць, бачыце – праз слова – "адчуванне", "пачуццё", – але дазвольце мне сказаць Вам тое, што сказала (сказалася)!

Галіна Іосіфаўна

**Знак**
06.12.11

Галіна Іосіфаўна, добры вечар!

Прачытаў Ваш ліст, быў яшчэ дзень – і амаль адразу ўзяўся адказваць, ды адхіліўся, і ўношу цяпер у напісанае папраўкі, але адгэтуль усё застаецца як і раней: усё добрае ўзаемна, усё шчырае ўзаемна, усё светлае ўзаемна, і Вы нічога ад мяне не адымаеце, а, наадварот, нешта істотнае дадаяце.

Учора паўдзельнічаў у фэсце "Кахай па-беларуску, жыві па-еўрапейску", бо паабяцаўся даўно, не ведаючы нават тэмы, тэрмін пераносіўся, а прыпаў на 5 снежня. Перад пачаткам ужо расчароўваўся ў сваёй згодзе: моладзева-гуллёвы варыянт, але гэта апынапалася на паверхні, пад ёю творчае, і, магчыма, сваім удзелам я здолеў унесці ў мерапрыемства нейкі, зусім не лішні, інгрэдыент. Ёсць адлегласць, якая кладзецца ў мінулае, і ёсць адлегласць, якая кладзецца ў наступнасць (у вышыню), абедзве яны даюцца зроку, першая аднавектарная, а другая рухомая і жывая, і я заўсёды зычу сваім сябрам, каб яны раслі і ўздымаліся, калі гэта адбываецца, дасягненні аднаго – дасягненні астатніх.

Вы не каля падэшвы гары, а я не на вяршыні – вяршыня заходзіць у па-

засвет, мы спадарожнікі, а мэта высокая, і таму, хто ідзе, яна пасылае знакі наступнасці. Цешуся з Вамі, што Вас крануў такі знак.

Алесь Разанаў

**Словы**

09.12.11

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

Дзякуй – я ведала, што Вы адкажаце хутка, але трошкі не дачакалася: у 5.10 раніцою 7-га паехала ў камандзіроўку ў Мінск, учора вярнулася пасля 23-х, пазнавата, але першае, што зрабіла, – уключыла камп'ютар і прачытала Ваш ліст. Не казала Вам раней, бо не ведала, як атрымаецца, ці будзе вольны час, каб патэлефанаваць Вам у Мінску альбо нават сустрэцца. Так і здарылася: вольнага часу амаль не было, з цягніка – на цягнік, ды яшчэ і прыхварэла трошкі, таму і сёння пішу позна, прабачце! У Рэспубліканскай навукова-тэхнічнай бібліятэцы нас вучылі, як працаваць з чытачамі, – зараз іх называюць карыстальнікамі, – з дапамогай інтэрнэта, у так званых "сацыяльных сетках". Выступалі прадстаўнікі буйнейшых навуковых бібліятэк, бібліятэк ВНУ, Інфармацыйнага Пасольства ЗША. Вельмі, вельмі цікава! А яшчэ, хоць і тэмпературыла, але пайшла разам з калегамі на фільм "Высоцкий: спасибо, что живой". Многа рознага пра яго гавораць, Вы, пэўна, ведаеце, але мяне фільм вельмі ўразіў... Галоўны герой, безумоўна, але і людзі, што былі побач з ім, іх паводзіны, барацьба чалавечага са звярыным у чалавеку і – перамога чалавечага! Ведаеце, фільм ідзе ўжо тыдзень, а зала была поўная, шмат моладзі: яны ж не жылі ў той час, не паспрабавалі, дзякаваць Богу, на сабе ціскоў той машыны, але Вы б чулі, як яны спачувалі і перажывалі за Высоцкага! А можа, і не за яго, а за абагульнены вобраз чалавека, які умеў сябраваць, трымаць слова, браць адказнасць на сябе і працаваць з поўнай адданасцю! А гэтая дзяўчынка, якая рызыкавала жыццём... Яна проста любіла...

Алесь Сцяпанавіч!

Вашыя словы – гэта ўчынкі! Вы рэальна дапамагаеце жыць і рухацца, хоць і маленькімі крокамі, але рухацца і развівацца! Дай Вам Бог здароўя!

Сёння кранулася ў дарогу Карын, так што чакайце яе званка, добрай Вам сустрэчы! Галіна Іосіфаўна, а можна проста Галіна, калі можна.

Беражыце сябе, калі ласка!

**Крылы**

11.12.11

Згаджаюся, пішу: Галіна, добры дзень!

Фільм, пра які Вы згадваеце, мне не даводзілася глядзець, з Высоцкім, як і з іншымі творцамі, усталяваліся (і ўсё яшчэ ўсталёўваюцца) свае адносіны, нішто тут не лішняе і лішняе ўсё, нават яны самі са сваімі

жылі ў Слабудцы, я вельмі хацеў з ёю, але мяне пакідалі дома, бацька пайшоў яе праводзіць, вяртаўся, а я кінуўся ўпотай следам, Любу заспеў у Блудні, яна не ведала, што са мною рабіць, ужо намерылася браць з сабою, зноў аб'явіўся бацька і быў са мною ласкавы, купіў пернікаў і цукерак, і я зноў апынаюся ў Сяльцы.

Лета вялікае, каля царкоўнай агароджы павырасталі ўпоравень з царквою ліпы, вароны на іх нарабілі гнёздаў, і святар Навумаў намаўляе майго аднакласніка Лёню Здановіча, каб той паўзлазіў на ліпы і гнёзды паспорваў, той гэта робіць, вароны абураюцца, людзі глядзяць і пасміхаюцца – у гэтым, напэўна, ёсць нешта, вартае ўсмешкі, а лета ўсё мае і, маючы, мінае, якая пара Вам адкрываецца найахвотней, Галіна Іосіфаўна?

Людзі – гэта мы таксама, і "судзіць" мае некалькі значэнняў: першае – выносіць канчатковы прысуд (мы проста не тая інстанцыя, каб гэта рабіць); другое – абгаворваць ці, па-руску, "судачить" (гэта дзіравіцца і дарма рассыпаць словы); і трэцяе – арыентавацца ў тым, што ёсць, і таму, што ёсць, даваць праўдзівую ацэнку, калі вочы бачаць, вушы чуюць, розум разумее, – і вось гэта, каб не блытацца ў хлусні і не слугаваць зману, мы проста абавязаны рабіць, таму судзіце, называйце рэчы сваімі імёнамі і справядлівасць знаходзьце.

Будзем спрыяць перамозе, яна ўжо ўгрунтавана ў свет, і барацьба, пра якую Вы згадваеце, шлях да яе; гэта шлях ад цела да духу, ён не паддаецца разуменню і тым не менш дзейсніцца. Час ад часу я як бы перасяляюся ў людзей, што жылі стагоддзі дагэтуль, тысячагоддзі, а то і даўней, так, як ім гэта трэба было, нічога іхняга мне ўжо не трэба, яны ў сваім целе, я без свайго, але перад тымі, што прыйдуць у свет праз сотні гадоў, я апынаюся ў суадпаведным становішчы: не ўсё ўзяў, не ўсё аддаў, а душа чуе музыку.

Кажыце ўсё, што хоча казацца, слухаю словы і яшчэ нешта.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Падарожжа на радзіму**

30.01.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

А чаму студзень праўдзівы? Снег, сонца, маразы – вельмі ярка і сурова, амаль бязлітасна, хаця і прыгожа... так бывае ў жыцці... У горадзе зіма не такая, як у невялікім гарадку ці мястэчку: снег не такі белы, не так адчуваецца магутнасць стыхіі і заміранне сэрца ад захаплення і першабытнага страху, калі ўяўляеш сябе ў полі ці лесе без ніводнай жывой душы... А ў сонечны марозны дзень нават весела пабыць нейкі час на вуліцы... У маім дзяцінстве, думаю, што і ў Вашым, зімы былі больш суровыя, чым зараз, памятаю гульні, санкі, сугробы, смех...

Падарожжа на радзіму кожны раз аднолькавае і рознае – заўсёды ўспамінаецца нешта з дзяцінства ці юнацтва, але ўжо як бы на адлегласці,

нібыта і не са мною тое было... Паўстаюць эпізоды з жыцця родных і блізкіх, сведкай якіх я не была, але ведаю па аповедах мамы ці родных і знаёмых... Усіх людзей бачу ясна, нібы яны побач са мною, а многіх ужо тут няма...У гэты раз хвалявалася: брат праходзіў чарговую "прафілактыку" ў бальніцы (капельніцы), папрасіў дзённы стацыянар, бо жывуць яны ў трох хвілінах хадзьбы ад бальніцы... Была ў іх увечары суботы, добра так пагаварылі, Таня расказвала смешныя гісторыі са сваёй школьнай практыкі (яна настаўніца пачатковых класаў), дачка прасіла расказаць то той выпадак, то гэты, – адчувалася, што гэта сям'я, дзе людзі стараюцца паразумецца, паважаюць адно аднаго і амаль пра ўсё, – думаю, што выключэнняў няма, – гавораць са сваёй дачкой... Гэта вельмі важна... У нашай сям'і так не было прынята, мы раслі "дзікаватымі", самі па сабе, асабліва я...Сказаць праўду: трошкі стамілася, таму, калі вярталася ў Брэст, увесь час спала... Калі пачытала Вашыя словы, адразу паспакайнела, а потым аднекуль узялася энергія і сілы, нават штосьці яшчэ і рабіла...Бадай што восень, Алесь Сцяпанавіч... Ранняя, з буйствам фарбаў, пахаў, свежымі ранкамі, цёплымі сонечнымі днямі і шчымлівай ноткай суму, што хутка гэта ўсё знікне... З вясною і пачаткам лета чамусьці звязваюцца надзеі на добрыя перамены, як бы аднаўляешся і сам разам з прыродай... А Вы?

Добра, Алесь Сцяпанавіч, дзякуй Вам! Так, хоча казацца многае...

Усяго Вам добрага.

Галіна Іосіфаўна

**Маразы**

02.02.12

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Як Вы? Не прападайце, калі ласка! Спадзяюся, што ў Вас усё добра і маразы не шкодзяць, а наадварот – спрыяюць нечаму добраму... Пастараюся напісаць трошкі ўвечары: стан "замарожанасці", холадавага шоку праходзіць, дзякаваць Богу, а маразы прагназуюць яшчэ на тыдзень...

Г. І.

**Ясна**

02.02.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Не прападаю – абЪяўляюся, усякі раз, калі пішу Вам ліст, усе словы хочуць вымавіцца адразу, нібы яны апынаюцца ў маленстве і не дужа слухаюцца дарослых, я з імі, а яны пераходзяць – праўзыходзяць – нормы граматыкі і логікі, усё ўпершыню, і адлегласць, пра якую Вы кажаце, займае прастору і поўная адкрыццём.

Ну так, у маленстве ўсё было (ёсць) сапраўднейшым і большым: адгортваецца згадка – і нанава бачыш тое, што бачылася табою самім, аднак і

яшчэ некім, і гэтым здвоеным ці зЪяднаным зрокам распазнавалася (распазнаецца) рэчаіснасць...

Мы яшчэ не пераехалі на Фурштат, а жывем на Вялікай вуліцы, у медычным інтэрнаце (мама медык), летам прастора на ўсе бакі, а ўжо выпаў снег і маразы малююць на шыбах узоры, мне неймаверна нудна заставацца дома, трэба ў нешта абуцца, адвячоркам аднаго дня мяне абуваюць у валёнкі і выпускаюць гуляць, Поля (хросная, яна жыве ў пакоі праз сценку) ідзе са мною, у двары малацікава, і ў валёнках нагам дужа нязвыкла, упрошваю – выходзім на вуліцу, у м а ё, і тут раптоўна скідаю свой новы абутак і басаніж па снезе бягу да хаты Віктара Шатка, хлапчука, з кім летам паспеў пазнаёміцца, гэта побач, і ён там стаіць; Поля нешта крычыць, яна праведная душа, і я яе не баюся, хоць, свавольнік, казаў: баюся толькі бацькі, бо ён будзе лупцаваць папружкай, і Полі, бо яна стане мне на нагу і раздзярэ, як жабоцьку, – такая ў яе была маляўнічая грозьба.

Потым, ужо на Фурштаце, аднае зімы ў дзіва і ў радасць на вуліцы намяло столькі снегу, што гурбы былі, як горы – немагчыма было хадзіць і людзі былі больш чым калі здружаныя.

Вось, Галіна Іосіфаўна, гавару з Вамі – і згадкі адгортваюцца самі, нібы Вы для іх свая: Вы для іх свая? Кожная пара года і веку па-свойму тлумачыць чалавека, усюды ён занадты і ўсюды недастатковы – як гэта можа быць, што процілеглыя значэнні кажуць тое самае? Але хіба ён тойсамы? Ён засынае і прачынаецца – і апынаецца там, дзе ніколі не быў, а будзе згадваць – быў: усюды тойсамы снег і сляды пад снегам, яны яго памятаюць, блізка Брэст, і зіма згадка пра тое, чаго не было аднойчы, але заўсёды ёсць.

Вымаўляйцеся, калі ласка, Галіна Іосіфаўна, уваскрашайце тых, каго бачыце ясна. Мы ў людзях і з людзьмі, і адлегласць знаходзіць пакінутае.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Згадкі**

03.02.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Вы напісалі, што ўсе словы хочуць вымавіцца адразу, – так і ў мяне, а яшчэ ўзнікае пачуццё даверу без межаў, хваляванне, радасць, удзячнасць і яшчэ нешта, што не магу акрэсліць словамі...

А Фурштат – гэта назва вуліцы? Як нямецкае слова... Чытала, што такая вуліца ёсць у Санкт-Пецярбургу і што жылі на ёй знакамітыя людзі...

Мая мама таксама медык, скончыла медыцынскі тэхнікум – там, дзе яна жыла ў той час, асаблівага выбару і не было: медыцынскі ці лясны – і ўсё жыццё дапамагала прыходзіць у свет дзеткам... Памятаю, што некалькі разоў затрымлівалася ў сяброўкі, а маме патрэбна было ісці на работу на ноч (яна працавала пазменна: дзень, ноч, дзень пасля ночы і яшчэ адзін наступны – выхадныя), бацька мог яшчэ дадому і не прыйсці, а малодшага

брата не было з кім пакінуць... Мама нервавалася, а я хіба што толькі цяпер разумею, што яна адчувала тады... і якая напружаная і адказная ў яе была праца: адказвала за два жыцці адразу... І так кожны дзень: у той час дзяцей нараджалася значна больш... Раней жанчынам не давалі столькі часу, каб быць з дзіцём, здаецца, толькі 56 дзён... Не памятаю, а ведаю па расказах, што гадавала мяне цёця Надзя, бацькава сястра з Дубітава, – так я яе называла – хаця, з яе слоў, некаторы час называла і мамай... Усялякае здаралася: і "гарэла" з тэмпературай 40, яшчэ і года не было, калі мяне забіралі ў Дубітава і мама баялася, што не выжыву; і жыла ў нас цёця Надзя, – а жылі мы не ў тым доме, што зараз, а ў аднапакаёвай кватэры ў доме, падзеленым на два, і жанчына з другой палавіны "ўступіла" нам сваю чаргу, бо нас было ужо чацвёра, а яны з сынам удваіх, і мы атрымалі кватэру ў двухпавярховым доме на чатырох гаспадароў, і ўсё яны былі інжынерамі...

Калі вучылася ў малодшых класах, то на два месяцы, а можа, і на ўсе тры мяне адпраўлялі ў Дубітава, там у адным доме жылі бабуля з дзедам, цёця Надзя і цёця Нюра з дзядзькам Іванам і дзецьмі, а ў другім – цёця Маня з дзядзькам Яшам і дзецьмі (шасцёра)... Памятаю, што цёця Надзя брала мяне ў царкву ў Косава: Косаў, – так яны гавораць... Косаў і Вацэвічы... Заказвала ў мясцовай партнхі сукенкі для мяне, помню, якія… Дзед не звяртаў на нас увагі, нават не размаўляў, толькі мог па спіне "працягнуць" ці палохаў, калі Коля рваў вішні, яшчэ недаспелыя, а бабуля была вельмі добрай і любіла ўсіх, пякла антонаўскія яблыкі ў печы – вельмі мне падабаліся – і давала акраец хлеба, каб я пакарміла сабаку, бо першае, што я рабіла, прыехаўшы да бабулі, бегла на "задні" двор, каб павітацца з сабакам, які абавязкова там быў... Коля прыносіў ракаў, якія лавіў у рэчцы – мне не вельмі яны падабаліся, сёстры хадзілі ў ягады і ў грыбы (яны старэйшыя за мяне), і помню, як цёця Маня чысціла картоплі – салёнікі – на вячэру – цэлае вядро... Аднаго разу папрасілася з Колем і дзядзькам Іванам прывезці сена, помню, як высока мы сядзелі на возе, было боязна, а потым мы скаціліся з той капны на возе, добра што не на вілы... Саша, мой брат, гасціў там рэдка, заставаўся на лета з бацькамі, а аднаго разу, калі гулялі ў хованкі на гарышчы, зваліўся на карову, добра, што не на рогі, – напалохаліся абое: і ён, і карова... Адно Коля рагатаў ад душы... Цёця Надзя была набожнай, добрай, лічыла сябе няшчаснай – жыццё ў яе было нялёгкае – працавала цяжка ўсё жыццё, у тым ліку і ў Нямеччыне, куды паехала замест малодшага брата Віктара (і яе так і ўспрымалі), часта плакала, усяго баялася... Магчыма, нешта перадалося і мне, бо ніводнага разу не ад'ехала з Дубітава без слёз, а перажываць пачынала за дні тры...

Алесь Сцяпанавіч, так, я свая для Вашых згадак і шчаслівая, што яны адгортваюцца, і бачу і перажываю разам з усімі, хто ў іх жыве... Атрымліваецца, што ўсе мы побач? Толькі не бачым, а адчуваем прысутнасць людзей, якіх ведалі, якія былі з намі, а мы з імі? Так, мы гаварылі пра гэта...

Усяго Вам добрага, дзякуй Вам!!!

Галіна Іосіфаўна

**Лінза**
05.02.12

Галіна Іосіфаўна, добры вечар!

Вы згадваеце Дубітава, летась там быў, каб ведаў, што Вы з ім зроднены, затрымаўся б і ўсяму, што там ёсць, аддаваў бы большую ўвагу, а так праехаў на ровары з канца ў канец, што засталося ў згадках, дык гэта ў першым злева, калі заязджаеш з косаўскай дарогі, двары гаспадыня развешвае посцілкі і прасціны, ды яшчэ ластаўкі паабсядалі лініі правадоў жывымі нотамі, ды яшчэ ў зяляніне садоў хаваюцца вокны, ды яшчэ штыкецiны плота лічаць маё мінанне, лета мінае, а згадкі застаюцца, яны не факты і не артэфакты – хіба самога сябе можна мінуць? Мы ёсць інакш, чым сваёй асабовасцю, і пасма выпадковай размовы можа сказаць больш, чым навуковая лекцыя, і выпадкова ўбачаны краявід больш, чым горад, мы знікаем у распарадку, а аднаходзімся ў выпадку, і выпадак парадкуе словы так, як яны яшчэ не парадкаваліся (Вам падабаецца хадзіць дарогамі, якімі яшчэ не хадзілі?), і амаль выпадкова прыходзім да здагадкі: згадкі – лінзы, праз якія нам бачыцца нешта, што бачыць нас.

Зноў лета, маці на працы ў бальніцы (пра гэта паэма "Упоцемках, з ліхтаром"), бацька на працы ў краме – сельмагу (пра гэта "Паэма рыбіны"), Тэклі яшчэ няма (пра гэта "Паэма сланечніка"), Любе даручана наглядаць за мною, прыходзіць яе сяброўка і аднакласніца Валя Ступа, яны дамаўляюцца некуды пайсці гуляць, я хачу з імі, а яны хочуць самі, і тады Люба кажа: "Ты заставайся дома – і мы табе пакажам Бога", я згаджаюся адразу: гэта больш, чым пайсці гуляць; яны знікаюць, я прыпадаю да акна, перад вачамі бязлюдная вуліца, яны мусяць выйсці з весніцаў, іх усё яшчэ няма, і тады наколькі можна шчыльна я прыціскаюся тварам да аконнага шкла і наколькі можна глыбока гляджу ў край самога бачання – і ў шкляных прызмах ракурсаў бачу тое, чаго дагэтуль не, яно мне здаецца знаёмым,  ва ўсякім разе не чужым: таемную і непарушную Прысутнасць (мушу пісаць гэта слова з вялікай літары), і, надзіва супакоены, нібы меў смагу і раптам наталіўся, адыходжу ад акна і гуляю ў свае гульні; потым прыходзіць Люба, смяецца і пытаецца: "Ну што, бачыў Бога?", а я не разумею ейнага смеху, я на самой справе бачыў Бога.

У тэлефоннай размове, Галіна Іосіфаўна, мы гаварылі пра ўсё і пра нешта і яшчэ пра закон кампенсацыі: так, тое, што не ўклалася ў прысутнасць, укладаецца ў адсутнасць, і Бог вялікая кампенсацыя, і – дадаю ў дадатак – сляза, што наплывае ў згадкі, – лінза: слязы можа не быць, лінза – мусіць.

Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**Згадкі — лінзы**
09.02.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар ці добрай раніцы і дня!

Ведаеце, не змагла адразу прачытаць паэмы, асабліва "Упоцемках, з ліхтаром": перашкаджалі слёзы...Так праўдзіва, эмацыянальна, мудра і так балюча-салодка, так шчымліва і ў той жа час светла Вы напісалі пра сябе, пра мяне, пра людзей...Перажывала разам з усімі Вашымі роднымі, разам з Вамі і разам з сабою... Чытала "Паэму сланечніка" – і бачыла цёцю Надзю, як мы яе звалі, здаецца, наблізілася да разумення яе жыцця і жыцця наогул...

"Паэма рыбіны"... Бацька дапамагаў да класа 8-га рашаць задачкі, хаця скончыў класаў 7, а потым трэба было працаваць – у бабулі вялікая сям'я, хаця ён і малодшы з братоў, пасля яго толькі цёця Нюра... Нас з братам вельмі любіў, ніколі не крыўдзіў, гатаваў снеданне, калі мама хадзіла ў начную змену, маму любіў, вывучыўся сапожнаму майстэрству, працаваў на нафтабазе, потым на СТА – рамантаваў машыны, разбіраўся ў іх... аддаць апошнюю кашулю – так, як інакш? за справядлівасць, за сяброў гатовы быў і ў агонь, і ў ваду, і ў бойку... Як усё знаёма, як усё перажывалася востра, а толькі Вы праўду сказалі: "... маленькія людзі – суддзі: якімі будуць яны?! – вязні: што з імі будзе?!" Ваша мама і мая акушэркі... Наступным вечарам прачытала "Паэму адпушчэння" і была ўзрушана не менш...

Алесь Сцяпанавіч, прабачце мне, прашу: як я насмелілася ўвогуле Вам напісаць, мала што чытаўшы з Вашых твораў, а толькі "трапіўшы ў палон" Вашай асобы, зазірнуўшы ў Вашыя вочы... Вы і сапраўды Космас, але нейкія часцінкі Космасу ёсць і ўва мне, як і ў іншых простых людзей, душа якіх адгукаецца на Вашыя творы, Вашыя перажыванні і думкі, і таму ў мяне ёсць надзея, што Вы мне даруеце... відаць, даравалі, таму што пішаце, перажываеце і ўважліва слухаеце... І нават дзякуеце, што я пастукала ў Ваш шчыт...Пра выпадак, пра тое, што "мы знікаем у распарадку , а аднаходзімся ў выпадку, і выпадак парадкуе словы так, як яны яшчэ не парадкаваліся", – Вы так сказалі... згодная з Вамі... Так, мне падабаецца хадзіць дарогамі, якімі яшчэ не хадзіла...

Алесь Сцяпанавіч, усяго Вам добрага,
Галіна Іосіфаўна

**Споведзь**
12.02.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Некалькі дзён не звяртаўся да кампутара, а зазірнуў сёння – узрадаваўся: ёсць Ваш ліст, і кампутар не дарэмны.

Вы ўмееце чытаць душой, я, мабыць, гэтак ужо не ўмею; набралася адлеглсці – і далечыня стала празрыстай: восень глядзіць на нядаўняе лета (Вы казалі, што Вам яна падабаецца), і тое, што пісалася, яшчэ маё і ўжо не

маё, я перад ім безабаронны – настолькі з ім зроднены, і ўсё-такі, аднак, ад яго адстаронены; яно здзейснілася і засталося там, дзе я некалі быў, і таму што здзейснілася, адпусціла далей. Гэта стасуецца да ўсяго, што напісалася ўсімі, калі перажываем прачытаны нейчы досвед як свой і ў выніку становімся памножанымі, каб некалі – вызваленымі.

Вось Вы ўзялі і прачыталі раптоўна тое, да чаго я сам асцерагаюся звяртацца, і мне пра гэта сказалі ўголас, а ў мяне адчуванне, што я пабыў на споведзі і дзейсніцца нейкая трансмутацыя, якая знаходзіць душу і кранае.

Гётэ казаў, што мае дзве душы, Ніцшэ смяяўся і казаў, што мае сто душаў, а дзэн-будысцкі манах – што ён не мае душы: сляза ператвараецца ў лінзу, лінза збіраецца ў прастору, дзе свеціцца сонца і блукаюць аблокі; сонца ў промнях, цэнтры ў радыусах, значэнні ў працяжніках, а чалавек у дарозе, і процілегласці ў ім супадаюць.

Некалі, калі пераходзіў у наступнасць, а папярэдняе ламалася і трымала, я вырашыў пайсці на споведзь – балазе хаўруснікі па духоўных пошуках падавалі прыклад, і ўжо загадзя шкадаваў святара, з кім буду мець справу; рытм споведзі звычайна аднастайны і рытуал – уяўнасць: вінюся – грэшны справай і словам, тады адпушчэнне, і ўжо на чарзе наступны, а я ішоў на сапраўдную споведзь і сказаў у с ё (!); рытуал выбіўся з каляіны, святар не ведаў, што са мною рабіць, і я яму мусіў быў дапамагчы зноў увайсці ў рытм і мне даць адпушчэнне; больш у такой споведзі я ўжо не меў патрэбы.

У сонцы ўжо трошкі адчуваецца цеплыня, і калі ўзіраешся ўдалеч, з-за далягляду вымалёўваецца прадвесне, няма, Галіна Іосіфаўна, большага і меншага, а ёсць тоесамае ў сваіх промнях, радыусах ды працяжніках, калі мы вымаўляемся – спавядаемся, дзякуй, што ўдзельнічаеце душою ў тым, што яшчэ і назвы не мае,

Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**Жыццё**
13.02.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

З заміраннем сэрца адкрываю пошту: ці ёсць ад Вас ліст, ці няма... Калі бачу, што ёсць, – сэрца пачынае біцца хутчэй, я дзякую Богу і Вам, з хваляваннем адкрываю, а перад тым, як пачаць чытаць, ахопліваю позіркам увесь ліст, нібы галодны прагна глядзіць на хлеб, і толькі потым пачынаю чытаць і перачытваць, перажываць і думаць...

Ведаеце, я ніколі не была на споведзі, хаця і прычашчалася ў а. Ігара... Мне хацелася, як і Вам, у цяжкую хвіліну выказацца, пакаяцца, расказаць пра свае перажыванні і мукі... – бывае, што як бы відавочна і не зробіш нічога дрэннага, але душа ў цябе развярэджаная, баліць, ты не можаш знайсці сабе месца, так, Вы правільна сказалі, "калі папярэдняе ламалася і

трымала", – але як можна за хвіліну нешта расказаць, – так: "грэшны справай, і словам", і думкамі... і ўсё… – і атрымаць адпушчэнне... Перажывала (перажываю) я вельмі моцна – так, што гэта праяўлялася (праяўляецца) фізічна: праблемы са сном, нервовасць, дэпрэсія, а яшчэ – розныя высыпанні на руках нервовага паходжання, якія нельга зняць ніякімі мазямі, пакуль не прывядзеш у парадак свой унутраны стан...

Упершыню гэта здарылася, калі я вучылася ў інстытуце: не здала залік ці атрымала невысокую адзнаку на першым курсе (не хапіла на ўсіх падручнікаў у бібліятэцы), – і страціла на нейкі час пачуццё ўласнага цела... Была ў душы, церла мачалкай руку і раптам зразумела, што я яе не адчуваю, нібы тру сценку ці які іншы прадмет... Прыйшлося ісці ў медпункт, а потым піць лекі... І кожны раз, калі я "не спраўлялася" з сітуацыяй, гэта было відаць усім... А "сітуацыі" былі рознымі... Нават прыйшлося адзін раз у бальніцы паляжаць, таму што рукі былі страшныя... Лячылі мяне валер'янкай, сном і мазямі, а потым я звярнулася да псіхатэрапеўта... Сказаць па праўдзе, калі-нікалі я звяртаюся да яго, калі не магу знайсці выйсця, і ён мне вельмі дапамог (дапамагае)... Мы з ім гаварылі на розныя тэмы і толькі да адной ніяк не можам наблізіцца і абмеркаваць яе: жыццё і смерць... – я адразу пачынаю плакаць і прашу доктара перанесці гэту размову на другі раз... Другім разам усё паўтараецца... Калі мы сталі з Вамі пісаць адно аднаму, я адчула, што ў мяне няма патрэбы сустракацца з доктарам, – з Вамі я магу пра гэта гаварыць і думаць... Канешне, я таксама плачу, але "печаль моя светла"... Мы размаўляем з Вамі трошкі на іншай мове, чым з паважаным і дарагім мне доктарам... – не на мове ведаў, а на мове Душы, мне так здаецца... Яшчэ адну "страшную" тайну Вам адкрыла... Доктар кажа, што ў мяне такая "нервная организация", нават таблеткі, якія прыйшлося піць, мы дзялілі на 4 часткі, таму што большыя дозы былі для мяне завялікімі, хаця іх назначаюць нават дзецям...

Алесь Сцяпанавіч, так, тое, што здзейснілася, засталося там, дзе нас няма, і глядзіш на гэта нібы збоку – ты і не, таму што ўвесь час мяняешся і нават дзівішся: хіба гэта я, хіба гэта было са мной?.. Нейкія рэчы ці з'явы я старанна абыходжу ў сваіх успамінах: ці вельмі балюча ад бяды ці гора, якія перажываліся, ці ад імгненняў шчасця, ужо незваротных... І я не ведаю: ці трэба "праганяць" іх з памяці, гэтыя ўспаміны, ці перажываць іх зноўку, хаця і надта цяжка бывае парой... Ды і перажываюцца яны ўжо не так, як у той час, бо ты ўжо іншы, а можа, гэта і ёсць тоесамае, пра што Вы гаворыце? Проста доўжыцца жыццё – па-за межамі часу і нашага жадання яго неяк упарадкаваць?..

Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Працяжнік**
15.02.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Норма рухомая, нерухомая норма – схема, і мы пастаянна ўдакладняемся – апынаемся на іншым месцы ў дачыненні да сябе і свету; мы апынаемся на мяжы, дзе вядомае суадносіцца з невядомым, мы ні тое, ні гэта, а іхняе суаднясенне, працяжнік, накрэслены паміж імі, і таму што працяжнік, ужо і тое, і гэта: ну так, мяжа, што вяла і дзяліла, здольная яднаць і весці, і яна адна гэта здольна рабіць, усё астатняе – змус і парушэнне. У свеце пануюць супрацьлегласці, вайна даганяе вайну, мы галасуем "за" і "супраць", а працяжнік знаходзіць выйсце.

Вось, мы шукаем навін і чакаем навін, яны найбольшае, што прыцягваюць людскую ўвагу, сродкі масавай інфармацыі твораць на гэтым сваю "шакаладную" (ад слова "шок") індустрыю, і найбольш палохаемся іх, а самая большая навіна настае знутры і ўжо нават і не навіна, а самое жыццё, і я Вам, напэўна, не навіна, праўда?

"Ты не самая большая страта", – вымавіў Алесь Каско ў адным вершы; тут тая суадносіна, калі ты роўнае я, і высновa "Я не самая большая страта" падступаецца і набывае значэнне і сілу: тут Алесь Каско вымаўляе менавіта сябе і калі вымаўляе сябе найпаўней, мае найбольшы плён.

Пішу Вам гэты ліст і перапыняюся, толькі што патэлефанавала Валянціна Аксак з радыё "Свабода", учора адышоў з гэтага свету мастак Тодар Копша, я з ім быў здружаны, многім яго карцінам даваў найменні, гуляючы ў розыгрышы, за яго і ад яго складаў нейкія вершы для “Зно” і “Крыніцы”, нешта мусіў быў цяпер сказаць, яшчэ пазаўчора ён быў жывы і мог бы, калі змог бы, сам пра многае распавесці, але людзей цікавяць больш навіны, чым самі людзі, ён сам ужо па-за словамі, і тое, што з ім было, адпускае яго. З маленства ён вадзіў з сабою немач – нагу, знявечаную поліяміэлітам; у вайну маці з дзецьмі, а іх было шмат – чацвёра, ці пяцёра, хавалася ад аблавы, і немец выйшаў на іх. "Калі вы хочаце некага забіць, то яго", – сказала змучаная бедная жанчына і паказала на калеку – на Тодара. Немец нешта адчуў, нешта зразумеў, сказаў: "Жыві, хлопча!" – і адышоў. Ён трымаў гэты запавет, і цяпер як ніколі ўсім блізкі. Неабходнае падступаецца само, мусім знаходзіць з ім мову.

Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**Навіна**
16.02.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Смуткую разам з Вамі... Не ведала, на жаль, пра мастака нічога, толькі зараз паглядзела ў інтэрнэце, прачытала колькі слоў пра яго і ўбачыла

рэпрадукцыю адной карціны "Адтуліны"... Часта ў артыкулах згадваецца карціна "Сон", але пакуль не знайшла... Відаць, многа пераӂжыў Ваш сябар і многа перадумаў... Вы не гаварылі пра сваіх сяброў...

Алесь Сцяпанавіч, Вы сказалі геніяльныя словы: "Самая большая навіна настае знутры і ўжо нават і не навіна, а самое жыццё, і я Вам, напэўна, не навіна, праўда?"... Ведаеце, я даўно прасіла Бога паслаць мне чалавека, які б дапамог, нават не тое, што "разабрацца" ў жыцці, а каб ён, гэты чалавек, проста быў, існаваў, быў жывы; а каб пагаварыць з такім чалавекам, – не прасіла і не спадзявалася... І вось Бог паслаў на мой шлях Вас... І ў гэтым, існым сэнсе, Вы для мяне не навіна...

Але тое, што Вы мне пішаце, адказваеце на пытанні, якія гаворацца ўголас, і якія толькі хочуць прагаварыцца, што Вы добра да мяне ставіцеся, нягледзячы на недахоп у мяне адукацыі, эрудыцыі, нават памылкі і русізмы ў мове, – гэта для мяне навіна... Вы самі неяк казалі, што, бывае, сустрэнеш знаёмага чалавека, аднакласніка, напрыклад, і не ведаеш, пра што з ім гаварыць...Так, Вы зноў праўду сказалі: "...мы шукаем навін і чакаем навін, яны найбольшае, што прыцягвае людскую ўвагу", а самае галоўнае – як цябе завуць? якога колеру твае вочы? што табе сніцца? пра што ты думаеш? каго ты любіш? – здаецца, частка пытанняў з "Маленькага прынца", – мала каго цікавіць...

Сёння да нас завітаў Алесь Каско разам з ЛявонамВаласюком. На жаль, я была ў дырэктара і не бачыла іх. У Алеся выйшла новая кніга "Прыадхінуты небасхіл" – з новымі і ранейшымі вершамі і прыкладна ў сакавіку мы будзем ладзіць яго творчую вечарыну (і з нагоды мінулага юбілею таксама)... Падпісаў нам зборнікі, дзякуй... Яго вершы існыя, кранаюць душу і сэрца... З ім цікава пагаварыць, але калі ён не адзін, то размовы не атрымліваецца, таму што гавораць яго сябры, а Алесь больш маўчыць...

Алесь Сцяпанавіч, можа, я што-небудзь магу для Вас зрабіць добрае? Вы толькі скажыце...

Заўтра збіраюся паехаць на радзіму: наведаць маму і брата і трошкі дапамагчы па дому, вярнуся ў нядзелю... Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Навырост**

18.02.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Смутку не было, праводзілі Тодара ў апошні шлях, вакол некранутая бель і свяцілася сонца, ён колькі гадоў не выходзіў з дому, а потым паміналі -ўспаміналі, ва ўсім было нешта надзіва звычаёвае, нібыта яно было забылася, а цяпер аднаходзілася і прызнавалася, што ўсё так і мае быць; сюр яго стыхія, ён быў з намі і, разняволены, шчодра і цалкам дзяліўся той перавагай, якую займеў, і ўсе былі ў перавазе.

Некалі я ўзычыў яму найменне Копша, ён з ім зжыўся і ў ім спраўдзіўся, яно міфалагічнае і паўстае з глыбіняў айчыннай рэчаіснасці, да таго ж суадгукалася з яго прозвішчам – Кацапаў. Найменне – прызма зместу, спачатку яго было больш чым дастаткова, а потым пачаў заўважаць, што яно зацьміцца і стамляецца, мастацтва не любіць паўтораў, а перамены ссоўвалі з месца пункты гледжанняў і апірышчаў, і тады прапанаваў яму наступнае: Тодар Дорт; яно гучала суладна і пераканальна, і нямецкі капыл апынаўся суадпаведным яго іпастасі, ён вымаўляў яго ўголас, яно ста [навілася яго ўнутраным голасам, тым больш што апошнія гады ён ужо і не маляваў, а парадкаваў як мог папярэдняе, ды спасцігаў мастацтва, якое можа абыходзіцца без маляваных выяў, там, дзе канчаецца тут, пачынаецца там (dort); у кітайскай кнізе "І-цзын" пасля 63-й гексаграмы "Ужо канец" спадзявана-неспадзявана аб’яўляецца 64-я, завяршальная, "Яшчэ не канец", і вершаваны гётэўскі радок "Stirb und werde!" (Памры і станься!) імкне ў наступнасць.

У дадатак яшчэ шкадую, што ў свой час не ўсябраваў яму гульнёва-розыграшнай мянушкі Цап – яна вынікае з самога ягонага прозвішча. Быў – і ў гісторыі застаецца – Пац, быў бы, усім у водгук, а яму ў падарунак-ролю, Цап. Тут, у жыцці, усякая імя роля, а людзі вяртаюцца ў Айчыну і там набываюць сапраўдныя імёны.

Вы, Галіна Іосіфаўна, адрасуеце маёй ціхмянай асобе шчодрыя ўзнёслыя словы, дзякуй вялікі, я іх не заслугоўваю, яны звыш меркі, яны, калі хочаце, навырост, яшчэ не пераплаўлены колькасці ў якасць і самасць кусае сэрца, ведаю толькі, што расці можна (і трэба) заўсёды, інакш нешта парушаецца і з гэтага парушэння вынікаюць неадэкваты, амаль усе імі могуць быць, а канчатковая якасць – гэта калі не магчы і не быць; як у драбіне, у ёй шмат перакладзін, а мы на іх.

Цяпер – адукацыя: Вы наракаеце (наракаеце?), што недабралі яе, – якой? Мы ўсе недабіраем самага істотнага, а перанабіраем лішняга; адукацыя дадае і разам з тым адымае, яна запаўняе сваёй канкрэтыкай тое, што магло б заняцца іншай канкрэтыкай, і ўводзіць яго ў фармат і ў дыскурс, дзе яно становіцца нечым, так ці інакш парушаным, і заўсёднае вялікае пытанне ( хто мусіць даць на яго адказ?): ці тое, што дадаецца, істотнейшае за тое, што адымаецца? Тое, што дадаецца, – відавочнае, тое, што адымаецца, – невідавочнае, аднак яно першароднае, і дрэва ведаў вырастае з першароднасці; калі можна дапамагчы, не трэба прымушаць, і Сакрат звяртаецца да досведу нашых мацярок-павітух – да маеўтыкі. Справа не ў тым, колькі чаго хто паспеў прачытаць і здолеў засвоіць, а ў тым – я к; Вы ўмееце чытаць я к, мы з Вамі ў ліставанні, і жывая дзея найлепшая настаўніца.

Сябры застаюцца ў маленстве і ў маладосці, для тых, хто выходзіць адтуль, належыць знаходзіць іншыя найменні і ўсякі раз асабовыя, а той, хто там застаецца, заўсёды свой, Вы пытаецеся – і сёння скажу некалькі слоў пра свайго першага сябра.

Сонечным летнім днём мама выводзіць мяне з двара, паказвае на той бок вуліцы і кажа: "Ідзі!" Там, на слупе плота, у доўгай палатнянай сарочцы сядзіць хлопчык і не спускае з мяне вачэй; мы загаворваем і адразу знаходзім паразуменне, ён злазіць са слупа, я яшчэ там не сядзеў, побач лаўка і зелянее бэз, і кветкі цвітуць, не ведаю, як яны называюцца, а ён ужо ведае дарогу да рэчкі, свет багацее неймаверна, пойдзем туды і вернемся да папялішча – яшчэ нядаўна тут палымнела вайна, будзем кідаць на вуліцу камяні, а ў глыбіні двара туліцца хаціна: тут ён жыве з бацькамі і са старэйшым, а потым і наймалодшым братам, нікога ўжо з іх няма, а ўсё застаецца (пра гэта версэт “Гаворка Саша”).

Вы зычлівая, і я дзякую Вам за пасыл: рабіце, што можаце, добрае для сябе і для некага, і ўсё добрае, што будзеце рабіць для сябе і для некага, будзе добрым і для мяне: навырост. Заўтра на дзень паеду ў Барысаў, там жыве наймалодшая маміна сястра Таня, у снежні 47-га народжанага на гэты свет і спавітага яна несла мяне з бальніцы – тата і мама ішлі следам.

Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**Боль**
21.02.12

Алесь Сцяпанавич, добры вечар!

Дзякуй Вам! Прабачце: трошкі затрымалася, але ўжо пішу...

Як Вы з'ездзілі ў Барысаў, як маміна сястра Таня? Ці часта Вы яе наведваеце? Яна жыве адна ці ёсць нехта з ёю? Відаць, яна вельмі радуецца Вам... А Вы?.. Раней я зусім не разумела, калі цётя Надзя ці бабуля гаварылі: "Дай я хоць падзіўлюся на цябе..." – чаго на мяне дзівіцца? – зараз сама хацела б часцей бачыцца са сваімі пляменнікамі, нават і не размаўляць, а проста глядзець на іх... Гэтаксама і на ўсіх родных... Бачыце, які ў Вас светлы і прыгожы ўспамін пра першага сябра, а ў мяне інакшы: ці восень, ці вясна, але ніякіх яркіх фарбаў, усё шэрае – можа, яно потым так пафарбавалася – я выходжу са свайго двара і іду ў двор да суседзяў, дзе стаяць дзве дзяўчынкі, заходжу і спыняюся ў нерашучасці, можа, што і кажу, не памятаю, і вось адна дзяўчынка, Таня, з якой мы будзем потым вучыцца ў адным класе і сябраваць, – нагінаецца, бярэ з зямлі камень і кідае яго ў мой бок... камень трапляе ў лоб, цячэ кроў, на мой плач выбягае мама, добра, што была дома, і вядзе мяне перавязваць галаву...  такая згадка... навошта... патлумачыць нельга...

...Так, добры Вы чалавек, Алесь Сцяпанавіч, праўда: "жывая дзея найлепшая настаўніца", згодная з Вамі, якасць, а не колькасць...

...Ведаеце, нічога не забываецца, помняцца нават дэталі...Ужо каторы месяц, з восені, лячу і пералечваю зубы (што зробіш, каму як пашанцуе, не таму, што шмат зубоў, а таму што на адзін зуб – два тыдні), і кожны раз доктарка пасылае мяне рабіць здымак, і раблю яго ў дзіцячай стама-

талагічнай паліклініцы: там добры апарат, і не так дорага каштуе, – і кожны раз чую чыйсьці плач: оёёй, успамінаю свае паходы да зубнога ў школе, гэтыя працэдуры без абязбольвання, калі я дакладна ведала, што зараз проста свідруюць, а зараз будуць выцягваць нерв... як сядзела ў чарзе і чытала, а дарослыя ішлі перада мною, выходзіла доктарка і сварылася, што не будзе мяне прымаць, бо я не іду па сваёй чарзе, а ўсіх прапускаю... і як дзяліліся мае дні ад паходу да паходу да доктара... І яшчэ часты галаўны боль, з класа 5-га... Маю знаёмых сталага ўзросту, за 70, якія не ведаюць, што такое бывае...

Алесь Сцяпанавіч, для чаго чалавеку даецца боль? іменна фізічны? боль цела? Каб ён мог перажываць боль другога чалавека, як свой? Але ёсць людзі абдзеленыя, знявечаныя, і яны не заўсёды добрыя, нават наадварот... Іншы раз думаецца: каб не балела галава, было б тое і тое, зрабіў бы нешта, прачытаў, зразумеў, а так... Боль адымае, але, відаць, і дае... Калі ў мяне баліць галава – а бываюць розныя стадыі гэтага болю – то я як бы і не я, і нават не цела фізічнае, а нейкая субстанцыя паміж гэтым светам і тым... І так бывае радасна вярнуцца ў цела, калі нічога не баліць... Праходзіць нейкі час, пачынае непакоіцца душа, і так па крузе...

Усяго Вам добрага, Алесь Сцяпанавіч,

Галіна Іосіфаўна

**Радовішча**

23.02.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

За акном цярушыцца снег, а аб падваконне грукаюць кроплі: такая пара – і тое, і гэтае, малыя хочуць хутчэй стаць дарослымі, каб змагчы ўсё, дарослыя пачынаюць здагадвацца, што самае большае яны ўжо мелі, а вынік імкне за межы і гэтага, і таго.

Яшчэ адзін мой сябра маленства Сяргей Цыган (пра гэта версэт “Сяргей Цыган”), так яго называлі, а прозвішча, калі не памыляюся, Крук; я нічога не ведаю пра яго бацьку, калі цяпер азіраюся здалечы на Сялец, бачу дзяцей, якія гадаваліся адно з маці, бацькі – адны, пабраныя ў Сяльцы ў 44-м, загінулі на фронце, другія, што прыйшлі з арміяй і тут затрымаліся, сюды не вярнуліся, а ён вельмі шчыры і таварыскі, некалькі разоў яго бралі ў сірочы прытулак, ён уцякаў, а потым яны некуды ўсёю сям’ёй з Сяльца з’ехалі. Ад яго я ніколі не зазнаў ніякай крыўды, але выпадак, нейкім чынам аналагічны таму, пра які Вы згадваеце, адбыўся менавіта з ягоным удзелам. Збівалі на вуліцы з дуба дзіцячаю талакой жалуды, яны падалі ў лужу, Сяргей Цыган шпурляе камень, і я, каб паспець ухапіць тое, што яшчэ не ўпала, ступаю наперад, у лужу, чую яго папераджальны ўсклік, а камень ужо мне падае на галаву, я гэтаксама падаю, потым, мо колькі тыдняў, буду хадзіць забінтаваны, а ён будзе прыходзіць з Вялікай вуліцы на Фурштат і пачувацца вінаватым.

Ці пачувалася Ваша будучая сяброўка тады (потым) вінаватай?

Чытаў пра Вівекананду, што калі ўсё больш, а то і раптоўна, ён пераходзіў з прысутнасці ў сутнасць, у той сядзібе, дзе жылі вучні Рамакрышны, аднаго разу, спалоханы і здзіваваны, ён пачаў крычаць: "Дзе маё цела?" Збегліся, хто там быў: ён адчуваў галаву, а больш не, і не ведаў, што мае з сабою рабіць, а Рамакрышна, калі яму пра гэта паведамілі, сказаў: "Няхай прывыкае"; паступова, да наступнай раптоўнасці, усё ўраўнаважылася. Боль – калі ў тым, што маецца, раптоўнасць пераважае паступовасць; ёсць розныя болі, у тым ліку і святоўныя, яны не мусяць не быць, але мусяць ураўнаважвацца; якімі б ні былі, яны ўсякі раз сведчаць, што мы аднекуль выйшлі і некуды не дайшлі, мы не дайшлі да Айчыны, яшчэ не ўсе чыннікі выявіліся і ўявіліся ў дзеянне.

У Барысаве цётка Таня найбольш апавядала пра той перыяд, які ахоплівае яе маленства і юнацтва, а гэта даваенны час, вайна і пасляваенны. У родзе, нібы ў радовішчы, адкладаюцца пласты зместу, і асаблівасці цікавыя, як тая, што мой дзед Іван быў кантрабандыстам, з вечара да раніцы праходзіў 75 кіламетраў і пераходзіў савецка-польскую мяжу; быў спраўны і дужы – ставіў хаты і калі касіў траву, упраўляўся за трох; 4 гады адбыў у Сібіры на вольным пасяленні, вярнуўся – уступіў у калгас, каб не чапляліся, усё, што патрабавалі, аддаў і абагуліў, а ўсё адно, рэпрэсаваны, праз некалькі гадоў мусіў быў зноў пакінуць сям'ю і Задор'е (Плешчаніцкі раён): жыві, дзе хочаш, але на адсяленні, за сто кіламетраў ад мяжы, прыходзіў употайкі, а калі пачалася вайна, вярнуўся назусім, свае ўсе ў ад'ездзе, захварэў на тыф, патрохі перамагаў хваробу, немцы праходзілі – падпалілі хату, сваякі хаваліся ў лесе, спрабаваў выцерабіцца, а дзверы знадворку былі зашчэпленыя, так і згарэў разам з хатай.

Кранаецца адно – адгукаецца многае, прывяду Вам яшчэ адзін фрагмент з цётчынага аповеду, яна ўжо недачувае, і тое, што я гаварыў, чытала таксама і па маіх губах, але руплівая, але працавітая, памятае падрабязнасці і апавядае – вядзе. Яе моцна некалі даймаў астэахандроз, шыя – не паварушыць, у сне ёй аднойчы з'явілася ейная маці Сцепаніда, абняла і сказала: "Жывіце доўга-доўга, а я адыходжу далёка-далёка", цётка Таня абудзілася – болю больш не было, ён адышоў гэтаксама. Ён гэтаксама працяжнік між відавочным і невідавочным?

Нагаварыў гэтым разам я Вам, Галіна Іосіфаўна, усяго-рознага, самі наклікалі, але канчаю, і, як заўсёды, Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Галава**

26.02.12

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Чакаю-не дачакаюся вечара, каб апынуцца дома і напісаць Вам! Учора – галава... з ночы і ўвесь дзень... сёння на працы, ладзім мерапрыемства...

галава яшчэ туманная, але вострага болю няма, дзякаваць Богу, больш-менш жывая... То Вы не думайце пра мяне кепска, добра? Я ўсё роўна з Вамі размаўляю – незалежна ад таго, баліць мне галава ці не баліць...

Вельмі-вельмі рада Вам і кожнаму Вашаму слову!

Г. І.

**Квадра**

27.02.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Месяц убіраецца ў новую квадру, ці залежыць Ваша самаадчуванне ад квадраў? Да адной маёй знаёмай, швейцарскай пісьменніцы, штомесяц наведваюцца галаўныя болі (мігрэнь), іхнія наведы яна наўпрост звязвае з тым, што ў маленстве, калі спускалася з горкі на санках, выбілася з каляіны і да непрытомнасці моцна ўдарылася галавой, з чым звязваеце Ваша самаадчуванне Вы?

Хваробы і болі – доўгае замыканне, я не магу пра Вас кепска думаць, няма людзей, вольных ад рэчаіснасці, яна баліць і хварэе, наколькі магу, наогул спрабую думаць някепска, а лепей і лепш магчыма, думка – субстанцыя, з якой усё паўстае, і гэта яна прычынай, што Вы цярплівая, а з рэчаіснасцю ўсё ёсць, як ёсць.

Учора ўдзельнічаў у чытаннях, прысвечаных Міхасю Стральцову: ён паэт патаемнай весткі, усёю сваёю творчасцю скіроўваўся да яе, яна падступалася і адступалася, а калі найбліжэй – словы складаліся найадпаведнейшым чынам і ўлоўлівалі адкрыццё; мы заўсёды недастаткова адкрытыя, а адкрыццё ведае нас найлепш. Маленства блізкае да яго, і калі я Вам апавядаю пра блізкае, дык гэта найперш таму, каб яшчэ раз прайсці слядамі весткі і напісанае загарнуць: Вы спрыяеце мне, я, спадзяюся, – Вам.

Мы перабраліся сям'ёй на Фурштат, калі мне было, па-мойму, пяць з паловай гадоў, адразу сабраліся з усёй вуліцы дзеці, дол пад адной яблыняй быў усыпаны маленькімі сакавітымі гаркава-салодкімі яблыкамі, іх называлі райскімі, я раздаваў іх усім; пасля праліўнога дажджу Фурштат залівала, роў уздоўж вуліцы – рэчка, каля Валюшкавага мастка найглыбей, свята па грудзі ў бурлівай вадзе, і плавалі ў балеі, усчыналіся новыя ўзаемы, а на Вялікай вуліцы заставалася месца, якім акрэслівалася кола сяброў, у кожнага свая натура, модус паводзінаў і свой досвед, і кожны быў чыннікам для астатніх. І калі мы з Вамі гаворым пра тых, хто без вакон і дзвярэй уваходзіў у наша жыццё, мы гаворым і пра сябе; хаты стаялі адна за адной, царква была даволі далёка, касцёл блізка – у ім месціўся склад і свіран. Гулялі каля касцёла аднаго разу ў "коні": клалі адно аднаму на плечы ды бралі пад пахі нейкую ляйчыну ці шлейчыну, у адной запрэжцы я быў тады "конь", Сяргей Цыган – "фурман", у другім Віктар Шатко (па-пісанаму – Шаўкаловіч) "фурман", а "конь" – Саша Тоўпік (у той сегмент часу ў Сялецкім сегменце прасторы гэтае найменне, бадай, сустракалася найчасцей), я адразу

турзануўся з месца, калі абабеглі касцёл, дагналі другую запрэжку, на маё здзіваванне, чаму так, Віктар Шатко з дарослай спагадаю растлумачыў, што ў Сашы Тоўпіка хворае сэрца і бегаць, як мы, ён не можа; на тым тады гульня і скончылася. Ён (Саша Тоўпік) адышоў з жыцця, яшчэ не пачаўшы хадзіць у школу; Віктар Шатко заставаўся на другі год, і мы разам, калі не памыляюся, вучыліся ў 5-м класе, потым ён некуды з’ехаў: іхняя хата апынулася апусцелай, і ў ёй наапошне жылі тры маладыя настаўніцы, што выкладалі ў нас фізіку, геаграфію і матэматыку.

Вам усяго добрага, адгукайцеся, калі ласка, –

Алесь Разанаў

**Перажыванні**

27.02.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Дзякуй вялікі, што адгукнуліся на мае словы і на перажыванні! Так, што такое мігрэнь, ведаю добра... Яе прыступы, бывала, доўжыліся ад некалькіх гадзін да некалькіх сутак... Боль з адной паловы галавы пераходзіў у другую, здавалася, што галава жывая і вочы хочуць вылезці са сваіх месцаў... І гэтая пульсацыя... у адну кропку... і млоснасць... і ніякіх гукаў, пахаў, ніякага свету... – усё перашкаджае, узмацняе боль... Толькі цемра, цішыня, цяпло... і ніякіх думак... зусім ніякіх... У дзяцінстве, памятаю, гэта праходзіла лягчэй, і заўсёды сніўся адзін сон: нібыта мільгаюць белыя і чорна-шэрыя шырокія палоскі, як на экране чорна-белага тэлевізара...

Не ведаю, Алесь Сцяпанавіч, калі не лічыць той камень, што трапіў у лоб, то траўмаў і не было, мне здаецца... Толькі заўважыла, што прыступы мігрэні звязваліся (звязваюцца) з перанапружаннем, перажываннямі, слязьмі, холадам, халодным пітвом, нейкімі стрэсавымі сітуацыямі – хутчэй маім успрыняццем іх, не заўсёды яны былі і стрэсавымі, як цяпер разумею... Як я разумею Вашу знаёмую, гэты стан не з лёгкіх – як бы паміраеш, а потым, калі боль адпускае, такая ціш, спакой, удзячнасць, нейкія не проста фізічныя адчуванні, а душэўныя... Аказваецца, што пакутуе не толькі цела, а можа, і не цела, а душа? Не думала пра гэта... Так, ад квадраў залежыць, асабліва калі месяц поўны – такая скруха, неспакой і ... вельмі цягне на месяц глядзець... і не варушыцца... як пад гіпнозам...

Але па начах, сплючы, не хадзіла, а мой брат Саша трошкі хадзіў некалькі разоў, памятаю, бо спалі мы ў адным пакоі... Я баюся фізічнага болю, баюся крыві, да страты прытомнасці, але я цярплівая, гэта праўда... Фізічны боль бывае проста невыносны, але душэўны неспакой альбо боль страшнейшыя...

Так, згодная з Вамі і радуюся, што спрыяю Вам, а Вы – мне...

Вы пыталіся, ці пачувалася мая будучая сяброўка вінаватай? Думаю, што не, мы ніколі пра гэта не гаварылі, не ведаю, ці памятае яна гэты выпадак... Дарэчы, чамусьці ўспомнілася наша з ёю прагулка пад дажджом

са школы і яе аповед пра кагосьці, хто паміраў ад рака... Гэта было ў класе 4 -м... Не ведаю, як уяўляла гэтую хваробу Таня, а ў маёй галаве намалявалася карцінка, што ў баку ў чалавека пасяліўся рак (такі, якіх лавіў мой стрыечны брат Коля ў вёсцы), які праеў бок, і чалавеку баліць, але яго (рака) можна чымсьці падкармліваць і тады чалавеку не будзе балець і ён будзе жыць далей... Вось такія фантазіі былі, бачыце, калі ўжо мы зага-варылі пра рэчаіснасць, якая баліць і хварэе...

Алесь Сцяпанавіч, відаць, Вы пайшлі ў дзеда Івана – такі ж дужы і прыгожы (Вы вельмі прыгожы! Ці пісалі Вашы партрэты мастакі? А скульптары, дзе яны? У Вас такі твар – нават, калі не глядзець у вочы, можна ляпіць рысы твару, яны бездакорныя!)...

А мы з братам так нічога пра свайго дзеда Дзмітрыя (бацька таты) даведацца не змаглі: пыталіся ў цётак, калі яны яшчэ былі жывыя, у цёткі Нюры і дзядзькі Віктара, якія, дзякаваць Богу, з намі, – адно толькі ўсе сказалі, што ён "прышлы", "прымак", а хто, адкуль, не ведаюць... Мне здаецца, што мы і не размаўлялі ніколі з ім, хаця я яго памятаю... Мамінага тату Філіпа я наогул не бачыла, толькі на фотаздымку, мама нарадзілася ў пасёлку Акілава Качоўскага раёна Пермскай вобласці, іх, дзяцей, было трое, а потым маміна мама Насця выйшла замуж за данскога казака Сцяпана і нарадзіла яшчэ траіх дзяцей: Ларысу (яе ўжо няма), Валю і Сашку. Дзядзька Саша так і жыве ў тых мясцінах, у 200-х км ад станцыі Мендзялеева, бо пасёлка ўжо няма, а цётка Валя і яе дзеці жывуць у Свярдлоўскай вобласці, таксама ў невялікім пасёлку... Ой, нешта я захапілася, прабачце!

Алесь Сцяпанавіч, калі ласка, калі можна: не, пакуль не буду пытацца...

Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Маладзічок**

28.02.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Разам з Вамі праходжу перыяды і квадры – дзейсніцца нейкі курс нейкага навучання і запаўняе лакуны, Вы гэта заўважаеце? З усіх квадраў месяца мне падабаецца адно маладзічок – ён нявінны і шчыры. Астатнія на выпрабаванне, яны, як палонныя дэманы, валодаюць магіяй і памятаюць старажытнасць: трапляць пад іхнюю ўладу – змяншаць сябе і ўшчымляцца, чаго не варта рабіць, і чаго найбольш асцерагаюся, дык гэта самасці – сваёй і людской. Можа, яна для нечага і неабходная, але яна стадыя, і ўсякі рост – пераадоленне яе і вызваленне ад яе.

Некалі ў Рызе, калі быў у гасцях у Той, пра каго Вам некалі згадваў, напоўнены зместамі, якія адкрываліся і захаплівалі, паглыбіўся напрыканцы дня ў сон, а нехта падышоў і запытаўся: "Чаго ты хочаш найбольш?" З глыбіні сну адказаў: "Духоўнага росту" – і абудзіўся і, калі абуджаўся, чуў свой адказ уголас; згадваю яго цяпер – нанова згаджаюся з ім і нанова ў ім

сцвярджаюся. Вось я паступова мінаю сябе, а Вы мяне знаходзіце і кажаце: дужы; не ўглядаюся ў люстэркі і сабою не захапляюся, а Вы кажаце: прыгожы; не атаясамліваю сябе з тым, што ёсць, але з тым, што ёсць, звяртаюся да той велічыні, дзе можна будзе не мець сябе, а Вы кажаце, што Вам падабаецца хадзіць па невядомых дарогах: Вам падабаецца не мець сябе?

Што да радаводаў – яны кароткія штрыхі, пункціры; калі б людзі ведалі свае радаводныя дрэвы, гісторыя станавілася б сваёю, а так яна нейчая, і нам даводзіцца атаясамлівацца з усякімі, далёка не ўзорнымі, асабовасцямі ды фікцыямі, але тое, што застаецца, становіцца весткаю з вечнасці, а тое, што не – ёю самой.

Іван Гурскі жыў за касцёлам, бацька – тутэйшы паляк, маці – расіянка, ён (бацька) прывёз яе з сабою ў Сялец адтуль, дзе сам некалі апынуўся, хата амаль каля самай ракі; ён (Іван) пастаянна быў у нейкім ваянні са светам, у яго думках блукалі ўявы, і ён мне іх адкрываў, умеў ашукваць і слова "сцібрыць" упершыню пачуў ад яго; з ім я асвойваў Сялец (Фурштат, убачаны ўпершыню, быў у шэрых хатах, з аднаго двара на нас пазірала жанчына: “Хто яны, гэтыя бахуры?!.”, і вуліца была гразкая, ледзь прайсці) і выходзіў за межы Сяльца; па вузкакалейцы дабраліся да Падрэчча, на ўзлеску стаяла красамоўнае дзіва – вялізазны мухамор, а ён арыентаваўся, якія грыбы свае, а якія воўчыя, з ім свет апынаўся прыгодаю і падарожжам; недзе ў сярэдніх класах ён з’ехаў з Сяльца (на радзіму маці?), больш з ім не бачыўся, а нота свеціцца і шчыміць.

Усё, Галіна Іосіфаўна, усе безумоўныя сябры майго маленства прамільгнулі перад Вамі і Вам азваліся; трохі наўзбоч ад нашага асяродку жыў яшчэ Коля Карпеч (па-пісанаму Панасевіч), у яго свой адметны лёс (пра гэта "Паэма рэха"). У Сяльцы застаецца маленства, у маленстве, і адно там, згаданыя мною і там пакінутыя назаўсёды сябры.

Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**Свет**
29.02.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Адразу прашу у Вас прабачэння за недарэчныя пытанні! Канешне ж, я не мела на ўвазе тое, што прагучала: ні самасць, ні нарцысізм – барані Божа!

Памятаеце, калі мы сядзелі побач у бібліятэцы, я сказала, што ад Вас ідзе такая моц, такая хваля – нават не магу падабраць слова – упэўненасці, ураўнаважанасці, нейкага ведання, гатоўнасці падтрымаць, дапамагчы, духоўнай моцы, якая адчуваецца як фізічная... Так, безумоўна, я найперш успрымаю Ваш унутраны свет і Свет, і не бачу Вашага знешняга аблічча, і ўсё ж такі часта гляджу на той здымак, што Вам даслала, і памятаю тое, што

адбылося са мною, калі я зазірнула ў Вашыя вочы, калі Вы пераступілі парог нашага кабінета...

Прабачце, калі ласка, мне вельмі сорамна!

"Паэму рэха" чытала раней і перачытала зараз, яна вельмі ўразіла... Так, сябры Вашага маленства прамільгнулі перада мною і азваліся мне, дзякуй... І я адчуваю, што "дзейсніцца нейкі курс нейкага навучання і запаўняе лакуны"... У апошні час у мяне бывае адчуванне, што вось-вось мне адкрыецца нейкая ісціна, якую я нібыта і ведаю, а можа, і не я, а нехта ўва мне, але яна (гэта ісціна, якая ўвабрала ў сябе ўсе маленькія адкрыцці, азарэнні, здагадкі) не мае пакуль моўнага аблічча для мяне, а іншым, асаблівым людзям, думаю, што і Вам, яна "прыадкрываецца", а можа, і адкрываецца...

Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Нічога**

03.03.12

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

Перажываю, што Вы маўчыце – не ведаю, што і думаць! Спадзяюся, што Вы проста (ці не проста) заняты і мае страхі, што Вас пакрыўдзіла, зрабіла штосьці дрэннае і гэта нельга паправіць, што Вы не хочаце больш мне пісаць, – толькі страхі... Але страхі вельмі страшныя!

Не ведаю, што рабіць... Заўтра збіраюся ехаць у Івацэвічы: 6 сакавіка ў мамы – дзень нараджэння, і мы будзем адзначаць гэтае свята. Вярнуся, хутчэй за ўсё, 8...

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Гаворка**

04.03.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Ужо на дварэ каляндарная вясна, а мы ў пачатку гаворкі; усякі раз, калі гаворка ідзе пра істотнае, мы апынаемся ў тым, чым мы ёсць, – упачатку, яна і вядзецца (хоча і можа) таму, што асягае істотнае: яно заўсёды недагаваронае, а яна аддае і бярэ.

Учора намерваўся – і нават спрабаваў – напісаць Вам ліст, стан як адліга, усё расплывалася, хацеў скрышталізаваць адзін пункцір – не атрымлівалася, і толькі ўвечары пачало нешта акрэслівацца, а не атрымліваецца адно – астатняе таксама чакае. У словах акрэсліваемся мы самі – і белае поле перад намі; калі ідзеш па снезе, па цаліку – ідзеш невядомай дарогай, а снег без слядоў – калі ўсё прайшоў.

Вам дзякуй за добрыя словы, я не ўхіляюся ад іх, яны (няхай навырост) знаходзяць мяне ўва мне і дапамагаюць акрэслівацца, спадзяюся – узаемна, і

Вам няма за што прабачацца, Вы ўмееце бачыць і разумець. Яшчэ пра аднаго, апошняга і безумоўнага, сябра, з кім звязваюся Сяльцом і юнацтвам, мушу Вам распавесці, а тады згадкі могуць і адпусціць: сяброўства адмыкае далячыні, а сябра той, каго нейкім чынам ведаеш загадзя.

Ён ішоў у школе на год наперад мяне, іхняя хата месцілася на Асадзе (вялікі Сялец), і калі я прыходзіў туды, там, калі ўсе былі дома, было больш чым людна; спярша не стала дзеда (ён удзельнічаў у грамадзянскай вайне – не ведаю, на чыім баку, і адной рукі не меў, затое другая ўпраўлялася за дзве), потым раптоўна бацькі, Толік (прозвішча Фясько) сярод трох братоў быў старэйшы, уся работа клалася на маці і на яго, а ён быў дужы, прыгожы, сціплы.

Суплёты лёсаў не паддаюцца вытлумачэнню, унутранае і вонкавае, паступовае і раптоўнае звязваюцца між сабою, бы ў стужцы Мёбіўса, ён хадзіў у 11-ы клас, я ў 10-ы, зімовыя прыцемкі клаліся на наўколле, я з бацькам быў на двары, і тут убачыў: над недалёкімі клунямі па нахільнай з гулам ляціць ахоплены полымем самалёт, падае, бягу туды (а гэта на выгане, амаль адразу за агародамі), выбух – ён прымушае спаволіцца, на снезе кідаецца полымем адно вялікае вогнішча і палымнеюць некалькі меншых, а ўжо адусюль набягаюць людзі, ад клуба гуртам, і Толік Фясько з імі. Потым пераказвалі, што даведаліся: самалёт загарэўся на падлёце да аэрадрома (гэта побач з Сяльцом), дазволу на пасадку лётчыку не далі, а далі загад вылётваць паліва, не паспеў, але выцягнуць самалёт за Сялец здолеў. Толік намерваўся паступаць у лётную вучэльню, калі яму нагадвалі пра гэты выпадак, ён адно смяяўся: не для яго – вясна размыкала наступнасць і далячыні; паступіў у Арэнбург, і там на яго звярнулі ўвагу, а мне пісаў :"Надакучыла хадзіць па гэтай грэшнай зямлі"; начальнік вучэльні выдаў за яго дачку, а на радзіме заставалася нешта завязанае і не гэтак развязанае, і я атрымаў аднойчы ліст, дзе жывая душа прызнавалася і казала. Потым, калі яшчэ аднойчы наведаўся ў Сялец, даведаўся: Толік Фясько разбіўся – недзе праз дзесяць гадоў пасля школы (пра гэта версэт "Старэйшы брат"); маці завезлі на пахаванне, але каго хавалі ў труне – не паказалі.

Усё, Галіна Іосіфаўна, людзі – лёсы, пачатак зазірае за небакрай, і вымаўленае адпускае.

Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**Наканаванне**
10.03.12

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Вельмі рада, што Вы не ўхіляецеся ад добрых слоў і што яны дапамагаюць Вам акрэсліваcца, гэтаксама як і мне (а мне добрыя словы з Вашых вуснаў дакладна навырост!)... І ў мяне адчуванне, што мы ў пачатку гаворкі і што яшчэ шмат пра што трэба і хочацца пагаварыць, а тое, пра што

гаворым цяпер – вельмі істотнае і многія згадкі пачынаюць адпускаць, сапраўды...

Толік Фясько... "Надакучыла хадзіць па гэтай грэшнай зямлі"... Сярод іншых думак згадалася: некалі даўно, за сталом дома загаварылі пра сямейнае жыццё, пра вяселле (яшчэ вучылася ў школе), і я, асабліва не думаючы пра што кажу, а каб толькі насуперак бацькам, сказала, што ніколі не надзену фату і не пайду замуж... Так яно і атрымалася... Дарэчы, у нашай сям'і неяк не гаварылася пра сямейнае жыццё – вось скончыш інстытут, тады... (хіба чалавек можа планаваць?..)

Лёс гаворыць вуснамі чалавека? І будзе так, як наканавана лёсам? Ці можа чалавек штосьці змяніць? Ці нават будзе рабіць тое, што наблізіць яго да таго, каб лёс спраўдзіўся: навучыцца лётаць, каб адрывацца ад грэшнай зямлі і будзе лётаць да той пары, пакуль не адарвецца назаўжды?..

Алесь Сцяпанавіч, здаецца, я зразумела, чаму не магу слухаць без слёз песні, асабліва сумныя з прыгожай мелодыяй... Калі слухаю адну песню – то ўспрымаю больш-менш спакойна, а калі іх многа і спяваюць прыгожа на застоллі, напрыклад, то лічы, я прапала...

Так было і ў гэты раз... Народныя і не народныя працяжныя песні пра нешчаслівы лёс, ці каханне, ці яшчэ што, калі іх спяваюць ужывую і шмат, то слухаць не магу, бо перажываю кожны радок, прапускаю ўсё праз сябе. А ўздзеянне музыкі... а яшчэ гэтыя застоллі... памятаю з дзяцінства, тады было так прынята... Памятаю наваселле, я была ў другім класе і хварэла на свінку, ляжала ў ложку на другім паверсе (мы пераехалі на вуліцу Вузкакалейную, у дом, які пабудавалі "зэкі", двухпавярховы на 4 кватэры, я Вам пісала), да мяне паднялася стрыечная сястра Галя (яна мяне любіла, не давала крыўдзіць) праведаць і пачаставала цукеркай – вялікай гарошынай. Божа мой! – свінка, горла запухлае і вонкава, і знутры, але ж дзіця, – пацягнула тую цукерку ў рот, а яна закрыла мне горла – ні праглынуць, ні прадыхнуць, – пачала задыхацца, Галя пабегла за мамаю, неяк тая гарошына выскачыла... Яшчэ памятаю, калі прыязджалі маміны браты ды сёстры з Уралу – шырокія натуры з сібірскім размахам – нават, што было на стале памятаю, хіба што далёка не заўсёды мы тое елі... Калі з Літвы прыязжаў дзядзька Косця з сям'ёй – таксама застоллі і песні... І гэтаксама я плакала, слухаючы тыя песні і ведаючы, што яны (госці) хутка паедуць і ў хаце будзе пуста... Як правіла, яны прыязджалі летам, мая галава была не запоўнена ўрокамі, і я ўвесь час думала пра іх... А можа, яны "дадавалі" нешта, чаго не хапала душы ў паўсядзённым жыцці?.. Калі былі на Урале – а мне давялося толькі адзін раз у пятым класе – то там памеры свае: гарэлка – скрынямі, ежа – нямерана…

Зараз брат узгадаў паездку на маміну радзіму, ён быў толькі пасля першага класа, запомніў высокія тратуары з дошак; тое, што баяўся выходзіць да мясцовых дзяцей, навучаны горкім вопытам у Дубітаве, дзе стараліся пакрыўдзіць і нават пабіць (цяпер я ведаю, чаму ён не ездзіў туды), і вось аднойчы, расказваў Саша, яго "выманілі" на вуліцу і далі пакатацца на

ровары, які быў нейчы і адзін на ўсіх... Яму, чужому, аказалі такі гонар... Казаў, што калі вучыўся ў мараходцы ў Калінінградзе, то самыя добрыя і надзейныя хлопцы былі з Сібіры і Ленінграда (яшчэ называў нейкую мясцовасць, але я не запомніла)... У Сібіры самому не выжыць, Ленінград – вядома... А можа, да саміх песень і музыкі дабаўляюцца і ўспаміны, таму так?

Як Ваш пункцір? Гэтымі днямі была поўня і магнітныя буры на Сонцы...

Дзякуй, Алесь Сцяпанавіч, усяго Вам добрага, –

Галіна Іосіфаўна

**Мелодыя**

15.03.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Вы ўжо, мабыць, крыху зачакаліся і думаеце, чаму, а ў мяне амаль няма слоў, нібы яны былі са снегу і разводдзе іх займае і зносіць, я з імі, а мелодыя наплывае. У мелодыі няма слоў і мяне, а ёсць тая наступнасць, якая заходзіць за небакрай; мы таму і згадваем тое, што адбылося, бо яно найбліжэйшае да наступнасці і да небакраю і дарэшты не пройдзена і не пражыта, вымаўляем – праходзім: калі туды – словы знікаюць, калі адтуль – вынікаюць, а мы і адтуль, і туды. Свядомасць моцна з’яднана з топасам, з месцам, калі мы вымаўляем сябе – вымаўляем тое месца, дзе ёсць і былі; я называў Вам версэты і паэмы, дзе ёсць Сялец і маленства, яны з іх узніклі і іх захоўваюць, людзі шукаюць месца, дзе могуць вымавіцца, а тое, што вымавілася, становіцца нанава невымоўным, маленства ўпершыню вымаўляе словы, а небакрай напоўнены невымоўным, і ўсе дарогі ідуць адтуль і вядуць туды; там свеціцца боскі змест і развязваецца наканаванне. І ў людзях, і ў сабе мы заўважаем надзённае і наддзённае, надзённае мае меру, наддзённае пераўзыходзіць яе, калі плаўна, калі парушаючы, людзі, якімі ёсць, заўсёды недастатковыя, навошта за ўзор браць недастатковае, калі ў мікроны могуць укладацца кіламетры, якая мелодыя, Галіна Іосіфаўна, Вам найбліжэй?

Адгукайцеся, калі ласка, ліставанне з Вамі вяртае мяне да слоў. Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Воблака тэгаў**

17.03.12

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

Так, зачакалася, але не хвалявалася, а потым у мяне прапалі думкі...

Не зусім, але ў галаве было воблака тэгаў – многа слоў, не звязаных паміж сабою, – і вось калі нейкае з іх высвечвалася-выплывала, то думалася

адпаведная думка, але думалася як бы без майго ўдзелу, без эмоцый, проста ўсплывала (з'яўлялася) нешта ў памяці, акрэслівалася словамі і знікала... потым усплывала слова, другое, трэцяе і г. д... І каб што цікавае ці новае – не... Такі вось стан... А яшчэ застудзілася трошкі... Разгубілася я, Алесь Сцяпанавіч, не тое, што страціла сябе, але такое адчуванне, што належу людзям і раблю тое, чаго яны ад мяне чакаюць альбо загадваюць, словамі ці ў думках... А можа, нават нехта праз людзей мною кіруе, і я выконваю, не праціўлюся... На жаль, не магу так дакладна і прыгожа расказаць Вам пра гэта, але думаю, што Вы разумееце... Вы пытаецеся пра мелодыю – мінорная, якая кранае душу... Мяне "згубіў" мой доктар: даслаў SMS і тэлефанаваў, цікавіўся здароўем... Тэлефанаваў а. Ігар, запрашаў заўтра на службу і на прэзентацыю трэцяга дыска іх суполкі "Мараната"... Ужо і сама збіралася пайсці, то, відаць, так і будзе... У наступныя выхадныя хачу паехаць у Івацэвічы – маме павінны прывезці дровы, трэба дапамагчы... Такія будзённыя думкі і справы...

Не прападайце, Алесь Сцяпанавіч, калі ласка!

Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Дамінанта**

20.03.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Над зямлёю вісіць пульсар жалю і падае сігнал, што прысуд павінен быў быць інакшым, у прыватнасці, да Уладзіслава Кавалёва, і той з-за кратаў, відаць, да апошняга на нешта яшчэ спадзяваўся. Найвышэйшая мера пакарання – суадпаведная мера, калі яна пераўзыходзіць суадпаведнасць, сама становіцца парушэннем; суд мусіў быў яшчэ доўжыцца, не ўсё яшчэ ўзважана, змерана і ўлічана, і калі, паводле народнай прымаўкі, сем разоў адмер, адзін адрэж, то тут каля дзвярэй евангельскі імператыў: семдзесят на сем, але не, дзверы не адчыніліся, чыннікі не ўпусціліся, словы не дагаварыліся; каліва спагады больш відушчае, чым параграфы жорсткасці, і найвышэйшая мера – калі яна справядлівая, калі яна ад вышэйшага, а тут яна паспешлівая і канчатковая, на жаль. У людской існасці, а можа й не толькі людской, назбіраецца колішняе – падзеі і ўчынкі, што сталіся парушэннямі, яны чакаюць нейкага свайго дэтанатару, каб вымкнуцца на паверхню, ёсць з"явы, глыбейшыя за развагу, – адчуваю штуршкі. Былі ў лекара? Сустракаліся са святаром? Калі могуць, хай дапамогуць і дапамагаюць, наўкола зблытаныя ландшафты, а сцежка дамінантаю, і яна ўнутры; унутры таму, што маем у сабе боскае зернейка, дамінанта таму, што яно ведае, куды яму расці (а нам ісці), усё, што мы маем рабіць, – аддаваць яму ўсё большую ўвагу, усё больш супадаць з ім, яно ведае мэту і імкнецца да мэты, імкненне – дамінанта; усё, што маем рабіць, – дапамагаць імкненню здзяйсняцца: з месяца ў месяц, з сонца ў сонца, з жыцця ў жыццё.

Як маюцца нашы агульныя сябры і знаёмыя? Прывітанне ім.
Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**Сон**
20.03.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Згодная з Вамі: не ўсё яшчэ ўзважана, змерана і ўлічана, адчуваецца недагаворанасць і паспешлівасць, і смутак, але гэта канчаткова... І людзі спадзяваліся... і іхнія душы... што было ў іх на душы?...

... Сёння амаль перад ранкам мне прыснілася Ніна Язэпаўна Мацяш, яна ніколі не прыходзіла да мяне ў сны, а сёння бачыла яе вельмі ясна: спачатку нібыта яе неслі на руках, неяк высока, чамусьці жанчыны, у т. л. Тамара Паўлаўна, а яна (Ніна Язэпаўна) ўсё азіралася – вочы былі такога прыгожага, амаль васільковага колеру – а я разам з іншымі людзьмі ішла нібыта за імі... Потым мы ішлі ўсе разам, і яна таксама, на сваіх нагах, а яшчэ потым усе апынуліся ў вялікай спартыўнай зале, пасядалі на такія доўгія нізенькія лаўкі – памятаеце, як раней – і не было свабодных месцаў, я пайшла шукаць, дзе прысесці, убачыла частку пустой лаўкі, села, азірнулася, – а побач Ніна Язэпаўна, сядзіць, добра ўсміхаецца і цікавіцца ў мяне, чаму я не ехала цягнікам з Івацэвіч, яна нібыта ехала цягнікам і думала сустрэць у ім мяне... Адчуванне ад сну было вельмі добрае, як бы мяне прыласцілі і дазволілі дакрануцца да святла і прыгажосці...

Так, была ў лекара, расказала яму пра тое-сёе (на жаль, мае рукі зноўку "зацвілі"), галоўнае, сказала, пра ліставанне з Вамі, – ён вельмі ўзрадаваўся і сказаў, што з ім мы будзем вырашаць медыцынскія праблемы, а гаварыць пра душу і не толькі – з Вамі, каб толькі ўсё было добра...

У нядзелю амаль цэлы дзень правяла ў царкве... Была рада пабыць на службе, паслухаць пропаведзь, сустрэць знаёмых, пагаварыць з Вольгай Аляксандраўнай (жонка а. Ігара), паслухаць песні "Маранаты"... Песні на яўрэйскай і беларускай мовах, мелодыі яўрэйскія, вельмі прыгожыя, галасы ў спевакоў – таксама... Вольга Аляксандраўна па адукацыі медык і музыкант, піша музыку, спявае і кіруе групай... Айцец Ігар вельмі любіць жартаваць, а радуецца, як дзіця, калі б Вы бачылі – ажно ззяе усмешкай, і падпявае, і нават падскоквае высока і многа разоў, калі аддаецца музыцы... На прэзентацыю прыйшлі вернікі іншых суполак, у асноўным, моладзь да 20 гадоў; адметная рыса для гэтай царквы і для яе пастыра...– мірнае суіснаванне і добразычлівасць...

Сёння не была на працы, папрасілася пабыць дома і палячыцца: на жаль, калі прастуджаюся, то хварэю востра: слёзы цякуць з вачэй, "адліга" пад носам – прабачце за натуралізм, галава свінцовая, але на бальнічны няма як ісці, што па рабоце, што збіраюся дапамагаць маме з дровамі, прашу Бога, каб паправіцца да выхадных...

Вельмі шкадую, што захварэла, таму што сёння ў нас была сустрэча з Алесем Каско... Але ўзяла яго новую кнігу і "прычасцілася" да яго творчасці... Сёння павінны былі прыйсці нашы агульныя знаёмыя, але, на жаль, нікога не пабачыла... Пры нагодзе абавязкова перадам прывітанне ад Вас. Дарэчы, у царкве быў спадар Філатаў, бачу яго там не ўпершыню...

Тамара Паўлаўна працуе, нібыта зрушылася з мёртвай кропкі рэканструкцыя нашай бібліятэкі, і дырэктара выклікаюць ва ўладныя структуры для ўдакладнення плана... Ала Міхайлаўна займаецца падрыхтоўкай міжнароднай канферэнцыі па берасцейскіх кнігазборах, што плануецца на пачатку чэрвеня, Таццяна таксама працуе плённа і з ахвотаю, ёй усё цікава; Ярына рыхтавала выставу па творчасці Алеся Каско, яе хлопчык паправіўся, дзякуй Богу; на жаль, мы з ёю не размаўляем, жывем паралельна, хаця адчуваю, што нам ёсць пра што гаварыць, але што зробіш, як атрымліваецца... Карын падпісалі кантракт, і яна застаецца ў Брэсце яшчэ, так што будзем праводзіць чарговы Нямецкі тыдзень... Нас запрашаюць з выязнымі выставамі ў розныя арганізацыі... Асаблівым поспехам карыстаецца выстава "100 забароненых кніг", якую мы экспануем ці не ў пяты раз, і г. д. Многае з таго, што робім, адлюстроўваем на нашай старонцы ў Інтэрнэце – www.brl.by...

Алесь Сцяпанавіч! Вялікі дзякуй Вам! Пішыце, калі ласка: заўсёды вельмі чакаю, радуюся, уважліва чытаю і перачытваю, – можа, і не ўсё разумею з першага разу, але вельмі стараюся і хачу, таму што ўсё, што Вы пішаце, чым дзеліцеся са мною, вельмі для мяне важна, спадзяюся, што і для Вас, хоць трошачкі, але недарэмна!

Усяго Вам добрага, –
Галіна Іосіфаўна

**Гэтымі днямі**
27.03.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Прачнуўся – а за акном бела, і словы зноў пачалі складацца, не думаючы як, што было ўначы, застаецца з ёю, а раніцай падарунак; некалькі разоў браўся пісаць Вам ліст і столькі разоў адступаўся, хацеў папытацца, можа, Вы скажаце, чаму, і сам даходзіў да высновы, што ліставанне наблізілася да прыступкі, калі, каб далей, трэба інакш, мы ўсё адно інакшыя, ліставанне гэта натуе і словы хочуць казаць адно тое, што яны маюць, а снег выпаў па-свойму і ўсё растлумачыў.

Што было гэтымі днямі, апроч таго заўсёднага і асноўнага, што мінае, непрыкметна кранаючы нас, як плынь мінае гарлачыкі і асачыны, дык гэта тое, што пастыру Эрнсту Сабілу споўнілася 80, яшчэ студэнтам ён быў рэпрэсаваны і асуджаны за тое, што вызнаваў вартасці, глыбейшыя за ўсталяваныя, уцякаў з-за дроту, кулі зумкалі каля галавы, а не пацэлілі, ён сам падышоў, калі ўніверсітэт аціхаў пасля хваляванняў і я апынаўся сам, а

потым, калі пачалі аб’яўляцца ў друку версэты: думны, трывалы, скіраваны да мэты, неаддзельнай ад самога чалавека, у ім моцна адчуваецца беларуская глыбіня, пра якую піша Павел Севярынец, а сам Павел, праходзячы на ўскраях свае жыццёвыя ўніверсітэты, там набывае значэнне цэнтру, які не залежыць ад тапаграфіі; з’едзе адтуль – значэнне застанецца без цэнтру.

Яшчэ гэтымі днямі на 6-м паверсе (я на 4-м) прарвала шланг, вада лілася струмянямі, усе данізу мелі свой клопат – хіба ён бывае не сваім? А яшчэ было 25 сакавіка – водгалас колішняй з"явы і прадвесне наступнай, а 26-га Івану Арабейку споўнілася 70, мы пазнаёміліся на Нарачы, у 1966-м, на першым семінары творчай моладзі, ён вучыўся ў політэхнічным, я з выпускнога вечара, больш чым хто ён зніťаваны з пачаткам, а Алесь Каско, пра творчую вечарыну якога Вы згадвалі, перш за ўсё струна, гітарыст можа хібіць, а струна гучыць праўдзіва.

Вось, Галіна Іосіфаўна, выпаў снег – і выключэнне паклікала словы, некалі занатаваў: паэзія – вызваленне ад слоў, і ўсё адно пытаюся ў Вас: кажыце, калі ласка.

Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**Вынік**
01.04.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

То прачынацца, то засынаць і вынікаць з таго і гэтага, каб у міжчассі слухаць галасы рыб, як гэта робіць Ігар Бабкоў, а вынік прызначаны нам і нас вызначае. Калі ў "Мастацкай літаратуры" запланавалася з маёй прапановы анталогія грузінскай паэзіі, некалькі разоў тыднямі і месяцамі я жыў у Тбілісі і быў яе ўкладальнікам, там і тады пазнаёміўся з філосафам Мерабам Мамардашвілі, ён не ўкладаўся ў афіцыйныя расклады і думаў з’яўна і рэчыўна, у Тбілісі ён быў дома і як бы ў выгнанні, таксама і таму Тбілісі апынаўся адным з асяродкаў вальнадумства; у тэатральным інстытуце ён вёў семінар – разглядаў творчасць Марселя Пруста, я хадзіў на яго чытанні, як на святы, і быў сведкам і ўдзельнікам таго, як здабываліся думкі, так рыбакі з глыбіняў выцягваюць рыбін, і Ева нарадзілася з Адамавага снення. Мы апынаемся ў тым, што нам сніцца, яно наш унутраны топас, а сёння, калі прачынаўся і засынаў, наапошне апынуўся ў пахмурлівай раніцы, Сялец-не Сялец, ішоў, каб нешта купіць, да крамы, і раптам ззаду з-за хмар выпадае чырвоны жар – скарб, усё наваколле паварочваецца да яго, ім ганарыцца і становіцца ім змястоўным, я і цяпер трымаю той скарб у грудзях, лепшага набытку і шукаць не трэба, адно б яго захаваць на далейшую наступнасць, у ім жывое святло і жывая радасць, зямля ў дарогах і сцежках, а ў сонцы ўсе сустракаюцца, скарб – вынік, дзе Вы цяпер?

Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**Скарб**
03.04.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Чакаюць тое, што мусіць аб'явіцца і чамусьці затрымліваецца, яно затрымліваецца тым, што ўтойваецца ад тапаграфіі і нераспазнанае, як абрыў, а Вы аб'яўляецеся пастаянна, нават ужо без слоў, магчыма, я гэтаксама гэтак, мы ў дыялозе з явай і снамі, сны гэтаксама ява наступнага вымярэння, яны ведаюць пра нас нешта далейшае і большае, чым нашы апранутыя ў клопаты асабовасці, адно не паддавайцеся смутку: словы сведчаць, а людзі глядзяць. Такое ва ўсіх заданне – наставаць знутры і рабіцца ўсё больш не залежнымі ад абставін і акалічнасцяў, прыхапкамі мы прагаварылі тое, што з намі было, цэнтр – сэрца, астатнія мэты світа: яно валодае каронай святла, і мікрон, узняты над паверхняй, ужо азначае палёт. Хвіліны праўды і радасці збіраюцца ў скарб, а вечара дачакаюся.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Дарога**
03.04.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Вы пра ўсё здагадваецеся, нават ведаеце, – вось і пра смутак таксама... і пра тое, што аб'яўляецеся без слоў, нават і не знікаеце, – толькі калі не магу справіцца са смуткам, адчуваю пры гэтым сваю не тое што бездапаможнасць, а "няправільнасць" гэтага стану, бо я ўжо не я, а хто я наогул? – адным словам, мне не падабаецца смуткаваць, – тады я стараюся затаіцца і не "паказвацца Вам на вочы", бо адчуваю нейкую віну... Мы гаварылі пра гэта, і зноў зрыў, а "заданне", як Вы напісалі, цяжкае – "рабіцца ўсё больш незалежнымі ад абставін і акалічнасцяў, наставаць знутры"... стараюся... відаць, недастаткова, трэба старацца больш...

Калі атрымала Ваш ліст пра скарб, прачытала і нібыта пагаварыла з Вамі, – ціхая радасць увайшла ў сэрца, пачалі прыходзіць добрыя пачуцці і думкі... Ажно пасвятлела навокал – так "раскрылілася" душа... Дзякуй Вам – Вы можаце рэальна дапамагаць змагацца з цёмнымі сіламі... А я зараз фізічна заўважаю, калі нейкі злы дух нашэптвае мне зрабіць што-небудзь, чаго мая душа не прымае, – не, перабольшваю: да справы (ўчынку) не даходзіць, але слова можа вырвацца... І адчуванне непрыемнае: ты нібыта раздвойваешся, хтосьці загадвае табе, ты не згодная, але слова "вылятае" раней... Так і з думкамі бывае, на жаль...

А мне снілася дарога, не памятаю, неяк няясна, куды яна вяла, хто быў побач, бо былі людзі, толькі памятаю, што дарога шырокая і што адчуванне было добрае, нібыта я на правільным шляху і ніякага страху...

Алесь Сцяпанавіч, як там клопат з кватэрай? Я жыву на першым паверсе пяціпавярхоўкі і таксама мела такі клопат некалі, так і не здолела зрабіць рамонт, як было б патрэбна...

Тэлефанаваў а. Ігар – у нядзелю Свята, акрамя набажэнства будзе спяваць група "Новы Іерусалім", я пра яе нічога не ведала, прачытала ў Інтэрнэце трошкі... У суботу і нядзелю была ў Івацэвічах, прыходзіў брат, так нам было добра пабыць утраіх... Надвор'е ў пятніцу было, як душэўны стан: то дождж, то сонца, то снег, то град і вецер, вецер, які паўсюль і нікуды ад яго не схавацца...

Усяго Вам добрага,
Галіна Іосіфаўна

Працяг «Ліставання» гл. стр. 99



Таццяна БАРЫСЮК

# ПЛАТАНІЧНАЕ КАХАННЕ – ЯК КАТАРСІС

Чым большае каханне, тым менш
на яго адпушчана часу.
(*З фільма "Аса"*)

## ЗАКАХАНАСЦЬ
*(залатое сячэнне перавернутае)*

Мара пра страсць да яго – небяспечна,
невырашальна, адчайна-прывабна.
Помню, што я ўжо жанчына – не дзеўчына,
ды з ім лятункі ярчэй і прывабней.

Бачу – прыцягваю позіркам – б'юся
ў невыказальным спадзеве на шчасце.
Я прамаўчу. І хай будзе што будзе.
Гэты парыў мо патоне ў бясчассі.

Ён прамаўчыць? Проста сыйдзе і знікне?
Постаць апошні раз бліснe ў люстэрку.
І зарагочуць з таго люцыферкі,
што закаханасць не знесла праверкі.

## АКУНУЦЦА Ў ТАЕМНУЮ СТРАСЦЬ
*(залатое сячэнне перавернутае; фантастыка мрояў)*

Памаладзець – на дно нырнуць,
адкінуць рэшткі год нарослых,
на нас на абаіх зірнуць –
я маладая й Вы дарослы.

Разбежку ўзросту скасаваць
як найдакучную між ісцін
і доўга ў вочы пазіраць,
як часта то было калісьці.

Вачамі Вам сказаць "люблю",
каб Вы адразу зразумелі.
Хвілінку кожную лаўлю
спатканняў хвалявальна-хмельных
і не хачу спускацца на зямлю!..

* * *

Куды прыводзяць мары? Да яго.
Да вуснаў, да вачэй, да доўгіх пальцаў.
Ва ўзроку я шукаю пробліск зор,
ва ўсмешцы – нашых дзвюх энергій танцы.

Баюся, што не стрэнемся калісь,
што будзе мне забыць яго так цяжка!
Жыццё таксама хутка праляціць.
Я так хацела, каб мяне заўважыў!
Так марыла да сэрца прытуліцца!..

* * *

Адваяваць цябе ва ўсіх мадам?
Запал малы і смеласці бракуе.
Табе душу і цела я аддам,
ды толькі ты ці марыш пра такую?

Вачэй тваіх прываблівы сусвет –
ён праглынае ўсю мяне, дарэшты.
Табе ці ёсць у страсці гэтай сэнс?
І я ці ёсць тваёю мрояй-мэтай?

* * *

Самы прыгожы мужчына – каханы.
Мне не хапае пяшчотных абдымкаў.
Быць з Вамі разам – мне так нерэальна,
а быць у пекле наяўным – так звыкла.

Я ратавалася б Вашымі вуснамі,
позіркам Вашым і Вашай усмешкай.
Я – у адчаі і н*а* сэрцы – вусцішна.
Я несвабодна, а з вамі – бязмежна.
Вы – непазбежнасць...

* * *

Незвычайны. Нязведаны. Схоўнае шчасце!
Наглядзецца на Вас не хапае хвілінаў.
Я адна патанаю ва ўяўленай страсці,
і мне скрушна, што тая ўжо хутка загіне.

За акном снег ляжыць – сакавік распачаўся,
а на сэрцы трывога, што я не кахана.
Я змагу адпусціць Вас – свабоднаю чаіцай –
і ў лядовай самоце гаіць свае раны.

Мой нязведаны! Прыйдзеце стомным змярканнем,
каб прасіць аб спагадзе, уцехах, любові.
Ці змагу Вам адмовіць, адзіна каханаму?
Ваш пагляд абязбройвае, дзёрзкі, чароўны...

## УЯВА І ЯВА-2

Я ўяўляю нас, скажам, у Лондане,
усміхаемся ў кадры з Біг-Бэнам,
у Балгарыі, пляжнай і сонечнай,
ці ў Італіі йдзём набярэжнай.

Я ўяўляю: мы ў жарсных абдымках,
пацалункамі страсць разганяем,
з Вамі мы, як Сусвет, неабдымны,
у мілоснай пяшчоце згараем.

Уявіць можна ўсё, што заўгодна.
Мы ў лятунках – шчаслівы і рады.
Плюс – у тым, што не ўбачу раптоўна
Вашай жорсткай нянавісці й здрады!

## НОВАЕ НАРАДЖЭННЕ

*(залатое сячэнне перавернутае)*

Як б'ецца Ваша сэрца?
Ці згадваеце мой твар?
Так хочацца ў НАС верыць мне
насупраць людзям злосным.
Шукаю сэнс у еднасці –
як неабходнасць шчасця,
магчымасць разам сцвердзіцца,
ніць лёсу разам прасці.

Быць не хачу пакінутай
ля вогнішча мінулага.
Былое ўжо загінула.
Я з Вамі – як прачнулася.
Як зноў на свет вярнулася!

* * *

Часам думаю: з кім ты і дзе ты,
часам мару і рушу да мэты.
Дом, быт, бібліятэка і праца...
Так мне хочацца разам застацца!
Разважаю: ці гэта магчыма?
Тады крылы растуць за плячыма.
Бо каханне дае мне натхненне,
а яшчэ – сэнс жыццю і цярпенне.
Я прашу: мяне н*е* выракайся,
бо адно ў табе лёс мой і шчасце...

* * *

Ці ведаеш ты, я дачушку хачу – ад цябе!
Мяркую, што ты толькі страсць прачытаў па вачах маіх...
Так хутка расстанне! Ці буду шчасліваю – без
паглядаў тваіх і прамоваў з душою распахнутай?

А сэрца тваё не саспела для жарсных падзей,
і я не запала ў свядомасць адзінай жанчынай.
Праз лёс твой яшчэ пройдзе шмат разнастайных людзей.
Забыць мяне будзеш мець мноства дарэчных прычынаў.

Успомніш мяне – як успышкаю памяць азорыш.
Ці знойдзеш імпэт пазваніць і спытаць, што са мною.
А я пачакаю пяшчоты тваёй, ясназорны,
каб мы ў пацалунку адчулі яднання гармонію.

* * *

Хацела б яшчэ раз – апошні – каханаю быць!..
А там – буду моўчкі сябе забіваць як жанчыну.
Пяшчоту мужчынскую трэба хутчэй мне забыць,
паверыць, што шчасце ўва мне, не вытворна мужчынай.

Паверыць, што я – цэнтр Сусвету свайго, значны сэнс,
дазволіць сабе вырашаць, быць самотнай ці ў пары,
у план найбліжэйшы ўпісаць слова рэдкае “секс”
і марыць на лета пра Кіпр, Туапсэ ці Канары.

Шчасліваю стаць! Для сябе! Хай згараць
масты паміж мной і мінулым – яскравым агменем!
Хай вера ў сябе стане зброяй – як моцная раць,
што знішчыць праклёны зайздроснікаў, злыбедаў цені!

Шчасліваю стаць! Дачакацца мужчыну – Свайго! –
і разам з каханым ісці да таго, што прызначана.
Дзяцей гадаваць, і падтрымліваць страсці агонь,
і верыць, што сёння ў мяне – не ўсё страчана!

## ВЕРАСЕНЬ, У ДЗЕНЬ АСЕННЯГА РАЎНАДЗЕНСТВА

*(залатое сячэнне перавернутае)*

Гэты верасень – кава з карыцай.
Плямы святла на лісці шматкалёрным.
Хочацца любаму ў страсці скарыцца,
ды ён далёкі, як Шлях небазорны.

Верасень – яблыкі, астры, касмеі,
гонар пабітых дажджамі гартэнзій.
Я аб каханні прасіць Вас не смею.
Ціха канаю, без слёз і прэтэнзій.

Верасень – полымя клёнаў, каштаны.
Дзён сонцаззянне – спадзеў на цяпло.
Помніш мяне ты, мой родны, каханы?
Бо забыццё – найвялікшае зло,
марам маім неадольны заслон.

* * *

Снег на маёй лёг душы.
Новых сняжынак кружэнне.
Што там далей? Лёс? Крыжы?
Значных падзей набліжэнне?

Вы – быццам промень святла
ў змрочным маім каралеўстве.
Спалены цмок мой датла.
Дождж ачышчальны пральецца
ў скрухай працятае сэрца.

*Таццяна Барысюк*

Алеся БАШАРЫМАВА

# НЕНАЗІРАНЫ КРАЯВІД

***

Медзянее рака.
Быццам цяжкая грыва быка,
ледзь варушыцца рэчышча ў часе
трывалага бегу.
Перакулены лес, вербалоз і ўсплёскаў спакой.
Дай мне вуха прыкласці –
ці ўчую,
цурчыць яе сэрца ці б’ецца?
Можа, сэрца ракі – сэрцы рыбін?
Маўклівае шорханне ціны?
Перагрукі камення на дне?
Ці наўмысная ціша затоенай моцы, што мкне ў глыбіні?
Адгукніся.
Не! Заўсёды
яе голас вядзе
мне па поўсці.
Я бераг на лапах.

***

Трывога скаланае лес.
Цяглiцы сціснуў.
Ні выдыхнуць яму як след, ні пасміхнуцца.
Пераглядаюцца лісты, варочаюць шыямі.
У што ператварыўся вецер, захраслы ў лесе?

Трашчаць, папіскваюць звяркі і малыя птушкі.
Іх не чуваць за хорам сарок і соек.
Напружаны лес час ад часу кроіць гэты гоман крыкам.
Толькі вада блішчыць нязменна і вольна.

***

рака – ступня
у адвечным басаножку ручва
гадамі, стагоддзямі
марна спрабуем запаволіць тваю хаду
цалуем, агладжваем
але –
незмазалелая, лёгкая
мінаеш нас
насмешліва і вечна
твая вечнасць
гэтае маруднае валачэнне нагі
так ты ніколі не дабярэшся
казычам цябе, лупцуем цябе –
прачніся! бяжы!
але –
не адкаснешся, не схамянешся
мінаеш нас
застаешся з намі

рака, рака...
я развяжу тасьму на тваім басаножку
вазьму цябе ў далоні
абмыю і пацалую

постаць над табой
пазнаю па дотыку да цябе

## РУЧВО

Трывога – зыбанне на рацэ,
спакой – роўнядзь.

Слабы павеў ці яго адсутнасць –
гэта ўсё, што іх розніць.
Радасць, гнеў – паўнаводны разліў,
страх – перасохласць.
Але ручво не знікае, і пакуль ёсць вада,
плынь ведае, куды яе перасоўваць.

Сумнеў не кранае глыбіняў.
У веры ручва вада плыве неадступна.
Вада не расчаруецца морам і вернецца,
каб расказаць наступным.

Пакуль ёсць плынь, страху няма.
Страх не можа весці, а плынь вядзе.
Страх – перасохласць.
Бязводная вера – спадзеў.

## НАПАЕННЕ

Бяззубае мора мае моцныя вусны.
Стуляюцца хвалі, адкрываючы новыя пашчы.
У чэраве мора заўжды па-галоднаму пуста –
прорва, што, не сыцеючы, трушчыць нашча.
Безліч'языкае, меле ў муку, смокча,
захлынаецца слінай без увагі на смак
і буркоча, буркоча ў раз'ятранай моўчы!
А яны падносяць да яго тонкіх вуснаў напоўнены
гляк.
Яны пэўна і прагна ліюць яму ў вусны свежасць.
Яны жывяць яго, і мора не лютуе на іх.
Рэкі – ім адасобленымі не ўлежаць.
Плынь ракі – разгорнуты міг.
Рэкі – быццам пялёсткі, што цягнуцца,
каб ухапіцца, угрызціся ў сарцавіну кветкі.
Гладкаскурыя, адпрэчваюць думку пра звяданне,
смяюцца з ветру, які сарве іх і размяце.

## КУСТ КАЛІНЫ

Быццам воблачная руіна
учапіўся ў зямлю куст каліны.
Расхрыстаны паветраны шар
з жыццядайнаю ніткай.
Як усмешкі, як слёзы, як жар –
гэтак ззяюць каліны –
яны хочуць сказаць...
За чырвонай напятай сцяной
пульсаванне
нежывёльнага рытму.
Прыкладзі да каліны далонь –
толькі гладзь.

## АБАПАЛ

За ягадны бляск
я прымаю тваю незварушнасць –
яе не схаваеш, яна набрыняла звабай.
Няважна, што станецца з тваімі пладамі вечнасці,
як і ты, часе, я імі парасла.
Выпростваем галіны насустрач адно аднаму,
нібы ўскідваем матэрыю, каб заслаць паміж намі.
Гэта не чаканне і не момант, гэта не стан.
Гэта месца, дзе пралягае дарога.

***

Уцякае страла ад мяне, уцякае страла.
Дзе агонь ад яе палыхне – там яна прарасла,
там пажарам яна прарасла, і на попеле тым
закарэніўся, выстваліўся, разгалініўся дым.
Іклы лютых вятроў ірвуць лісцёвы каўтун,
але дым стаіць стаўбуром, аднаногі вястун.
Я іду за сваёй стралой – дзе той выбліск быў?
Дымам неба завалакло – пойдзе шлях любы:
я схаплю любую галіну з таго галля

і прыйду, куды і павінная – да камля.
Дым схавае мяне пад шатамі і шапне:
“Я нікуды ня вёў – ты прывяла мяне”.

***

Дым мне вочы вярнуў –
заімглёным паглядам сачу,
як знаёмыя ўявы
пераслёзваюцца ўваччу.

Мох і хвоя –
працяг тваіх цёплых рук.
Мой і твой
супакоеных сэрцаў рух.

Маіх ссечаных дрэваў
дагэтуль жывуць карані.
Абдымаю ствалы – мае ўявы.
Абдымі, крані...

***

Дым
аблудным не назаву.
Няма таго ветру, каб разагнаць яго.
Ты ўтаймаваў агонь –
ты той, хто захоўвае жар.
У дыму межаў няма, ты таксама яму не мяжа.
Дым не чакае тваёй слязы, упушчанай над пякучым.
Ты яго носіш з сабой, як тонкія кудзеры смутку, як вясёлы лісіны хвост, як велічную хмару, што дапамагае плыць.
Ты можаш нават забыць, што ў вуглянай кучы бясконца цьмеюць агні, якіх не вырваць з цябе.
Яны як пісьмёны ў скрутку, яны ёсць і ўсё – і калі ты разгорнеш яго, яны могуць рассыпацца, а могуць і не.
Уся твая памяць – дым, і толькі ён
умее разгортваць тугое сэрца тваё.

***

За сабою
зачыняюць самі сябе дзверы.
І выходзяць,
робяць першы крок
зноў і зноў.
На завесах
павісла рыпенне,
калыханае няісным ветрам,
які вечна ўкладаецца спаць
у сівізне, што абаперлася аб вушак.

***

Крычанне азёр
шырокімі галасамі
праз клекатанне хваль,
і насустрач – дыханне неба.
Вечная палкасць спакою,
жарсць вечнага жыцця.

Залаты пылок, які нехта дзяўбе з-пад вады.

***

Сонца так старанна
точыць каляіну для часу –
але ён
гойсае на прамянях,
скача на тарзанках знічак,
плыве ў чаўнах ценяў,
хаваецца ў калысках шчасця,
пакуль залатая сляза бязгучна коціцца
па нябачнай зморшчыне
нябеснай шчакі.

***

Выгнуўшы шыю,
звесіўшы шалахлівую грыву,
стаіць авёс.
Вось-вось ударыць капытом.
Прамень скранецца –
пырсне порсткі табун,
разарваўшы покрыва ценю.
Далікатныя дзюбкі перабіраюць
россыпы скінутых падкоў.

***

Неназіраны краявід, нячуты гром.
Нерасцярушанасць жыцця і вечнасць плыні.
Глядзі – краявід! Твой позірк уздымецца, хлыне.
Грыміць! Хваля слыху ўздымаецца стаўбуром.
Сутокі пачуццяў і існасці – пырханне знічак,
якое так вабіць цябе, але само нікуды не кліча:
каменне цікаўнасці не прабівае вечнай плыні,
але на кволай затоцы душы тчэ дрогкія колцы веры.
Не абуджаны ўсплёскамі, нехта плыве на спіне,
пакуль грыміць хвастамі рыба ў ягонай вершы.

***

Прышклёная рака
паварочвае вока на дно,
разглядвае ўсіх,
з кім нядаўна лётала наўзахапкі.
Скручвае тоўстыя сцяблiны ў кублы,
расплятае клубкі віроў на тонкія ніткі плыні,
правярае, каб роўна ляжалі, не блыталіся.
Ледзяны ўток
пакрысе пераплятаецца з імі.
З галавою пад посцілкай,
выставіўшы калена,
дрэмле  рака.

***

Як абрывак – зрынаецца птушка, лунае, трапеча.
Вецер пёркамі грае і выварочвае плечы.
Плечы… Дрэва сваё не падставіць
і гнязда не працягне далонь:
усё матляецца і, сумеўшыся,
ніяк не можа закрыцца на зашчапку.
Чорнай плямай у чэраве здані
птушка пырхае ветраны танец -
вольны? роспачны? смешны?
Захаваю яго, не назваўшы.

***

Ад чаго аскепак гэты ліст?
Быў ён збанам? Караблём? Вялікім сэрцам?
Нічыйны ўспамін пад нагамі, а ўверсе
вецер марна спрабуе граць на струнах сонных галін.
Пустата абалонкі не просіць. Яе ўспамін
і пяць тактаў мелодыі ветру застылі ў здранцвелым соку,
што залёг у зямным скляпенні пад лапамі каранёў.
Не дагрукацца да сэрца, не напіцца са збана,
не паплыць караблём –
вецер, я спяваю з табой.

*Алеся Башарымава*

## Наталля КАВАЛЕНКА

***

*Хто птушачак вакол збірае...*
ГТ.

Назбірала птушачак,
Нарасціла зернейка,
Агарнула крыламі –
Здзейсніла Хрыстовае.

Прывячала птушачак
Ды з рукі карміла,
Ды з душы паіла –
Спраўдзіла адвечнае.

Птушачкі ўзняліся,
Затрымцела існае
На бялюткім аркушы –
Выканаўся лёс.

***

З празрыстым подыхам дзіўлення
На свет праліўся новы верш.
Сэнс мяккім ліхтара мігценнем
Пажыўся з-пад рукі найперш.

За сэнсам форма праступала,
І час спыняўся на дыбках...
Душа ў словах натавала
Зямны адбітак. Вольны птах

З празрыстым подыхам узняўся
І горняй зведаў волі смак.
Дзе верш праліўся – жыў – смяяўся –
Там дух выкрочваў новы шлях.

*Наталля Каваленка*

# Галіна БУРЫНА – Алесь РАЗАНАЎ

# ВАМ УСЯГО ДОБРАГА

(Працяг “Ліствання”)

**18 мая**
05.04.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Вельмі ўзрадавалася, што Вы да нас прыедзеце 18 мая! Ці так? Сёння ў бібліятэцы была Надзея Аўсіевіч, яна і прывезла гэтую добрую навіну! А яшчэ сёння адправіла Вам святочны падарунак – з маімі найлепшымі пачуццямі, зроблены з душою і сэрцам нашай супрацоўніцай Таццянай – памятаеце? – і прыняты на пошце таксама з дабрынёй дзяўчынкай...

Спадзяюся, што Вам спадабаецца, дабавіцца праменьчык святла і цеплыні ад нас і ўсіх берасцейцаў...

Прачытала ў праграме, што Вы будзеце разам з гасцямі ў Сяльцы – добра... Алесь Сцяпанавіч, ці цікава Вам удзельнічаць у такіх праектах?

Усяго Вам добрага,
Галіна Іосіфаўна

**Кветкі**
06.04.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Дзякуй за ліст з кветкамі: як кажуць, кветкі – сонцавы дзеткі, яны адмыкаюць замкнёнае і нагадваюць чалавеку пра нешта дзівоснае, ува што ён прысвечаны і што забыў; даўным-даўно ў палявой капліцы я быў павянчаны з кветкаю, усе палі былі поўныя імі, і я разумеў тады іхнюю мову, якая не мела слоў, а была проста субстанцыяй шчасця, аднак сцежкі туды няма, і штодзённае, калі не скасавала, дык аддаліла казку альбо вывела мяне з яе, "сляды сціраюць сляды", – згадваецца выпадковае, што занатаваў валанцёр у паэзіі Мікола Папека.

Мне патэлефанавалі са шведскай амбасады і прапанавалі паўдзельнічаць у сёлетніх беларуска-шведскіх чытаннях, я не мог не згадзіцца – яны адбудуцца з удзелам радзімы, і Марыя Сёдэрберг як заўсёды прадусар, з ёю сустрэўся ўпершыню на фестывалі паэзіі ў Стакгольме ў 2001 годзе, недзе адтады і адтуль яна павярнулася тварам да Беларусі і як мага спрыяе

культурнаму дыялогу абедзвюх краін. Чытанні – нагода, каб сустракацца і аб"яўляцца, хоць самі яны любяць перакульвацца ў шоў.

"Ішоў я, ішоў і куды прыйшоў? Шоў", – я ўжо згадваў гэты верш Анатоля Вярцінскага. Усяму сваё месца, а ў шоў шмат аблiччаў. “Я не толькі паэт, а яшчэ і палітык, я не толькі палітык, а яшчэ і паэт”, – вось адно з іх, узор сучаснай сафістыкі. Калі паэт становіцца больш, чым паэт, палітык больш, чым палітык, тады на людзі выстаўляецца шоў, “неда” ўводзіцца ў правіла, а хлусня мые рукі; і калі струмяні вады, што ліліся з вышэйшага паверха, можна было вычэрпваць анучамі і вёдрамі, то гэтыя – не ведаю, чым, і Пімен Панчанка, адчуваючы іхнія здольнасці, высноўвае запаветы: "З дробнай хлуснёй не мірыцца, З буйнай хлуснёй ваяваць..." Асноўнае пытанне: як? Але ў любым выпадку з намі застаецца маральны імператыў, ён апрыёры пераможца, і нам застаецца адно быць яму адданымі.

Аддаў у "Дзеяслоў" і "Літаратурную Беларусь" падборкі новых пункціраў, сустрэнемся – прачытаю.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**P. S.** А ў дадатак напрасткі. Паэт-палітык, што ўвёў у сваю самаатэстацыю злучок, не дайшоў да Плошчы тойсамай хадою, якой не дайшоў да кандыдацкага выступлення, і як некалі ў “Крыніцы” ў неабходны для яго час у яго раптам “адпала” рука, так і цяпер, разыгрываючы шматхадовую (грасмайстарскую?) камбінацыю, ён “адпаў” увесь, і ў той час, калі заклікаў людзей прыходзіць на Плошчу, сам быў ужо ў ролі папа Гапона ці, з улікам асаблівасцяў яго асабовасці, папом Г(...) онам (слова з яго лексікону). Кантора заплеччам, ручаі мутныя, рыбкі залатыя, шасцяронкі круцяцца, сябры купляюцца, шэры кардынал, ці, інакш, другая хітрамудрая дваістасць, надзімаецца ў пафасе (“У подлы час няпроста быць не подлым”), і ва “ўжо” багатая біяграфія.

У “Крыніцы”, пасля таго як пад яго, прэзідэнцкага, яна была аб’яднана з “ЛіМам” (“КрыЛім”), а потым, застаючыся ні з чым, зноў ад’яднана, ён, прызначаны зверху старшынёй пісьменніцкага саюза і адтуль разыгрываючы сваю чарговую хітрую камбінацыю, ці папросту падлянку, якая б у выніку мусіла паказаць некаму і ўсім, які ён незаменны і першы, і перш за ўсё маючы на мэце сваю распешчаную карысць, мяне ў літаральным сэнсе ўвапхнуў у яму – у асуджаныя на марныя вымогі рэдактарскія абавязкі: ён, маўляў, ужо старшыня СП і рэдактарам быць не можа. Я не згаджаўся як мог, некалі, напачатку, умовіліся: я займаюся часопісам, ён усім астатнім, і пакуль я з “мы” тварыў часопіс, ён са сваімі бухгалтаркамі меў і даймеў “усё астатняе”, прадаў і здаў “мы” (“Слаб чалавек”, – выснуе Анатоль Сідарэвіч), рэдакцыя збіралася і ўгаворвала: трэба нешта рабіць, на трэці раз я згадзіўся: нешта трэба было рабіць. Адно дзякуючы таму, што рэдакцыйная каманда працавала як штаб (не маючы нічога ці, хутчэй, маючы мінусы і яўныя ды тайныя супрацьдзеянні, усё трэба было афармляць і засноўваць

нанова), і таму, што ўзялася новая бухгалтарка – абедзве ранейшыя збеглі, ды таму, што жанчына-рэвізор дапамагла вярнуць нейкую суму "крынічных" грошаў, якія ён перавёў на рахунак адной сваёй фірмачкі, "Крыніца" аднавілася і акрыяла. І вось пасля таго, як хітры план не спрацаваў, а яна аднавілася і акрыяла, ён аб'яўляе ўголас сваё сапраўднае аблічча: "І я хачу". Аднак ужо нешта істотным чынам змянілася – і сітуацыя, і адносіны… "Вы думалі, што ён не зможа, а ён змог", – сказала яму тады пра мяне і пра ягоную камбінацыю сакратарка часопіса Марына Малец. Перайграць гэта, і не адно гэта, ён ужо не можа, алеператасаваць – зблытаць канцы і пачаткі – спрабуе. "Лаві злодзея!", – крычыць з даўняй прыпавесці адзін сцэнарыст, "Гавары праўду!" – абвяшчае тут і цяпер другі.

**P. P. S.**

Тое, што "ўсенародна абраны" проста так не аддасць уладу, было відаць няўзброеным вокам, а паэт-палітык, безумоўна, ведаў лепш, чым хто, што ўсе неабходныя сілавыя структуры прыведзены ў гатоўнасць і ў дзеянне і што спрос з яго, любімага, калі ён трапіцца ў рукі АРЛа, будзе асаблівы – за ўсё і за нешта. Гэтага ён (як і ў часы "Крыніцы": тады хадзіў нейкі час праўдзівы – счарнелы, як негр) баяўся найбольш, гэтага не мог дапусціць і не без чыйгосьці чыннага ўдзелу – як жа, каштоўны кадр!.. – увёўшы сябе ў паказ і ў сцэну, разыграў вядомы сцэнар, балазе, здольны і мае не абы які досвед. Аднак нават колькі разоў яго так маляўніча "шандарахнулі", уцямна казаць не кажа: калі адзін, відавочна замала, калі два – дык што, як і першы раз, апусціўшы рукі і адключыўшы рэфлексы, стаяў і чакаў, пакуль амапавец ці спецназавец прыцэліцца і яшчэ раз прыкладзецца дручком па тым самым месцы? Гэтакая палітыка – і гэтакія злучкі, гэтакая кампанія – і гэтакае "Гоп", і што б ён ужо, застаючыся паказным і выглядным, ні гаварыў, верыць не выпадае.

"У сэрцы праўда, праўда не відна, А іншае ўсё – выгляд і мана" (Шэкспір, "Гамлет", пераклад Юркі Гаўрука). Мабыць, усяго гэтага Вам і не трэба было б чуць, але ё н змусіў – і я сказаў.

**Криваёва**

09.04.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Дзякуй вялікі за велікодную паштоўку – сёння атрымаў: у ёй дом, кветкі і першабытныя пісьмёны, якія кажуць пра шлях: ну так, каб апынуцца дома, трэба ісці – пакідаць сябе ў мінулым і набываць у наступнасці.

Гэтымі днямі адна канфесія перадае Вялікдзень другой, а ў паветры разліта смуга, і ў пасланнях каталіцкіх іерархаў, можа, больш чым калі гучыць непрыхаваная трывога. Цытую прачытанае: "...чалавецтва паглыбляецца ў змрок, не здатнае адрозніць дабро ад зла" (Папа Рымскі Бенедыкт XVI); "...сучасны свет супрацьстаіць прысутнасці Бога на зямлі" (арцыбіскуп

Тадэвуш Кандрусевіч). Усюды дзейсніцца гульня ў імя сваё, а Хрыстос ратунак. Пэўна, на праваслаўны Вялікдзень указам звысоку будуць выпушчаныя з астрогу Андрэй Саннікаў і некаторыя іншыя палітвязні, а Сяргей Каваленка гэтымі днямі мусова выводзіцца з галадавання: ён пайшоў, насуперак логікі, на немагчымае, логіка застаецца ў полі гульні, а перамога ў гарах немагчымага; сам я аднойчы найбольш галадаваў 30 дзён, туды – уздымацца ў горы, назад – спускацца ў абрывы, там туга па пакінутым, тут смутак па недасягнутым, а тое, што ён здзейсніў – заваёва.

Знаёмым перадавайце прывітанні, працаўніцы – паклон, а Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Вялікдзень**

13.04.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Прабачце, калі ласка – "увечары" зацягнулася на некалькі дзён...

У нядзелю была ў царкве на святкаванні Вялікадня – было добра, урачыста і ў той самы час не афіцыйна, дыхалася лёгка, малітвы ішлі ад душы, у паветры была разліта калі не любоў, то добразычлівасць і спагада...

Бліжэй да вечара адбыўся канцэрт групы "Новы Іерусалім": песні перамяжаліся з малітвамі, якія ўзносілі да Бога музыканты, песні мне падаліся змястоўнымі, галасы прыгожымі, хаця моцны гук спачатку перашкаджаў пачуць словы...

Моладзі ўсё прыбывала, а. Ігар гасцінна ўсіх сустракаў, маладыя людзі падпявалі (яны, як аказалася, ведаюць словы) і танчылі, выплёсквалі свае эмоцыі і энергію словамі і рухамі... Зноўку былі прадстаўнікі розных канфесій – усе ведаюць адно аднаго – усе былі непасрэднымі, не саромеліся выказваць свае пачуцці ні ў словах, ні ў рухах, а напрыканцы ўжо ніхто не сядзеў, усе рухаліся, хто не танчыў, той пляскаў у далоні ці прытопваў у такт... Музыканты расказалі, як яны прыйшлі да Бога, чаму пішуць і спяваюць менавіта такія песні, яны былі шчырымі і ўзрушанымі, казалі, што шмат дзе выступалі, але такога прыёму не памятаюць... А. Ігар падпяваў і танчыў разам з усімі, на яго твары была непаддзельная радасць... Розныя вусны часта паўтаралі думку, што Госпад бачыць і ведае нас такімі, якімі мы ёсць на самой справе, і не трэба саромецца праяўляць свае пачуцці... Саромеўся мала хто... Толькі побач са мною сядзеў прыхаджанін, ён вельмі ўважліва ўсё слухаў, апладыраваў, але я адчувала, што ён "закрыты"... Нават падумала, ці не з органаў якіх, але потым убачыла залатую нашыўку на рукаве кіцеля і вырашыла, што ён, відаць, марак... Сама я не была "закрытай", але мяне таксама нешта стрымлівала – яшчэ не прызвычаілася, што ў храме можна танчыць, скакаць і па-іншаму праяўляць свае эмоцыі, хаця свята раднасае... Я і ў будзённым жыцці не надта праяўляю свае

пачуцці – усе штормы ўнутры, таму маю рэпутацыю спакойнага чалавека і мала хто ведае, якая я на самой справе, дый навошта...

А далей, Алесь Сцяпанавіч, як Вы і напісалі, замест таго, каб засяродзіцца, падумаць пра Бога, пра вечнае, аказалася ўцягнутаю ў нейкія незразумелыя канфлікты паміж супрацоўнікамі, нібыта нейкія бесы іх падштурхоўвалі гаварыць адно аднаму крыўдныя словы, я была побач, заступалася за таго, каго крыўдзілі, напружанасць "вісела" ў паветры, душэўная раўнавага была парушана... Цяжка яе ўтрымліваць – убачыш рэпартаж, прачытаеш нешта праўдзівае, а не афіцыйную версію, ці нават сутыкнешся са звычайным бытавым хамствам – на нейкі час губляеш раўнавагу... Правільна Вы пісалі пра імітацыю... так, вельмі адчуваецца ва ўсіх сферах жыцця, у т. л. прафесійнага...

Перадала Таццяне Ваш паклон – яна заўсміхалася, узрадавалася... На днях заходзіў М. М. Пракаповіч – узгадвалі Вас добрым словам... Дай Вам Бог здароўя! На сайце ўжо далі інфармацыю (папярэднюю) пра Дзень шведскай і беларускай літаратуры ў Брэсце 18 мая – людзі цікавяцца, збіраюцца прыйсці...

Вельмі хачу паслухаць і пачытаць Вашы новыя пункціры, дзякуй!

Усяго Вам добрага, прыміце, калі ласка, віншаванні з Вялікаднём,

Галіна Іосіфаўна

**Вялікдзень**

15.04.12

Хрыстос уваскрос!

Пасля ўваскрэсення Хрыстос аб’явіўся вучням – увайшоў праз замкнёныя дзверы – не целам і не духам, а новым целам, існасцю, у якой цела і дух ядналіся і супадалі, у гэтым метамэта павольна-няўмольнай эвалюцыі; чалавек вынікае з самога сябе, ён і стары і новы, у ім уцелясняюцца ўсе вядомыя істоты і ўсе вядомыя атавізмы маюць прыстанак, а невядомае мкне далей.

Час вымаўляе нас і нас выяўляе, і месяцы – іпастасі, якія нам сведчаць пра нас, хочаце бачыць вынік – адлічыце наперад сябе прыдатную колькасць іпастасяў, скажам, 36, і назірайце па іх, дзе Вы ёсць, месяц будзе перадаваць Вас месяцу, а Вы іх, быццам пражываць скарочаныя жыцці, паступова ад сябе адымаць, у траўні цвітуць сады і зелянеюць палеткі, вазьміце, калі хочаце, травень за пачатак адліку ад канца, за лічбу 36, і станавіцеся такою, якою хочаце быць.

Учора хадзіў за горад, за Дварэцкую слабаду, гэта побач з Малінаўкай, дзе жыву, з-пад ссохлага леташняга бадылля ўжо пачынаюць прабівацца зялёныя парасткі: вока згаладнела па жывых колерах і ўвага скіроўвалася да іх, у равах залаціцца падбел: каля яго спыняўся, на ўзлеску сонечнымі катахамі свеціцца вербалоз: да яго датыкаўся.

Я таксама, напэўна, не стаў бы разнявольвацца ў танцах: па-першае, не мой жанр, па-другое, не той ключ, якім адмыкаецца самае істотнае, па-трэцяе, гэта ўжо блізка да практыкі хрыставераў-хлыстоў, калі абуджаюцца старажытныя багі і карабель п'янее ў экстазе: захопліваецца – адно, а разнявольвацца – другое.

Некалі Вы хацелі пра нешта ў мяне папытацца, ды адклалі напотым, пытайцеся: здолею – адкажу.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Пытанні**

17.04.12

Сапраўды ўваскрос!

Алесь Сцяпанавіч, дзякуй вялікі: так і зраблю, паспрабую, тым больш, што і нарадзілася я ў траўні... Дзякуй за дазвол: сапраўды хацелася б запытацца пра многае, але не заўсёды бывае адпаведны стан...

Але калі можна, то запытаюся пра Вашу галадоўку ў 30 дзён... А яшчэ: Вы неяк сказалі мне, што Вы не прапаведнік і не настаўнік, але Вы ведаеце, што я вельмі часта з Вамі размаўляю і гляджу на Вас і слухаю, шырока расхінуўшы вочы і ператварыўшыся ў слых і ўспрымаю Вас перш за ўсё душой... Перачытала ўчора "Паэму сланечніка" і ... "Дакаралі мяне – правінюся або насваволю – не дакарала Тэкля... Усе ведалі дзеля чаго дакараюць, а Тэкля не ведала дзеля, усе былі адначасна цяпер і потым і бачылі параўнанне, а Тэкля мяне проста бачыла..." А Тэкля мяне проста бачыла!

Я казала Вам, што мама нарадзілася на Урале, куды вывезлі яе бацькоў з Мінскай вобласці Пухавіцкага раёна вёскі Высокая Старына. Высадзілі ў лесе, людзі самі будавалі сабе жытло, а храмаў там не было, і мама была нехрышчоная... А пахрысцілася ўжо ў 55 год, калі пабудавалі царкву ў Івацэвічах, яна праваслаўная...

Нас з братам пахрысцілі яшчэ да года ў Косаве, таксама ў праваслаўным храме. Але гэта было, як бы сказаць, фармальна, Вы разумееце... І вось брат "перайшоў" у другую веру – грэка-каталіцкую, і нашыя сваякі доўгі час выказвалі маме, што брат здрадзіў, адрокся ад свае веры, мама вельмі перажывала... Калі брат захварэў, то яны перасталі выказваць маме асуджэнне, і мама змірылася, не гаворыць пра гэта... Але мне часта паўтарае, маўляў, толькі ты не перайдзі ў другую веру, бо гэта вялікі грэх... Я адказваю, што не, канешне не, а сама хаджу ў храм да а. Ігара...

І яшчэ: Алесь Сцяпанавіч, як Вы ставіцеся да людзей з нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыяй, напрыклад транссексуалаў? Мне давялося пазнаёміцца з такім чалавекам і мне цяжка прыняць яго такім, якім ён ёсць – мужчынам і такім, якім ён сябе адчувае – жанчынай...

Прабачце, калі ласка, можаце не адказваць, канешне, а калі зможаце – буду Вам шчыра ўдзячная! А калі не зможаце – буду таксама Вам шчыра ўдзячная...

Усяго Вам добрага,
Галіна Іосіфаўна

**Амбула**
20.04.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Заўчора ў музеі гісторыі айчыннай літаратуры прэзентавалася кніжка Леаніда Галубовіча "З гэтага свету" – нагода, каб пабачыцца і пачуцца; недзе тузін гадоў таму назад ён уголас даў зарок, што вершаў больш пісаць не будзе, вершы – тэксты, укладзеныя ў адпаведныя фарматы, і слова свайго трымаўся, але паэзія – субстанцыя, і яна пазначала сваімі пасмамі тое, ува што ён у гэты час укладаўся, – "зацемкі з левай кішэні" ды "кулуары", вершы вынікаюць з паэзіі, а ў кніжцы ёсць і тое, і гэта.

"З гэтага свету" – евангельскія словы, ён найбольш звязаны з тымі, каго ўжо тут няма, свой у сябрыне творцаў, яны адышлі за небакрай, можна называць імёны: Міхась Стральцоў, Мікола Купрэеў, Анатоль Сыс, Барыс Бур’ян, Алесь Асташонак, Уладзімір Марук і яшчэ, і яшчэ – іх тут няма, а сувязі застаюцца, як арыядніны ніткі, па іх ён даходзіць да краю, дзе быць і не быць ураўноўваюцца і як вынік па-новаму адкрываюцца простыя з’явы, але не зусім і не да канца, і таму ў вершах зумкае нота жалю – пчала, што не даляцела дадому, але таму, што яна зумкае, нешта, амаль аўтаномна, спраўджваецца і адбываецца – расце трава, цвітуць кветкі, баба Маня перагаворваецца са сваімі жывымі суседзямі і супраць плыні вершы кіруюцца з Радаўніцы ў Вялікдзень.

Калі выступоўцы адгаварылі свае словы (канспект маіх маеце), падышоў чалавек, з кім дагэтуль не быў асабіста знаёмы, і першае, што я сказаў, убачыўшы яго, было: "Івацэвічы", – Валерый Гапееў; ён, Вы, мусіць, ведаеце, вядзе "літаратурную Івацэвіччыну" і толькі што ўвёў у арыгінал-макет новую кнігу Алеся Зайкі пра паселішчы раёна, хваліць: "Такога яшчэ не было", – і сам варты пахвалы, не ведаю яшчэ, якой.

Тое, што зараз напісаў, Галіна Іосіфаўна, – доўгая (?!) прэамбула да кароткай (?!) амбулы – да адказаў на Вашы пытанні. Першае, калі сказаў, што галадаваў 30 дзён, дык нібыта гэтым пахваліўся, а гэта памылка ці ланцужок памылак, у які ўцягвалася кармічнае, восень глыбела, я не прыдаваў значэння знакам-засцярогам і як належыць не распазнаваў звычайныя знакі-арыенціры; ну так, у мяне быў пэўны досвед галадавання і ён укладаўся ў дзейную і амаль незаўважную для прысутных сістэму: тыдзень галадавання, тры тыдні яды, але пры доўгім паблізу павінен быць нехта, хто, калі трэба, спрыяў бы, я быў сам і, калі спатыкнуўся, трапіў у шпіталь, добра яшчэ, што трапіў, урокі мусяць засвойвацца, і гэта таксама ўрок, як у

вершы Навума Гальпяровіча: "звініць званок... – і страшна, што не вывучыў урока"; змагацца з сабою – няўдзячны занятак, лепш – разумець, і тры дні, якія я галадаваў перад Вялікаднем цяпер, можа, не менш істотныя, чым тыя 30, але тады я пабыў там, куды сцягваюцца арыядніны ніткі, і з адсутнымі пісьменнікамі сустракаўся і гутарыў.

Другое: да тых, пра каго Вы пытаецеся, пра транссексулаў, не стаўлюся аніяк, яны для мяне адсутныя, яны (і не толькі яны) замыкаюць на сабе тое, што мусіла б разамкнуцца, разамкнёнае, яно тлумачыла б сябе, а так яно звяртае на сябе думку і ўцягвае яе ў сферу, у якой яна апынаецца нявольніцай. У швейцарскім Цугу, у кляштары, у атэлье якога правёў год, я казаў манахіням, падтрымліваючы іх як мага ў іхнім ладзе жыцця: "Кляштар – сегмент неба на зямлі, вы больш, чым людзі, і калі апостал Павел казаў, што ў Хрысце няма ні эліна, ні габрая, то вось сёння тут няма ні жанчыны, ні мужчыны", – і яны ўдзячна ўспрымалі мае словы, але для таго, каб гэта на самой справе адбывалася, трэба ўзыходзіць, а не блытацца ў атавізмах.

Канфесіі – не розныя веры, яны артыкуляцыі аднаго і таго ж, адно і тое ж, вымаўленае рознымі галасамі; калі сутнасць аддаляецца, артыкуляцыі набываюць вагу і значэнне, і, адпаведна, калі артыкуляцыі набываюць вагу і значэнне, сутнасць аддаляецца. Не будзем разбірацца, чыя артыкуляцыя праўдзівейшая, а будзем... Што будзем, Галіна Іосіфаўна?

Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**Галадаванне**
24.04.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Не пісала, але размаўляла з Вамі не раз, – зноў я была адсутная... Гэтым разам “паспрыялі” сезонныя праблемы, звязаныя зноў жа з нервамі, і як вынік – прыйшлося звярнуцца да дактароў і ўжываць лекі, але, відаць, завялікая доза для мяне, добра, што былі выхадныя дні...

Ну вось, зараз ужо лепей, скарэктавала дозу сама (чаму не раней?), спадзяюся на лепшае... Так, пасля Вашага ліста прачытала пра прэзентацыю кніжкі Леаніда Галубовіча ў інтэрнэце, пабачыла Вас на здымку, пачула Вашы словы... Алесь Сцяпанавіч, сорамна прызнацца, але не ўсіх, каго Вы згадваеце, я чытала, але ж не позна, праўда? Дзякуючы Вам адкрыла творы Ільмы Ракуза (ы), іншыя імёны...

Так, Валерыя Гапеева ведаю (не асабіста), год ці два таму ў нашай бібліятэцы ён прэзентаваў сваю кнігу "Урокі бяспечнага кахання", першая назва была "Урокі бяспечнага секса", але каб кніга выйшла, прыйшлося назву змяніць, ад гэтага змяніліся і нейкія акцэнты, як мне падалося... Спадар Гапееў асвоіў інтэрнэт, мае свой блог, займаецца актыўнай перапіскай з маладымі людзьмі (з яго слоў) і "выкарыстоўвае гэты вопыт у сваіх творах”.

Многа разоў звярталася ў думках да Вашага галадавання... Алесь Сцяпанавіч, а Вы памятаеце, пра што і з кім гаварылі? Не-не, я не пытаюся, канешне, зразумела, але, калі можна: як яны выглядалі? Калі Вы іх пазналі, – відаць, як людзі... А яны Вас пазналі? Ці не было аблічча, а была толькі нейкая субстанцыя ці голас? Ці Вы проста ведалі, што гэта яны, і ўсё? Алесь Сцяпанавіч, не адказвайце, калі я пераходжу нейкія межы, але чамусьці гэта не выходзіць з маёй галавы ўжо каторы дзень... Вы так правільна напісалі пра думку-нявольніцу, гэта пра транссексуалаў...

Так, згаджаюся з Вамі: "Не будзем разбірацца, чыя артыкуляцыя праўдзівейшая...", а будзем "наставаць знутры" – таксама Ваша думка, – з дапамогай Хрыста, прыслухоўваючыся да свайго ўнутранага голасу і будзем беражлівымі адно да аднаго і ў словах, і ў думках ...

Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**І за Гомлем людзі е**

26.04.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Калі, здараецца, пачынаюць даймаць якія-кольвечы "неды", пачынаю піць падсоленую ваду, 3–4 кубкі на дзень – і паступова ўсё выроўніваецца: сродак, апрабаваны людзьмі, своеасаблівая кропельніца, арганізм не павінен наўпрост залежыць ад лекаў – спрабуйце.

Тыя, з кім сустракаўся ў сваім падарожжы за межы гэтага свету, былі вельмі жывымі і рэальнымі людзьмі: бачыў іхнія постаці і аблічча, чуў іхнія галасы, уваходзіў з імі ў дачыненні, і яны са мною паводзіліся, як з раўнаістотным.

У адрозненне ад звычайных сноў тут усё было больш мэтазгодна, больш матэрыяльна, больш уцелясьнёна, гэта сны, якія можна было мацаць рукамі. Вас цікавіць – называю пісьменніцкія імёны, але чаму сустракаўся менавіта з імі, не ведаю. Надзіва спакойны, засяроджаны на нейкай сваёй думцы, у цемнаватым афіцыйна-святочным гарнітуры падышоў Іван Чыгрынаў, я яшчэ быў новым у той рэчаіснасці, яшчэ пацыентам, а ён быў сваім: словы не вымаўляліся, а вымаўлялася разуменне; аднекуль вымкнуў Алесь Ставер: некалі на яго зборнік я напісаў рэцэнзію – задужа заўзятую, задужа прасталінейную, яму ў рэдакцыі сказалі пра гэта, мы былі дагэтуль у нармальна-нейтральных стасунках, ён падазраваў змову і прасіў: "Здымі!.. Знайшоў, з кім ваяваць", – я не паслухаўся, упіраўся ў прынцыпы, якія не лічыліся з акалічнасцямі (потым, на хвалі перабудовы і злому, падобную прынцыповасць будуць дэманстраваць некаторыя новыя адраджэнцы, узброіўшыся сякерай і здабываючы гонар і ганарар з таго, што айчыннай літаратуры будуць тварыць вівісекцыю), а цяпер ён смяяўся і меў у гэтым нейкую адпомсту і перавагу; Міхась Стральцоў і Уладзімір Караткевіч штурхаліся і не ладзілі між сабою, як маладзёны, трава зялёная, я

раз’ядноўваў іх і клаўся між імі – мірыў (параўнальна нядаўна ад Алы Сямёнавай – яна вельмі добра знаёмая з Міхасём Стральцовым – пачуў, што абодва на самой справе і пры жыцці як бы выключалі адно аднаго, два адметныя мастакі двух адметных стыляў); на ганак навейваецца снег – спазнелы, прыходжу на пісьменніцкі сход: на сцэне, у прэзідыуме, заўважаю Максіма Танка і Валерыя Скварцова (сакратара), а зблізку Веру Сямёнаўну Палтаран – яна мяне аднойчы запрасіла на працу ў выдавецтва, у рэдакцыю крытыкі і літаратуразнаўства, якую ўзначальвала, яна чалавек светлай і шчодрай душы, і працаваць з ёю было выгода, аднак глыбока ўнутры ўвесь час ува мне жыло адчуванне, што я не на сваім месцы, што марную час і што асноўнае застаецца, пакінутае, збоку; калі яе праводзілі ў апошні шлях і ўсе ў зале крэматорыю адыходзілі ад труны, я яшчэ раз вярнуўся і дакрануўся, апошні, да яе рукі. Вось Вам, Галіна Іосіфаўна, сведчанні з таго свету, сведчанні, што "і за Гомлем людзі е", хопіць?

Надзея Аўсіевіч даслала праграму берасцейскага мерапрыемства; калі будзе весціся літаратурны семінар, нехта мае быць і мадэратарам, пэўна, нехта з універсітэта – Генадзь Праневіч? Святлана Варонік? Тыя разы яны вялі мае творчыя вечарыны: Генадзь – сістэма, Святлана – імправізацыя, і Вы самі мелі магчымасць чуць і бачыць, як тварылася размова зместаў.

А яшчэ Вам парада: чытайце лісты апостала Паўла і ў тым, што ён пісаў, знаходзьце свой вадэмэкум. На завяршэнне яшчэ адзін, там зведаны, сюжэт альбо досвед: горад, апушчаны ў ваду, з празрыстай глыбіні свецяцца макаўкі бажніцаў, як нейкі маг, я стаю ў лодцы, у паветры вісяць і крычаць свае скаргі чароды птушак, і струмяні вялікай вады праточваюцца ў Сялец.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Лета**

01.05.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Вы мяне, пэўна, згубілі – не крыўдуйце, калі ласка – не развіталася з Вамі, размаўляла ўсе гэтыя дні і, спадзяюся, будзем з Вамі ў дарозе і дыялозе, як Вы пісалі...

Дзякуй вялікі за парады – сапраўды, нельга залежаць ад лекаў, тым больш, што арганізм быў у свой час амаль здаровы, калі не лічыць... Не, не палохайцеся, лічыць не буду, а тут як наркаманка зрабілася... Усё, што Вы параілі, буду спрабаваць, ужо спрабую – добра, дапамагае!

Алесь Сцяпанавіч, вельмі Вам удзячная, што напісалі, як гэта ўсё было: пакуль невядома для чаго, але мне гэта патрэбна ведаць... 25 красавіка да нас прыйшло лета... Горача, дрэвы, кветкі цвітуць, лісце і трава зялёныя, чыстыя – прыгажосць... Цвіце чаромха (насуперак "чаромхавым халадам"), нават бэз зацвітае... На выхадныя прыйшлося заняцца хатнімі справамі – хутка да мяне прыедзе і будзе жыць 3 тыдні мая стрыечная пляменніца

(вучыцца завочна ва ўніверсітэце), а ў нядзелю і сёння былі з Надзеяй, маёй сяброўкай на беразе Мухаўца – "лавілі" першыя сонечныя промні, я "падпалілася"... Адчувала сябе раслінай – проста цягнулася да сонца і цяпла, без усялякіх думак і перажыванняў, успомніла апавяданне Чэхава ці Буніна, толькі назвы не памятаю, "Сонца" ці інакшая, – у ім маладая жанчына з маленькім сынам паехала на мора і праводзіла на беразе амаль цэлыя дні і так палюбіла, нават закахалася ў сонца, яго промні, цеплыню, водгукі свайго цела на яго ласку, што калі прыехаў на некалькі дзён муж, то яна не магла яго нават успрыняць, а не тое, што адчуць ці захацець блізкасці... Заўтра ў 10.30 сустракаемся з Надзеяй і Генадзем Мікалаевічам, ён будзе мадэратарам, Вы ведаеце...

Алесь Сцяпанавіч, як Вы думаеце: лёс чалавека вызначаны яшчэ да яго нараджэння (бо чалавек нараджаецца не ў выпадковай сям'і, а менавіта ў сваёй, мае сваіх бацькоў), ці ён (чалавек) можа нейкім чынам паўплываць на тое непазбежнае, што яму наканавана?

Вось Ламаносаў, напрыклад... Ці Леанарда да Вінчы, некаторыя адкрыцці якога былі запатрабаваныя праз 2-3 стагоддзі... Чаму б яму не прыйсці ў гэты свет пазней? Гэта быў бы іншы чалавек і іншы лёс?.. Ці ўзяць звычайнага чалавека... Чаму так?

Як Вы плануеце правесці лета (дакладней: сустрэць і пражываць)? У мяне такое адчуванне, што Вы не будзеце ў Мінску, а паедзеце некуды бліжэй да прыроды ці Вас запросяць кудысьці і Вы дасце згоду... Можа, я прыдумляю... Алесь Сцяпанавіч, ці любіце Вы... не, не гатовая спытаць і пачуць Ваш адказ...

Усяго Вам добрага,
Галіна Іосіфаўна

**У паветры**
07.05.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Нават калі мы не зважаем на час, ён усё роўна застаецца з намі ў дыялозе, да адной і той самай з’явы прыкладаюцца розныя маштабы, што мінае, што застаецца, мы амаль адначасова радуемся і смуткуем, але сустракаюцца і цвітуць там вішня, тут яблыня – і дом блізка.

Учора, калі перайшоў лагчыну, патрапіў у раптоўны лівень, добра прамок, а тады стаяў пад паветкаю на прыпынку: вада плыла ручаямі і, скінутыя, грукацелі над галавою кроплі, маланкі крэслілі свае пісьмёны і абвяшчаў свае выракі гром, а потым зноўку адразу ззяла яркае сонца, зелянела трава і залаціліся дзьмухаўцы, гэтак заўсёды і мае быць; па дарозе дадому зайшоў на малінаўскі рынак – гандлёвыя месцы зачыняліся і прадавачкі казалі адна адной: да аўторка, і ў тым, што гэтае развітанне было не да панядзелка, а да аўторка, быў свой затоены змест: апроч таго, што мы людзі, мы яшчэ нешта іншае, чым людзі, і гэтае іншае паварочвалася да

таго, што разнявольвае ад штодзённых клопатаў і абавязкаў, а ў паветры была разліта маўклівасць, нібыта ўсё ўжо сказалася і здзейснілася і мае настаць іншая пара, якая можа абыходзіцца без слоў і нават без іхніх носьбітаў.

У паветры разліта квінтэсенцыя таго, што ёсць у рэчаіснасці ці, інакш кажучы, людской супольнасці, палітыкі і ваяры мусяць нюхаць паветра. Юры Хадыка быў у роспачы ад сёлетняга Чарнобыльскага шляху: мінуўся шчыры час, свечкі не запальваюцца самі, пачынальнікі ў разводах і бел-чырвона-белыя сцягі настойліва і паступова ўсё больш пераймаюць тыя, хто гуляе ў сваю гульню.

Неўзабаве апынуся ў мясцінах, што памятаюць Айчыну, – у Сяльцы, Бярозе ды Брэсце, яны ў патэнцыялах: патэнцыял – калі невядомае тлумачыць вядомаму, што яно мае больш, чым ведае; у красавіцкім нумары "Літаратурнай Беларусі" Яўген Бяласін на палях і нівах маіх нямецкамоўных вортдыхтаў тлумачыў зместы, якія яны паклікалі, і сам станавіўся сутворцам – так, пераказаў па-нямецку адзін  вершаказ і паказаў, што па-нямецку ён гучыць лепш, чым па-беларуску.

Ну так, Вы ўгадалі: амаль адразу, як толькі вярнуся з берасцейска-кракаўскай вандроўкі, намерваюся падацца ў людзі, на гэты раз на Палессе, на Гомельшчыну, на карце ўжо ўгледзеў мясціны, дзе хацеў бы прызямліцца, я там не быў і знаёмых  не маю, знаёмыя – ізаглосы, а невядомае цалкам.

Ці выдаў заўсёды няўрымслівы Аляксей Філатаў кнігу, якую рыхтаваў? Ён як спражка, якой яднаецца літаратурная Берасцейшчына, і мае да ўсіх і да ўсяго дачыненне, а яна пра малалетніх вязняў вайны, у ёй мусіў бы быць і артыкул Яўгена Сялені пра маіх бацькоў і сястру.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Сонца**

10.05.12

Алесь Сцяпанавіч!

Прабачце, калі ласка... Бачыце, што робіцца...

Так даўно Вас не чула, што нават разгубілася: старалася пачуць словы, калі ўслухоўвалася у інтанацыі Вашага голасу... Так кранула Ваша ўвага, што на слове “Сонца” расплакалася... Таму што Сонца – гэта... а яшчэ гэта і Вы... Даруйце, калі ласка! Пастараюся напісаць хутчэй, калі Вы дазволіце...

Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Вершы**
10.05.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Перагарнуўся яшчэ адзін Дзень Перамогі, самае балючае свята памяці, адразу пасля вайны яго і не выстаўлялі на пляцы, бо гэта быў суцэльны плач, новая Радаўніца – у аснове слова не радасць, а якраз-такі плач, і літоўскае raudoti (плакаць; рыдаць) сведчыць пра гэта.

Успаміны дадаюцца да ўспамінаў, сведчанні да сведчанняў – транскрыпты таго, што было, а само яно ўсё больш западае ў глыб часу, у глыб свядомасці, яно і паўстала адтуль і авалодала чалавекам: чалавек, кім ён ёсць, транскрыпт таго, кім не ёсць, яго чытаюць вякі і народы, калі прачытаюць – ён авалодае спадчынай і вызваліцца ад чалавекасці – сваёй спрадвечнай маёмасці. Вынік папярэдняга, ён нясе цяпер з сабою сваё наканаванне, але вынік жывы, і таму што жывы, ён здольны ўдакладняцца, рабіць высновы і нават пераплаўляць атрыманае; у залежнасці ад таго, якое было папярэдняе, цяпер ён гэтакі сам, і які б ён ні быў выдатны, ён заўсёды недаўвасоблены, і, можа, найбольш выдатны – найбольш недаўвасоблены (Вы пра гэта казалі і пыталіся?), але імкненні – нябесныя карані.

Надзея Аўсіевіч даслала конкурсныя вершы, іх шмат: 182 аўтары – 182 вершы, чытаю, па ўмовах конкурсу трэба адабраць 10 лепшых, а лепшыя тыя, дзе вымаўляецца юнае і шчырае, нават калі фармальна верш неўпарадкаваны; астатнія збіваюцца ў масу: адны напісаны па схеме школьнай дыктоўкі (маці, родны край), другія нейчай дарослай рукой, трэція пад капірку, але ўсё роўна азнаёміцца было цікава – адгукаўся пачатак; адно – каб як мага бліжэй наблізіцца да аптымальнай высновы, варта было б пакансультавацца з астатнімі сябрамі журы, а то пры такім наплыве тэкстаў меркаванні могуць разбегчыся і не перасячыся.

Перадавайце, калі ласка, маё прывітанне Ярыне Дашынай – яна гэтаксама ў журы. Як адольваецца 36-я велічыня?

Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**Першаадкрывальнік**
10.05.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар ці раніца!

Як прайшоў дзень? Ці былі запланаваныя і незапланаваныя сустрэчы з людзьмі ці іншымі істотамі? У Вас, відаць, ёсць любімая мясціна, дзе Вы бываеце часта, а можа, і не адна...

Алесь Сцяпанавіч, калі Вы паедзеце на Гомельшчыну, то дзе Вы будзеце спыняцца, каб адпачыць? А дзе Вы будзеце грэцца і прасушваць

адзенне, калі раптам трапіце пад дождж? А чым Вы будзеце падтрымліваць свае сілы?

А Вы ўмееце арыентавацца ў лесе, напрыклад, ці наогул, на мясцовасці? У мяне з гэтым слаба – магу заблудзіцца і ў знаёмых мясцінах, не гаворачы пра незнаёмыя... Але так цікава... Першаадкрывальнік... Навакольнага свету і сваёй душы... і твораў, і думак, і пачуццяў...

Алесь Сцяпанавіч, Вы жывяце зусім іншым жыццём! Вы разняволены, Вы свабодны знутры і таму, відаць, можаце ўспрымаць усю прыгажосць, усю дасканаласць і недасканаласць гэтага свету і мець стасункі з тым... У Вас вельмі абвостраныя пачуцці і розум, Вы ўмееце пражываць, "упітваць" кожнае імгненне жыцця...Ці было так заўсёды? Так складана жыць? Недаўвасоблены – так, з другога боку, усё ж такі адзінокі, бо кожны чалавек адзінокі па сутнасці, але Вы маеце стасункі з рознымі людзьмі, нават і простымі, як Вам з імі, дакладней, з намі? Вы бачыце розніцу ўсё роўна, ці не пачынаеце Вы сумаваць ужо на другой-трэцяй хвіліне размовы?

Вы пыталіся пра кнігу спадара Філатава – не, пакуль не атрымалі, відаць, яшчэ не выйшла, напішу Вам, калі яна з'явіцца ў нас, і абавязкова прачытаю артыкул пра Вашых бацькоў і сястру...

Прабачце мне, калі ласка, мноства разоў, але так цяжка было з Вамі развітвацца сёння, проста невыносна сумна, таму так атрымалася...

Усяго Вам добрага,
Галіна Іосіфаўна

**Спіс**
11.05.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Учора гутарылі – і адлегласць мела голас: ім, пакуль ён гучыць, нітуецца ўнутранае і знадворнае, а калі адгучыць – у ім супадае. Там, куды паеду, не апынуся пад шчырым небам – я яшчэ для гэтага не паспеў, і яно таксама, – аднак людзі ўсюды, я зроднены з імі з маленства, а яны з жыццём і з годам і гэтым змястоўныя, з імі мне не самотна; самыя нецікавыя істоты – знакамітыя, яны нічога не маюць, апроч сваёй асабовасці, і праз прызму гэтай асабовасці ўспрымаюць світанак і адвячорак, мець з імі справу – яе марнаваць: знакамітае для турыстаў, незнакамітае для сябе.

Дасылаю Вам спіс, у які, паводле ўмоваў конкурсу, уклаў 10 твораў (неўзабаве яго адашлю і Надзеі Аўсіевіч), але, казаў Вам, 14 – 19-гадовыя – разлом узросту, адны яшчэ юнакі-дзеці, другія юнакі-дарослыя, гэта як розныя вагавыя катэгорыі ў спорце, дзе лёгкавагавікі ў сваёй катэгорыі паказваюць не горшы, а то і лепшы вынік, чым цяжкавагавікі ў сваёй, на першае месца іх тут ставіць не выпадае, але адзначыць неяк варта, я вынес іх у дадатак: тры творы. Такім чынам, асноўны спіс (суадпаведна прапанаванай нумарацыі):

7: ...Моя дорога далека (1995)

34: За призраком мечты (1996)
52: Сказ пра вёску (1994)
103: Взгляд (1994)
106: Твой шлях (1995)
126: ...Я аднойчы прачнуся за некалькі год да світання (1996)
130: Жыццёвы шлях (1995)
143: Жыві, сонейка! (1996)
179: ...Я помню першае каханне (1996)
182: ...Клавиш касанья как воздух легки (1996)
Дадатак:
42: Мой малодшы брацік (1997)
57: Камянец (1997)
105: Мая вёска (1996)

Пакажыце, калі ласка, гэтую маю прапанову Ярыне Дашынай, а яна – каму хоча. Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Re-спіс**

11.05.12

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Дзякуй за водгук, усё зраблю, як Вы сказалі. Сёння была Надзея, абмяркоўвалі дэталі ўсіх сустрэч 18 траўня, а людзі ўжо ведаюць, тэлефануюць, заходзяць у бібліятэку, на наш сайт, – чакаем, што будзе многа чалавек, гэта і добра!

Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Сны**

20.05.12

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Вы вярнуліся дадому, відаць, стомлены, але з новымі (старымі) ўражаннямі?

Ці было (быў, была, ёсць) штосьці (хтосьці), што (хто ) зацікавіла (зацікавіў) Вас, што запомнілася, навеяла думкі, успаміны, кранула душу?

Калі прыйшла спёка, некалькі начэй запар мне снілася зіма, не так даўно зноў прыйшла ў сне, нібыта засталося нешта незавершанае, недадуманае, недаробленае, недаадчутае, неда-... гэтай зімой... А пасля сустрэчы з Вамі мне прысніўся сон, у якім былі Вы, а потым я павінна была прайсці высока над зямлёй па вузкай палосцы (нібыта цэгла выступала са сцяны) і баялася зрабіць першы крок (вельмі баюся вышыні), а потым чыйсьці голас папытаў у мяне, ці хацела б я быць 60-павярховым домам, я адказала, што не... і пайшла па той сцяне... па той вузкай палосцы з цэглы... Не ведаю, ці

дайшла, куды было патрэбна, але зрабіла некалькі крокаў... А яшчэ дачка маёй стрыечнай сястры, якая здае сесію і жыве ў мяне, разбіла шыбу ў балконных дзвярах, зараз клапачуся, як уставіць шкло, але дзіўная рэч: не было роспачы і тугі, як раней, у мяне і не было страху ў Аксаны: мы абедзве вырашылі, што гэта знак – трэба многае мяняць у жыцці, у думках, у настроі, з чагосьці трэба і пачаць...

Алесь Сцяпанавіч, дзякуй Вам за добрыя словы, за погляд, за кветкі, за ўсё!!! Буду чакаць ад Вас вестачкі, спадзяюся на наша ліставанне надалей, перажываю, што Вы хутка паедзеце на Гомельшчыну і не зможаце адказаць мне хаця б некалькімі словамі... Але, калі Вы не супраць, буду Вам пісаць, а Вы мне адкажаце, калі зможаце, добра? Як Вы сябе адчуваеце? Вандроўка не была лёгкай...

Усяго Вам добрага,
Галіна Іосіфаўна

**Фота і артыкул**
22.05.12

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Як Вы? Перасылаю Вам фотаздымкі (аўтар Чаберкус Мікалай Мікалаевіч) і артыкул з "Вечернего Бреста", магчыма, пацікавіцеся.

Алесь Сцяпанавіч, дазвольце павініцца: не перадала Вам з рук у рукі па просьбе Карын Краус буклет 5 Нямецкага Тыдня ў Брэсце, то ўчора выслалі поштай. На жаль, на рабоце не магу пісаць...

Усяго Вам добрага,
Галіна Іосіфаўна

**Дзень**
24.05.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Дзякуй за дасланае – адстароненым зрокам глядзеў на тое, у чым сам удзельнічаў: усё гэта яшчэ зусім нядаўна мела не абы-якое значэнне і ўжо застаецца ў мінулым, куды не вядзе ніводная сцежка, а кесакавы здымкі, нібы ўцелясніліся ў дрэве і ў мармуры фізічныя формулы, файныя і бязлюдныя; і ад першага, і ад другога вее нотаю жалю: глыбока-далёка дзесь адбываецца катастрофа і рэшткі таго, што ўсё мае ў сабе, выкідваюцца на паверхню, а сёння яшчэ паштальёнка прынесла нямецкі буклет.

У Сяльцы ўсёй грамадою прыйшлі на Фурштат, да хаты, якая мне доўга была сваёю, пазнаёміўся з новаю гаспадыняй, пасыходзіліся суседзі, і тое, што сярод нас быў Стэфан Эрыксан, надзвычайны і паўнамоцны пасол каралеўства Швецыі ў Беларусі, усяму надавала дадатковую вагу і сведчыла, што іншае можа быць тут і быць паўнамоцна.

Кракаў – разам кірмаш і музей, хадзілі па вуліцах і пляцах, хто хацеў, і на Вавель, у нядзелю апоўдні ў склепе на вуліцы святой Ганны адбылося шведска-беларуска-польскае чытанне (польскі сегмент увасабляў Адам Загаеўскі, з ім некалі я меў супольнае чытанне ў Нямеччыне), гутарка завязвалася і развязвалася, я засцерагаў ад накладання на рэчаіснасць усялякай схемы, кшталту "савецкі менталітэт", з якой так лёгка паводзіцца, але ў якой няма праўды; у ёй тоіцца даўняя небяспека, калі паводе мянушкі і схемы народы распадзяляюцца на гатункі, і так ужо ў гэтым кірунку зроблена шмат, "канец чырвонага чалавека", як і славута-зневажальны “савок”, хутчэй за ўсё, таксама адгэтуль. Прысутныя – шведскія пісьменніцы – пасля завяршэння падыходзілі з паразуменнем. А ў мяне міжволі ўзнікала ўражанне, што, здавалася б, самыя дэмакратычныя, яны развучыліся мець сваё меркаванне і, каб мець яго, мусяць адважвацца на гэта – мусяць адважвацца пераадольваць схемы.

А ў Брэсце вымаўляліся лёсы, і юныя творцы апыналіся перад невядомай наступнасцю: усім ім зычу трывання, радасці ў гэтым трыванні і арыентацыі на вышэйшае.

Цяпер дачытваю кнігі, што атрымаў у Брэсце: ад Леаніда Філатава – пра непаўналетніх вязняў мінулай вайны, ён укладальнік, а наклад рарытэтны, і ад Лявона Валасюка: гэта яго новая кніга прозы, у нешта ён настойліва ўглядаецца, нават гэтае нешта намацвае, а лепш за ўсё мне чыталася ш т о – яго вайсковыя зацемкі, памятлівыя і назіральныя, у іх неспадзявана натрапіў і на аднаго сялецкага хлопца.

Раней кнігі былі лодкі і караблі, цяпер больш крыгі, мы ўсё больш апынаемся ў перыядзе, калі кніга ўся рэчаіснасць, калі пісаць можна (і трэба) будзе без слоў. Але Вы, калі ласка, пішыце мне словамі і калі Вам захочацца, нават калі мяне не будзе дома, нават калі я не буду адгукацца лістом. За перыяд нашага ліставання я амаль пражыў тое, з чым быў моцна знітаваны, і як бы ўжо не маю патрэбы вяртацца да яго, спадзяюся, што і для Вас ён быў змястоўны, Вы сталі больш самаістотнаю і са стадыі пярэдадня ўваходзіце ў дзень, дзе чым менш асабістага, тым больш свайго.

Вам усяго добрага, я заўсёды непадалёку –

Алесь Разанаў

**Дзень!**

25.05.12

Алесь Сцяпанавіч, добрай раніцы!

Дзякаваць Богу, Вы ёсць! Перажываю за Вас і з Вамі... Вы разумееце (адчуваеце)... малюся за Вас і ... ... ... дзякуй за ласку – буду пісаць Вам словамі і адчуваць Вашу падтрымку ...

Алесь Сцяпанавіч, Вы ведаеце – у маёй душы да Вас, і для Вас, і для мяне, і да людзей (праз Вас) – тое, што не вымаўляецца словамі... хаця Вы кажаце (так і ёсць), што невымоўнае вымаўляецца... І гэта большае, чым

эмоцыі, пачуцці, думкі, разважанні, адчуванні, суперажыванне ... – гэта шчасце! жывая крыніца, жыццё...

Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**22 чэрвеня**

05.06.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Дзе Вы цяпер?Відаць, не дома... І надвор'е зусім не летняе...

Не пісала доўга, прабачце, хаця вельмі хацелася, – проста не было фізічных сіл: праводзілі міжнародную канферэнцыю па берасцейскіх кнігазборах і было шмат арганізацыйнай работы да прыезду гасцей з замежжа і потым, калі яны прыехалі; пакуль што працуем без выхадных (не верыцца, што такое бывае ў бібліятэцы, але для нас гэта амаль норма)... Былі цікавыя госці, выступленні, па выніках будзем выдаваць зборнік (адзін ужо ёсць – па выніках першай канферэнцыі 2008 года), госці падарылі многа кніг, якія мы не змаглі б набыць у нас, – будзем апрацоўваць і “выкладваць” на сайт, каб людзі бачылі і карысталіся. У межах канферэнцыі была прэзентацыя выставы Генадзя Мацура, каліграфа і кніжнага дызайнера з Мінску, Вы, відаць, яго ведаеце; у суботу наведвалі Музей Тадэвуша Касцюшкі і Палац Пуслоўскіх у Косаве, Палац Сапегаў у Ружанах, а таксама старажытны касцёл і праваслаўную царкву... Пад час паездкі давялося пазнаёміцца з Генадзем Іванавічам трошкі бліжэй, а яшчэ з журналістам з "ЛіМа" Дзянісам Марціновічам, сынам Алеся Марціновіча, Вы знаёмыя? Не буду пералічваць знакамітых гасцей і тэмы іх даследаванняў (калі зацікавіцеся, то паглядзіце Праграму), скажу толькі, што быў Нікалаеў Мікалай Віктаравіч, аўтар кнігі "Беларускі Пецярбург", двухтомніка "Гісторыя беларускай кнігі" і інш., і іншыя цікавыя людзі, а сабрала іх разам ужо другі раз Ала Міхайлаўна, якая адорана не толькі прыгажосцю, а і вялікім розумам, можна сказаць, дзяржаўным, ну а мы ўсе – у дапамогу ёй і ў выніку – на карысць кніжнай, бібліятэчнай, гістарычнай, культурнай і духоўнай справе, калі можна так сказаць, на Беларусі...

Алесь Сцяпанавіч, як Вы? Зможаце адгукнуцца ці пакуль што не? Буду чакаць і пісаць Вам, добра? Прабачце за "раскіданы" ліст – яшчэ не цалкам вярнулася... Бачыце, не сказала самае галоўнае: 22 чэрвеня ладзім са спадаром Філатавым прэзентацыю кнігі, якую Вы чыталі, – ці зможаце Вы прыехаць? Пачатак у 16.30... Трошкі пазней напішу падрабязней...

Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Знешняе?**
18.06.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Не ведаю, дзе Вы цяпер, але памятаю і адчуваю, што сапраўды непадалёку...

Хутка прэзентацыя кнігі: разам са спадаром Леанідам, Раманенка Людмілай Пятроўнай, якая ўзначальвае Брэсцкае аддзяленне арганізацыі малалетніх вязняў фашызму, Святланай Варонік, якая будзе весці імпрэзу, і Ярынай Дашынай, якая рыхтуе выставу, – займаемся, кожны па сваім напрамку, падрыхтоўкай да гэтага мерапрыемства. Кнігу чытаць, з аднаго боку, проста, таму што яна дакументальная, а з другога, – вельмі цяжка чытаць пра мукі людзей, дзяцей, перажываць усё... Як страшна: колькі ў чалавеку звярынага, а нават і не звярынага, – хіба звяры катуюць? яны забіваюць адразу, а людзі? Так, людзі былі і ёсць розныя і кожны робіць свой выбар: дапамагчы, рызыкуючы жыццём (сваім, сваіх дзяцей і блізкіх) – у той час, а зараз – нейкімі матэрыяльнымі рэчамі, ці стаць здраднікам, апраўдаць сябе нейкім чынам, а як быць са сваёй душой, куды ад яе падзецца?

6-7 чэрвеня быў у Брэсце Часовы паверaны ў справах ЗША у Рэспубліцы Беларусь Майкл Скэнлан. У яго канчаецца тэрмін службы, і ён вырашыў прыехаць у Брэст, каб пабыць на мюзікле, які паставіў амерыканскі рэжысёр з беларускімі артыстамі (з боку ЗША была выдзелена нейкая вялікая сума грошай), і падарыць абласной бібліятэцы каля 50 кніг са сваёй асабістай бібліятэкі, а таксама барэльеф з выявай Тадэвуша Касцюшкі. Дзякаваць Богу, чыноўнікі дазволілі яму быць у аддзеле абслугоўвання дзяцей і юнацтва нашай бібліятэкі, што знаходзіцца ў другім, больш прэзентабельным будынку, а ў наш будынак не пусцілі... Усё вырашылася за 2 гадзіны да яго візіту... Дазволіць ці не? Я гэтага не разумею... Ніякай палітыкі, размова толькі пра кнігі і чытачоў... Так, Інфармацыйны цэнтр Пасольства ЗША падарыў нашай бібліятэцы за час супрацоўніцтва кніг і дыскаў на суму (ён яе назваў) 47 тыс. даляраў, зараз праплацілі нам падпіску на англійскай мове, з 2001 па 2012 год аплачвалі інтэрнэт – колькі жыхароў Брэста навучыліся за гэты час працаваць на камп'ютары і карыстацца інтэрнэтам. Што тут дрэннага? Вось такія навіны...

Лета! Сёння патэлефанаваў а. Ігар – даўно не была на службе... і сама адчуваю, што занадта аддаюся знешнім абставінам, што час трачу не на тое, што дарма – нейкую карысць прыношу, – але патрэбна засяродзіцца і думаць пра іншае, чытаць Біблію...

Як Вы, Алесь Сцяпанавіч?

Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Людзі**
01.07.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Вы дазволілі – пішу... 22 чэрвеня ладзілі прэзентацыю кнігі ўспамінаў непаўналетніх вязняў фашызму, Вы ведаеце... Кніга пакуль "не адпусціла", нават не кніга, а перажыванні і думкі, якія яна ўскалыхнула... Не магла чытаць без слёз, перажывала, не давала спакою пытанне, чаму не проста забівалі (хіба можна проста забіць?), а катавалі, здзекаваліся, прыніжалі, стараліся знішчыць чалавечае ў чалавеку... На выставе, якую рыхтавала Ярына Дашына, было многа матэрыялаў пра канцлагеры, пра людзей у іх... І быў артыкул з часопіса "Гео": "Что делает людей фашистами", здаецца, такая назва, – у ім спроба асэнсаваць і знайсці нейкае тлумачэнне, найперш, псіхалагічнае... Там напісана, што за адказ забіваць мірнае насельніцтва ніводны нямецкі салдат ці афіцэр не быў пакараны, а не тое, што расстраляны... А яшчэ амерыканцы ставілі эксперымент: добраахвотнікаў дзялілі на 2 групы: зняволеных і надзірацеляў, мера пакарання – разрад току... эксперымент спынілі да тэрміну, бо меру пакарання прымянялі ўсе... і іншыя страшныя рэчы і факты...

Вяла прэзентацыю Святлана Варонік – зрабіла гэта вельмі тонка, далікатна; людзі, якія прыйшлі, стараліся многа не ўспамінаць, – зразумела, што цяжка, – было відаць, што і астатняе жыццё не было ў іх лёгкім.... Добра гаварылі Леанід Філатаў, Алесь Каско, Генадзь Праневіч, Эдуард Акулін, Анатоль Гарай, Іван Мельнічук... Узгадвалі Вас і Вашу сям'ю, Васіля Сёмуху... Маладых людзей было нямнога – з лагера адпачынку з Мухаўца; студэнтаў абяцалі, але не прывялі, – яны слухалі, не зварухнуўшыся, глядзелі на экран, дзе былі выявы тых лагераў ды фотаздымкі дзяцей за кратамі, што знайшоў для кнігі Ігар Бараноўскі... Кіраўнікі раённых аддзяленняў, – а былі людзі з Маларыты, Століна – гаварылі пра тое, што яны павінны пра ўсё, што было, расказаць людзям, маладым, што гэта іх абавязак перад сабой і перад тымі, хто загінуў...

Чыноўнікі праігнаравалі сустрэчу, хаця і былі запрошаныя, тэлебачанню і журналістам многіх газет не дазволілі прыйсці... Галоўнае – кніга ёсць! Ярына напісала інфармацыю на нашым сайце – www. brl.by, ёсць фотаздымкі і крыніцы, дзе былі надрукаваныя водгукі...

Сёння была на парафіяльным свяце: служылі архімандрыт а. Сяргей Гаек і а. Ігар. Было святочна, многа людзей, дзяцей, нават двое маладых людзей з Нігерыіі (вучацца ў Мінску) – іх папрасілі заспяваць, і яны вельмі прыгожа праспявалі песню-малітву, а потым незнарок заўважыла, што яны выціралі вочы... Можна ўявіць іх перажыванні... Усё ж такі ў другой краіне...

Алесь Сцяпанавіч, дзе Вы, у якой краіне?
Усяго Вам добрага,
Галіна Іосіфаўна

**Дзень шведскай і беларускай літаратуры ў Брэсце**
26.09.12

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Як Вы, дзе Вы, што адбываецца з Вамі? Даўно збіраюся напісаць і – не атрымліваецца, здаецца, што гэта не будзе Вам цікава і толькі забярэ Ваш час...

Патрэба падзяліцца з Вамі пачуццямі, сумненнямі, думкамі ў мяне ёсць, згадвала Вас ці не кожны дзень, але напісаць не асмельваюся... А сёння прашу Вас, калі можна, напісаць пра ўражанні Дня шведскай і беларускай літаратуры: што зацікавіла, што (хто) кранула (крануў)... Хацелася б, каб Вы напісалі менавіта пра гэты дзень у Брэсце, але калі ён не надта ўразіў, то пра іншыя дні вандроўкі, – будзем Вам вельмі ўдзячныя!

Больш за 10 гадоў бібліятэка выдае інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь "Бібліяпанарама", рыхтуецца да друку 16-ты нумар. У ім, як і ў папярэдніх, змяшчаюцца матэрыялы тэарэтычнага і практычнага характару, вопыт работы і інш. Ёсць рубрыка "Падзея", дык вось менавіта для яе мы з Надзеяй Аўсіевіч (яна са шведскага боку, а я з беларускага) збіраем уражанні ўдзельнікаў для вялікага артыкула з арыгінальнымі тэкстамі пісьменнікаў, вершамі пераможцаў конкурсу, даведкай аб супрацоўніцтве і вандроўцы. "Бібліяпанарама" высылаецца ва ўсе абласныя, гарадскія і раённыя бібліятэкі Брэсцкай вобласці, Нацыянальную бібліятэку Беларусі, нашым партнёрам за мяжу. Матэрыялы можна было б выкарыстаць для абласнога і рэспубліканскага, а можа, і замежнага друку.

Алесь Сцяпанавіч, калі гэта магчыма зрабіць, то было б вельмі добра, каб прыкладна да 10 кастрычніка (прабачце, калі ласка, тэрмін звязаны з вёрсткай нумара)... Усяго Вам добрага, буду шчаслівая атрымаць ад Вас ліст,

Галіна Іосіфаўна

**Сялецкія здымкі**
04.10.12

Галіна Іосіфаўна, добры вечар!

Адгукаюся – дасылаю сялецкія здымкі: што прыдатна – бярыце, што не – проста паглядзіце. Але тое, што ў Сялец наведалася такая нестандартная грамада на чале з такім нестандартным амбасадарам, для сялецкіх людзей сталася – і стаецца – падзеяй.

Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**Імгненні**
07.10.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Дзякуй вялікі за дасланыя здымкі – яны добрыя і кранаюць душу... Ваш погляд такі розны: то вясёлы, то напружаны, то засяроджаны, то адсутны, накіраваны ўглыб сябе... Я нават заплакала... А твары ў людзей адкрытыя, светлыя, зацікаўленыя, добразычлівыя...

Алесь Сцяпанавіч, калі Вы бываеце ў Сяльцы, Вы вяртаецеся ў мінулае? Ці мінулага няма... Як Вы гэта перажываеце? – недакладна пытаюся, але, думаю, Вы разумееце мяне...

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Сёлета**
15.10.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Калі пачынае не хапаць нечага аднаго, тады ўсё астатняе пачынае рабіцца лішнім, і гэта мы самі ( і таго, чаго не хапае, і тое, што лішняе), але дарога дапамагае трымаць раўнавагу, а мэту – сонца, нават калі наваколле ў імгле. Вы пытаецеся пра Сялец – сёлета наведаюся яшчэ раз, на пачатку лістапада, калі паеду ў Бярозу на 70-годдзе сястры: у ім зберагаюцца скарбы. А з таго боку Белаазёрск – асяродак, заглыблены ў даўніну і ўжо ў вечнасць. Там сустракаюся з Нінай Мацяш (у вечнасці няма мінулага часу), з Галінай Скарына і Марыяй Новік – быць ім сваім свята. З тых краёў і Тэкля (“Паэма сланечніка”) – з ёй я зрадніўся вельмі. У Тэклі і Ніны глыбокія рысы падабенства, і калі Ніна наведвала яе, пэўна, заўважыла гэта. Ды і ў самой Бярозе ёсць даўнія, са школьных гадоў, знаёмствы, якія шмат што зберагаюць: Яўген Сяленя, што прысвяціў сябе журналістыцы і раённай газеце, найперш.

У Вас пра Вас нічога не пытаюся, проста адчуваю: цепліцца свечка.

Як заўсёды, Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**P. S.**
17.10.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Вы, як заўсёды, адчулі мой стан... так і ёсць... А плакала... – баюся, што не змагу выказаць словамі... нейкая шчымлівая нота ва ўсім, і Вашыя вочы, якія глядзяць у мінулае (будучае?), і людзі, хто памятае Вас і Вашых родных, і шведы, і другія госці, – у іх вачах засяроджанасць, павага, нейкая адкрытасць таму, што дзеецца, а Ваша постаць – у цэнтры... І Ваша аблічча,

і абліччы вяскоўцаў – такія родныя, такія блізкія і адначасова далёкія: і рэальныя, і як бы адстароненыя...

Ну, а дзе вясёлыя ўсмешкі, радасць, – тут як бы ўсе перажываюць адно пачуццё, усе усміхаюцца альбо смяюцца, – і я ўсміхаюся, і на сэрцы становіцца цяплей, але і трывожна, асабліва за тых дзетак: як ім будзе ў жыцці?.. А яшчэ дом і надворак, у якіх другія гаспадары... А яшчэ: трава ўжо зялёная, але адчуваецца халоднае паветра... І людзі блізка адно да аднаго, нібыта захінаюцца не толькі ад холаду, але і ад нейкай касмічнай адзіноты...

Алесь Сцяпанавіч, нагаварыла Вам і зноўку паплакала, але не моцна... Можа, мне так падалося – і тады, калі першы раз паглядзела здымкі, і цяпер...

Памятаеце, казала Вам, што люблю восень? Зараз так не сказала б...

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**P.S.**
16.10.12

Чаму Вы плакалі?

**Буда**
18.10.12

Адесь Сцяпанавіч, добры дзень!

А на што (нешта, каго) звярнуў Вашу ўвагу Буда гэтым разам, калі не сакрэт?

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Кветка**
19.10.12

Ні на што
і ні на каго –
адно на самога сябе;
на таго самога сябе,
які яшчэ не мае імя і абліччa
і настае з самой істоты чалавека –
як распускаецца кветка,
ці гэта лотас, ці лотаць.
Ехаў тралейбусам з Малінаўкі ў цэнтр –
і таму што ёсць Буда,
таму што ёсць Хрыстос,

таму што ёсць Крышна,
адчуваў з людзьмі роднасць.
Вышэйшае яднае,
ніжэйшае раз’ядноўвае,

а Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**P. S.**
21.10.12

І чым адрозніваецца гэтая восень ад папярэдніх?
Што ўзялося і што пакінулася?
Што не ўзялося і што не пакінулася?
А. Р.

**P. S.**
23.10.12

Алесь Сцяпанавіч, добрага дня!

Раней бачыла прыгажосць ранняй восені (бачу і зараз), і было адчуванне павольнасці, заспакаення, правільнасці таго, што адбываецца з прыродай, было шкада, але не так востра, як зараз...

Познюю восень успрымала вонкава і на фізічным узроўні – цёмна, вільготна, шэра – і толькі зараз адчула той стан, пра які Вы гаварылі: я засяроджаны... – адпадае знешняе і, сапраўды, засяроджваюся на ўнутраным; перажыванні і думкі, здаецца, больш глыбокія – вясной і асабліва летам – не так – тады больш прыгажосці ў прыродзе і неяк больш радасна адгукаешся на ўсё, сапраўды хваляванне ў крыві – жывеш, як частка прыроды, хаця гэта не значыць, што не думаеш альбо не перажываеш... На жаль, недакладна Вам распавядаю, але Вы разумееце, праўда?

Прырода як бы бярэ паўзу, каб з новымі сіламі квітнець і пладаносіць, а ў чалавека, наадварот, актывізуецца ўнутранае жыццё, мне так адчуваецца... А чаму наадварот? – не, чалавек таксама збіраецца з сіламі, каб жыць далей, каб удасканальвацца, жыць у згодзе з сабою (кожны раз розным, невядомым нават для самога сябе) і са светам...

Відаць, мае разважанні трошкі дзіцячыя, але Вы запыталі, вялікі дзякуй, і пагаварыць пра гэта магу толькі з Вамі... І вельмі Вам удзячная за ўважлівасць і цярпенне!

Усяго Вам добрага,
Г. І.

**Суперфасфат**
24.10.12

Няма людзей без памылак, яны іхнія спадарожнікі на іхніх дарогах, і адно тады, калі дарога на самой справе становіцца пройдзенай, адступаюцца і яны. Грахі – таксама памылкі, і месца ім у мінулым, хоць яны яшчэ не згаджаюцца з гэтым. Яны мусяць засохнуць, адпасці, адмучыцца, зрабіцца глебаю і суперфасфатам для будучай кветкі – у гэтым іхняе асноўнае прызначэнне.

Вы дарэмна сябе не дакарайце мінулым, яно ўжо ў перапрацоўцы, лепш майце радасць у тым, што мае настаць. Заўтрашні святы сёння ідзе да шаўца, каб дабраць той якасці, якой ён яшчэ не авалодаў.

Буда – хто абудзіўся.

Вам усяго добрага –

А. Р.

**Віншаванні**
05.12.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Прыміце, калі ласка, мае шчырыя віншаванні з днём Вашага нараджэння і пажаданні здароўя, творчага плёну, радасці пазнання...

Хацела Вам патэлефанаваць, але не атрымалася – сёння на працы быў мітуслівы і напружаны дзень... Як Вы? Ці ўсё добра? Буду вельмі рада, калі адгукнецеся... Павольна, але вяртаюся да рэчаіснасці, – нешта зацягнулася мая адсутнасць... Вам – самыя добрыя зычэнні ад усіх нашых супрацоўнікаў і чытачоў, знаёмых і незнаёмых!

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Не прападайце, калі можна**
19.12.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Як Вы? Як зіма? Мы "выставілі" на наш сайт сабраныя матэрыялы (уражанні ўдзельнікаў і арганізатараў аб Дні шведскай і беларускай літаратуры-2012). Там ёсць і Ваш ліст, і сялецкія здымкі... Магчыма, Вам штосьці не спадабаецца, то скажыце, – паправім...

Не прападайце, калі ласка, калі гэта магчыма...

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Не прападаю**
20.12.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Не прападаю – адшукваюся, а зіма гэтаму спрыяе, яна шчодрая: усё адымае, каб вярнуць тое, што і наймення не мае. Азнаёміўся з тым, што Вы даслалі, – людзі дзеляцца з тымі, хто гэта чуе, пражытым і перажытым, ну а сялецкія здымкі даюць прастору вачам. Адна заўвага: не пішыце, калі ласка, каля майго прозвішча шмат азначэнняў (пісьменнік, перакладчык, эсэіст), яны таўталагічныя, і чым іх больш, тым менш яны значаць. Напішыце: паэт – гэтае азначэнне змяшчае ўсё.

Прывітанне сябрам і знаёмым. Радуйцеся святам, што настаюць, свята, што настае, радуйце самі.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Не прападаю**
25.12.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Хочацца Вам напісаць, расказаць, запытацца, але…Усе мае пытанні пра адно і тое, – пакуль сама не разбяруся... Вы мне столькі дапамагалі, падказвалі, мне здаецца, што турбую Вас, можа, нават, перашкаджаю... У душы і ў галаве сумбур... і разгубленасць... нават заўважаю гэта ў сваіх паводзінах... Прыкладна так, як чалавек, які не ўмее катацца на каньках, выходзіць на лёд і не можа стаяць (не гаворачы пра тое, каб катацца, пажадана прыгожа), а хістаецца ва ўсе бакі, робіць шмат лішніх рухаў, і бачыць сябе як бы з боку сваімі вачыма і вачыма іншых людзей, бачыць, як гэта смешна выглядае і... яму сорамна... і ў яго апускаюцца рукі і плечы... Можа, гэта ўзроставае? Гавораць, што чалавеку столькі гадоў, на колькі ён сябе адчувае...

Не перастаю здзіўляцца гэтаму свету, бачу добрае і прыгожае ў людзях, да ўсіх стаўлюся з павагаю і стараюся дапамагаць і рабіць прыемныя рэчы, але... але бывае, што накаціць такі адчай, безвыходнасць, бессэнсоўнасць усяго, што робіш, што адчуваеш, – не вытрымаць...

Алесь Сцяпанавіч, разумею, што ўзрост – ніякая не перашкода для духоўнага развіцця і росту, але: ці былі ў Вас перажыванні, звязаныя з узростам? А можа, узрост тут зусім ні пры чым?... А пры чым тое, што перачытала ў гэтыя дні "Цынкавых хлопчыкаў" і "Чарнобыльскую малітву" (не збіралася, але нібы нехта настойліва казаў, каб узяла) – і перажывала разам з героямі і адчувала бездапаможнасць чалавека ў гэтым свеце?.. Больш пытанняў, чым адказаў...

Стараюся радавацца – трэба толькі дазволіць сабе гэта...

Усяго Вам добрага, – Галіна Іосіфаўна

**Захацець і паклікаць**
26.12.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

"Пытанняў больш, чым адказаў"?.. Пытанні – зёлкі, гэтак натура распазнае свет, іх ніколі не дастаткова, і яны заўсёды недастатковыя, але яны ёсць таму, што ўжо загадзя ёсць адказ, яны ўзнікаюць з адказу. Больш за тое – яны даведкі пра той стан і пра тое месца, дзе апынаецца чалавек, яны нагадваюць яму пра нешта, што застаецца па-за ягонай увагай.

Чаму Вы думаеце, што цяжкі стан – гэта не т о е, што маем мець, і што бязвыйсце – не т о е, дзе мусім апынацца? А можа, якраз усё наадварот? Можа, якраз гэта магчымасць і прапанова, інакш бы яно (т о е) не звярталася да нас, можа, якраз яно нясе набытак і вядзе выйсце, а мы настойліва, усёю сваёю вагою, ухіляемся ад яго і ўсёю сваёю ўвагай адварочваемся.

Паспрабуйце з а х а ц е ц ь таго, што прыходзіць само, – цяжкага стану, паспрабуйце п а к л і к а ц ь тое, што не мае каардынатаў, – бязвыйсце, пайсці ім насустрач, і тады ўбачыце, што атрымаецца. Усё жыццё пераходны перыяд, адно не ўпадайце ў роспач, адно не ўхіляйцеся ад дадзеных Вам – і толькі Вам – магчымасцяў, а адкрывайце ў іх адрасаваны Вам змест. Не трэба падводзіць сябе пад пэўнае лякала і паводзіць сябе паводле намаляваных уяўленняў, дазвольце сабе быць такою, якою Вы ёсць цяпер, ні лепшай, ні горшай, але з адкрытым гэтаму тварам. Мы ў працы і ў змаганні – дазваляйце працаўніку працаваць, а ваяру змагацца. Ведаю людзей, якія, калі загадваюць сабе быць добрымі, пачынаюць спатыкацца на роўным месцы, і ад якіх, калі яны дужа настойліва пачынаюць прапаведаваць прынцып любові, слухачы адварочваюцца. У чалавеку ёсць усё, але ў адпаведным яму стане, а ён чытае тое, што яму хочацца. Навошта яму хочацца тое, што яму хочацца?

Вось, Галіна Іосіфаўна, нагаварыў Вам майсеяў і начытаў лявітаў, нібы самому сабе. А на завяршэнне дадаю адно з "залатых правілаў", якое недзе некалі вычытаў і якое час ад часу прымерваю на сабе: "Выкарані ў сабе жаданне жыць". Дзівоснае правіла: удыхніце яго – і тады міжыншае пачне мінаць, а заўсёднае наставаць і заставацца.

Вам усяго добрага.

Адгукайцеся, задавайце пытанні і шматкроп’е запаўняйце словамі.

Алесь Разанаў

**Захацець і паклікаць**
29.12.12

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Вельмі Вам ўдзячная, нават настрой змяніўся. Не, не буду ўпадаць ў роспач і паспрабую, як Вы напісалі, не ўхіляцца ад дадзеных мне – і толькі мне – магчымасцяў, а адкрываць у іх адрасаваны мне змест...

Алесь Сцяпанавіч, Вы зазірнулі ў глыбіню маёй праблемы ці стану, ці... не ведаю, як назваць, – да гэтай пары не змагла прыняць сябе такой, якая я ёсць, пачынаючы са знешняга вобліку і заканчваючы тым, што ўнутры... Не, не падводжу сябе пад пэўнае лякала і паводжу сябе згодна сваіх уяўленняў, але амаль што кожны дзень у стасунках ці ў размовах з людзьмі адчуваю, што не зусім такая, як яны... Разумею, што гэта ні добра, ні дрэнна, але амаль кожны раз гэта дае мне адчуванне нейкага дыскамфорту, нібы не спраўдзіла чыесьці надзеі... Можа, гэта з дзяцінства, псіхалагічнае – чаканне, каб цябе калі не пахвалілі, дык хаця б проста заўважылі; можа, слабая дысцыпліна розуму, ці слабы розум, можа яшчэ што... Не, не раблю, як іншыя, калі не згодна з імі; не іду на паваду, як гавораць, але... Відаць, кожны чалавек знаходзіцца на той ці іншай ступені свайго развіцця, а паколькі яны розныя, то так і атрымліваецца... Але чаму стаўлю сябе ніжэй за іншых, так правільна? Гэта мяне прыгнятае – да ўсіх грахоў, пра якія мы з Вамі гаварылі, дадаецца яшчэ адзін: па нейкіх прычынах не прымаю тое, што дае чалавеку Бог разам з жыццём: непаўторнае аблічча і непаўторную душу? Заблыталася...

Алесь Сцяпанавіч, не падумайце, калі ласка, што ў папярэднім лісце пахвалілася, маўляў, такая добрая і інш., не – усялякая, розная, як усе, згодна з Вамі...

А навошта чалавеку хочацца тое, што яму хочацца?

Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**На цяпер і на пазней**

31.12.12

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Яшчэ год не скончыўся, і, як усё папярэдняе, ён у недаздзейсненым. Людзі марудзяць і адкладаюць сябе на потым, хоць адно ў здзейсненым знаходзяць сваё завяршэнне год і дарога. Адзінкавыя, мы ў множным, і кожны – людзі, і вось замест верша я Вам пішу гэты ліст і маю просьбу. Праглядаў днямі зноў шведска-беларускі часопіс на бібліятэчным сайце – і ў тое, што змясцілася на маёй старонцы, напрошваюцца ўдакладненні, а менавіта: P. S. Фотаздымкі ад Марыі Сёдэрберг, Аксаны Спрынчан і Алены Казловай. Гэта ў дадатак да змешчанага там ліста. А таксама, раз Вы не адбіралі, а змясцілі ўсе дасланыя здымкі, дадайце дзеля панарамнасці і раўнавагі і гэтыя, што дасылаю цяпер, а то атрымліваецца перанахіл у бок адной асабовасці – маёй.

Хацець – вяртаць зямное зямному, а нябеснае – нябеснаму (Васіль Жуковіч сказаў бы: нябёснае нябёснаму; ён умее бачыць сны, і яго пранікнёныя радкі “Ах, не давай ты мне горычы лішняй, слодычы лішняе сам не вазьму” набягаюць на памяць).

Вам усяго добрага на цяпер і на потым –

Алесь Разанаў

**Сялецкія здымкі**
02.01.13

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень у Новым Годзе!

Вам – найлепшыя пажаданні і ўдзячнасць!

Паглядзіце, калі ласка: дадалі здымкі і прозвішчы іх аўтараў у самым пачатку, адзінае, – усе яны, калі да іх падводзіш курсор, падпісаны аднолькава: "Алесь Разанаў. Сялецкія здымкі". Калі Вы хочаце, можна падпісаць кожны фотаздымак, тады патрэбны прозвішчы людзей. Ці як лепей, як Вы думаеце?

*
Цямнее:
пара
запальваць ліхтары.
Цяжчэе:
пара ўсміхацца.

Усміхаюся... Усяго Вам добрага.

Г. І.

**Застаюцца людзі**
03.01.13

Дзякуй! Словы дадаліся, аблічча і постаці ўпісаліся ў сялецкае грамадзянства: больш няма з чаго дадаваць і ўдакладняць няма куды. Гэта ўжо мінулае, а ў ім застаюцца людзі, зелянее трава, цвіце бэз, і кожны становіцца ўсім.

Будзе набягаць хваля – падавайце голас, а душы ўсё адно дазваляйце вызваляцца. Самота не канчатковы стан, і чым яна глыбейшая, тым, пэўна, бліжэйшае выйсце.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Застаюцца людзі**
04.01.13

Алесь Сцяпанавіч, дзякуй!

Удзячная Вам бязмерна і даруйце, калі ласка, калі што не так... З Вашага дазволу, калі не змагу маўчаць і можна будзе падзяліцца толькі з Вамі, буду падаваць голас...

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Нямецкі тыдзень у Брэсце**
11.09.13

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!
Шчыра вітаю Вас!
18-27 кастрычніка ладзім 7-ы Тыдзень нямецкай мовы і культуры ў Брэсце, будзем вельмі рады і ўдзячны Вам, калі Вы зможаце прыехаць да нас на вечарыну ці прэзентацыю кнігі ў любы з гэтых дзён, а найбольш пажадана, каб гэта былі выхадныя : суботы 19, 26 ці нядзелі: 20, 27. Калі не атрымліваецца ў гэтыя дні, то, калі ласка, прыязджайце, калі Вам зручна, – заўжды Вас чакаем, помнім і любім!
Усяго Вам добрага,
Г. І.

**26**
18.09.13

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!
Нарэшце падаю голас, акалічнасці ніяк не маглі акрэсліцца, і я быў – і яшчэ ў нейкай меры застаюся – залежны ад іх. Вам дзякуй за вымаўленыя словы, буду арыентавацца на тое, каб 26 верасня паўдзельнічаць у Тыдні і, карыстаючыся нагодай, пабыць у сваім асяродку.
Вітайце людзей, Вам усяго добрага!
А. Р.

**26**
22.09.13
Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!
Прабачце, калі ласка, што не адразу адказваю, – трошкі захварэла (зараз усё наладжваецца)... Дзякуй Вам вялікі, вельмі добра! Абавязкова перадам Вашыя прывітанні, будзем спадзявацца, што надзеі спраўдзяцца...
Усяго Вам добрага.
Г. І.

**Такая пара**
22.09.13

Галіна Іосіфаўна, добры вечар!
Што наплыло і што адплывае? Такая пара і такая рэчаіснасць, што з людзьмі ўсё здараецца, адно б памылкі не бралі верх над справай і іншароднае не ўнетрывалася ў жыццё. А я ўдакладняюся: хутчэй за ўсё, прыеду ў Брэст не 26, а 27 верасня, на завяршэнне Тыдня, і, хутчэй за ўсё, разам з супрацоўнікамі Гётэ-інстытута. Праз дзень-другі яшчэ раз скажу пра гэта.

Вітайце людзей, да сустрэчы!
А. Р.

**Такая пара**
24.09.13

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Перачытала Ваш ліст і спалохалася: не верасня, – кастрычніка! Магчыма, я не так напісала, ці Вы думалі пра кастрычнік, а напісалі верасень, – так ці інакш, а правільна будзе кастрычнік.

Прабачце, калі ласка, калі ўвяла Вас у падман! Хаця было б добра, каб Вы прыязджалі да нас часцей...

Усяго Вам добрага,
Г. І.

**Удакладняцца**
24.09.13

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Будзем удакладняцца – вяртацца на месца, я і на самой справе блытаўся ў разнабоі дзён і датаў, і яшчэ сёння гутарыў з супрацоўнікамі Гётэ-інстытута аб падарожжы ў Брэст, намерваўся зноў удакладняцца з Вамі, а Вы спахапіліся самі, і ў нас апынаецца месяц падоранага часу, тады зверым гадзіннікі зноў.

Калі тое, што было, перабягае дарогу – кажыце; істотнае ўнутры і збірае нас, і яно пэўным чынам не залежнае ад таго, што з намі здараецца. Людзі гавораць пра сябе ў мінулым часе, але мінулымі для сябе не ёсць. На мінулым тыдні не стала Віктара Маркаўца: памылка, якую немагчыма выправіць, а яму немагчыма паправіцца, – ён быў мне блізкі, хоць у апошнія гады і не без прабоіны ў стасунках, а цяпер становіцца сваім.

Вам усяго добрага –
А. Р.

**Удакладняцца**
27.09.13

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Добра, будзем удакладняцца, месяц падоранага часу – узнагарода!

Алесь Сцяпанавіч, у мяне важная навіна, перш за ўсё для мяне самой... – я закахалася... Так сталася, што апошні час і не жыла мінулым, і не спадзявалася на станоўчыя змены ў будучым, перажывала стрэсавую ўзроставую і прафесійную сітуацыю, трывожылася за родных і блізкіх, жыла, як у кокане, сама да сябе "дастукацца" не магла, рукі "апускаліся", была падобная на робата, а не на чалавека, не на жанчыну... А тут такое...

Пацягнулася насустрач промням дабрыні, гумару, далікатнасці, годнасці, удзелу ў маім жыцці, – такога шчасця даверу другому чалавеку, а тым больш мужчыне, у мяне не было...

Не, было, канешне, было! – калі пісала Вам і чытала Вашыя лісты... Дзякуй Вам! І сапраўды: "Людзі гавораць пра сябе ў мінулым часе, але мінулымі для сябе не ёсць".

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**О!**

30.09.13

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Сонечны, прыгожы, празрысты, каляровы, радасны, хвалюючы... Ці знаходзіце Вы час пабыць з прыродаю?

Вялікі Вам дзякуй, што падтрымліваеце мяне ў радасці! Буду адгукацца! Прывітанне Вам ад Карын, яна даслала расклад руху цягнікоў з Мінска да Брэста на 26 і 27 кастрычніка, – перасылаю Вам.

Паглядзіце, калі ласка, і скажыце: ці патрэбны Вам гатэль; а каторай гадзіне рабіць сустрэчу і як правільна гэтую падзею назваць, – радасць сустрэчы з Вамі, радасць адкрыццяў і шчырасці ўкласці ў адзін радок Праграмы Нямецкага Тыдня? – Прэзентацыя кнігі-білінгвы "Гліна. Камень. Жалеза" (па-беларуску і па-нямецку), альбо... Ці хацелі б Вы, каб Вас сустрэлі? Можа, кагосьці запрасіць асабіста, каго не запрашалі раней?

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Між колішнім і наступным**

30.09.13

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Прырода збірае ў карціны тое, што ў безназоўным стане жыве і адбываецца ў нас, у ёй мы адкрываемся і ёй спавядаемся, яна разумее нас адпачатку, з намі радуецца і смуткуе і, як само чалавечае жыццё, змяшчае ў сабе канцы і пачаткі: ну так, ну так, услухоўваюся ў яе і ўглядаюся, амаль усе пункціры ўзышлі ў размове з ёю.

Карын маё шчырае прывітанне, перад тым як сустрэцца, давайце скоратку разам абмяркуем праграму сустрэчы. Пэўна, у аснову праграмы варта пакласці кнігу "Гліна. Камень. Жалеза": бібліятэка ўжо атрымала заказаныя асобнікі? Калі так, ладзім прэзентацыю, а Вы з Карын, калі ласка, знаходзьце тых, хто зможа ў ёй удзельнічаць. Са свайго боку, я хацеў бы, каб на ёй аб’явілі сваю прысутнасць берасцейскія літаратары ды прынялі ўдзел філолагі з універсітэта Генадзь Праневіч, Святлана Варонік, Марыя Новік – сябрына, з якой здружаны даўно. А таксама Яўген Бяласін – для яго

нямецкая мова другая свая, і ён можа доказна аналізаваць тое, што ёсць у кнізе.

Папярэдне зноў спыняемся на ўжо аднойчы названай даце, на субоце, што 26 кастрычніка. Для Карын, для Вас і для выкладчыкаў універсітэта гэта прыймальны дзень? У Гётэ-інстытуце таксама плануецца прэзентацыя, але пасля берасцейскай, і плануецца яна як больш-менш вольная размова з удзелам мовазнаўцаў і літаратуразнаўцаў.

Што да назвы, то, відаць, лепш за ўсё ўзяць які-небудзь (не-будзь-які) радок з кнігі, накшталт: "Між колішнім і наступным" (Zwischen Einstigem und Künftigem), с. 50. А распачынаць мерапрыемства, як гэта адбывалася і раней, у другой палове дня. Пасуе? Згаджаемся? Будзем узаемаўдакладняцца і далей.

Вам усяго добрага –
Алесь Разанаў

**Між колішнім і наступным**
30.09.13

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Так, згодная з Вамі... На жаль, маем пакуль што адну кнігу, але заказалі яшчэ. Так, канешне, будзем запрашаць усіх, каго Вы назвалі. Радок з кнігі для назвы прэзентацыі – вельмі добра. 26 кастрычніка – пасуе, толькі Карын палічыла, што другая палова дня пачынаецца з 12 гадзін... То, калі ласка, давайце ўдакладнім, калі: 12, 14, 15-га ці пазней? Калі я правільна зразумела, Вы хацелі б вярнуцца дадому ў гэты дзень, так што гатэль заказваць не патрэбна, так?

Алесь Сцяпанавіч, названая дата для нас з Карын прыймальная, думаю, што і для выкладчыкаў універсітэта таксама, магу заўтра ўдакладніць. Толькі... Генадзь Праневіч і Марыя Новік ва ўніверсітэце больш не працуюць, напэўна, Вы ведаеце пра гэта... Падрабязнасцяў не ведаю, а толькі ў Генадзя Мікалаевіча быў інсульт, і ён пакуль што на людзі не выходзіць, а Марыя Іванаўна, дзякаваць Богу, у парадку. Наогул, там ідуць вялікія скарачэнні... Святлану Варонік, Яўгена Бяласіна і літаратараў запросім абавязкова!

Добра, будзем удакладняцца і далей, усяго Вам добрага,
Галіна Іосіфаўна

**Пахі**
01.10.13

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Тое, што Вы сказалі пра Генадзя Праневіча і Марыю Новік, мне ў навіну. Без іхняй прысутнасці ўніверсітэт відавочна збяднее, а мне дык і пачужэе – яны мне былі ў ім найбольш свае. Такая пара – між колішнім і

наступным... Будзем спадзявацца, што ўрэшце ўсё выправіцца. Не, гатэль заказваць не трэба – адразу пасля Брэста думаю зазірнуць у Бярозу, а ў Брэст прыеду, хутчэй за ўсё, цягніком, пра які згадвала Карын, у 12.53. Адлік адсюль, і ў якой гадзіне распачнецца мерапрыемства, кажыце самі.

Супрацоўнікі Гётэ-інстытута выказалі намер ахвяраваць Брэсту (бібліятэцы, школе, універсітэту) па колькі асобнікаў кнігі, а я – узяць іх з сабою, але калі яны, асобнікі, конча патрэбныя цяпер, тэлефануйце ў Гётэ-інстытут: іх змогуць, напэўна, даслаць і поштай. Іду на кухню: узяўся складаць Вам ліст, а кашу паставіў падаграваць; чуваць пахі – каша падгарэла.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Пахі**

2.10.13

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Спадзяюся, што не ўся каша падгарэла, а трошкі засталося, каб Вам падсілкавацца... Так, і мы думаем, што "ўніверсітэт збяднее і пачужэе", таму што працавалі менавіта з гэтымі людзьмі і заўсёды маглі разлічваць і на высокі прафесіяналізм, і на паразуменне, і цеплыню адносінаў...

Марыя Іванаўна збіралася сёння зайсці, то пагавару з ёю, а Генадзю Мікалаевічу патэлефаную пазней – перадам ад Вас, з Вашага дазволу, прывітанне і запрашу на 26 кастрычніка. Учора заходзіў Леанід Валасюк – таксама запрасіла яго і сябрыну, але і патэлефаную асабіста Алесю Каско, Міколу Пракаповічу, Алесю Паплаўскаму, Сяргею Храмаву, Яўгену Бяласіну – абавязкова, хачу і кнігу яму даць раней, каб падрыхтаваўся...

Сёння размаўлялі з Карын і акрэслілі час сустрэчы: 26 кастрычніка ў 14.30. Як Вы думаеце? Ці пазней?

Вельмі добра, што Гётэ-інстытут ахвяруе нам кнігі, то і тут нам дапаможа Карын: яна будзе ў Мінску 8 кастрычніка і будзе мець магчымасць забраць кнігі.

Застаемся на сувязі, усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Каб**

03.10.13

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Калі вам з Карын пасуе 14.30, то і мне таксама пасуе, галоўнае, каб сустрэча была напоўнена зместам, каб прысутныя змаглі выказацца, а тыя, хто валодае нямецкай мовай, нешта параўнаць і з параўнання вывесці здабытак, цікавы многім.

Дзякуй, што запрашаеце названых асобаў і што названым імёнам передаяце прывітанні: знаходзячы адно аднаго, знаходзім з'яву.

Кашы было на самым дне, і яна падгарэла грунтоўна, гэта азначае: пакуль ты ў рэчаіснасці, не губляй з ёю сувязі і не аддавай на самацёк тое, да чаго спрычыняешся.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Каб**

4.10.13

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Так, пасуе, сёння запрасіла Генадзя Праневіча, Яўгена Бяласіна (калі Карын прывязе кнігі, дам ім, каб прачыталі і выказаліся, – згадзіліся з задавальненнем, передаюць Вам прывітанні).

Патэлефанавала Міколу Пракаповічу, прасіў нагадаць тады далей, каб заказаць камеру.

Марыя Новік і Святлана Воронік учора былі ў нас з Алай Міхайлаўнай з нагоды выхаду кнігі перакладаў Ніны Мацяш "Гарнуся душою да слова" (Мінск, Выдавецкі дом "Звязда", 2013) – укладальнікі, таксама павітала іх ад Вашага імя і запрасіла на сустрэчу. Будзем рабіць прэзентацыю кнігі і 5-га нумара "Жырандолі" 17 кастрычніка, – буду бачыць многіх, запрашу ўсіх. Так, згодная з Вамі наконт кашы і сувязі з рэчаіснасцю...

У гэтыя выхадныя паеду наведаць маму, то аб'яўлюся ў панядзелак.

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Смерці няма...**

14.10.13

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Прывітанне Вам ад Праневіча Генадзя Мікалаевіча – толькі што зайшоў за кнігамі, збіраўся ў выхадныя, але не атрымалася... Ваша кніга яму вельмі спадабалася – звярнуў увагу на афармленне: прыгожа, нічога лішняга, усё прадумана да дробязяў, узяў чытаць...

Сказаў пра Вас добрыя словы, што падараваў Бог і Зямля наша такога Паэта, як Вы, што, калі чытаеш Вашы творы, то не існуе ні смерці, ні страху смерці... Не, пра страх смерці ён не гаварыў, гэта ўжо я дадала... Збіраецца быць на прэзентацыі, выглядае добра, трошкі запаволена рэагуе, сказаў з горыччу, што Алесь мяне пасля хваробы яшчэ не бачыў, як бы выбачаючыся за магчымае расчараванне, якое, на яго погляд, можа быць у Вас, калі Вы пабачыцеся і яго пачуеце...

Заўтра прыйдуць за кнігаю Марыя Новік і Света Воронік, а Яўгену Бяласіну ўжо перадала.

Дасылаю Вам Праграму Нямецкага тыдня ў файле.
Усяго Вам добрага,
Г. І.

**Ноты**
16.10.13

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Той штрых, што дадаўся ад Вас, калі Вы пераказвалі словы Генадзя Праневіча, выдатны. Хто ведае, можа, смерць найвялікшы падарунак, угатаваны чалавеку, але таму, што яшчэ і заўсёды ён сам не найвялікшы, ён не гатовы яе прыняць. Смерць вызваляе яго ад усіх набыткаў і стратаў, ад самой яго асабовасці, якой ён змушаны слугаваць, у ёй і праз яе ён становіцца тым, кім мае быць. Яна не адмаўленне жыцця, а пераход у новае вымярэнне, і ноты эвалюцыі, што не знаходзяцца навукоўцамі, знаходзяцца, пэўна, ёю і ў ёй. Але і тут, у міжасабовых стасунках, людзі таксама ноты: сваёй – берасцейскай – сябрынай будзем і надалей складацца ў сюіту, а то і ў сімфонію. Атрымліваецца?

Вітайце людзей,
Вам усяго добрага!
Алесь Разанаў

**Ноты**
21.10.13

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

"Яна не адмаўленне жыцця, а пераход у новае вымярэнне, і ноты эвалюцыі, што не знаходзяцца навукоўцамі, знаходзяцца, пэўна, ёю і ў ёй"... Не адмаўленне жыцця... – Вашыя словы мяне вельмі ўразілі! Бачыце, хаця і чытала кнігі пра гэта, але ўсё ж такі ўспрымала смерць як нешта канчатковае, незваротнае, непазбежнае і таму трагічнае... Таму слёзы, перажыванні, спачуванні, супрацьпастаўленне смерці жыццю... Глядзела з боку таго, хто застаецца на пэўны час тут... А калі паглядзець з боку таго, хто ўжо пайшоў, ці "падняцца" над сітуацыяй, калі так можна сказаць, то ўсё выглядае інакш... А калі інакш, то гэта рэвалюцыя ў маёй душы і галаве, думаю, што не толькі ў маёй... Яшчэ да канца не засвоіла, але ўжо абнадзеілася з Вашаю дапамогаю...

З сюітаю і сімфоніяю пакуль што не атрымліваецца, магчыма, памыляюся... Людзі – і іх шмат – хочуць быць, а дакладней, бачаць сябе дырыжорамі ці першымі скрыпкамі...

Безумоўна, таленты, магчыма, геніі, але ў аркестр ці ў каманду не складаюцца: ці то не могуць у сілу сваёй выключнасці, ці то не хочуць нечым паступіцца... – уражанні ад вечарыны з нагоды прэзентацыі кнігі

Ніны Мацяш і 5 выпуску "Жырандолі"... Хаця, калі глянуць збоку, – то сапраўды мелодыя, і прыгожая, розныя варыяцыі...

Чакаем Вас! Ці ўсё застаецца, як дамовіліся: субота, а 14-й гадзіне, бібліятэка?

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Ведаем**

22.10.13

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Мы ведаем усё, але нейкім зацемненым веданнем, нібы апынуліся ў прыцемках альбо ў дыме, і адно тады, калі на той ці гэты сегмент нашага ведання падае раптам, нібы выпадковы, прамень альбо выспявае ў ім, у сегменце, пасма агню, спыняемся, здзіўляемся, уражваемся, глытаем уздыхі: гэта заўсёды было са мною, чаму я не распазнаваў гэта адразу – там і тады? Колькі разоў я апынаўся ў падобнай сітуацыі, калі відавочнае адкрывалася адно з адлегласці ў часе, і амаль заўсёды гэтыя адкрыцці былі ў роспач і ў расчараванне – у людзях і ў сабе. Але гэтак расцём, гэтак выспяваем, гэтак здабываем сапраўднасць, галоўнае – каб на гэта скіроўваліся і гэтага хацелі шчыра.

Меў тэлефонную размову з Яўгенам Бяласіным: на тым суботнім мерапрыемстве ён, думаю, будзе вельмі тоесным мадэратарам, а хто яшчэ разам з ім – скажыце, калі ласка самі. Як маецца Ярына Дашына? Ці бярэ ўдзел у Нямецкім тыдні?

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Адлегласць**

03.11.13

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Той суботні дзень быў насычаны дапазна – пасля Брэста была яшчэ Бяроза, а ў нядзелю хадзілі з сястрою на рынак, куплялі дулі, яна ўступала ў гаворку з людзьмі, мне тлумачыла, хто яны, ім – хто я, а з некім знаёміла, і тое, што ведалася раней, набывала аблічча і рысы. Насупраць нашага двара ў Сяльцы месціцца Муськоў двор, Сяргея Мусько (ён на тры гады маладзейшы і ад Фурштата неад’емны) ўжо васемнаццаць гадоў як няма на гэтым свеце, а з яго жонкай убачыўся і пагаварыў упершыню: яна стаяла каля ўваходу на рынак з нейкай адзнакай адміністратара на куртцы, і што найбольш запала з размовы – яе вочы, кемлівыя і сінія.

Тады ж, у нядзелю, і ад’ехаў на Мінск, па дарозе чытаў зборнік вершаў Івана Арабейкі, падараваны ім, у ім ён найбольш становіцца сабой, калі сам верш становіцца органам, што бачыць далей, чым вочы, і разумее глыбей,

чым глузд, і ў Івана Арабейкі гэта атрымліваецца натуральна. Ад’ехаў, а потым яшчэ некалькі дзён заставаўся ў размове з людзьмі, з якімі сустрэўся, здаецца, яна можа доўжыцца ўжо і без нашага непасрэднага ўдзелу.

Тады, на сустрэчы, Вы агучылі тэзу пра мадэратараў, у ёй удзельных, думаю, варта дадаць яшчэ аднаго – адлегласць: мы становімся ўсё больш сабою, бо ў гэтым бярэ ўдзел адлегласць? І Вы не прынялі наймення, якім Вас уганароўвалі сябры, бо яго не прымала адлегласць?

Вітайце людзей, што бралі ўдзел у сустрэчы.

Вам дзякуй і ўсяго добрага –

Алесь Разанаў

**Ліст**

06.11.13

Галіна Іосіфаўна, добры вечар!

Ваша маўчанне пачынае займаць вялікі абсяг – адгукаюся на яго: яно мае душу. Што дадалося і што аднялося пасля таго, як мы сустрэліся і развіталіся? Што наплыло? Адкуль смутак? Некалькі дзён мой інтэрнэт быў адключаны, а ў Брэсце шмат чаго адбываецца, і я ўжо думаў, што магчымы Ваш ліст заляцеў у нікуды – і на самой справе ён заляцеў у нікуды? Паспрабуйце, калі магчыма, пераадрасаваць яго мне. Усё ж такі гэта падарунак пабыць сярод сваіх, я яго меў, спадзяюся, сёй-той таксама.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Ліст**

15.11.13

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Так, падарунак! Марыя і Святлана перадавалі Вам прывітанне і сказалі, што хутка адгукнуцца. Сёння заходзіў Генадзь Мікалаевіч, – пакінуў у нас Максіма Танка, – пабыў нядоўга, спяшаўся.

Эмацыянальны пад’ём, пачуццё еднасці, удзячнасць Богу і ўсім прысутным… А яшчэ з задавальненнем, можна сказаць, асалодай чула Ваш смех… – ён такі прыгожы і добры, як і Вы… Бываюць у жыцці такія чароўныя моманты, як гэтыя… Потым яны грэюць душу… Вельмі важна тое, што Вы гаварылі пра Ніну Мацяш і пра літаратурныя канферэнцыі ў Белаазёрску, – усё, што Вы гаворыце, вельмі важна, нават калі і не адразу разумееш… А яшчэ… сустракаюся з Вамі, як з блізкім і родным чалавекам, адчуваю Вашу прысутнасць не толькі вонкава і слыхам, а і энэргетычна… Думаю, што і ўсе так… Вы заўсёды ў цэнтры, людзі да Вас цягнуцца, ловяць кожнае Ваша слова, рух, свет і цень на Вашым твары, любяць Вас…

У нядзелю збіраюся паехаць у санаторый “Алеся”, што ў Іванаўскім раёне, – трэба трошкі падлячыцца, а заадно і адпачыць, пабыць нейкі час

адной. Там ёсць возера Завышанскае, – буду вакол яго хадзіць, гуляць па лесе, калі ёсць і калі не буду баяцца заблудзіцца… Пуцёўка з 17 лістапада па 4 снежня, – то не згубіце мяне, калі ласка, – адгукнуся пры першай магчымасці! Зараз у мяне нейкі самнамбулічны стан, ведаеце, як у шэрым сне: не каляровым і нават не чорна-белым, а шэрым… Усё, што адбываецца са мною і вакол мяне бачу і знутры, і як бы збоку, нібыта гэта не я…

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Сам-насам**

21.11.13

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Як Вам там, у "Алесі", адпачываецца, разнявольваецца, засяроджваецца? Якія сны сняцца? Ці атрымліваецца пабыць сам-насам з дарогай, возерам, лесам, сутоннем, незалежнай ад усіх і ўсяго, калі нават думкі і тыя адсутнічаюць? Быць – гэта глыбей, чым думаць, а восень ужо глыбокая.

Вось Вы мне адрасавалі такія шчодрыя словы, яны як той бальзам, што наліваўся ў келіхі, калі мы сябрынай сядзелі за адным сталом: спажыўны, змястоўны, густы, але ж-але ж, калі ласка, не пералівайце...

У Сяльцы, калі мы там высадзіліся "шведскім" дэсантам, Святлана Алексіевіч (яна не пайшла разам з усімі на Фурштат, а засталася пільнаваць аўтобус каля касцёла і з некім за гэты час паразмаўляла) вымавіла, калі мы вярнуліся, фразу, якой не надаю ўвагі, але якая, здаецца, нешта значыла для яе самой: "Цябе тут любяць". Ну, па-першае, так у Сяльцы не гавораць і любіць мяне няма за што, па-другое, неяк, амаль прымхліва, я асцерагаюся такіх атэстацый, і да слоў, у якія яны ўліваюцца, трымаюся на адлегласці, але калі гэта здараецца, дзялюся тым, што ёсць, з сябрынай.

Дарэчы, Сялец для Святланы не чужы: калі пасля ўніверсітэта яна працавала ў Бярозаўскай раёнцы, то вяла гэтаксама ў Сялецкай школе ўрокі (думаў: рускай літаратуры, а Мікалай Пейган, мой аднакласнік, пісьменнік-краязнаўца і шматгадовы завуч, удакладніў: гісторыі), дзякуючы гэтаму ў мяне з ёй "узбагачаныя" стасункі. У размовах гэтага не чапаем, але як бы вісіць у паветры і застаецца пад пытаннем, магчыма, яшчэ і для яе самой, адна асаблівасць: ці тое, што яна піша, на самой справе літаратура і ці тое, што піша яна, на самой справе піша яна? Ці гэта проста гандаль людскімі споведзямі?

Можна што заўгодна гаварыць пра звыш- і саборную літаратуру і як заўгодна на словах атаясамляцца з маральнымі імператывамі, аднак тое, што застаецца па-за гаварэннем, мае свой голас: усё ж такі не яе яны, гэтыя споведзі, сведчанні, расказы, людзі ў іх казалі сябе і сваё, а яна іх прыўлашчвае (“я пішу”) і прыватызуе (робіць сваёй уласнасцю). Ды яшчэ, змагарка за праўду, перакройвае пачутае ды выстаўляе на абгаворванне і агляд давераныя ёй інтымы. Сваіх твораў яна не мае альбо я іх не ведаю: у

кожнага аповеду  і ў кожнага сведчання свой аўтар, аб'яўляліся б яны (сведчанні і аповеды) паасобку – яны  (аўтары) значыліся б сваімі імёнамі ў загалоўку. Аднак іх шмат і таму, што шмат, колькасць пераводзіцца ў яйнасць, саборнае – у маё. Зноў-такі, сама ідэя кнігі жанчын на вайне, а потым і  чарнобыльскай кнігі, калі ён сам больш не мог займацца з'явай Чарнобыля, прыйшла ад Алеся Адамовіча, і тады, праз гады, яна "паспяшала". Што яе – дык гэта: запісала, апрацавала, уклала... Нешта яшчэ?!. Ну, яшчэ гучныя заявы-кляксы. А ў сваіх зняважлівых і самаўзвышлівых атэстацыях беларускай мовы (дый літаратуры), пра якія даводзілася чуць яшчэ тады, калі быў у Гановеры, яна амаль не ўступае (не ўступала) вядомаму начальніку, так творцы не паводзяцца: яна творца?

Кантрасты  існуюць побач (існуюць і нават узаемадзейнічаюць) – так, у тым жа Гановеры я апынуўся найперш дзякуючы ёй, так, Марыя Вайцяшонак, яе каляжанка ў журналістыцы і, наколькі ведаю, найбліжэйшая сяброўка ў жыцці, выяўляе сябе чуйнай да беларускага слова пісьменніцай: пасля нарысаў і апавяданняў яна звярнулася да жанру паэзіі, па дарозе на Брэст Святлана  перадала мне яе тры апошнія зборнікі.

Пасля таго як Яўген Бяласін выявіў сябе на сустрэчы адмысловым мадэратарам, ён выяўляе сябе і адмысловым перакладчыкам: так, для наступнай – паэмнай – білінгвы ён пераклаў паэму "Рагвалод" і перакладае "Усяслава Чарадзея", мэтанакіравана і прафесійна; з яго слоў, у яго радаводзе нямецкія карані, і нямецкую літаратуру ён з юначых гадоў чытае ў арыгінале. Ці спатрэбіцца ў канчатковым варыянце, як і ў папярэдніх выпадках, яшчэ адзін перакладчык, будзе відаць, але ён ужо знаходка.

У дадатак, Вам у развагу, адна зацемненая старонка. У свой час спадар Бяласін перакладаў для тэатраў шэраг п'ес: "Рычард III", "Ромул Вялікі", "Візіт старой дамы", – але гэтыя ягоныя пераклады ціхай ці яшчэ якой сапай прысабечыў-адаптаваў адзін, як ён кажа, "штатны белпісьменнік". Мне няцяжка было ўгадаць, хто, бо гэты ж самы дзеяч некалі паспяховым спехам ададаптаваў ад Купалаўскага тэатра мной перакладзены і змешчаны ў кнізе "Тры камедыі" шэкспіраўскі "Сон" (пагартайце пры нагодзе), калі ў тэлефоннай размове з галоўным рэжысёрам Валерыем Раеўскім я не захацеў сам у перакладзе нешта (найменні нейкіх дзейных асоб) немаведама дзеля чаго перайначваць. Ён не адзін такі "штатны",  што ўважаў і ўважае сябе за начальніка ў літаратуры і грашовыя дзялянкі, з ёю спалучаныя, за сваю вотчыну: рука руку мые…  Затое Міколу Арахоўскаму за п'есу "Лабірынт" у "Крыніцы" быў налічаны такі нішчымны – рэшткавы – ганарар, што мне было сорамна ехаць з ім у Сялец: каб не ганьбіцца перад яго бацькамі (ён сам публікацыі не дачакаўся), дадаў свае рублі, і ўсё адно бацька спытаўся: "І гэта ўсё?!.",  і ўсё адно было няёмка.

Развітваюся, на сёння, бадай, досыць, ідзіце да краявідаў.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Удзел**
25.11.13

Галіна Іосіфаўна, як маемся?

"Алеся" спрыяе? Ці знаходзіце паразуменне з надвор"ем і краявідам? І тамтэйшымі людзьмі? Такі (такі?!) стан, пра які Вы згадваеце, калі адчуваеш, што ты адстаронены ад сваёй постаці і ёю як бы не валодаеш, я перажываў таксама. Сустракаўся з людзьмі, а быў сярод іх як "страчаны", і гэта заўважалі і я, і яны. І вось калі ў такім стане ў лютым 2004-га прыехаў у Дом творчасці ў Віперсдорф, што пад Берлінам, дык, разумеючы, што мушу нешта рабіць, з першых дзён пачаў сябе ратаваць – вяртаць. У адзін бок і ў другі адразу за Віперсдорфам вымалёўваўся хваёвы лес, і асноўнае, што я там рабіў, дык гэта былі інтэнсіўныя, да знямогі (наколькі хапала змогі!), падарожжы ў далечыню, альбо папросту бег. Вяртаўся – прымаў кантрастны душ, і гэтак штодня. Праз некалькі тыдняў я ўжо меў з мясцінамі асабістае знаёмства, нават сяброўства (ці, хутчэй за ўсё, гэта адбывалася адразу), разам тады сустракалі надыход вясны, а даўжыня маршруту, здаралася, сягала да 30 кіламетраў. Відавочна і для самога сябе я вяртаўся ў цела, сціраючы тое парушэнне, што было ўнетрылася, і калі на пачатку траўня адна супрацоўніца Дому ўсклікнула: "Herr Rasanau, Sie sind braun!" - (асмужаны, загарэлы, карычневы), – я ўспрыняў яе словы як заслужаную адзнаку: усё добра! Парушэнне ў целе, і перамагаецца яно з удзелам цела. У Вас гэта ўжо атрымліваецца.

Перачытаў папярэдні ліст, сёе-тое дадаў і паправіў, дасылаю яшчэ раз.

Вам усяго добрага, вернецеся – падайце голас.

Алесь Разанаў

**Віншаванне**
5.12.13

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Як Вы некалі напісалі, "і камп'ютар не дарэмны" – два Вашых лісты мяне вельмі ўразілі і ўзрадавалі! На жаль, у санаторыі не мела магчымасці карыстацца інтэрнэтам, – прабачце, калі ласка, што не адказала адразу! Хутка Вам напішу – Вы, як заўсёды, чытаеце паміж радкоў і ... не ведаю, як правільна сказаць, і наперад ... Тое, што ў мяне яшчэ толькі "бурліць, баліць" і адбываецца ўнутры – а гэта амаль заўсёды хаос, – Вы не толькі ведаеце, а і парадкуеце, даяце напрамак выйсця (ці ўваходу), для мяне гэта вельмі важна, Ваша ўвага і дапамога, праўда!

Алесь Сцяпанавіч, з Днём нараджэння! Віншую Вас і Белы Свет з гэтай Падзеяй, зычу Вам усіх багаццяў Свету і рэалізацыі багаццяў Вашай Асобы, здароўя і дабрабыту Вашым родным і блізкім, сябрам і знаёмым!

З бясконцай удзячнасцю і добрымі пажаданнямі,

Г. І.

**Разгубленасць**
13.12.13

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Прашу прабачыць, што так доўга збіралася з думкамі, – яны з'явіліся адразу, толькі не хацелі класціся на паперу...

Надвор'е было цёплае, у лесе – сосны, бярозы, дубы і дубочкі, астраўкі зялёнага і салатавага моху, лісце і жалуды, зацішна... Пасябравала з адным дубам, але не часта яго наведвала – відаць саромелася, не хацела перашкаджаць... Працягвала быць адстароненай... Ваш спосаб вяртання да сябе, вяртання ў цела мне блізкі і дзейсны, – такое было ў юнацтве, калі маме далі на працы пуцёўку ў Юрмалу на 24 дні і мы паехалі ўдваіх на 12 дзён, таксама восенню, у верасні, было вельмі прыгожа, і я многа хадзіла адна і далёка (не за 30 кіламетраў, як Вы, але для мяне далёка), і мне вельмі падабаліся такія падарожжы (з сабою і да сябе)... Памятаю, калі вярнуліся ў Івацэвічы, то нейкі час працягвала хадзіць – проста не магла не хадзіць, такая была патрэба... У "Алесі" так не атрымалася, у тым ліку і таму, што кожны дзень быў распісаны хіба што не па хвілінах, усё прыходзілася рабіць па гадзінніку і арганізавана: у сталовую, на працэдуры, да доктара, у лес ... І я ўпакорылася такому раскладу, "паплыла" на лодцы, якою кіраваў нехта за мяне... Не скажу, што лячыцца лёгка: трэба мець здароўе адно каб хадзіць на розныя працэдуры з корпуса ў корпус (а іх 5, і звязаны яны пераходамі са ступенькамі, даволі высокімі, што не ўсім людзям было пад сілу, асабліва з парушэннямі суставаў ці ў каго лішняя вага), але мне падабалася і падабаецца рухацца...

Людзі, якія там жывуць і працуюць, ветлівыя, усмешлівыя, мне з імі было лёгка; а жыла я ў адным пакоі з жанчынаю, якая больш скіравана на матэрыяльныя каштоўнасці, і спачатку было цяжкавата, да таго ж яна вельмі "актыўная" і хуткая на высновы, а я не была гатовая да такога напору, да такіх пытанняў, якіх і блізкаму чалавеку не можна задаваць... Але з часам мы паразумеліся і амаль прывыклі адна да адной... Дзякуй ёй, што "растармашыла" мяне і дала магчымасць паглядзець на нейкія рэчы і на сябе вачыма іншага чалавека...

Шкада, што цямнела рана, а адправіцца ў падарожжа ў цемры і ў цемру я не адважылася... Таму прыйшлося глядзець "міліцэйскія серыялы", жах – не глядзела раней і не маю аніякага жадання і надалей: кроў, падман, забойствы, здзекі з абодвух бакоў – не дабро змагаецца са злом, а зло са злом тымі ж метадамі і спосабамі...

Хадзіла з задавальненнем на заняткі ЛФК, як іх называюць, кожны дзень па 40 хвілін, у асноўным гэта практыкаванні на коўрыку для пазваночніка (але мы займаліся то з палкамі, то з мячамі, амаль як гімнасткі) – я адчула, што мне гэта вельмі патрэбна, як Вы і сказалі: "Парушэнне ў целе, і перамагаецца яно з удзелам цела". Праўда! Ужо пачала займацца дома, толькі яшчэ не ўсе прылады купіла... Вельмі спадабалася трэнер:

відаць, што добры чалавек, комплексы практыкаванняў разнастайныя і, галоўнае, кожны занятак яна заканчвала словамі пра тое, што мы адчуваем сябе здаровымі і бадзёрымі і што гэтага мы дасягнулі сваімі намаганнямі, самі сабе дапамаглі... У нейкі момант гэта прагучала для мяне як адкрыццё!

Вечарамі размаўляла па тэлефоне з мамаю, братам, сяброўкаю, сябрам – гэта таксама вяртала мяне да сябе, той, якой мяне ўспрымае кожны з дарагіх мне людзей... Часцей за ўсіх тэлефанаваў Аляксандр, так завуць майго сябра, па два, а то і па тры разы на дзень...

Шкадавала, што не магу прачытаць Ваш ліст, а спадзявалася і амаль што ведала, што Вы яго напісалі...

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Сядзіба**

16.12.13

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Думкі знайшліся ў словах і ў іх пакладаліся на паперу, і таму што Вы іх выношвалі і ў іх укладаліся, займелі ў тым, у чым знайшліся і на што пакладаліся, сваю сядзібу. Гэтак творацца творы, а найбольшыя і найгалоўнейшыя самі людзі, яны губляюцца і адшукваюцца, і ўсе яшчэ накіды і намеры: будзем тварыць сябе далей.

Адчуваецца, "Алеся" Вас узбагаціла сваім досведам, ён чуйны і населены сустрэчамі, і Хрыстос блізкі з весткаю: "Я перамог свет". А тое, што ў свеце, як вы заўважаеце, "зло змагаецца са злом", кажа, што ён застаецца без чалавека, што чалавек ім застаецца незапатрабаваным і што, гэты і гэтакі, праходзячы праз чалавека і як мага захопліваючы яго, сыходзіць у зямлю і пад зямлю, каб урэшце сысці дарэшты.

Зінаіда Мажэйка запрасіла, і сёння пабуду ў Музеі гісторыі беларускага кіно, дзе будуць паказвацца яе фільмы "Палескія калядкі", "Рух зямлі" і яшчэ тры другія; яна здабывае з глыбіняў беларускага быцця аўтэнтычны фальклор – уваскрашае зніклую цывілізацыю.

Днямі нанова хацеў паглядзець "шведскія" старонкі на бібліятэчным сайце – не атрымалася, яны замкнёныя, мо скажаце, ці надоўга?

Вам усяго добрага, людзей вітайце –

Алесь Разанаў

**Сядзіба**

17.12.13

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Так, кола маіх стасункаў з людзьмі абмежавана блізкімі, сябрамі, светаўспрыманне якіх і падобна і не падобна да майго, але яны прымаюць мяне такою, якою я ёсць (яны мяне бачаць)...

Калі не блытаю, то 18 кастрычніка, падчас правядзення Нямецкага тыдня, хакеры ўзламалі наш сайт. Гэты ўжо другі ўзлом. Як патлумачылі нашы аўтаматызатары, гэта хуліганства, падобнае таму, як разбіць шыбу ці паламаць штыкетнік, ці яшчэ што. Як высветлілася, хуліганы з-за мяжы – ці то з Ірана, ці недзе побач.

А галоўная прычына ў тым, што першапачаткова выбралі не тую платформу, бо, як заўсёды, не хапіла грошай (але гэта той выпадак, калі скупы плаціць двойчы, а то і тройчы, калі не грашыма, а дакладней, і грашыма, і працай супрацоўнікаў па ўзнаўленні). У выніку дастаткова інфармацыйны сайт, які меў два субдамены, а калі сказаць прасцей, сайты ў сайце – "Краязнаўства Берасцейшчыны" і "Кнігадом" (дзіцячая старонка) – знік, дзякаваць Богу, не назаўжды, але для яго ўзнаўлення патрэбны час, баюся сказаць, але не менш за паўгады. Такая вось сітуацыя...

Адпаведна, калі раней у раздзеле "События" пад "іконкай" "Дзень шведскай і беларускай літаратуры-2012" была сабрана інфармацыя аб удзельніках, аб Конкурсе юнацкай паэзіі, уражанні удзельнікаў і арганізатараў аб гэтым мерапрыемстве, то зараз усе гэтыя матэрыялы "раскіданы аж на дзесяць старонак, няма фотаздымкаў і інфармацыі аб Конкурсе паэзіі... Вельмі крыўдна... Падумалася, што такім чынам паказваецца, што ў адзін момант можа знікнуць і праца многіх гадоў чалавека, людзей, і самі людзі...

Алесь Сцяпанавіч, у файле дасылаю Вам алгарытм арыентацыі, калі можна так сказаць, у "шведскіх старонках" нашага сайту ў яго цяперашнім стане. Інфармацыю размясцілі ў алфавітным парадку, таму атрымалася блытаніна, але ведаючы імёны і назвы можна штосьці і знайсці... Выбачце, калі ласка!

Усяго Вам добрага, прывітанне ад Тамары Паўлаўны і Алы Міхайлаўны, –

Галіна Іосіфаўна

**Дні шведскай і беларускай літаратуры-2012**

18.12.13

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Паглядзіце, калі ласка, і гэтыя матэрыялы. Паспрабую знайсці фотаздымкі – была цэлая папка – калі знайду, вышлю Вам, калі патрэбна, па электроннай пошце.

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Дні**
19.12.13

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Дзякуй вялікі за клопат, за дасланыя матэрыялы, але здымкі мне даступныя, і іх дасылаць не трэба. Паасобку "шведскія" старонкі – гэта толькі старонкі, разам яны былі з'явай, і калі адгортваліся, то адгортваліся дні, у якія ты ўмаляваўся сваёю постаццю, і аб'яўляліся людзі, з якімі быў з'яднаны. Будзем спадзявацца, што субдамены некалі зноў запрацуюць і старонкі нанова складуцца ў з'яву.

Дні ўсё яшчэ карацеюць, ночы ўсё яшчэ даўжэюць, а чалавечая душа памятае іншую рэчаіснасць і хоча дайсці да краю, дзе час канчаецца і дзе яна перастае быць асабовасцю. Праўда?

Фільмы Зіны Мажэйка кранулі; некаторыя з іх глядзеў дзесяцігоддзі таму, з цягам часу яны не страцілі сваёй значнасці, а набылі (і будуць набываць) дадатковую ўдзельную вагу: з-за карагоднііцтва праступае старажытная веда, з-за лубка – містэрыя.

Узаемна вітайце нам блізкіх людзей!

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Слімак**
30.12.13

Галіна Іосіфаўна, добры вечар!

Як маемся? Тое, што не паспеў зрабіць год, спяшаюцца дарабіць дні і гадзіны, але азірацца не хочацца: самае істотнае не належыць часу і назіранню не паддаецца. У сваім ліставанні мы ўсякі раз падыходзім да краю: словы вымавіліся, а невымоўнае мае ўсё. І як бы далёка мы ні заходзілі, дом унутры, і, пакліканы вялікім спакоем, выстаўляе рожкі знутры слімак. Вы яго бралі ў рукі? І ён Вам, як хірамант, тлумачыў лініі лёсу? Калі я вярнуўся са свайго астральнага падарожжа – зірнуў: на ўзорах лініяў накрэсліліся, нібы праступілі знутры, відавочныя змены. Ад гэтага нікуды не падзецца: каб адшукацца ў сусвеце, на далонь мусіць пакласціся ўся карта.

Тое, што бібліятэчныя сайты ўзломваюцца, – хутчэй за ўсё, тутэйшыя практыкаванні: якую справу да іх мелі б хакеры з Ірану? Але няхай разасобленыя старонкі нанова складаюцца ў цэлае, а сялецкія здымкі вяртаюцца на зыходнае месца пад Ваша крыло – гэтак усім будзе лепш.

У мінулы панядзелак у кнігарні "Ў" адбылося свята апошняй кнігі: ёю аказалася п'еса Казіса Саі "Клеменс", якую я некалі, у канцы 70-х мінулага стагоддзя, па прапанове рэжысёра Валерыя Маслюка пераклумачыў з літоўскай і ў пераклад якой уклаў тое, чаго не было ў арыгінале; спектакль па

ёй, пастаўлены Віцебскім абласным тэатрам, стаўся тады падзеяй, аднак і цяпер у ёй застаецца тое, што не хоча станавіцца мінулым.

Прысутных было няшмат, але сярод іх Ганна Кісліцына: у свой час першаю яна адважылася пісаць кандыдацкую па маёй творчасці і, абараніўшыся, выдала кніжкай; Ігар Бабкоў: яго мысленне – яго светаадчуванне, яно натуральна-глыбокае і перамаўляецца са старажытнакітайскай бяседай і "бяседкай" (альтанкай); калі ён шукаў сябе, то выйшаў на мяне, а пачутае "Пісаць – рабіць словы істотнымі" ўвёў у свой творчы прынцып, прынцып, які папярэднічае якім бы то ні было словам; далей думны і малады Ціхан Чарнякевіч: на маё адчуванне, ён захінуты ў нейкую абалонку – ахоўную (?!), нібы мае ўнутры нешта, што не мусіць яшчэ выстаўляцца на людзі. Па маёй просьбе ён прачытаў старонку-другую з "Клеменса", а Ганна і Ігар бралі чынны ўдзел у размове. Самога ж выдаўца Ігара Логвінава не было: ад свята апошняй кнігі ён пераходзіць да свята першай кнігі – ужо мае атрыманую ў Вільні новую выдавецкую ліцэнзію.

Усё, Галіна Іосіфаўна, развітваюся да невядомакалі, вітайце людзей: у Ярыне Дашынай тоіцца моцны патэнцыял: калі яна здолее яго трансмутаваць – ратунак, а хлопчык у раўнавагу.

Вам усяго добрага і… –

Алесь Разанаў

**Невымоўнае**

30.12.13

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Пачала чытаць Ваш ліст чамусьці з канца і адразу патрапіла на развітанне да невядомакалі, сэрца задрыжала...Не, ніколі не трымала слімака ў руцэ... Адзін знаёмы мастак, можа, Вы чулі, Уладзіслаў Куфко, сын Куфко Эдуарда, мастака, які прайшоў і нямецкія, і савецкія канцэнтрацыйныя лагеры, дык вось Уладзіслаў вельмі любіў (любіць) маляваць (пісаць) слімакоў, яго прыцягвае спіраль і сама гэтая істота... Алесь Сцяпанавіч, не... яшчэ не ўсе словы вымавіліся... У мяне зараз не лёгкі час (а ў каго і калі ён бывае лёгкім?)...Многа перажыванняў, і сталых, а найбольш маладых, нібыта мне гадоў 17 ці 19... Вельмі рада, што гэтыя перажыванні ёсць і што яны сустракаюць перажыванні з боку другога чалавека, і супадаюць... Не зусім патлумачыла, але Вы ведаеце... Дзякуй Богу, гэта вялікае шчасце, і ў разгар шчасця – такая туга, не перадаць, вось учора, напрыклад, ні паварушыць пальцам, заміраеш так, што не чуваць ні сэрца, ні пульсу, галава становіцца пустой, застаецца толькі абалонка... – і вяртаешся да людзей нібы з другой планеты...Алесь Сцяпанавіч, не развітвайцеся са мною надоўга, калі ласка! Адна думка пра Вас, што Вы ёсць... І размаўляю з Вамі часта, калі і не пішу... Так, невымоўнае мае ўсё...Добра, прывітанні перадам абавязкова, усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Дадавайцеся**
31.01.14

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Хутчэй ухіляюся ад абдымкаў, таму што вопратка не адпавядае і баюся (зноў баюся, а ці патрэбна?) захварэць, а па ўнутраных адчуваннях маразы нават падабаюцца: нібыта гуляеш і ў "хованкі", і ў "даганялкі": адчуваеш фізічны і эмацыянальны пад'ём, рухаешся вельмі жвава, нібы ўцякаеш ад Марозу, забягаеш у краму ці яшчэ куды, каб сагрэцца; але, калі стаіш на прыпынку, ці ідзеш і аказваешся ў стыхіі Марозу альбо Завірухі, калі не відаць нічога і нікога і галава "пустая", то адчуваеш поўную залежнасць ад сілаў прыроды і нават нейкае задавальненне ад свайго бяссілля і еднасці з усім жывым і нежывым у гэтым свеце...

На майдан глядзець балюча і страшна: натоўп... нянавісць (ці яе праяўленні), страх... з абодвух бакоў... нібы людзьмі нешта (нехта) кіруе, і яны робяць тое, за што потым будзе сорамна ці немагчыма жыць з гэтым... Уразілі бацюшкі, якія выйшлі і амаль суткі ўтрымлівалі абодва бакі ад ваенных дзеянняў... У іх кідалі бутэлькі, якія маглі ўзарвацца, маглі забіць, яны гэта ведалі...

Алесь Сцяпанавіч, добра, буду звязвацца з універсітэтам і будзем удакладняцца. З вялікай цікавасцю прачытала пра Міларэпу і некаторыя "Песни Миларепы о непривязанности к семье, друзьям и богатству", якія "выдаў" інтэрнэт. А яго жыццяпіс Вы чытаеце ў электронным выглядзе?

Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Год**
02.01.14

Галіна Іосіфаўна, вітаю Вас у новым годзе!

Згаджаюся: яшчэ не ўсе словы вымавіліся – не ўсё сказалася пра тое, да чаго меў дачыненне і што яшчэ мае дачыненне да мяне; не аддадзена належнае асобам і людзям, што судакраналіся са мною і з кім яшчэ судакранаюся гэтаксама, але калі нават гэта я не буду ўкладаць у словы, Вы, калі ласка, укладайце ў словы сваё, тое, што хоча акрэслівацца і вы-маўляцца.

Мы апынаемся на зямлі, каб сасніць свае сны, і заходзім за небакрай, каб яны спраўджваліся. Яны спраўджваюцца, калі заходзім за небакрай?

А вось напрыканцы штрых з ужо мінулага года, які нейкім чынам можа мець дачыненне да Вас. Напрыканцы года ў выдавецкім доме "Звязда" выйшла кніга Івана Штэйнера "Уводзіны ў невымоўнае: філасофія паэзіі Алеся Разанава". Яна выходзіла непрыкметна, без асаблівай пагалоскі, з адной “перавагай” – дабрадзеі абклалі яе такой мытай, што яе немагчыма ні купіць, ні прадаць. Дзяўчаты ў аддзеле маркетынгу, з якімі гутарыў, самі недаўмявалі, адкуль у яе такая звышвага: так, тры асобнікі, якія там на-

бываў, закаштавалі 710 тысяч 250 рублёў – недзе ўтрая больш, чым мусілі б каштаваць на самой справе. Іван Штэйнер думае, што рабіць.

Да гэтага штрыха хоча дадацца яшчэ адзін. У выдавецтве “Мастацкая літаратура” ледзь не дваццаць гадоў ляжалі, чакаючы свайго часу, “Ахвярныя песнаспевы” Рабіндраната Тагора – “Гітанджалі”: пераклад мой, ілюстрацыйныя малюнкі, створаныя менавіта да гэтага перакладу, Георгія Паплаўскага, і ён час ад часу стукаўся ў выдавецкія дзверы з запытаннем: дзе кніга? Нарэшце кніга выйшла – з малюнкамі Георгія Паплаўскага і з адным даўнім рускамоўным перакладам: так распарадзіліся апекуны з Камітэта па друку (цяпер міністэрства інфармацыі).

Якія парадкі, такія людзі, якія людзі, такія парадкі, а наступнасць выцягвае чалавека ў ратунак. Развітваюся не назаўсёды.

Людзей вітайце. Вам усяго добрага на ўвесь год –

Алесь Разанаў

**Алхімія**

17.01.14

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Перш чым шматкроп’е дойдзе да небакраю, хай словы займеюць слова. Найперш: як маемся? Ці ўсталявалася раўнавага між хвілямі і днямі і ці зіма спрыяе?

Мінулы раз (разы) пісаў Вам пра кніжныя і людскія справы, што мелі дачыненне да маёй асобы, і як асоба рэагаваў на іх, але з усяго гэтага ўсякі раз вынікае адна выснова, якая ўсякі раз засвойваецца нанова: тое, што мае дачыненне да нас, не выпадковае і хоча нешта ўдакладніць у нас саміх. Што? Ды нас саміх. Нам не застаецца нічога другога, як у гэтым удзельнічаць, а як – гэта ўжо парафія душэўнай алхіміі.

Іван Штэйнер паводзіць сябе разумна, як і належыць доктару і прафесару, і, прымаючы ўсё такім, якім яно ёсць, ужо плануе ў Гомелі прэзентацыю кнігі. Дзе аналітычна, дзе парабалічна, захоплены тым, што кажа і ведае, ён увёў тутэйшыя здабыткі ў новыя кантэксты – усё параўнаў з усім, нібы замясіў дзяжу цеста. Здаецца, такога замесу ў айчынным літаратуразнаўстве яшчэ не было: ці дойдзе ён да Берасцейшчыны? Хацелася б, каб дайшоў.

На мяне не крыўдуйце, людзей вітайце.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Дадавайцеся**

31.01.14

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Ці абдымаемся з маразамі і ці глядзім на майдан?

Тое, што там адбываецца, кажа, што яно не павінна было адбывацца і адбываецца таму, што парушэнне ўвайшло ў прычыну і паклікала парушэнне, душа спрадвеку памятае справядлівасць, натура – волю (“з казацкога роду”), розум – ролю (якую?), нутро – бунт і гульню, а правадыры гандлююць людзьмі.

Узгадняў з Іванам Штэйнерам дзень, калі з ягонаю кнігай зможам аб’явіцца ў Брэсце, а па дарозе і ў Бярозе, дня не вылічылі, але тыдні большменш: канец лютага – пачатак сакавіка. Дадавайце, калі ласка, свае карэкцівы і далучайце да гэтага занятку ўніверсітэцкіх людзей, будзем, як гэта заўсёды робім, узаемаўзгадняцца. У іх найперш і папытайцеся, ці варта дзяліць прэзентацыю на дзве долі, і хто з іх гатовы пайсці ў мадэратары. У Гомелі яшчэ не быў, але сваю вотчыну шаноўны прафесар і доктар абдзеленай не пакіне.

Чытаю жыццяпіс (поўны варыянт) Міларэпы – дзівуюся чалавечым магчымасцям, радуюся подзвігу.

Людзей вітайце, Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Дадавайцеся-2**

03.02.14

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Размаўляла раніцою з Фелькінай Вольгай Антонаўнай, дэканам філалагічнага факультэта.

Яна з прыязнасцю ўспрыняла гэтую вестку, узгадала, што Алесь Разанаў – выпускнік універсітэта, паабяцала студэнтаў і параіла звярнуцца да Сенькаўца Уладзіміра Адамавіча, дала нумар яго мабільнага тэлефона. Уладзімір Адамавіч сказаў, што ён не супраць, што кніга ў яго ёсць, а на маё пытанне, ці патрэбна якая дапамога ад бібліятэкі, сказаў, што добра было б напісаць пісьмо на імя рэктара, які ні ў якім разе не будзе супраць, але будзе лепш, каб ён быў інфармаваны, і студэнтаў "зняць" з заняткаў будзе прасцей. То напішу ліст на імя рэктара, патэлефаную пісьменнікам і зацікаўленым асобам – займуся арганізацыйнай работай, добра?

Усяго Вам добрага –

Галіна Іосіфаўна

**Сустрэча ў Берасці**

03.03.14

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Такая самотная вестка...

Прабачце, калі ласка, і скажыце, ці спраўдзяцца нашы надзеі на прэзентацыю кнігі І. Штэйнера "Уводзіны ў невымоўнае: філасофія паэзіі Алеся Разанава" і ці Вы прыедзеце да нас у сакавіку? Наша дырэктарка

перажывае, таму што ў сакавіку ў нас некалькі мерапрыемстваў, і мы хвалюемся, каб яны не супалі... Пажадана сустрэцца 17, 18, 19, 20, 25,27, 31 сакавіка (калі ў сакавіку). Алесь Сцяпанавіч, адгукніцеся, калі ласка!

Усяго Вам добрага –

Галіна Іосіфаўна

**Дата**

03.03.14

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Вы, калі ласка, не хвалюйцеся і хай вельмішаноўная Тамара Паўлаўна лішне не перажывае: вестка зусім не самотная, а, можа, нават усцешлівая.За гэты час і ў рэчаіснасці, і ў свядомасці яшчэ нешта акрэсліцца і ўдакладніцца; кнігі такога кшталту выходзяць не часта, гады ў рады, і ўвесь гэты год прыдатны для сустрэчы. Ну, а ў думках і духам мы сустракаемся не раз на год і не раз на месяц, праўда? Як Вам маецца?

У пазамінулую нядзелю быў у Вільні; білінгваю – на літоўскай і беларускай – там выйшла кніга версэтаў пад назваю "Падарунак хроснай маці", на кніжным кірмашы і адбылася яе прэзентацыя. Зноў буду там, у Вільні, праўда, з другой нагоды, напрыканцы сакавіка, а ў Берасці мы можам спакойна пагартаць штэйнераўскую кнігу і ў красавіку, але Вы найперш узгадніце даты з шаноўным прафесарам: ён усё ж такі больш звязаны з раскладам.

Вітайце людзей, Вам усяго добрага –

А. Р.

**Дата**

04.03.14

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Вы нас усцешылі, так таму і быць! "...у думках і духам мы сустракаемся не раз на год і не раз на месяц..." – праўда, і дзякаваць Богу!

Некалькі дзён таму Вы мне прысніліся: мы не размаўлялі, але нібыта бачылі і адчувалі адно аднаго – не, не зусім так: нібыта ў Вас былі цяжкія абставіны і Вы ведалі, што шлях Ваш будзе нялёгкім ва ўсіх сэнсах, а мне хацелася Вам дапамагчы, а Вы запыталіся, ці гатова я на выпрабаванні і нягоды, і пачулі ў адказ "так"...

Віншую Вас – чытала пра выхад Вашай кнігі і ўдзел у мерапрыемстве "Вялікае княства паэзіі" ў інтэрнэце.

Зараз у мяне настаў такі перыяд жыцця, што нібыта (а так яно і ёсць) пражываю (не ў поўнай меры) і перажываю (у поўнай меры) тыя пачуцці і эмоцыі, якія ў маладыя (дзявочыя) гады мне толькі мроіліся, дакладней, яны (пачуцці) былі, але не сустрэўся чалавек, з якім іх можна было б падзяліць і тым самым памножыць... Нават да канца не магу паверыць, што ўсё гэта

(добрае і прыгожае) адбываецца са мною, і набывае асаблівую шчымлівасць, таму што час няўмольны... Відаць, так і трэба: нічога не бывае ні рана, ні позна, кожнаму – у свой час... І правільна Вы некалі сказалі: недзе ў падсвядомасці я ведала, што гэта здарыцца...

Вялікі дзякуй і ўсяго Вам добрага –

Г. І.

**Сны**

11.03.14

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Вясна расхінае абсягі, а Ваш сон насампраўдзе нешта адчуў і ўбачыў. Самае асноўнае патрабаванне, якое мы прад'яўляем свету, абходзячы свет, непазбежна вяртаецца да нас саміх: мушу зноўку і зноў акрэсліваецца той існасцю, што гэтак ці так усё жыццё спраўджваецца і ўсё адно застаецца ўвесь час няспраўджанай.

Якая б яна ні была, паверхня не тое месца, дзе можна заставацца: над ёю грукаюць перуны, пад ёю варушацца землятрусы, і хвалі чарговага цунамі скіроўваюцца да яе. А лёсы людзей кранаюць і абавязваюць. Вам дзякуй, што сказалі: "Так!".

У гэтую пятніцу падаюся ў Гомель: ва ўніверсітэцкай бібліятэцы адбудзецца сустрэча са штэйнераўскай кнігай.

Людзей вітайце, сны слухайце і глядзіце –

Алесь Разанаў

**Сны**

12.03.14

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Цікавай Вам паездкі! Калі вернецеся дадому, раскажыце, калі ласка, як усё адбывалася.

Пасля прэзентацыі ў Гомелі, буду звязвацца з шаноўным аўтарам. ... Сны буду глядзець і слухаць...

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Нагода**

18.03.14

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Час напружаны, лодкі хістаюцца, і рэчаіснасць у хвалях супярэчнасцяў: нешта мусіць пачацца і нешта не хоча скончыцца, а неба падае руку – ці здолеем прыняць дапамогу?

Сустрэча ў Гомелі нагадвала адкрытую лекцыю, дзе былі свае прамоўцы і свае слухачы, – у меру стрыманую, у меру разняволеную: выкладчыкі казалі свае словы, а студэнты (студэнткі) задавалі пісьмовыя пытанні ды станавіліся ў чаргу па аўтаграфы.

Да ад’езду назад, у Мінск, заставалася гадзіны тры, і шаноўны прафесар, каб гомельская нагода скарысталася напоўніцу, прапанаваў наведацца на радзіму Анатоля Сыса, у Рэчыцкі раён, далучыліся Анжэла Мельнікава і Аляксандр Бярозка, а ён сам стаўся кіроўцам. У Гарошкаве могілкі спрэс у бярозах, пастаялі каля Анатоля, памаўчалі, завіталі ў хату, якой апякуецца яго сястра (калі не памыляюся – Тамара), нешта згадалі, усё імкліва становіцца гісторыяй. А на двары з курынай грамадою хадзіў і прыглядаўся да гасцей: "Навошта вы тут?!" – чырванагруды певень; гаспадыня прызналася, што яна яму нечым не дагадзіла, і ён без дайпрычыны раптам бярэ і кідаецца да яе біцца.

Вось, Галіна Іосіфаўна, калі будзеце ладзіць прэзентацыю штэйнераўскай кнігі ў Берасці, то звяжыцеся папярэдне з Бярозаўскай бібліятэкай, каб заадно сустрэча адбылася і там: сёння Берасце, назаўтра Бяроза. Шаноўны прафесар кажа, што для яго прыдатныя ўсе дні, а для мяне між 7 і 21 красавіка. Людзей вітайце, Вам усяго добрага.

Нешта прыснілася?

Алесь Разанаў

**Сустрэча**

19.03.14

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Вельмі Вам рада, дзякуй, што хутка адгукнуліся! Перадала прывітанні, пагаварыла з Тамараю Паўлаўнаю, потым з Ірынаю Львоўнаю.

Калі Вам будзе зручна, то мы прапаноўваем такія варыянты: 9 красавіка, серада, у нас, 10 красавіка – у Бярозе; альбо 10 красавіка ў нас, 11 красавіка – у Бярозе. Ірына Львоўна ўзрадавалася і сказала, што, калі Вам будзе зручней, тады і прыязджайце.

Калі ласка, скажыце, калі Вам лепей, тады буду тэлефанаваць паважанаму прафесару, а потым Уладзіміру Адамавічу, нашым пісьменнікам, журналістам і зацікаўленым людзям.

Пачатак, думаю, 17.30, каб людзі паспелі пасля працы і заняткаў. Алесь Сцяпанавіч, яшчэ арганізацыйныя пытанні: едзеце асобна ці разам з Мінску, чым і ці сустракаць Вас, ці будуць кнігі на продаж? Не, нічога такога, каб уразіла ці запомнілася, не сніцца...

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Гэтаксама**
19.03.14

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Давайце будзем арыентавацца на чацвер і пятніцу – на 10 і 11 красавіка. Ці згаджаецца Бяроза з такім раскладам? Пэўна, прыедзем паасобку, і дарогу да бібліятэкі я знайду, а з Іванам Фёдаравічам, калі ласка, паўзгадняйцеся. Добра, кнігі з сабой прывязу, хоць, можа, па назвах менш, чым мінулыя разы; галоўнае, са знаёмымі ўбачуся і павітаюся, і з незнаёмымі гэтаксама.

Вам – і ім – усяго добрага!

Тады паведамце, што і як.

А. Р.

**Гэтаксама**
20.03.14

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Бяроза згаджаецца, Іван Фёдаравіч таксама, Уладзіміру Адамавічу ўсё давяла. Ён сказаў, што праз тыдзень (тыдзень правядзе ў Гародні) да нас прыйдзе і мы будзем удакладняцца і ўзгадняцца.
Буду трымаць Вас у курсе.

Шаноўны прафесар па тэлефоне мне спадабаўся: здаецца, ён не без пачуцця гумару.

Пакуль што так.

Усяго Вам добрага –

Г. І.

**Абвестка**
02.04.14

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Як Вы? Што Вам сніцца? Што адбываецца і што збываецца, а што не; што хацелася б, каб збылося, а што – не?.. Калі ласка, паглядзіце старонкі нашага сайта: запрашаем людзей на сустрэчу з Вамі і Іванам Фёдаравічам, на сустрэчу з сабой і Сусветам, – можа, што не так напісалі ці што іншае, – падкажыце, будзьце ласкавымі!

Алесь Сцяпанавіч, магчыма, у Вас ёсць электронны адрас паважанага прафесара – буду вельмі ўдзячная, калі напішаце, які. Можа, трэба нешта ўдакладніць з Бярозай ці запрасіць кагосьці на прэзентацыю асабіста (каго б Вы хацелі бачыць абавязкова, апроч тых людзей, якіх запрашаем заўсёды), – калі ласка, напішыце.

Усяго Вам добрага –

Г. І.

**Лес**
03.04.14

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Абвестка атрымалася такой, якой яна і мае быць, – змястоўнай і красамоўнай. Адно: там, дзе быў, у замежжы, калі пісьменнік становіцца якім-кольвечы стыпендыятам, гэта залічваецца ў разрад "Auszeichnungen" – узнагародаў, аднак мы гэта не будзем рабіць і канкрэтыку размываць не будзем, таму пасаж "лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій" з лёгкай душой апускаем. На жаль, без атэстацый не атрымліваецца, а вось давайце паспрабуем і, выносячы ўсё астатняе за дужкі, пакінем адно самыя галоўныя (і галоўнае – жывыя) дапаўненні – паэт і зямляк. Калі так зробім, мне, берасцейскім творцам ды і самой з'яве творчасці гэта будзе ў радасць, інакш вонкавае няўмольна засланяе ўнутранае, уладу набываюць падмены, а за дрэвамі перастае бачыцца лес.

Калі каго асабіста запрашаць у Бярозе, дык гэта Яўгена Сяленю, колішняга рэдактара раёнкі: у мяне з ім даўнія, са школьных гадоў, стасункі, і штэйнераўскую кнігу ён мае; ды яшчэ – не бачыўся з ёю бездань часу – Варвару Лаўрэнцеўну Чатарбок: у свой час у Сяльцы яна выкладала рускую мову і літаратуру і была нашай класнай (ад яе і ад яе мужа Аляксандра Сцяпанавіча Сахарука, галоўнага ўрача Сялецкай бальніцы, мая школьная творчасць атрымлівала беларускія імпульсы); ды яшчэ мо каго з Сяльца, ды яшчэ мо каго з Белаазёрска, ну а з самой Бярозы як хто зможа. Падручны электронны адрас шаноўнага прафесара – адрас самой кафедры беларускай літаратуры: belitchair@gsu.by.

Што да стану, Галіна Іосіфаўна, дык ён скрануты з месца, нібы ўсе сцежкі-дарогі падаліся да аднаго скрыжавання, – большае адказнасці за ўсё, а блізкія і знаёмыя людзі – у выпрабаванне... Далей што да сноў, то яны – містэрыі: у іх адбываецца нешта дужа істотнае, і нераспазнаная мудрасць складае ў іх свае формулы, а людзі прыходзяць і адыходзяць і маюць да ўсяго дачыненне. Вам усяго добрага – і да сустрэчы!

Людзей вітайце!
Алесь Разанаў

**Сустрэча**
07.04.14

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Вялікі дзякуй, што хутка адгукнуліся, згаджаюся з Вамі.

Размаўляла з Ірынай Львоўнай, дырэктарам Бярозаўскай раённай бібліятэкі: відаць, будзе звязвацца з Вамі асабіста, – паабяцала запрасіць людзей, пра якіх Вы напісалі. Некалькі дзён таму прыходзіў спадар Сенькавец У.А., паглядзеў выставу, зрабіў некалькі заўваг, не, хутчэй пажаданняў, а сёння, па маёй просьбе, патэлефанаваў Івану Фёдаравічу

(прасіла высветліць, калі ён прыедзе, каб ведаць, сустракаць ці не, як з абедам, іншыя планы, а Уладзімір Адамавіч з прафесарам у добрых адносінах), – то высветлілася, што сп. Штэйнер гасцюе ў родных на Століншчыне і ехаць будзе машынаю ці аўтобусам, а папярэдзіць пазней.

Вы прасілі не турбавацца і Вас не сустракаць, то чакаем сустрэчы ў бібліятэцы! Збіраюцца Марыя і Святлана, запрасілі Алеся Каско, Міколу Пракаповіча, Алеся Паплаўскага, Лявона Валасюка, Сяргея Амельчука і многіх іншых зацікаўленых. Рэлізы пра прэзентацыю паслалі ва ўсе брэсцкія газеты і на студыі тэлебачання, запрасілі выкладчыкаў і студэнтаў тэхнічнага ўніверсітэта (акрамя ўніверсітэта імя Пушкіна), проста знаёмых.

Усяго Вам добрага, да сустрэчы!

Г. І.

**Сустрэча**
13.04.14

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Як Вы? Якія ўражанні ад Берасця і Бярозы – людзі, прэзентацыя? Вялікі дзякуй за сустрэчу – Ваша тактоўнасць, узважанасць, шматбаковы падыход да рэчаў і з'яваў, добразычлівасць і пры гэтым імгненная рэакцыя на словы, рухі, нават думкі другога чалавека ўразілі не адну мяне... Вы адзіны, хто напоўніцу жыве імгненнем, увесь у ім растварaецца, не губляючы сябе, і не глядзіць на другога чалавека праз прызму свайго "эга"...

Баюся, што не змагла выказаць пачуцці, уражанні і думкі, але Вы разумееце, праўда? Адзінае, чаго не хапіла ўсім, як і ў папярэднія разы, – самога Разанава: людзі казалі, што мала Вас слухалі і што ці нельга ў наступны раз запрасіць толькі аднаго Разанава і каб гаварыў толькі ён і ніхто яму не перашкаджаў... Згаджаюся, толькі гэтым разам падалося, што шаноўны прафесар не быў лішнім і Уладзімір Адамавіч – маршалак, як Вы яго назвалі, – рабіў акцэнты на тым, што цікавіла і людзей, а штосьці давала нейкія імпульсы (відаць, не тое слова) і Вам, толькі часу не хапіла... І студэнты ўсцешылі, і выкладчыкі, а Зоя Пятроўна з тым, як акрэсліла Вашу ролю ў літаратуры, – то і сама ўвойдзе ў гісторыю...

Алесь Сцяпанавіч, у Вас "касмічныя" вочы і ў той жа час Вы такі блізкі і родны, дзякуй Вам!!! Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Гэтак**
19.04.14

Галіна Іосіфаўна, добры вечар!

Вы адгукнуліся на сустрэчу гэтак адразу, а я адгукаюся гэтак потым: наплывалі неабходнасці, не вольны ад іх, а гаворка зацікаўлена ў чыстай часіне ці хаця б у спакойнай. Шаноўны прафесар у сваім vademecum

уводзіць тутэйшае ў далёкія кантэксты, яно тлумачыцца імі, але яно, што істотна, гэтаксама тлумачыць іх, кніга атрымалася важкай, як саркафаг, а размова, кіраваная шаноўным маршалкам, жывой. Калі бібліятэка храм, то Брэсцкая абласная найбольш блізкі. А тое, што шчакой да шчакі судакрануўся з Вамі, з Тамарай Паўлаўнай, Алай Міхайлаўнай, Ярынай, пабачыўся са знаёмымі абліччамі, – ціхае свята... Адно, калі ласка, не вымалёўвайце “касмічнымі” фарбамі маёй асабовасці: яна не тое, з чым варта выстаўляцца на людзі.

Потым з Алесем Каско ехалі электрычкай – ён да Жабінкі, я да Бярозы, па дарозе больш чым калі паразумеліся, нібы апынуліся ў студэнцкім часе, а Васіль Дэбіш праводзіў нас абодвух да вакзала.

Што ў Бярозе? Ірына Львоўна (сястра называе яе па-свойску і па-даўнейшаму Ірка Кісялевіч) парупілася: на сустрэчу прыйшлі знаёмыя бярозаўцы, прыехала бібліятэрка з Сяльца, а з Белаазёрска з кагортай школьнікаў настаўніца беларускай мовы і літаратуры Таццяна Гмыр і са сваім удзелам бібліятэкарка Тамара Кузняцова. Але яшчэ да гэтага І. Ф. Ш. наведаўся на сваім аўтамабілі ў Сялец: сёе-тое ўбачыў і спалучыў з у мяне прачытаным – у яго разумная памяць. Пасля ўсяго – па настойлівым запрашэнні Валянціны Осіпавай (яна там працуе) ды Леаніда Грэчкі (адказвае за грамадскую работу) наведаліся на Бярозаўскі сырзавод: пакаштавалі ёгуртаў і сыроў і пачулі вартыя ўвагі звесткі пра гэтае – не абы якое – прадпрыемства.

У Бярозе пачаў чытаць, а ў Мінску дачытваў кнігі, што прывёз з сабою з Берасця: калі творцы знаёмыя табе людзі, то і чытанне набывае асаблівы кшталт. З Вашай маўклівай згоды скаратку падзялюся ўражаннямі.

"Межавыя знакі" Алеся Каско – выбранае. Чытаў – праходзіў разам з ім ягонаю жыццёвай сцяжынай. Вершы – споведзі і вельмі на ўзроўні, а верш "Старое грае – сам стары..." – шэдэўр. Ну а тое, што бібліятэка выдала прысвечаны яму бібліяграфічны паказальнік, – выдатная адзнака і творцу, і самой з’яве творчасці.

"Зямля, якую бяруць з сабою" Сяргея Амельчука – зборнік хайку: ён густа, адзін да аднаго, насычаны малюнкамі Лявона Валасюка. Гады са тры таму назад, калі зборнік яшчэ складаўся, а я знаёміўся з ім, выказаў аўтару параду: хай ягоныя хайку, як соты мёдам, напоўняцца жывымі ўражаннямі і назіраннямі, бо аднаго фармальнага чынніка (5-7-5) мала; ён паслухаўся, з выданнем затрымаўся – да сотаў дадаўся мёд.

Пісьмо Анатоля Дэбіша (зборнік "Зірні ў люстэрка") роўнае і спелае: некалі ў айчынным пісьменстве яно было б дасягненнем, цяпер жа, чытаючы, чакаеш і жадаеш правалу (пралому) ў іншае вымярэнне. Зборнік Уладзіміра Лебедзева "Несціханае рэха" дадаецца да папярэдняга (да "Нязводных прысадаў"), які меў і чытаў; яго вершы добрай работы і, кладучыся ў класічныя формы – пентаметр, санет, трыялет, рубаі, хайку, танка, – гучаць натуральна і паўстаюць знутры самой беларускай мовы. Зборнік перакладаў Міколы Аляхновіча "Такая тонкая размовы ніць"

выйшаў рарытэтным накладам у 50 асобнікаў як файны дадатак да таго, што напісалася – і не напісалася – ім самім. "Цягну да музы рукі, як жабрак", – калі атрымліваў ад яго зборнік, згадаў яму яго ж радок, чысты і шчыры.

Вось, Галіна Іосіфаўна, склаў Вам тут цэлую справаздачу, ужо і Вялікдзень на парозе, жонка (яе завуць Галіна Мікалаеўна) прыйшла з царквы і зноў падалася ў царкву – на ўсяночную, а Вы майцеся добра і перадавайце маё велікоднае прывітанне ўсім нашым сябрам і знаёмым: Хрыстос уваскрос!

**P. S.**

Хачу ўдакладніцца: усе вядомыя малітвы – гэта зычэнне і просьба, і дзеяслоўны лад, які ў іх ужываецца, не апавядальны, а загадна-жадальны: ...Свяціся імя Тваё, прыйдзі Валадарства Тваё, будзь Воля Твая!.. Гэтаксама зычэнне таму, каму яно даецца, вядомае "спасібо" – спасі Бог! І велікоднае "Хрыстос уваскрос!", ці ў стараславянскай транскрыпцыі "Хрыстос уваскрэсе!", а наўзаем "Насампраўдзе ўваскрэсе!", апроч зместу весткі, якою дзяліліся між сабою апосталы, з цягам часу (а мо і адразу) займела канатацыю зычэння. Апосталы ведалі глыбокае – што Хрыстос, уваскросшы сабою, мае ўваскрасаць у іх саміх, у верніках, у хрысціянах, у людзях, як іхняя праўдзівая сутнасць, і адно аднаму гэта зычылі і паведамлялі. Таму, узнаўляючы першаславянскую рэдакцыю, зычу – кажу нанова: Хрыстос уваскрэсе!

А. Р.

*Галіна Бурына*
*Алесь Разанаў*



У 2021 годзе спаўняецца:

**Надзеі АРТЫМОВІЧ** – 70 гадоў

**Уладзіміру САЎЧУКУ** – 65 гадоў

**Жэні МАРТЫНЮК** – 65 гадоў

**Лідзіі МАЛІНОЎСКАЙ** – 55 гадоў



*“Белавежцы” шчыра віншуюць Юбіляраў*
*і зычаць Калегам*
*далейшага жыццёвага і творчага плёну.*

Сяргей КАВАЛЁЎ

# ЛОКІС

П’еса ў 2-х дзеях, версія
паводле апавядання Праспэра Мэрымэ

**А С О Б Ы:**

**Прафесар Вітэнбах**
**Граф Міхал Шэмет**
**Чорная Пані,** маці Міхала Шэмета
**Юлія Івінская**, нарачоная Міхала Шэмета
**Габрыэля Даўгяла**, цётка Юліі Івінскай
**Доктар Фробэр**
**Ад’ютант Ленскі**
**Варажбітка**
**Гадзюка**
**Грыб–Мухамор**
**Мядзведзь**

Дзеянне адбываецца ў 1866 г. у Літве
і ў 1867 г. у Кёнігсбергу.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### З’ява 1

Цемра. Чуваць голас доктара Фробэра.

Г о л а с  Д о к т а р а  Ф р о б э р а. Яна звар’яцела ад жаху… Ад жаху, які аднойчы перажыла. Гэта здарылася дваццаць сем гадоў таму, яшчэ да нараджэння графа Міхала. Праз тры… ці нават два дні пасля вяселля, якое святкавалася ў гэтым самым замку, граф, бацька цяперашняга, паехаў на паляване. Нашы ліцвінскія жанчыны – амазонкі ад роду, як вы ведаеце. Графіня таксама паехала… Ці яна скакала ззаду, ці мо абагнала астатніх паляўнічых… я не ведаю. Але раптам да графа наўскачкі падлятае графінін пахолак, хлопец дванаццаці ці чатырнаццаці гадоў. “Гаспадар, – кажа ён, – мядзведзь панёс графіню!” Усе паляўнічыя скачуць туды, дзе ён паказвае, – графіні ані следу! Ляжыць яе задушаны конь, побач – яе падраны на шматкі кажушок. Пачалі шукаць па ўсім лесе. Нарэшце адзін паляўнічы крычыць: “Мядзведзь!” І праўда, праз паляну ішоў мядзведзь і цягнуў з сабой графіню, напэўна, каб пасля з’есці яе ў гушчары, бо гэтыя звяры – вялікія гурманы. Графа, які быў жанаты ўсяго другі дзень, ахапіў рыцарскі запал, ён хацеў кінуцца на мядзведзя з паляўнічым нажом. Але літоўскі мядзведзь не дасць пратнуць сябе, як нейкі там алень. На шчасце графаў збраяносец, гультаяваты дзяцюк, які быў таго дня такі п’яны, што не адрозніў бы зайца ад казулі, стрэліў з карабіна болей чым за сто крокаў і нават не падбаў, куды пацэліць куля – у звера ці ў жанчыну, і забіў мядзведзя насмерць. На такія стрэлы здатныя толькі п’яныя… Графіня была моцна падрапаная, беспрытомная і з паламанай нагой. Яе вынеслі, яна апрытомнела, але розум пакінуў яе назаўсёды…

### З’ява 2

У маёнтку Мядзінцінталс. За сталом у гасцёўні сядзяць д о к т а р  Ф р о б э р  і  п р а ф е с а р  В і т э н б а х, п’юць мадэру з прыгожых старадаўніх келіхаў і размаўляюць.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х *(уражаны аповядам)*. Назаўсёды?

Доктар Фробэр. На жаль.

Прафесар Вітэнбах.І ваш пільны нагляд, доктар, не вярнуў ёй здароўе?

Доктар Фробэр. Яе вазілі ў Санкт-Пецярбург. Сур'ёзная кансультацыя, чатыры лекары, абвешаныя ўсімі ордэнамі. Яны сказалі: "Пані графіня цяжарная, і магчыма роды стануцца прычынай спрыяльнага крызісу". Лекарам далі па сто рублёў кожнаму. Праз дзевяць месяцаў у графіні нарадзіўся здаровы хлопчык. А дзе ж спрыяльны крызіс? Ніякага крызісу, вар'яцтва толькі абвастрылася. Граф паказаў ёй дзіця. Гэта заўсёды робіць моцнае ўражанне… у раманах. "Забіце яго! Забіце звера!" – закрычала яна і ледзь не кінулася, каб перагрызці яму горла.

Нечакана дзверы гасцёўні расчыняюцца і ў пакой урываецца Чорная Пані – заўчасна састарэлая жанчына з ўскудлачанымі сівымі валасамі і шалёнымі вычыма.

Чорная Пані. Забіце яго! Забіце звера! Падпаліце гэтую праклятую бярлогу, у якую ён вас завабіў!

Доктар Фробэр *(імкліва ўсхопліваецца з-за стала).* Прабачце, прафесар, мушу выконваць свае абавязкі. *(Да Чорнай Пані, сувора).* Хто Вам дазволіў пакінуць свой пакой Пані? Вы хочаце, каб я загадаў абрэзаць Вам валасы?

Чорная Пані *(захінае валасы рукамі, спалохана).* Не, не пазбаўляйце мяне апошняй радасці! Мае прыгожыя кудзеркі!

Доктар Фробэр *(да Вітэнбаха).* Прыступы шаленства чаргуюцца ў яе з поўнай апатыяй. Не паверыце, прафесар, але адзінае нармальнае пачуццё, якое ў ёй засталося – какецтва. Напэўна, калісьці ў яе былі сапраўды шыкоўныя валасы. *(Падыходзіць да Чорнай Пані, далікатна абдымае яе за плечы і выводзіць з пакоя).*

Прафесар Вітэнбах *(ціха).* Несумненна, у яе былі шыкоўныя валасы. Мядзведзь не паквапіўся б на брыдкую кабету.

*Недзе далёка чуваць мядзведжы рык. На парозе гасцёўні паказваецца магутная постаць графа Шэмета. Прафесар Вітэнбах уздрыгвае.*

Граф Шэмет. Добры вечар, прафесар. Я напалохаў вас?

Прафесар Вітэнбах. Вы так нечакана і ціха ўвайшлі…

Граф Шэмет. Я – граф Шэмет, гаспадар маёнтку. Прабачце, што не сустрэў вас учора: пакутваў ад галаўных боляў.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х *(прыўзнімаецца з крэсла і схіляе голаў у знак прывітання).* Доктар Фробэр сустрэў мяне і паказаў бібліятэку. А потым распавёў гісторыю вашай сям'і. Маё спачуванне, граф.

Г р а ф  Ш э м е т. Доктар вельмі заслужаны для нашай сям'і чалавек, хаця… празмерна балбатлівы. Вы знайшлі ў бібліятэцы кнігі, з-за якіх прыехалі ў Літву?

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Так, пане графе. Старадаўнія жамойцкія дайны, ліцвінскія паданні і легенды. Яшчэ раз дзякую за гасціннасць і дазвол карыстацца вашай багатай бібліятэкай.

Г р а ф  Ш э м е т. Дробязі. Рады дапамагчы знанаму навукоўцу. Тым больш, што вы таксама можаце мне аказаць паслугу. Здаецца, акрамя навуковага тытулу вы маеце яшчэ сан евангеліцкага святара?

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Так, пане графе.

Г р а ф  Ш э м е т. Наш мясцовы пастар захварэў, а я якраз надумаў жаніцца. Можаце вы абвянчаць мяне з маёй абранніцай?

П р а ф е с а р  В і т э н б а х (*здзіўлена*). Прызнаюся, просьба нечаканая. Але калі вашая абранніца таксама згодная даверыць службу чужынцу – я да вашых паслугаў. *(Схіляецца ў паклоне).*

Г р а ф  Ш э м е т. Заўтра я вас з ёй пазнаёмлю, прафесар. Яна жыве недалёка адсюль, у маёнтку Даўгялы. Дарэчы, там таксама ёсць бібліятэка. Калі не прыгажосць паненкі, то багацце кнігазбора вас абавязкова ўразіць. *(Натужліва смяецца).*

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. З нецярпеннем буду чакаць заўтрашняга дня.

Г р а ф  Ш э м е т. Дабранач, прафесар.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Дабранач, пане граф. (Граф Шэмет пакідае пакой.)

**З'ява 3**

*Пакой, адведзены прафесару Вітэнбаху. Прафесар збіраецца спаць: загортвае кнігу і кладзе на начны столік, задувае лямпу. Цёплая восеньская ноч. Акно адчынена. Нечакана за вакном чуваць трэск сухіх галін і сцішаны мядзведжы рык. Устрывожаны Вітэнбах узнімаецца з ложка, запальвае лямпу і падыходзіць да вакна. Святло лямпы асвятляе ў лістоце дрэва пад вакном чалавечы твар, вельмі падобны на твар графа Шэмета, але з шалёным бляскам у вачах.*

П р а ф е с а р  В і т э н б а х *(крычыць).* Хто ты, чаго табе

трэба?!

*Дзіўная істота спрытна спускаецца з дрэва, ухапіўшыся за тоўстую галіну, на імгненне павісае на ёй, саскоквае на зямлю і знікае ў цемры. У пакой зазірае занепакоены д о к т а р   Ф р о б э р.*

Д о к т а р   Ф р о б э р. Пан крычаў?

П р а ф е с а р   В і т э н б а х *(паказвае ў бок акна).*Там, на дрэве, нейкі чалавек. Вельмі падобны на графа Шэмета.

Д о к т а р   Ф р о б э р. Пан прафесар, напэўна, памыліўся. Навошта графу ноччу лазіць па дрэвах?

П р а ф е с а р   В і т э н б а х. Але ж нехта там быў!

Д о к т а р   Ф р о б э р. Можа, вавёрка ці начная птушка.

П р а ф е с а р   В і т э н б а х. На дрэве сядзеў чалавек!

Д о к т а р   Ф р о б э р *(недабразычліва).* Пану падалося. Дабранач! *(Знікае).*

**З’ява 4**

*На лясной дарозе, якая вядзе з маёнтка Мядзінцінталс у маёнтак Даўгялы. Граф Ш э м е т  і прафесар В і т э* н *б а х няспешна шпацыруюць у бок Даўгялаў, бавячы час  размовай.*

Г р а ф   Ш э м е т. Прабачце, прафесар, што не прапанаваў вам конную прагулку, але рэч у тым, што ўсе свойскія жывёлы – коні, сабакі – чамусьці мяне баяцца. Можа Вы, як вучоны, растлумачыце мне прычыну?

П р а ф е с а р   В і т э н б а х. Я ўсяго толькі сціплы філолаг, а не псіхолаг.

Г р а ф   Ш э м е т. Заўважце, што я ніколі не б’ю ні коней, ні сабак. Мяне б мучыла сумленне, калі б я хвастануў бедную жывёліну, якая зрабіла глупства, не ўсведамляючы гэтага.

П р а ф е с а р   В і т э н б а х. Пахвальная рыса.

Г р а ф   Ш э м е т *(задумліва).* А вось дзікія жывёлы мяне не шугаюцца. Аднойчы ўлетку я заснуў на лясным пагорку, а прачнуўся ад таго, што нехта ліжа мне твар.

П р а ф е с а р   В і т э н б а х. Казуля?

Г р а ф   Ш э м е т. Не паверыце: вялізная мядзведзіца!

П р а ф е с а р   В і т э н б а х *(уражаны).* І што вы зрабілі?

Г р а ф   Ш э м е т. Зрабіў выгляд, што далей сплю. І мядзведзіца пайшла сваёй дарогай, не крануўшы мяне!

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Дзіўны выпадак. Зрэшты, жывёлы добра разбіраюцца ў людзях і адразу адчуваюць, хто можа зрабіць ім крыўду, а хто не. Вось я, напрыклад, вельмі люблю катоў. І калі я падыходжу, каб палашчыць якога, яны ніколі не ўцякаюць…

Г р а ф  Ш э м е т *(перапыняе).* А вам даводзілася, прафесар, зрабіць крыўду якой-небудзь жывёліне?

П р а ф е с а р  В і т э н б а х *(сумеўшыся).* Хацеў бы адказаць катэгарычна, што не, але быў адзін выпадак…

Г р а ф  Ш э м е т. Цяжка паверыць, гледзячы на вас! Раскажыце, калі не сакрэт.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Гэта здарылася ва Уругвайскай рэспубліцы, дзе я даследаваў мову племені *чаруа*. Аднойчы, заблукаўшы ў бясконцых стэпах, не маючы ні ежы, ні пітва, я быў вымушаны ўзяць прыклад з індзейцаў, што былі разам са мной, – надрэзаць жылу каню і піць ягоную кроў.

Г р а ф  Ш э м е т *(зацікаўлена).* І як вам спадабалася?

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. З маральнага боку гэта было агідна. Але фізічна я пачуў сябе значна лепей і, дзякуючы гэтаму напою, выжыў і цяпер маю гонар размаўляць з панам.

*На лясной дарозе нечакана ўзнікае  В а р а ж б і т к а – старая бабулька з вялізным кошыкам грыбоў, які трымае аберуч перад сабой.*

В а р а ж б і т к а. Паночкі, даражэнькія, купіце грыбы ў старой кабеты. Дайце зарабіць на чарку гарэлкі, каб саграць убогае цела.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х *(прыгледзеўшыся да грыбоў у кошыку).* Хоць я не батанік, але здаецца мне, што сярод гэтых грыбоў шмат ядавітых.

Г р а ф  Ш э м е т *(смяецца).* Вы не ведаеце нашыя ліцвінскія страўнікі, прафесар. Яны як бляхай падбітыя. Нашыя сяляне ядуць усе грыбы, што знойдуць, і ім ад гэтага толькі лепей.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Не дазваляйце ёй каштаваць прынамсі, вось гэты, *agaricus necator,* які я бачу ў кошыку! *(Працягвае руку да вялізнага чырвонага мухамора, каб выкінуць з кошыка).*

В а р а ж б і т к а. Прэч! Грыбы сцеражоныя!

*Побач з мухаморам у кошыку з'яўляецца змяіная галава, гадзюка шыпіць на Вітэнбаха, той спалохана адзёргвае руку.*

Г а д з ю к а *(шыпіць).* Піркунс! Пі-р-кун-сс!

*Нечакана Г р ы б-М у х а м о р такама прыўзнімаецца з кошыка і пачынае спяваць.*

Г р ы б-М у х а м о р. Miszku su Lokiu, abu du tokiu... Miszku su Lokiu, abu du tokiu... Miszku su Lokiu, abu du tokiu...[1]

П р а ф е с а р В і т э н б а х *(працірае вочы ад здзіўлення).* Яны размаўляюць!

Г р а ф Ш э м е т *(кідае Варажбітцы некалькі манетак).* Нам не патрэбны твае грыбы, але вазьмі вось на гарэлку.

В а р а ж б і т к а *(да графа Шэмета).* Я не прымаю міласціны. Не падабаюцца мае грыбы, то можа я табе пагадаю, паночку?

Г р а ф Ш э м е т. А ты мяне бачыла раней? Ведаеш, хто я такі?

В а р а ж б і т к а. Не, паночку. Ведаю толькі, што табе не трэба ездзіць у Даўгялы. Белая галубка не для цябе.

Г р а ф Ш э м е т *(уражаны).* Што ты вярзеш, старая?!

В а р а ж б і т к а. Белая галубка не для цябе. Ты моцны, у цябе кіпці і зубы. Тваё месца ў пушчы, там сёння звяры выбіраюць новага караля. Ідзі, можа, яны выберуць цябе!

Г а д з ю к а *(шыпіць).* Піркунс! Пі-р-кун-сс!

Г р ы б-М у х а м о р. Miszku su Lokiu, abu du tokiu... Miszku su Lokiu, abu du tokiu... Miszku su Lokiu, abu du tokiu...

В а р а ж б і т к а. Яны таксама цябе папярэджваюць. *(Нядобра смяецца).*

*Граф Шэмет робіцца змрочны як хмара перад навальніцай.*

П р а ф е с а р В і т э н б а х *(заўважыўшы рэакцыю графа, да Вядзьмаркі).* Ідзі прэч, кабета! *(Прагнаўшы Варажбітку, да Шэмета).* Не звяртайце ўвагу на яе балбатню, граф! Відавочна, яна ўжо пакаштавала тых грыбоў, што назбірала!

Г р а ф Ш э м е т (*ачуняўшы*). Прабачце, прафесар! Прычына не ў грыбах. Мяне ўсе ведаюць у ваколіцы, і ведаюць, што я часта езджу ў Даўгялы, бо закаханы ў тамтэйшай панне. Гэтая ведзьма таксама, відаць, не раз бачыла мяне на дарозе. Які-небудзь малойчык, зайздросны да нашага шчасця, даў ёй у лапу, каб яна наваражыла мне злы лёс і я перадумаў жаніцца. Я ўсё разумею, аднак яе словы кранулі мяне і я… разгубіўся. А што вы параіце, прафесар?

---

[1] Miszku su Lokiu, abu du tokiu — Мішка і мядзведзь – абодва тое самае (літ.)

П р а ф е с а р  В і т э н б а х *(здзіўлена).* У сэнсе?

Г р а ф  Ш э м е т. Жаніцца мне ці не?

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. У мяне цвёрдае правіла: я ніколі не даю парадаў у сардэчных справах.

Г р а ф  Ш э м е т. Гэта мудра.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х *(усміхаецца).* Акрамя таго, я нават не бачыў вашай нявесты, граф.

Г р а ф  Ш э м е т. Які я дурань… Хадземце хутчэй, прафесар. Я пазнаюмлю вас з паннай Юлькай.

**З'ява 5**

*У маёнтку Даўгялы. За сталом у гасцёўні п'юць гарбату пані Г а б р ы э л я  Д а ў г я л а, д о к т а р  Ф р о б э р і а д'ю т а н т  Л е н с к і.*

Д о к т а р Ф р о б э р *(апавядае).* Мне таксама давялося служыць у расійскай арміі. Аднойчы пад Севастопалем у час Крымскай кампаніі, выконваючы абавязкі палкавога лекара...

*Звініць званочак, у гасцёўню ўваходзяць  г р а ф  Ш э м е т  і п р а ф е с а р  В і т э н б а х. Усе прысутныя ўстаюць з-за стала, пані Г а б р ы э л я  ідзе насустрач гасцям, каб павітаць іх. Габрыэлі каля 25-30-гадоў, у яе правільныя, шляхетныя рысы твару, але цяжка назваць яе прыгажуняй. Да таго ж апранута яна сціпла і някідка.*

Г а б р ы э л я. Граф, як я рада вас бачыць. Можа хоць у вашай прысутнасці яны  спыняць размовы пра армію.

Г р а ф  Ш э м е т *(пацалаваўшы ручку Габрыэлі, да прафесара Вітэмбаха).* Пані Габрыэля, Анёл Ахоўнік гэтага дому. *(Да Габрыэлі, прадстаўляе Вітэмбаха).* Прафесар Вітэмбах, знаны філолаг і фальклярыст.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х *(схіліўшы галаву).* Маё шанаванне пані.

Г а б р ы э л я. Як нечакана! Я толькі ўчора чытала ваш артыкул пра казкі уральскіх народаў у кёнігсбёргскай "Навукова-літаратурнай газеце".

П р а ф е с а р  В і т э н б а х *(здзіўлена).* Сапраўды, нечакана.

Г а б р ы э л я *(узяўшы прафесара пад руку, падводзіць да стала).* Дазвольце, прафесар, я пазнаёмлю вас з нашымі гасцямі. Доктара  Фробэра вы, напэўна, ведаеце. А гэта – ад'ютант Ленскі, наш добры прыяцель.

Г р а ф  Ш э м е т *(бурчыць).* Задобры…*(Да Фробэра).* Вашая прысутнасць тут, доктар, азначае, што маці сёння лепей?

Д о к т а р  Ф р о б э р. Так, пане. Яна трызніла ўсю ноч, а раніцай заснула і я пакінуў яе пад наглядам апякункі.

Г р а ф  Ш э м е т *(да Габрыэлі, нечакана пачырванеўшы).* А дзе пані Юлія?

А д'ю т а н т  Л е н с к і *(усміхнуўшыся).* Нашая наяда прымярае новую сукенку, толькі што дастаўленую з Парыжу. Зараз выйдзе, каб забіць нас сваёй прыгажосцю. Вы прыехалі ў самы час, граф.

Г р а ф  Ш э м е т *(недабразычліва).* Некаторыя асобы прыехалі яшчэ раней.

Г а б р ы э л я *(паспешліва).* Пане Міхал, як добра, што вы намовілі прафесара прыехаць да нас. Сядайце за стол, будзем піць сунічную гарбату і размаўляць на навуковыя тэмы. Мы з пляменніцай ужо стамілася ад армейскіх анекдотаў і выпадкаў з лекарскай практыкі.

Д о к т а р  Ф р о б э р. Пацвярджаю, што ў асобе пані Габрыэлі прафесар знойдзе годнага суразмоўцу. *(Усміхаецца).* А вось ці зацікавяць навуковыя тэмы панну Юлію – не ведаю.

А д'ю т а н т  Л е н с к і. У панны Юліі шмат іншых прывабных якасцяў. А вось і наша прыгажуня.

*На парозе вітальні з'яўляецца Ю л і я  І в і н с к а я ў яркай моднай сукенцы. Гэта надзвычай прыгожая і прывабная дзяўчына 16-18 гадоў.*

Ю л і я *(з выклікам).* Ну, як?

*Мужчыны ўзнімаюцца з-за стала, ад'ютант Ленскі і доктар Фробэр пляскаюць у далоні.*

Д о к т а р  Ф р о б э р. Багіня Юнона!

А д'ю т а н т  Л е н с к і. Парыж у захапленні!

Ю л і я *(да графа Шэмета).* А вы што скажаце, граф?

Г р а ф  Ш э м е т *(няўпэўнена).*Сукенка вам пасуе.

Ю л і я. Пасуе? *(Гнеўна).* І гэта ўсё?

Г а б р ы э л я *(устаўшы з-за стала).* Ну, хопіць. Ад танных кампліментаў мы таксама стаміліся. Юлія, пан Міхал прывёз з сабой прафесара Вітэнбаха, вядомага ва ўсім свеце вучонага. *(Падыходзіць да Юліі, бярэ яе за руку і падводзіць да прафесара Вітэнбаха).* Вось, пазнаёмся. Мы якраз збіраліся піць гарбату і паслухаць пана пра-

фесара.

Ю л і я *(з цікавасцю).* Ва ўсім свеце? *(Працягвае руку Вітэнбаху).*

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Пані Габрыэля перабольшвае. *(Паслухмяна цалуе руку Юліі).*

Ю л і я. А што прывяло такую славутасць у наш мядзведжы кут?

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Збіраю ліцвінскія і жамойцкія паданні. *(Кінуўшы асцярожны погляд на графа Шэмета).* У прыватнасці мяне цікавіць вобраз мядзведзя у балтыйскім і славянскім фальклоры.

Ю л і я. Мядзведзя? І як, знайшлі што цікавае?

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Учора ў бібліятэцы графа знайшоў ажно два ліцвінскіх паданні пра тое, адкуль узяліся мядзведзі.

Ю л і я. О, раскажыце!

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Паводле першай версіі, мядзведзі пайшлі ад чалавека, які ленаваўся працаваць і пад'ядаў мёд у чужых пасеках.

Д о к т а р  Ф р о б э р. Вельмі падобна на лянівых ліцвінаў.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Паводле другой, мядзведзь пайшоў ад чалавека, які хацеў напалохаць Бога.

Г р а ф  Ш э м е т. Напалохаць Бога?

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Так. Вывярнуў свой кажух навыварат і выскачыў у прыцемках насустрач прыхадню-незнаёмцу. Хацеў пажартаваць. А незнаёмец аказаўся Ісусам, які сказаў: "Вось так і хадзі ўсё жыццё ў кажуху". І ператварыў мужыка ў мядзведзя.

А д'ю т а н т  Л е н с к і. Нефартунны жарцік.

Г а б р ы э л я. Другое паданне больш цікавае.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. А яшчэ я знайшоў выдатную гісторыю ў мясцовай хроніцы XVI стагоддзя. *(Міжволі кідае погляд на графа Шэмета).*

Ю л і я. О, раскажыце! Напэўна, нешта жахлівае і крывавае.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х *(задумліва).* Цікава, што чалавек, які ператвараецца ў мядзведзя, не ведае пра свае здольнасці і не памятае, што здарылася з ім ноччу. Адзін мясцовы баярын, магчыма продак графа Шэмета, пасварыўся з угорскім афіцэрам, прыдворным караля Стэфана Баторыя. Прызначылі на заўтра паядынак. Афіцэр меў славу заядлага дуэлянта, не аднаго няшчаснага адправіў на той свет. Баярын напярэдадні дуэлі кепска спаў, а калі прачнуўся, са

здзіўленнем заўважыў, што мае параненую правую руку. "Як жа я буду біцца з угорцам параненай рукой?", – падумаў баярын. Як тут чаляднікі прыносяць нечаканую навіну: дуэлі не будзе. Ноччу на афіцэра напаў мядзведзь і разадраў на кавалкі, хоць той і бараніўся адважна.

А д’ю т а н т Л е н с к і *(смяецца).* Простая мараль – з мясцовымі лепей не задзірацца. *(Таксама кідае погляд на графа Шэмета).*

Д о к т а р Ф р о б э р. Атрымліваецца, што пярэваратнем быць вельмі зручна.

П р а ф е с а р В і т э н б а х. Не зусім. Паводле хронікі, баярына напаткала жахлівая смерць. Сяляне, у якіх па начах знікалі каровы і авечкі, выследзілі пярэваратня і спалілі дом разам з гаспадаром.

Запаноўвае цішыня. Усе ўражаныя аповядам Вітэнбаха.

Ю л і я *(нечакана).* А не сустракалася вам паданне пра мядзведзя, які выкрадае дзяўчыну і цягне яе ў бярлогу, каб зрабіць сваёй жонкай?

Зноў запаноўвае доўгае маўчанне, усе стараюцца не глядзець на графа Шэмета. Раптам ад’ютант Ленскі ўсхопліваецца на ногі і б’е сябе далоняй па ілбе.

А д’ю т а н т Л е н с к і. Пушкін!

Г а б р ы э л я *(недабразычліва).* Што з вамі, ад’ютант? Якія пушкі?

А д’ю т а н т Л е н с к і *(усхвалявана).* Я, чалавек вайсковы, не абазнаны ў літаратуры, як пані Габрыэля, але пакольк маё прозвішча Ленскі, “Яўгенія Анегіна” я з цікавасці прачытаў. Дык вось, Пушкін апісвае ў рамане сон Таццяны: ёй сніцца, што мядзведзь цягне яе праз зімовы лес у свой шалаш.

Д о к т а р Ф р о б э р *(з недаверам).* У шалаш?

А д’ю т а н т Л е н с к і. Так у Пушкіна. На памяць я, канечне, не згадаю, але ў бібліятэцы пані Габрыэлі напэўна знойдзецца экземпляр.

Г а б р ы э л я. Тым разам Ленскі мае рацыю. Нешта такое прыгадваю. Хаця я больш люблю чытаць Міцкевіча.

Ю л і я *(усхопліваецца).* Усё, я стамілася ад вашых нудных

размоў. Я хачу таньчыць! Граф! *(Працягвае руку да графа Шэмета).*

Г р а ф  Ш э м е т (*вінавата*). Панна Юлія ведае, што я таньчу… як мядзведзь.

А д’ю т а н т  Л е н с к і. А я ахвотна патаньчу з паннай Юліяй, пакуль яна яшчэ не зрабілася графіняй Шэмет. *(Бярэ Юлію за руку).*

Ю л і я. Доктар, за раяль!

Д о к т а р  Ф р о б э р. Слухаюся, прынцэса!

Ю л і я *(загадным голасам).* Прафесар, Габрыэля, далучайцеся да нас!

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Калі можна, я лепш пазнаёміўся б з вашай бібліятэкай.

Г а б р ы э л я. Ахвотна праводжу вас, прафесар.

*Прафесар Вітэнбах і Габрыэля ідуць у бібліятэку, доктар Фробэр грае на раялі, Юлія і ад’ютант Ленскі таньчаць, граф Шэмет сядзіць за сталом самотны і змрочна назірае за танцорамі.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### З’ява 6

Раніцай наступнага дня ў маёнтку Мядзінцінталс. П р а ф е с а р  В і т э н б а х  вывучае кнігазбор бібліятэкі Шэметаў. Уваходзіць г р а ф  М і х а л  Ш э м е т, вінавата ўсміхаецца, убачыўшы прафесара за працай.

Г р а ф  Ш э м е т. Добрай раніцы, прафесар. Прабачце, што адрываю вас ад працы, але мне карціць даведацца вашыя ўражанні ад нашага візіту ў Даўгялы.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х *(неахвотна вяртаючы кнігу на паліцу).* Як знаўца, магу аўтарытэтна сцвярджаць, што вашая бібліятэка лепшая, граф.

Г р а ф  Ш э м е т. Пан ведае, што не бібліятэка мяне цікавіць. Як вам панна Юлька?

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. На жаль, у кабетах я разумею менш, чым у кнігах. Але голым вокам відаць, што панна Юлія – надзвычай эфектная прадстаўніца жаночага полу.  Такія экзэмпляры сустракаюцца раз на тысячу асобнікаў.

Г р а ф  Ш э м е т. Вы гаворыце пра яе як пра нейкага рэдкага матылька і ацэньваеце толькі знешні выгляд. А што вы скажыце пра яе разум, пра характар?

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. З гэтага пункту гледжання, я б

параіў вам, граф, лепей ажаніцца з яе цёткай, пані Габрыэляй. Я з прыемнасцю паразмаўляў з ёй у бібіятэцы амаль дзве гадзіны. Дарэчы, яна таксама не брыдкая з твару і яшчэ даволі маладая.

Граф Шэмет. Разумею вашую далікатнасць, прафесар. Скажам шчыра: панна Юлька – неверагодная баламутка і страшная какетка. Як вы думаеце, гэты бялявы ад'ютанцік ёй сапраўды падабаецца?

Прафесар Вітэнбах. Чаму вы так вырашылі?

Граф Шэмет. Ён хлюст і нахабнік, якраз такія падабаюцца жанчынам.

Прафесар Вітэнбах. Мне здаецца, панна Івінская наўмысна какетнічае з ад'ютантам, каб выклікаць вашую рэўнасць. Вы цікавіце яе больш, чым ад'ютанты ўсіх армій на свеце.

Граф Шэмет *(пачырванеўшы).* Дзякуй, што вы так лічыце.

Прафесар Вітэнбах *(задумліва).* Няцяжка заўважыць, што паміж вамі існуе нейкі ўзаемны магнетызм. Вось толькі, ці можна назваць гэтае пачуццё каханнем і ці прынясе яно вам шчасце? Вы адважны чалавек, калі рызыкуеце прыняць капрызлівы характар вашай выбранніцы як дадатак да яе маладосці і прыгажосці. *(Сумеўшыся).* Выбачайце, граф, я нагаварыў лішняга. Але як святар я вельмі адказна стаўлюся да шлюбу.

Граф Шэмет. Вядома, вядома. А як навуковец, вы прызнаеце раздвоенасць нашай натуры?

Прафесар Вітэнбах. Што вы маеце на ўвазе?

Граф Шэмет. Ці не даводзілася вам калі-небудзь глядзець з вяршыні вежы ці з краю прорвы, адначасова адчуваючы страх перад вышынёй і жаданне кінуцца ўніз?

Прафесар Вітэнбах. Гэта можна растлумачыць законамі фізіялогіі. Стомленасць, спрычыненая доўгім пад'ёмам ці ўзыходжаннем, выклікае прыток крыві да мозга, які…

Граф Шэмет. Да д'ябла ваш прыток крыві, прафесар! Возьмем іншы прыклад. У вашай руцэ зараджаная зброя. Побач – ваш найлепшы сябар. Вам прыходзіць думка пусціць яму кулю ў лоб. Вы страшна баіцеся забойства і аднак пра яго думаеце. Мне здаецца, калі б усе думкі, якія прыходзяць нам у галаву за адну гадзіну… калі, скажам, усе вашыя думкі, пане прафесар, запісаць на паперы, яны склалі б вялізны том, і не знойдзецца такога адваката, які б на падставе напісанага не запатрабаваў для вас пазбаўлення правоў, не знойдзецца такога суддзі, які не пасадзіў бы вас у турму ці ў вар'ятню.

Прафесар Вітэнбах *(уражаны нечаканым маналогам*

*графа).* Калі ў маёй галаве ўзнікае нейкая думка, гэта яшчэ не значыць, што я зараз пачну дзейнічаць згодна з ёй ці ўвогуле буду мець такі намер. Ніколі ў мяне не было думкі некага забіць, але калі б такая думка і прыйшла б мне, дык мой розум яе прагнаў бы. Змагаючыся са сваімі пачуццямі, мы набываем новыя сілы, каб аслабляць гэтыя пачуцці і панаваць над імі!

Г р а ф  Ш э м е т. Кіньце! Цяпер вы гаворыце не як навуковец, а яе святар. *(Хоча ісці, але раптам спыняецца).* Што датычыць панны Юлькі, не падумайце, што я ў яе закаханы па вушы і яе абагаўляю. Не. Мяне забаўляе яе вясёлы твар. “Твар іх бела-ружовы, як смоль, чорныя бровы”, – пісаў пра такіх жанчын наш паэт Міцкевіч. Мне прыемна глядзець на яе белую скуру… А больш у ёй нічога добрага няма… Скура – так. А вось розуму – ані кроплі. Я ніколі не бачыў у ёй нічога іншага, як толькі прыгожую ляльку, на якую прыемна глядзець, калі нудзішся… Напэўна можна сказаць, што яна прыго-жая… Скура ў яе проста чароўная!.. Пане прафесар, кроў, што цячэ пад гэтай скурай, мусіць быць смачнейшая за конскую?.. Як вы думаеце? *(Выбухае смехам і сыходзіць).*

**З’ява 7**

У маёнтку Даўгялы. Напярэдадні шлюбу панне Ю л і і  І в і н с к а й сніцца сон Таццяны Ларынай з прачытанага ўчора рамана Аляксандра Пушкіна “Яўгеній Анегін”. Панна Юлія ад жаху крычыць і прачынаецца. У пакой ўваходзіць устрывожаная пані Габрыэля.

Г а б р ы э л я *(падыходзіць да ложка і сядае побач з Юліяй).* Што з табой, мая любая дзяўчынка? Чаму ты крычала? *(Хоча абняць пляменніцу).*

Ю л і я *(вырываецца).* Навошта ты падсунула мне гэтую агідную кніжку? *(Вымае з-пад падушкі “Яўгенія Анегіна” і кідае на падлогу).* Мне прыснілася, што я – Таццяна Ларына, і мядзведзь валачэ мяне па сумётах у свой… шалаш!

Г а б р ы э л я. Ты сама папрасіла яе прачытаць. *(Устае і паднімае з падлогі кніжку).*А параіў табе гэта зрабіць ад’ютант Ленскі.

Ю л і я. Пустагаловы ідыёт!

Г а б р ы э л я. Цалкам згодная з тваёй характарыстыкай. Але я хацела пагаварыць з табой не пра яго, а пра графа Міхала.

Ю л і я *(незадаволена).*Зноў?

Г а б р ы э л я *(занепакоена).*Ты ўпэўненая, што яго кахаеш?

Ю л і я. Колькі можна пытацца пра тое самае?

Г а б р ы э л я. Сёння адбудзецца ваш шлюб.

Ю л і я. Акурат таму тваё пытанне *ўжо* недарэчнае.

Г а б р ы э л я. Але шлюб можна адкласці ў любы момант! Я твая апякунка, толькі скажы!

Ю л і я. Я не ведаю, ці кахаю я графа. У мяне няма з чым параўнаць сваё пачуццё. *(Пазмрачнеўшы).* Калі ён побач – ён мяне зліць і раздражняе. Калі яго няма – я думаю пра яго і мне яго бракуе... *(Пераканана).* Напэўна *ён* кахае мяне.

Г а б р ы э л я. Не сумняваюся. Але, пагадзіся, што граф крыху дзіўны і нават… дзікі. А маці ягоная – увогуле вар'ятка.

Ю л і я. Я таксама вар'ятка. Бо толькі вар'ятка згадзілася б выйсці замуж за такога маўчуна. *(Рашуча).* Хопіць пра гэта. Я выходжу замуж за графа Шэмета! Сёння госці ўбачаць прыгожую маладую ў шыкоўнай сукенцы і будзе добрая забава!

Г а б р ы э л я *(абурана).* Нельга так легкадумна ставіцца да шлюбу!

Ю л і я. Нельга так сур'ёзна як ты. Можа таму ты ніколі і не была замужам?

Г а б р ы э л я *(бяз крыўды).* Ах, ты, маленькая яхідна! *(Б'е Юлію падушкай).*

Ю л і я *(павесялеўшы).* А ты – лупатая сава! *(Хапае другую падушку і б'е Габрыэлю ў адказ).*

**З'ява 8**

Невялічкая евангеліцкая капліца ў маёнтку Мядзінцінталс. Прафесар В і т э н б а х у шатах евангеліцкага святара праводзіць службу вянчання графа Ш э м е т а і панны Ю л і і. Маладыя стаяць перад святаром, які задае ім пытанні і выслухоўвае адказы. На службе прысутнічае цётка і апякунка Юліі – пані Г а б р ы э л я Д а ў г я л а і маці графа Шэмета – Ч о р н а я П а н і, якой клапатліва апякуецца доктар Ф р о б э р. Ч о р н а я П а н і не звяртае на тое, што адбываецца вакол яе ніякае ўвагі, лунаючы думкамі ў сваім дзіўным свеце. Прысутнічае на цырымоніі і ад'ютант Ленскі, які стаіць поруч з Габрыэляй Даўгялай.

П р а ф е с а р В і т э н б а х. Перад абліччам Бога і людзей, якія сабраліся ў гэтай капліцы, пытаюся ў вас, пан Міхал і панна Юлія, ці дабраахвотна вы ўступаеце ў гэты шлюб?

Г р а ф Ш э м е т. Так, дабраахвотна.

Ю л і я. Так.

П р а ф е с а р В і т э н б а х. Пан Міхал і панна Юлія, ці ўсведамляеце вы важнасць гэтага кроку і адказнасць за яго перад

Богам і людзьмі?

Г р а ф Ш э м е т. Так, усведамляю.

Ю л і я. Так.

П р а ф е с а р В і т э н б а х. Ці ведае нехта з прысутных абставіны, якія б перашкаджалі заключэнню гэтага шлюбу? *(Уважліва глядзіць на прысутных. Ніхто не адгукаецца, доктар Фробэр на ўсякі выпадак далікатна абдымае Чорную Пані, але тая па-ранейшаму ні на што не рэагуе.)*

П р а ф е с а р В і т э н б а х (*канстатуе*). Такіх абставінаў няма. *(Да жаніха з нявестай).* Пан Міхал, ці згодны вы ўзяць у жонкі панну Юлію?

Г р а ф Ш э м е т. Так, згодны.

П р а ф е с а р В і т э н б а х. Панна Юлія, ці згодная вы выйсці замуж за пана Міхала?

Ю л і я. Згодная.

П р а ф е с а р В і т э н б а х. Ці абяцаеце вы кахаць адзін аднаго і захоўваць вернасць адно аднаму ажно пакуль смерць вас не разлучыць?

Г р а ф Ш э м е т *(гучна).* Абяцаю кахаць Юлію і захоўваць вернасць ажно пакуль смерць нас не разлучыць.

Ю л і я *(ціха).* Абяцаю, пакуль смерць нас не разлучыць.

П р а ф е с а р В і т э н б а х. Абмяняйцеся пярсцёнкамі ў знак непарушнасці вашай клятвы. *(Падае жаніху з нявестай тацу з пярсцёнкамі. Граф Шэмет і панна Юлія абменьваюцца пярсцёнкамі.*)

П р а ф е с а р В і т э н б а х. Уладаю, дадзенаю мне Богам, евангеліцкай царквой і людзьмі абвяшчаю вас мужам і жонкай. Алілуя.

Граф Шэмет і панна Юлія цалуюцца ў знак згоды і вечнай любові.

А д’ю т а н т Л е н с к і *(на вуха пані Габрыэлі).* Вашая пляменніца ў ролі навесты выглядае як прынцэса. Затое жаніх – хоць і з графскім тытулам – а, мядзведзь мядзведзем!

Г а б р ы э л я *(з дакорам).* Гэта вы ад зайздрасці, ад’ютант!

Ч о р н а я П а н і *(пачуўшы знаёмае слова нечакана ўпадае ў шал).* Мядзведзь! *(Паказвае на графа Шэмета).* Ён нясе жанчыну! Забіце яго! Страляйце, страляйце! (*Кідаецца на графа, узняўшы руку з відэльцам*).

Д о к т а р Ф р о б э р (*перахоплівае вар’ятку*). Графіня, вы ж абяцалі мне! *(Абурана).* Адкуль у вас відэлец? (*Адбірае відэлец у*

*графіні*). Хочаце, каб я загадаў абрэзаць Вам валасы?

Г а б р ы э л я. О, Божа, навошта прывялі на шлюб гэтую вар'ятку?

Д о к т а р  Ф р о б э р. Прабачце хворай жанчыне. *(Хапае Чорную Пані ў абдымкі і выводзіць прэч з капліцы).*

Нечакана панна Юлія заходзіцца гучным смехам, разгублены граф Шэмет спрабуе супакоіць нявесту.

А д'ю т а н т  Л е н с к і *(іранічна).* Пачынаць сумеснае жыццё са скандалу – дрэнны знак. Як вы лічыце, пані Габрыэля?

Г а б р ы э л я. Зноў зайздросціце, Ленскі?

А д'ю т а н т  Л е н с к і. Вядома. Зайздрошчу графу першай шлюбнай ночы.

**З'ява 9**

Наступнай раніцай пасля шлюбу ў маёнтку Мядзінцінталс. Пакой маладых. На ложку нехта ляжыць. Вакно расчынена, лёгкі вецер камеча фіранкі, але ў пакоі досыць цёмна. Чуваць стук у дзверы і галасы.

Г о л а с  д о к т а р а  Ф р о б э р а. Пане граф, пані графіня, уставайце – час абедаць. Шлюбная ноч скончылася, госці непакояцца.

Г о л а с  п а н і  Г а б р ы э л і. Юлія, даражэнькая, мы ўсе вас чакаем!

Г о л а с  д о к т а р а  Ф р о б э р а. Ніхто не адгукаецца. Лакей прастаяў пад дзвярыма гадзіну, грукаў з дваццаць разоў, потым прабег да мяне.

Г о л а с  п а н і  Г а б р ы э л і. Напэўна, гэта чарговы жарт, але вельмі недарэчны. Юлія! Граф! Ад Юліі ўсяго можна чакаць, але ж вы, пане Міхал, дарослы чалавек!

Г о л а с  п р а ф е с а р а  В і т э н б а х а. Нешта тут не так. Няхай лёкай ламае дзверы.

Дзверы з трэскам расчыняюцца. Уваходзяць прафесар В і т э н б а х, доктар Ф р о б э р і пані Г а б р ы э л я. Фробэр падыходзіць да вакна і рассоўвае фіранкі, асвятляючы пакой. На ложку ляжыць разадранае цела панны Юліі, твар падрапаны, горла перарэзанае, паўсюль кроў. Графа Шэмета ў пакоі няма. Убачыўшы цела Юліі, пані Габрыэля дзіка крычыць і закрывае твар рукамі.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х *(уражаны пераходзіць на родную*

*мову).* O, mein Gott! Яе зарэзалі. *(Адводзіць позірк ад разадранага цела Юліі).*

Д о к т а р  Ф р о б э р а *(падыходзіць да ложка, нахіляецца і ўважліва аглядае страшную рану).* Не. Яе загрызлі.

**З’ява 10**

Праз год у доме прафесара В і т э н б а х а ў Кёнігсбергу. У пакоі гаспадар і ягоны госць – доктар Ф р о б э р.

Д о к т а р  Ф р о б э р. Праязджаючы праз Кёнігсберг, не мог не завітаць да вас, прафесар. Расказаць пра смерць графіні. Каб вы ведалі, прафесар, як яна мяне замучыла, гэтая шайтанка. Я адчуваў сябе ў гэтым глухім маёнтку як у вязніцы і ніякія грошы не маглі кампенсаваць мне адарванасць ад цывілізацыі. Калі графіня нарэшце памерла, я стаўся самым шчаслівым чалавекам на зямлі і цвёрда вырашыў вярнуцца ў родную Германію, у *культурную* краіну. Вы мяне разумееце.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Так, разумею. А пра яе сына, графа Шэмета ёсць якія звесткі?

Д о к т а р  Ф р о б э р. Пасля шлюбнай ночы граф знік бясследна, ніхто яго больш не бачыў. Было праведзена пільнае следства, забойцу Юліі Івінскай не знайшлі, але па ваколіцы пачалі гуляць плёткі… Нібыта ўся гэтая масакра – старанна разыграны спектакль. Разыграны ў змове цёткай Юліі – Габрыэляй Даўгялай і ад’ютантам Ленскім. Нібыта ў іх быў раманчык…

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Не можа быць!

Д о к т а р  Ф р о б э р. О не, прафесар. Вы не ўяўляеце нікчэмнасці чалавечай натуры. Змова з мэтай завалодаць маёнткам Даўгялы, а потым і Мядзінцінталс. А смерць Юліі зваліць на графа Шэмета. Напэўна, графа яны таксама забілі, а цела закапалі недзе ў лесе.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Ніколі не паверу!

Д о к т а р  Ф р о б э р. А ў мядзведзя-пярэваратня верыце? Вы, адукаваны чалавек, навукоўца.

Запаноўвае доўгая паўза.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х *(заплюшчыўшы вочы).* Часам я ўяўляю, як ён бяжыць па лясной дарозе. Вялізны, калматы, буры мядзведзь. Бяжыць няўрымсліва, не спыняючыся. Бяжыць на волю, доў-

гачаканую, спрадвечную. Уцякаючы ад нас і... ад сябе ранейшага. Пераадольваючы раздвоенасць натуры, чалавечай і звярынай. Скінуўшы путы судовых законаў і маральных забабонаў. Вольны ад абавязкаў, штодзённых клопатаў, парожніх планаў і абяцанняў. Свабодны як вецер. Шчаслівае дзіця матухны прыроды. У свеце, дзе няма паняццяў дабра і зла, злачынства і пакарання. Дзе няма спагады і літасці, але затое няма хлусні і фальшу. Дзе ўсё дазволена і можна споўніць самыя патаемныя, загнаныя ў падсвядомасць жаданні... Я не апраўдваю яго, але часам... яму зайздрошчу. (*Расплюшчвае вочы, глядзіць уважліва на доктара Фробэра*). А вы, доктар?

Д о к т а р  Ф р о б э р (*пачырванеўшы*, *абурана*). Што за пытанне?! Не чакаў ад вас такіх дзіўных думак, прафесар.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х (*згадаўшы словы графа Шэмета*). Скажыце, вам не здаецца, што калі б усе думкі, якія прыходзяць нам у галаву запісаць на паперы, скажам... вашы думкі, яны склалі б вялізны том, і не знойдзецца такога адваката, які б на падставе напісанага не запатрабаваў для вас пазбаўлення правоў, не знойдзецца такога суддзі, які не пасадзіў бы вас у турму ці ў вар'ятню?

Д о к т а р  Ф р о б э р (*насцярожана зірнуўшы на прафесара*). Час мне выпраўляцца ў дарогу! *(З палёгкаю).* Напэўна ніколі больш не сустрэнемся ў гэтым жыцці.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Напэўна, ніколі.

Доктар Фробэр выходзіць. Пачакаўшы, прафесар Вітэнбах стукае касцяшкамі пальцаў па стале. З суседняга пакою выходзіць пані Г а б р ы э л я  Д а ў г я л а.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Чула?

Г а б р ы э л я. Якія плеткары! Якое ўбоства! У іх проста не хапае мазгоў прыдумаць больш цікавую гісторыю.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Так.

Г а б р ы э л я *(падыходзіць да Вітэнбаха, абдымае яго).* Дарэчы, грошы за прададзены маёнтак ужо ў Кёнігсберскім банку. Мы можам адпраўляцца ў падарожжа.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Спачатку Амерыка, потым Індыя і Кітай...

Г а б р ы э л я. Так, як мы задумалі, любы мой.

П р а ф е с а р  В і т э н б а х. Так, як мы задумалі, любая.

З а с л о н а

Яўген СКІБСКІ

# МАРЫ

*Андрэю Хадановічу*

Карацей, мізансцэна такая:
вечар чорнаю кобрай
ціха ў пакой сцякае...
І чалавек пад коўдрай.

Хто схаваўся там да відна,
паліць тры ліхтары?
Пакуль невядома, аднак
версій існуе тры.

Дзіцю з кашмараў не спіцца –
яно галаву хавае?
Ці маладзён з дзясніцай
інтымную сувязь мае?

А можа няўдалы каханак
шукае сваё рыззё,
дрыжыць, бо прыйшоў на ганак
муж, а ў яго – ружжо?

Усё гэта, братцы, не тое.
Усё гэта, людцы, пустое.

Я марыў аб тым аднойчы,
а можа пабачыў сон:
пад коўдрай быў Хадановіч,
так-так менавіта ён.

Не дом і нават не хатку,
куды б вадзіць маладзіц, -
зрабіў ён з коўдры палатку
і ціхенька там сядзіць

з адломленай хлеба скібкаю
(Сусвет – прастора палаткі),
чытаё натхнёна Скібскага,
плача, робіць нататкі...

## Зінаідзе Дудзюк

Зірнеш – а вясна ж навокал!
Птушачкі ды трава...
У небе блакітным жаркае вока
(на жаль адно, а не два)

Лье на горад ды на сяло
цяпло, а яно... пустое.
Чаму пустое, яно ж – цяпло?
Таму што цяпло – не тое.

Не тое, што трапяткое галлё
зберажэ ад ляза сякеры;
не тое, што выганіць з сэрца лёд;
не тое, што дасць нам веры;

не тое, што раптам, калі зачах –
падорыць яшчэ адну спробу.
А тое – бывае толькі ў вачах,
у тых, каторыя побач.

Таго і жадаю ў Ваш юбілей –
сагрэцца збітай душой...
А стала Вам хоць крыху цяплей –
мой дзень не дарма прайшоў.

## Андрэю Хадановічу

*За дадатковую плату – чего не сделаешь ради денег! –*
*уключу ў гэты спіс і цябе, калі ты дзяўчына альбо*
*пісьменнік.*
*Шукай абменнік!*

Андрэй Хадановіч. *Музей дзяўчатаў*

Каб паэтам стаць самым лепшым,
я звярнуся да Хадановіча –
хай уключыць мяне ў верш,
умацуе маё становішча.

Калі б быў я дзяўчом прыгожым –
не такім што на рынку з клункамі –
я б з вясёлай нахабнай рожай
разлічыўся з ім пацалункамі.

Але я ж не дзяўчо, а мача!
Гэты метад не для мяне
і пісьменніцкая ўдача
сёння Скібскага абміне.

І які б я не быў харошы
(талент ёсць там ці не – не суць) –
грошы, грошы і толькі грошы
на Парнас мяне ўзнясуць.

Адчыню я свае скарбонкі,
ператрус у хаце ўчыню
і ў кішэні насыплю звонкіх
медзякоў на ўсю глыбіню.

На, бязлітасны злодзей, грабі,
а паэта з мяне зрабі!

***

*Усім, чые кнігі ёсць у маёй кніжнай шафе*
*і яшчэ з’явяцца там,*
*усім, чые вершы ёсць у маім сэрцы*
*і яшчэ з’явяцца там*

мая кніжная шафа
больш нагадвае шапік
бо многія кнігі
падобныя да часопісаў
многія нават без назвы на карашку
тонкія
мімалётныя
здаецца

але падабенства
толькі ў памерах
толькі ў знешніх выглядзе
калі прачытаеш імёны паэтаў
зразумееш чаму
калі прачытаеш вершы
зразумееш астатняе

## Насцёнцы

у кожнага
можа настаць перыяд
калі пераходзіш на прозу
гляньце на біяграфіі
сваіх улюбёных паэтаў
і знойдзеце нешта падобнае
гэта праходзілі многія
Пушкін
Высоцкі...
і іншыя

часам здаецца
што паэзія мае межы
і тое
што трэба сказаць

у гэтыя межы не ўціснеш
але паэзія як сусвет
і колькі ні ехаць
не ўбачыш нічога
акрамя недасяжнага далягляду
і які б ты ні быў упарты
на гэтым шляху не будзе канца

гэтыя думкі
спрабуе аспрэчваць адна пісьменніца
з вераю
што ў паэзіі яна зрабіла ўсё што магчыма
таму настаў перыяд перайсці на прозу
бо паэзія мае межы
і тое
што трэба сказаць
у гэтыя межы не ўціснеш

я пагаджаюся
з яе словамі
светапоглядам
вопытам

цяжка спрачацца з пісьменніцай
якая трымае ў далоньках
маё зраненае і парванае сэрца
ўсе апошнія
дзесяць гадоў

***

Вуліца.
Зімні ранак.
Зоркі яшчэ былі,
а птушкі нават яшчэ не спявалі,
але ж
сцягі бчб
луналі высока ў галлі –
і вось аб чым
я падумаў найперш:

што ёсць беларусы
неверагодныя,
і калі звычайныя
спяць у ложках спакойна –
яны няспынна
лётаюць па-над горадам,
каб развешваць сцягі
па галінках, слупах, балконах...

І дзе б я ні плаваў,
ні бегаў,
ні йшоў;
з чаго б ні гундосіў,
скуліў,
ці ныў –
хай не спыняецца
гэта цудоўнае шоў,
хай надзеіць
цяжкі шлях
да вясны.

*Яўген Скібскі*

Жэня МАРТЫНЮК

## У ЦЕНЮ ПРАМІНАННЯ

Яшчэ ласкаю дыхае лета,
радугай упрыгожанае неба
высь яднае з зямлёю,
у далях блукае мілае рэха,
а ноч ліпнёвая думкі вярэдзіць.

Для шчасця мне нічога
больш нібыта й не трэба –
але ў вачах адна туга...

Не ведаю ні я,
ні ноч кароткая,
чаму так рана лета
пад ногі коціць мне
яблык спелы...

***

Будучыня тчэ
мой шлях жаночы
сярэбранай ніткай прамінання.

Чарговы дзень злятае
і я на ўспаміны багацею.

Дарэмна чакаю блізкіх –
на вячэру не прыходзяць,
хаця ў роднай хаце
душы іхнія гасцююць.

Журботнае маўчанне
непадкупны час засеяў.
І зноў з маіх вачэй
птушкі ў вырай адлятаюць.

## Юрый БУЙНЮК

***

Яны, сучасныя кар'ерысты, –
Канцылярскія дзеячы-крысы,
Пустасловы-журналісты,
Палітыканы-эканамісты –
Па іх сталах плыве багатае
Бесперапыннае свята.

А мы за парогам, бы тыя сабакі,
Чакаем, калі нам дадуць зарплату
Ці скінуць з абруса аб'едкі.
Няўжо мы, грамадзяне сваёй айчыны,
Для іх persona non grata?

***

Жыву у краіне,
У якой паміраюць паэты,
Высыхае крыніца слова,
А сапраўдны авангард
Стаў бескаштоўным валантарыятам.

Ідэальнымі вобразамі машыны
Выхоўваюць новае пакаленне –
Далёка ад слова,
Далёка ад пачуццяў,
Далёка ад веры,
Далёка ад шчырасці.
Слова перастала смакаваць хлебам.
Вершы перасталі быць небам.
Адпачынак пры высахлай крыніцы слова
Непатрэбны нікому.

## ТРАГІЧНЫ МАСКАРАД

Калі закончыцца вулічны маскарад
Прачнемся ў свеце кібаргаў
Чалавечых зомбі
У электронных намордніках

Можа будзем шукаць следу
Аднак нашага свету ўжо не будзе
І душа другога чалавека
Станецца нам чужая як воўк
І праглыне нашыя думкі

У нечуванай дыктатуры
Сеціва сусветнага рабства
Штучнай інтэлігенцыі
Не будзе пачуццяў і мараў
Будзе новая вера
Новая мова
Новыя мы
Чужыя самім сабе.

***

Прывыкаю
Да старых слоў
Забытых праз
Крохкае шчасце
Як шкло падману
Бязлітасна рэжа сэрца

Прывыкаю
Да старых вершаў
Вечных слоў
У іх ажываюць пачуцці
Цяперашняга холаду
Прывыкаю
Да адзіноты

## СОН АБ БУДУЧЫНІ

Ноччу даджлівай
Лістападаўскай ноччу
Сніцца сон як малітва
Бачу натоўпы людзей
Чэргі скаваных
Кайданамі мазгоў

Са жрацамі новай веры
Для цара новай зямлі
На алтары сатаны
Народ складае
Крывавую ахвяру
Новаму свету

Бачу
Жыцці мучанікаў
Хрыстовай веры
Святая кроў
Змывае смяротны грэх
Народа новай эры
Які адвярнуўся ад Бога.

## ПАД ЗНАКАМ РАКА

Цяжка жыць народжанаму
Пад знакам месяца і вады
У свеце крылатых мараў
Сур'ёзна верыць
Ва ўчарашнія пачуцці
Якія даўно змяніў час

Божа дай крыху непамяці
У гэту дажджлівую
Пару жыцця.

*Юрый Буйнюк*

# Радзім Гарэцкі
# **Жыццёвы меланж 2020–2021**

### **Травень – месяц юбілеяў і цяжкіх страт**

Халодны няўтульны травень 2020 года азнаменаваўся шэрагам юбілеяў і цяжкіх страт, якія страшэнная эпідэмія каранавіруса перашкодзіла адпаведна адзначыць.

**6 траўня** 2020 года выдатнаму беларускаму дзеячу **Уладзіміру Ліпскаму** споўнілася **80 гадоў**. Ён усё жыццё аддае дзецям: ужо 41 год працягвае рэдагаваць часопіс “Вясёлка”, які з захапленнем чытаюць беларускія дзеці, 5 гадоў выпускае часопіс “Буся” для дашкольнікаў, 30 гадоў – у Беларускім дзіцячым фондзе. У. Ліпскі – аўтар Аўцюкоўскага фестывалю гумару, якому адзначылі 25-годдзе і ў выніку якога выйшла сем зборнікаў аўцюкоўскага гумару. Ён раскрыў радавод Ліпскіх аж да 17 калена і ў спецыяльнай кнізе апісаў 12 гербоў Ліпскіх. У кнізе “Мая Беларусь” ён напісаў пра сябе: “Беларусь! Ты – мой храм Выратавальніка. А я – твой храм верніка”. Па гэтай кнізе тэатр “Зніч” паставіў спектакль, які быў паказаны ў многіх школах.

**13 траўня Альберту Багдасараву** споўнілася **85 гадоў** і я паслаў яму віншаванне:

*Глыбокапаважаны Альберт Аляксандравіч!*

*Сардэчна віншую Вас са слаўным юбілеем і жадаю, каб наступны і ўсе далейшыя юбілеі Вы сустракалі такім жа бадзёрым, працавітым па ўсіх напрамках Вашай разнамаітай, таленавітай дзейнасці. Я вельмі рады, што мне шмат гадоў давялося па-сяброўску супрацоўнічаць з Вамі – шырокавядомым геолагам са здзіўляючай выдатнай працай шматграннай накіраванасці, прафесарам-педагогам, грамадскім дзеячом, экспертам, музейшчыкам, папулярызатарам, філатэлістам, спартсменам.*

*Ваш Р.Г. Гарэцкі, акадэмік.*

У адказ атрымаў наступны ліст: *Дорогой Радим Гаврилович! Искренне тронут Вашими добрыми пожеланиями в мой адрес! Взаимно желаю здоровья и долголетия в кругу родных и друзей! С глубоким уважением, Альберт Богдасаров.*

**15 траўня Аляксей Белы** адзначыў **70-гадовы** юбілей. Пасля заканчэння Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта Аляксей Уладзіміравіч у 1973 годзе пераехаў у Беларусь, дзе тады яго бацька Уладзімір Аляксеевіч ужо быў віцэ-прэзідэнтам АН БССР, і паступіў у Фізіка-тэхнічны інстытут, у якім працуе да сёняшняга дня, прычым з часам заняў пасады загадчыка лабараторыі, аддзела і намесніка дырэктара па навуковай рабоце, быў абраны членам-карэспандэнтам НАН Беларусі.

Я пазваніў Аляксею Беламу і шчыра павіншаваў са славутым юбілеем, пажадаў моцнага здароўя (ён ужо перанёс інсульт), новых творчых поспехаў, усяго самага найлепшага ва ўсіх напрамках жыцця. З прыемнасцю ўспаміналі наша супрацоўніцтва, калі мы былі разам у Прэзідыуме АН Беларусі (1992–1997 гады) – я ў якасці віцэ-прэзідэнта, а ён – начальніка навукова-вытворчага аддзела. У верасні 1993 года мы выканалі незабыўную камандзіроўку ў Егіпет для падпісання дагавора аб навуковым супрацоўніцтве паміж АН Беларусі і АН Егіпта. З таго часу мы не мелі агульных спраў і сустракаліся ў нашых інстытутах, якія знаходзіліся побач, у Прэзідыуме ці як сябры з суседніх пад’ездаў аднаго дома.

**18 траўня** 2020 года з вялікай прыемнасцю павіншавалі **Яна Чыквіна** з **80-годдзем**:

*Дарагі і шаноўны Ян Арцёмавіч! Гарэцкія сардэчна віншуюць Вас – найвыдатнейшага дзеяча Беласточчыны са слаўным 80-годдзем! Шчыра жадаем здароўя, шчасця і каб усе наступныя юбілеі (а іх павінна быць не менш чатырох) Вы сустрэлі з каханай жанчынай, а таксама з яшчэ больш багатым багажом Вашых дасягненняў у шматгранных напрамках: цудоўнай паэзіі (асабліва лірычнай) і прозе, якая у Вас таксама напоўнена лірыкай; літаратуразнаўстве – у даследаванні беларускай і рускай паэзіі, літара-туры беларускай эміграцыі і інш.; навуцы і настаўніцтва ў якасці прафесара Варшаўскага і Беластокскага ўніверсітэтаў; перакладаў з беларускай і польскай моў; старшыні Беларускага літаратурнага аб’яднання "Белавежа", рэдактара яго выдавецкай серыі "Бібліятэка аб’яднання" і рэдактара літаратурна-мастацкага і беларуса-*

*знаўчага часопіса “Тэрмапілы”; самае галоўнае – сучаснага змагара за нацыянальнае Адраджэнне.*

*З любоўю і ўдзячнасцю*

*Галіна і Радзім Гарэцкія*

*18.05.2020 г. г.Менск*

Ад Яна Чыквіна атрымалі адказ: *Глыбокашаноўныя, дарагія Галіна Рыгораўна, Радзім Гаўрылавіч! Вялікі дзякуй за кранальнае віншаванне. Дай Божа, каб яшчэ былі і былі ў нас юбілейныя нагоды. Здароўя!!! Ян Чыквін.*

***

У траўні 2020 года адбыліся дзве самыя цяжкія для нас страты.

**17 траўня** пасля працяглай хваробы памёр **Юрый Анатольевіч Зісер** – вядомы заснавальнік TUT.BY, грамадскі дзеяч, мецэнат і адзін з нашых лепшых сяброў.

У самым пачатку 2000-х гадоў у нас на дачы змяніўся сусед. Шмат гадоў паловай бліжэйшага да нас катэджа валодаў знакаміты алімпійскі чэмпіён па барацьбе Уладзімір Мядзведзь, а другой паловай – член-карэспандэнт НАН Беларусі Аркадзь Іваноў. З часам Мядзведзь атрымаў велізарны кавалак зямлі на другім баку Драздоўскага вадасховішча, дзе пабудаваў значна лепшыя катэджы для сябе і сваіх дзяцей. Як толькі ён пераехаў, сваю дачу каля нас перапісаў на свайго сына Аляксея, а той, калі займеў катэдж недалёка ад бацькі, прадаў суседнюю з намі дачу знакамітаму ўладальніку партала TUT.BY Юрыю Зісеру.

Вельмі хутка мы пазнаёміліся з Юрыем Анатольевічам, яго жонкай Юліяй Вісарыёнаўнай Чарняўскай, іх дачкой Жэняй, бацькам Юры – Анатоліем Аляксандравічам і іх блізкім маладым сябрам, амаль родным Вячаславам.

Юрый Зісер нарадзіўся 28 чэрвеня 1960 года ў Львове. Бацька – інжынер, маці – музыкант. Скончыў палітэхнічны інстытут у Санкт-Пецербургу па спецыяльнасці “электронныя вылічальныя машыны”. У розных установах і на пасадах працаваў у Львове, але ў 1987 годзе пераехаў у Менск услед за Юліяй Чарняўскай – унучкай вядомага пісьменніка Васіля Віткі.

У дні адпачынку мы любілі прыязджаць на сваіх “заслужаных” Жыгулях на дачу, тым больш, што Галя вельмі любіла займацца агародам і садам, а мы абодва яшчэ і папарыцца ў нашай лазні. Вельмі рады былі сустрэцца з новымі суседзямі – прыемнымі, інтэлігент-

ымі, шырокаадукаванымі лагоднымі людзьмі, з якімі мы з цікавасцю размаўлялі на самыя розныя тэмы і шчыра пасябравалі, прычым настолькі, што я, як намнога старэйшы, звяртаўся да яго "Юранька", а да яе – "Юля" ці "Юленька" і нават абдымаліся. Мы часта хадзілі адзін да аднаго ў госці. Галя старалася пачаставаць іх рознымі "смакамі" са свайго агароду, бо яны зусім не любілі гэтую справу і ежу прывозілі з магазіна, а то на абед проста ездзілі ў рэстаран, які быў на дарозе ў спартыўны комплекс "Раўбічы". Некалькі разоў яны запрашалі і нас. Юру там добра ведалі і паважалі, бо ён быў шчодры на "чай", прыветлівы. Яму прапаноўвалі самыя лепшыя месцы з выхадам на паветра, ён заказваў смачныя стравы. Тут мы працягвалі нашы цудоўныя гутаркі.

Юра любіў вандраваць па розных краінах, таму часта адсутнічаў у Менску і нават адпачываў разам з Юляй, а то і Славам на розных курортах тыпу "Карлавы Вары". Юрый Зісер здзіўляў сваімі разнастайнымі захапленнямі, справамі, дабрачыннасцю і мецэнатствам. Ён вельмі любіў класічную музыку, набыў невялікі арган і сам на ім іграў. З даўніх часоў любіў джаз і ездзіў у Львоў на фестываль джазаў. У 2013 годзе нават вырашыў атрымаць музычную адукацыю і паступіў у Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі, якую з поспехам скончыў. Пры яго фінансавай падтрымцы былі адрамантаваны арганы ў Менску, Нясвіжы, Пінску. Юрый Зісер стаяў ля вытокаў шэрагу беларускіх і міжнародных інтэрнэт-праектаў. Ён ахвяраваў грошы на рэканструкцыю народнага мемарыялу ў Курапатах, на ўсталяванне бюста Алеся Адамовіча ў вёсцы Глуша, на прэмію імя Васіля Быкава "За свабоду думкі", на альбом палескіх народных песень і інш.

Галя і я з жахам і болем успамінаем той час, калі Юрый Зісер захвярэў на анкалогію і асабліва апошнія чатыры гады яго жыцця – цяжкага жыцця мужнасці, аптымізму і жадання сустрэць свае 60-годдзе. У яго была асабліва цяжкая форма ракавай хваробы, калі на месцы поўнасцю выразанай пухліны, нягледзячы на курсы хіміятэрапіі і іншых працэдур, вырастала новая. Толькі велізарная любоў да жыцця і мужнасць трымала яго, што выклікала нават здзіўленне ўрачоў.

У "Народнай Волі" (№ 40, 19 мая 2020 г.) мы прачыталі "развітанне – "Бывай, Юрый Анатольевіч…", у якім паведамлялася:

"У сувязі з эпідэміялагічнай сітуацыяй развітанне з Юрыем Зісерам пройдзе ў вузкім коле. Сям'я Юрыя Зісера просіць ушанаваць яго памяць дома, а замест кветак зрабіць ахвяраванне на барацьбу з

COVID-19. У сваім акаўнце на Facebook жонка Юрыя Зісера Юлія Чарняўская напісала, што яе муж чатыры гады змагаўся з цяжкай хваробай і нядаўна ляжаў у шпіталі:

*Майго Юры больш няма. Гэта немагчыма. Але тое, што з яго стадыяй і формой хваробы ён пражыў чатыры гады, яшчэ больш немагчыма. Гэта было цудам, які здзіўляў дактароў. Так, ён такі! Ён аптыміст, жыццялюб і герой. Я ганаруся ім, як ганарылася 34 гады і яшчэ 15 дзён. І буду ганарыцца заўсёды.*

*У сувязі з эпідэміяй мы не можам зладзіць адкрытае пахаванне. Прабачце. Хоць Юра памёр ад раку, ён доўга ляжаў ў шпталі, а шпіталяў без віруса цяпер не бывае. Не хочацца падвяргаць нікога небяспецы. Калі эпідэмія схлыне, мы маем намер правесці прыгожы вечар яго памяці, так што словы, якія вы хочаце сказаць, не застануцца нясказанымі.*

*Зараз я не готова да того, каб даваць каментарыі і інтэрв'ю, спадзяюся, вы зразумееце, сябры-журналісты. Усім астатнім сябрам дзякую за доброе стаўленне да яго і жаданне падтрымацъ. Цяпер мне патрабуюцца сілы і час для годнага развітання, таму не крыўдуйце на тое, што не подымаю слухаўку і не адказваю, –* напісала Юлія Чарняўская.

***

Я некалькі разоў тэлефанаваў Юлі, адказу не было, і раптам чую яе голас – я выказаў ёй наша сардэчнае спачуванне, нашу боль і смутак. Яна ў адказ падзякавала і сказала, што не падымае слухаўку, а тут рука сама неяк пацягнулася і што яна рада была пачуць мяне. Мы дамовіліся, што з часам сустрэнемся на дачы і ўспомнім нашага дарагога Юрачку.

***

26 траўня я глядзеў па праграме "Беларусь 3" перадачу "Суразмоўцы", якую вядзе Навум Гальпяровіч, прычым яе вельмі цікавым героем была Вера Міцкевіч. Якраз у гэты час Галі патэлефанавала Маша Міцкевіч і паведаміла, што бацька зусім дрэнна сябе адчувае, і яна баіцца, ці не засталіся ўжо апошнія гадзіны яго жыцця. **27 траўня** ў $18^{\underline{30}}$ на 95-м годдзе жыцця пайшоў у іншы свет **Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч**. Пахаваць побач з братам і бацькамі Міхася можна было толькі пасля крэмацыі ў выглядзе урны з прахам памерлага. 29 траўня ў пятніцу ў $11^{\underline{00}}$ у адным з рытуальных

залаў Менскага крэматорыя развіталіся з Міхасём Міцкевічам. Эпідэмія каранавіруса парушыла нармальнае жыццё і нашай краіны: у Крэматорый вялікая чарга, памерлых ад каранавіруса крэміруюць у закрытай труне без звычайнага развітання. Добра, што Маша паспела праверыць бацьку на каранавірус і змагла прад'явіць аб гэтым адпаведныя дакументы.

Я ўспомніў, што з Данілам Міцкевічам мы ў ліпені 1996 года змаглі развітацца ў музеі Якуба Коласа, і тады шмат было людзей не толькі ў самім будынку, але і ў двары. Каля труны я стаяў побач з Васілём Быкавым, Янкам Брылём і інш. Толькі пазней адбылася крэмацыя.

Яшчэ значна раней мы дамовіліся з дачкой Вольгай і яе мужам Сашам у пятніцу паехаць на дачу, таму вырашылі, што яны разам з намі будуць на развітанні з Міхасём Міцкевічам, наведаем могілкі нашых родных і затым – на дачу.

У рытуальныя залы ўсе павінны ўваходзіць у масках, таму не адразу пазнаеш знаёмых, але пазналі Стася Саковіча і Міколу Люцко, а больш нікога. Аказалася, што наша пахавальная каманда ўжо ў зале і працэдура развітання толькі пачалася. Першым выступіў новы дырэктар музея, які распавёў пра жыццёвы і творчы шлях малодшага сына Якуба Коласа. Наступныя выступоўцы выказвалі не толькі спачуванне і горыч страты, але і дзяліліся ўспамінамі, падкрэслівалі разнабаковасць таленту Міхася Канстанцінавіча ў розных напрамках, дзякавалі за зберагание спадчыны і памяці народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, а таксама выдатнага пісьменніка Янкі Маўра і яго дачкі – любімай жонкі Міхася. Слова бралі пляменнік Міхася, Радзім Гарэцкі, Язэп Янушкевіч і інш. Уладзімір Някляеў (з Воляй) спазніўся і таму ён быў апошнім выступоўцам. Родныя развіталіся, труну закрылі векам, і ўсе астатнія падыходзілі, каб развітацца, пасля чаго труну апусцілі ўніз. Увесь час нейкія хлопцы вялі здымкі, а таксама карэспандэнт Люба Лынёва са сваім кінаапаратам. Затым яна запрасіла У. Някляева, Р. Гарэцкага і Я. Янушкевіча на сонечны свет каля ступенек і задавала нам розныя пытанні пра Міхася Міцкевіча.

У выніку ўсе яшчэ раз адчулі, якая выдатная сапраўдная асоба Міхась Міцкевіч – годны нашчадак вялікага Якуба Коласа. Ён быў вядомым навукоўцам у галіне апрацоўкі металаў, працаваў у Фізіка-тэхнічным інстытуце НАН Беларусі, доктар тэхнічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1980). Міхась здзіўляў сваім разнастайным талентам: здольны паэт і празаік, выдатны фотамайстар, майстар спорту па стэндавай стральбе; артыстычна на памяць чытаў бацькавы

творы: “Новую зямлю”, “Сымона-музыку” і інш. Як вядома, Міхась быў малодшым сынам Якуба Коласа і таму бацька асабліва звяртаў на яго ўвагу і прысвяціў яму не менш сямі вершаў, а ў дзіцячай паэме “Міхасёвы прыгоды” ён быў прататыпам галоўнага героя.

Прыхільнасць, павага і сяброўства Якуба Коласа, Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх і іх сямей перадалася іх дзецям. Пасля майго вяртання ў Менск я зблізіўся з Данілам і Міхасём Міцкевічамі і іх дочкамі Марыяй і Верай. Ад Міхася ішла вялікая аура дабрыні і шчодрасці, таленту і розуму, сціпласці і гонару, сумленнасці і ўпэўненасці, іншых выдатных якасцей. Ён ніколі не хваліўся сваім бацькам і не карыстаўся яго імем.

Міхась Міцкевіч быў шчаслівы ў сямейным жыцці. У сапраўдным каханні дружна пражыў 55 гадоў са сваёй жоначкай Наталляй. У іх нарадзілася трое дзяцей, якія сталі выдатнымі спецыялістамі: старэйшы сын Сяргей скончыў БПІ і стаў інжынерам, дачка Марыя і сын Кастусь вучыліся ў БДУ – яна на матэматычным факультэце, ён – на філфаку. Міхась быў рады, што ў Якуба Коласа шасцёра ўнукаў, сямёра праўнукаў і сем прапраўнукаў. Ён вельмі ганарыўся, што шэраг з іх займаюцца даследаваннем жыцця і творчасці Якуба Коласа, асабліва Марыя, яго пляменніца Вера Данілаўна, унучка Васіліна (абараніла кандыдацкую дысертацыю). Міхась казаў: “Як бацька я шчаслівы, а як дзед і прадзед – яшчэ больш” (інтэрв’ю Міхасю Скоблу ў чэрвені 2019 г.).

Міхась Канстанцінавіч шмат зрабіў для ўшанавання памяці жыцця і творчасці Якуба Коласа. Ён – укладальнік кнігі “Якуб Колас. У думках, у сэрцы, у песнях: успаміны, нарысы, эсэ, прысвячэнні” (2012), якую мне падараваў з такім надпісам: *Шаноўнаму Радзіму Гаўрылавічу на добры ўспамін ад складальніка гэтай кнігі. З глыбокай павагай. Міхась Міцкевіч. 15.01.2013*. У кнізе змешчаны ўспаміны Гаўрылы Гарэцкага “Пра Якуба Коласа”. У той жа кнізе Міхась змясціў свой вельмі цікавы і каштоўны ўспамін “Пад бацькоўскім дахам”. Міхась Міцкевіч прыклаў шмат намаганняў, каб зняць са сваёй душы крыўдную для яго цэнзурную працу, у выніку якой друкавалася паэма “Сымон-музыка” без 100 “лішніх” радкоў. Нарэшце, яму ўдалося выдаць паэму ў першапачатковым выглядзе – ён быў шчаслівы. Ён пакінуў шэраг кніг, у тым ліку вельмі шчырую пра сваю дарагую Наталлю. Яго шматгадовыя выключна цікавыя выступленні пра бацьку з артыстычнымі ўрыўкамі з бацькавых твораў заўсёды слухаліся з захапленнем. Пры сустрэчах ён здзіўляў нечаканымі імправізацыямі на розныя тэмы ў выглядзе трапных эпіграм.

Удзячная памяць пра Міхася Міцкевіча будзе жыць вечна.

***

29 чэрвеня Маша Міцкевіч патэлефанавала Галі і паведаміла, што атрымала урну з прахам бацькі і з вялікай цяжкасцю, нарэшце, дамаглася, каб урну Міхася Міцкевіча дазволілі захаваць побач з яго братам і бацькамі.

## XXVIII Гарэцкія чытанні

Улічваючы эпідэмію COVID-19, Аргкамітэт чытанняў (Радзім Гарэцкі, Кацярына Унучак, Вольга Губская, Ядзвіга Аношка, Тэрэза Голуб) вырашылі правесці XXVIII Гарэцкія чытанні 18 чэрвеня 2020 года дыстанцыйна. Дзякуючы намаганням Вольгі Губскай, у канцы года выйшла з друку кніга "Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Жыццё і творчасць (прысвячаецца 120-годдзю з дня нараджэння Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага і 100-годдзю першага выдання "Гісторыі беларускае літаратуры" Максіма Гарэцкага): матэрыялы XXVIII Гарэцкіх чытанняў, Мінск, 18 чэрвеня 2020 г.", Мінск: РІВШ, 2020, 180 с.

У Матэрыялах чытанняў змешчана 22 артыкулы, з якіх 5 прысвечана Гаўрыле Іванавічу. Я надрукаваў артыкул "Некаторыя моманты з жыцця Гаўрылы Гарэцкага (у сувязі з 120-годдзем з дня нараджэння – 10 красавіка 1900 года), які ўжо выйшаў раней у часопісе "Тэрмапілы" (№ 24, 2020). Шчырую ўдзячнасць свайму Настаўніку выказвае Таццяна Якубоўская. Ілля Запрудскі ў дзейнасці Гаўрылы Гарэцкага бачыць аднаго з пачынальнікаў грамадскай геаграфіі ў Беларусі. Як заўсёды, большасць дакладаў прысвечана розным напрамкам шматграннай дзейнасці Максіма Гарэцкага. Найцікавейшыя матэрыялы з Фондаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі прыводзіць Тэрэза Голуб у Дадатку "З творчай лабараторыі Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх".

## Галоўная мара Першага Прэзідэнта Беларусі

Самыя выніковыя і любімыя справы Першага Прэзідэнта Беларусі за ўсе 26 гадоў яго кіравання належаць спорту, які стаў па яго думцы "нашай ідэалогіяй". Ён, смая спартыўная асоба, асабліва ў хакеі і лыжах, прыняў яшчэ адну пасаду – Прэзідэнта алімпійскага камітэта, хаця па яго ж загаду "Прэзідэнт" у РБ толькі адзін (іншыя – старшыні, кіраўнікі, загадчыкі і г.д.). А. Лукашэнка пабудаваў шмат

спартыўных стадыёнаў, палацаў, басейнаў і іншых аб'ектаў ва ўсіх абласных цэнтрах краіны і ў некаторых раённых. Пад Менскам, у Раўбічах узнік знакаміты Алімпійскі спартыўны комплекс. Гэта дазволіла с поспехам праводзіць розныя міжнародныя чэмпіянаты, турніры, гульні высокага рангу, у тым ліку хакейны на прыз Прэзідэнта Беларусі і інш.

Галоўная мара Першага Прэзідэнта РБ – пабудаваць лепшыя ў Еўропе стадыён і басейн, каб можна было праводзіць тут Алімпійскія гульні. Аб гэтым ён ужо дамовіўся з правіцелем КНР. 30 чэрвеня 2020 года ў Менску афіцыйна пачалося будаўніцтва "кітайскіх падарункаў": новага футбольнага стадыёна і басейна міжнароднага стандарту, што будзе каштаваць прыблізна 180 млн. даляраў (Своб. нов. плюс, 14 июля 2020 г.). Што атрымае Кітай узамен ад Беларусі? (там жа): скорее всего, это "имиджевое вложе-ние, которое поможет Китаю изменить настороженные отношения к китайским инвестициям и туристам. К слову, на территории нашей страны уже и так реализуется немало проектов с участием Китая. Например, автомобильный завод «БелДжи», индустриальный парк «Великий камень», жилой комплекс в Лебяжьем, гостинично-деловой комплекс «Шантер Хилл», гостиница «Пекин» и другие". "Национальный футбольный стадион рассчитан на 33 тысячи зрителей. Поле будет соответствовать требованиям ФИФА, его размер составит 105 на 68 метров. Для ухода за натуральным травяным покрытием сделают систему автополива и подогрев. Бассейн рассчитан на 6 тысяч мест и будет включать в себя трибуну, помещения для зрителей, спортсменов, а также VIP-помещение."

Усё будаўніцтва павінна быць завершана ў 2023 годзе.

30.06.2020 г.

## Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны. Гісторыя Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай

14 студзеня 2021 года ў Свята-Духаўскім Кафедральным саборы ў Менску ўвесь дзень развітваліся з Патрыяршым экзархам усея Беларусі мітрапалітам Менскім і Слуцкім Філарэтам, які памёр 12 студзеня ў 85 год, захварэўшы на COVID-19; 15 студзеня яго пахавалі ў Жыровіцкім манастыры. Я ўспомніў наша супрацоўніцтва з мітрапалітам Філарэтам па аднаўленні вобраза Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай.

Шырока вядома гісторыя стварэння ў 1161 годзе полацкім

майстрам Лазарам Богшам Крыжа святой Еўфрасінні – старажытнага сімвала святасці і дзяржаўнасці нашай зямлі, помніка старажытнабеларускага пісьменства. Складаная гісторыя перасялення крыжа, яго страта ў гады Другой сусветнай вайны і, нарэшце, неверагодныя пошукі шматлікімі беларускімі дзеячамі.

У Менску 10-11 верасня 1990 года адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Згуртавання беларусаў свету (ЗБС) "Бацькаўшчына" (Прэзідэнт Васіль Быкаў, старшыня Рады Яўген Лецка, я быў абраны ў Раду ЗБС).

25 снежня 1991 года адбылася гістарычная падзея: БССР абвешчана незалежнай; Беларусь стала парламенцкай дзяржавай. У выніку на Першым з'ездзе беларускага замежжа (Менск, 20 снежня 1992 г.) па прапанове Яўгена Лецкі была прынята пастанова "аб аднаўленні вобраза гістарычнай і духоўнай рэліквіі беларускага народа – Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай, страчанага падчас Другой сусветнай вайны". Адноўленную святыню вырашылі перадаць Беларускай праваслаўнай царкве з тым, каб Крыж захоўваўся ў Полацкім Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры. Мітрапаліт Менскі і Слуцкі, Патрыяршы экзарх усея Беларусі Філарэт благаславіў гэтую справу. Была створана Рада прадпрымальнікаў беларускай дыяспары, якую ўзначаліў эканамічны дырэктар "Бацькаўшчыны" Барыс Стук, а яго намесніку Анатолю Сілівончыку (з сібірскага Сургута, родам з Беларусі) даручылі весці куратарскую работу па аднаўленні крыжа. Кіраўніцтва ЗБС працу па Крыжу даверыла берасцейскаму майстру-ювеліру Міколу Кузмічу, з якім у студзені 1993 года была заключана дамова аб выкананні працы.

Анатоль Сілівончык, Анатоль Лук'янчык (Кліўленд, ЗША), Мікола Сулкоўскі (Навасібірск) і інш. ахвяравалі значныя фінансавыя сродкі і каштоўныя матэрыялы тыпу бісеру, срэбра. У сувязі з гэтым Камітэт дзяржбяспекі ўзяў творчую майстэрню Міколы Кузміча пад сваю ахову. Было вырашана падрыхтаваць да друку навукова-папулярную кнігу "Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны" (пісьменнік Уладзімір Арлоў) і зняць хранікальна-дакументальны фільм (кінарэжысёр Віктар Шавялевіч).

У ліпені 1993 года прайшоў Першы з'езд беларусаў свету, на якім падтрымалі ідэю адраджэння Крыжа. Тады я быў абраны прэзідэнтам ЗБС "Бацькаўшчына", а Ганна Сурмач – старшынёй Рады. Я вельмі падтрымліваў гэтую справу і адзначыў: "Крыж святой Еўфрасінні Полацкай – адна з вялікіх духоўных сілаў, якая можа згуртаваць беларусаў у адзіную нацыю, выхаваць патрыятызм,

годнасць і гонар, што дапаможа стварыць незалежную Беларусь".

У лістападзе 1993 года ў Менскім епархіяльным упраўленні была праведзена кансультатыўная сустрэча, на якой прысутнічалі супрацоўнікі РАН гісторыкі Леанід Аляксееў і Таццяна Макарава, ад "Бацькаўшчыны" – Радзім Гарэцкі, віцэ-прэзідэнт АН Беларусі і прэзідэнт ЗБС, старшыня Рады Ганна Сурмач і Барыс Стук. Я сядзеў побач з мітрапалітам Філарэтам у Прэзідыуме і тады змог з ім больш блізка пазнаёміцца. Уладыка, як да яго ўсе звярталіся, быў вельмі добразычлівым, з карымі разумнымі вачыма, размаўляў спакойна выразным голасам, быў да ўсіх аднолькава ўважлівы, паводзіў сябе сціпла, хаця і адчувалася ва ўсёй яго асобе высокая веліч. Ён мне спадабаўся і, як мне здалося, ён чуў да мяне сімпатыю. Мы абмеркавалі шэраг пытанняў па рэканструкцыі Крыжа і вельмі важна, што выдатныя спецыялісты з Масквы згадзіліся і далей удзельнічаць у шматлікіх пытаннях гэтай працы, а Таццяна Макарава (аўтар кнігі "Перегородчатые эмали древней Руси") была зацверджана кансультантам майстру Кузмічу па эмалях. "Бацькаўшчына" і мітрапаліт Філарэт звярнуліся да старшыні Савета міністраў Беларусі з прапановай аб'яднаць намаганні Царквы і Дзяржавы і прыняць удзел у матэрыяльным забеспячэнні праекта. Мітрапаліт Філарэт падкрэсліў, што Крыж полацкай асветніцы "каштоўнасцю і святасцю не мае аналагаў не толькі ў Еўропе, але і ў свеце", што ў 1992 годзе выява рэліквіі была абрана эмблемай святкавання 1000-х угодкаў Полацкай епархіі і хрысціянства ў Беларусі. Ад імя Царквы і "Бацькаўшчыны" былі адпраўлены звароты ў Камітэт па каштоўных металах з просьбай выдзеліць золата і каштоўныя камяні.

15 сакавіка 1994 года была зацверджана Навукова-грамадская Рада па аднаўленні вобраза Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай, які выконваецца на заказ Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". У яе ўвайшлі 34 вядомыя дзеячы навукі, культуры, літаратуры, мастацтва, Савета Міністраў, "Бацькаўшчыны" і інш. Сярод іх усе, ужо ўзгаданыя раней, а таксама Валянціна Коўтун – старшыня Міжнароднага жаночага фонду св.Еўфрасінні Полацкай. Навуковым кіраўніком праекта быў прызначаны Георгі Штрыхаў – загадчык аддзела Інстытута гісторыі АН РБ, вядомы спецыяліст па гісторыі Полацкага княства. На пасяджэннях Рады ўзнікалі вострыя спрэчкі, карысныя дыскусіі. Урэшце дасягнулі згоды – павінна з'явіцца новая сакральная мастацкая каштоўнасць, закліканая служыць вяртанню духоўнасці, гістарычнай памяці, нацыянальнай годнасці. Вырашана было будучы твор назваць: Крыж, узноўлены па вобразу і падабенству ўзвіжаль-

нага (звязанага са святам Узвіжання) Крыжа Еўфрасінні Полацкай.

З Уладыкам у мяне быў шэраг цікавых сустрэч, якія не звязаны з Крыжом. Так, 1 траўня 1994 г. мітрапаліт Філарэт на Вялікдзень запрасіў у Кафедральны сабор, а затым у Епархію ўсіх кандыдатаў у Прэзідэнты РБ і многіх іншых дзеячоў. У той час значная колькасць камуністаў і асабліва кіраўнікоў КПБ, якія зусім нядаўна былі ярымі атэістамі, змагаліся з рэлігіяй і святарамі, сталі веруючымі (хто шчыра, а хто для паказухі). Калі Уладыка падыходзіў да некаторых з прысутных, шмат хто з іх губляўся, як прывітацца: хто проста схіляў галаву, хто падаваў руку, хто абдымаўся, хто цалаваў руку. Адзін з галоўных прэтэндэнтаў на Прэзідэнта РБ В. Кебіч, нізка сагнуўшыся, кінуўся цалаваць руку Уладыкі. Генадзь Бураўкін, які стаяў побач са мной, шапнуў мне: “Ён зараз не то, што руку, але і ж… гатоў пацалаваць”. І такім быў не толькі ён, але і іншыя запрашэнцы, што давялося наглядаць пазней за багатым сталом у Епархіі. Памятую, як 14 ліпеня 1994 г. я быў на прыёме ў амбасадзе Францыі ў Драздах у гонар Нацыянальнага свята захопа Бастыліі. Я стаяў побач з адным былым кіраўніком аддзела навукі ЦК КПБ. Да нас падышоў мітрапаліт Філарэт, якога я ўжо ў той дзень бачыў на пасяджэнні ўзнаўлення Крыжа, і мы прывіталіся за руку. Уладыка падаў руку камуністу і той шыбка нахіляецца і цалуе яе. Потым, адчуваючы няёмкасць перада мной, сказаў: “Не ведаеш, як гэта з імі здароўкацца!” Наогул у Епархіі, дзе я быў не адзін раз, Уладыка сустракаў шчыра, гасцінна, было вельмі ўтульна і заўсёды быў багаты стол, нават у дзень паста, калі былі толькі рыбныя стравы і ніякага алкаголю.

Улетку 1997 года наблізілася да завяршэння пакутлівая і найважнейшая праца над узнаўленнем нацыянальнай святыні, якую зрабіў на працягу пяці гадоў захоплены працай выдатны майстар Мікола Кузміч пад аховай супрацоўніка Камітэту і з дапамогай шэрагу кансультантаў. Важную ролю ў працы адыграў удзел Майстра ўлетку ў паломніцтве прадстаўнікоў Беларускай праваслаўнай царквы ў Ерусалім на чале з мітрапалітам Філарэтам, куды везлі з сабой выробленую аснову будучай святыні. Калі 4 красавіка 1996 года ў Брэсце адбылося выязное пасяджэнне навукова-кансультацыйнай групы, Леанід Аляксееў прамовіў: “У нас нарадзіўся новы Лазар Богша!”

У жніўні 1997 года ў берасцейскім Свята-Сімяонаўскім кафедральным саборы з удзелам мітрапаліта Філарэта прайшла ўрачыстая цырымонія перадачы адроджанай святыні Беларускай праваслаўнай

царкве, а 24 верасня 1997 года ў будынку Беларускай экзархіі адбылося пашыранае пасяджэнне Навуковай рады, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі царквы, "Бацькаўшчыны", беларускай дзяржавы, навуковай і творчай інтэлігенцыі. Было прынята Камюніке ў сувязі з заканчэннем працы над узнаўленнем вобраза Крыжа найпадобнейшай Еўфрасінні. 25 верасня па ініцыятыве Анатоля Сілівончыка і Барыса Стука ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Францішка Скарыны сабраліся ўдзельнікі працы па ўзнаўленні Крыжа полацкай асветніцы і вырашылі стварыць Міжнародны дабрачынны фонд Жыватворнага Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай. Сярод заснавальнікаў Фонду адзначаліся прэзідэнт ЗБС "Бацькаўшчына" Радзім Гарэцкі, настаяцель Свята-Петрапаўлаўскага сабора айцец Георгі Латушка, народны мастак Беларусі Арлен Кашкурэвіч, доктар філасофіі Уладзімір Конан, рэдактар часопіса "Беларускі гістарычны агляд" Генадзь Сагановіч, кінарэжысёр Віктар Шавялевіч і інш. Прэзідэнтам Фонду сход заснавальнікаў абраў Анатоля Сілівончыка, у Раду Фонду ўвайшлі старшыня Барыс Стук, Мікола Кузміч, Ганна Сурмач, Валянціна Коўтун, Адам Мальдзіс, Вітаўт Кіпель (ЗША) і інш. Намеснікамі старшыні Рады былі абраны Георгі Штыхаў, Уладзімір Арлоў, сакратаром Рады – Алена Макоўская.

27 верасня 1997 года адбылося ўрачыстае вяртанне святыні на радзіму найпадобнейшай Еўфрасінні, у сталіцу нашай першай дзяржавы, што прымеркавалі да вялікага хрысціянскага свята Узвіжання Крыжа Гасподняга. Ва ўрачыстасці, якая адбылася ў Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры, прынялі ўдзел прадстаўнікі Царквы, "Бацькаўшчыны", а таксама прэм'ер-міністр РБ Сяргей Лінг. 5 снежня 1997 года Рада Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" прыняла Заяву ў сувязі з узнаўленнем вобраза Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай, у якой паведамлялася гісторыя працы над Крыжом, адзначаліся галоўныя удзельнікі, выказвалася падзяка Царкве, мітрапаліту Філарэту і інш., прыводзіўся пералік удзельнікаў, якія ўзнагароджаны Ушанавальнымі граматамі ЗБС і падарункамі. Тады ж мітрапаліт Філарэт уручыў Анатолю Сілівончыку ордэн святога роўнаапостальнага вялікага князя Уладзіміра, Ганне Сурмач і Барысу Стуку – граматы Патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі. Сход вылучыў мастака Міколу Кузміча на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі. 6 снежня 1997 года адбыўся хросны ход, які перанёс вобраз Жыватворнага Крыжа на спрадвечнае месца старажытнай святыні – у збудаваны на заказ полацкай асветніцы Спасаўскі храм. Разам з палачанамі ў гэтай падзеі ўдзельнічалі майстар Мікола Кузміч, Анатоль Сілівончык са сваёй

маці Настассяй, група паломнікаў са ЗБС "Бацькаўшчына" і міжнароднага дабрачыннага Фонду Жыватворнага Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай.

Значна пазней, 5 чэрвеня 1998 года, я атрымаў ад Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага экзарха ўсея Беларусі Філарэта Грамату: *Гарэцкаму Радзіму Гаўрылавічу – сябру МДФ Крыжа Еўфрасінні Полацкай, прэзідэнту ЗБС "Бацькаўшчына", ганароваму дырэктару Інстытута геалогіі НАН Беларусі" **с благословением за усердные труды во славу церкви Христовой***.

15.01.2021 г.

## Міжнародная літаратурная прэмія – атрымаўся сюрпрыз

26 лютага 2021 года нечакана мне патэлефанавалі кіраўнікі Саюза беларускіх пісьменнікаў – старшыня Барыс Пятровіч і яго першы намеснік Алесь Пашкевіч з просьбай дазволіць праз пару гадзін прыехаць да мяне на кватэру, каб не толькі пабачыцца, але і паразмаўляць пра некаторыя справы. Я, безумоўна, згадзіўся, але ніяк не мог зразумець, пра што можа быць размова, тым больш, што ў сувязі з эпідэміей COVID мы працуем "на ўдалёнцы" і рэдка бываем на працы, а разам збіраемся толькі па асаблівых выпадках. Прыехалі, як я жартам іх сустрэў мае "начальнікі" – у масках (не адразу пазнаць), але вочы вясёлыя, бадзёрыя галасы, прывіталіся поціскамі рук – былі рады сустрэчы. Алесь Пашкевіч уручыў маёй Галі вялікі букет прыгожых з некалькіх трыядаў бел-чырвона-белых руж. Барыс Пятровіч з парт-феля пачаў нешта даставаць, што аказалася для мяне сапраўдным сюрпрызам…

Справа ў тым, што з фінансавай дапамогай ЗБС "Бацькаўшчына" была апублікавана кніга "Апантаны Бацькаўшчынай. Жыццёвы меланж–2" (Мінск: Кнігазбор, 2018, 504 с.). 26 лютага 2020 года мне патэлефанаваў Барыс Пятровіч і паведаміў, што "Саюз беларускіх пісьменнікаў" вылучыў гэтую маю кнігу на Міжнародную літаратурную прэмію, якая абмяркоўваецца ва Украіне, у Кіеве, а затым дадаў, што якраз сёння вырашаецца, каму прысудзяць прэмію, і хутчэй за ўсё пытанне для нас будзе станоўчым, аб чым ён скажа. Цяпер, калі праляцеў ужо роўна год, я не памятаю, паведаміў мне Барыс Пятровіч пра прэмію, ці не. У той час узніклі шматлікія праблемы з эпідэміяй каронавіруса, а пазней і з выбарамі Прэзідэнта РБ і іншымі цяжкімі падзеямі, ды і спраў як у пісьменнікаў і вучоных як па асабістай творчасці, так і па арганізацыйнай па Саюзу бела-

рускіх пісьменнікаў (СПБ) і НАН Беларусі было процьма. Пра прэмію 2020 года мы забыліся.

Роўна праз год 26 лютага 2021 года, калі па ўставу трэба вырашаць пытанне аб новай прэміі, кіраўнікі СПБ успомнілі, што яшчэ не ўручылі прэмію мінулага года і зрабілі мне сюрпрыз. Дыплом лаўрэата выглядае так: на цёмнай добрай драўлянай дошцы замацавана залацістая металічная пліта, на якой чорнымі літарамі зроблены надпісы розным шрыфтам на ўкраінскай мове:

*Міжнародная літературна премія*
*“Воїн світла”*
Диплом лауреата
*Нагороджується*
Радім Гаврилович ГОРЕЦЬКІЙ
За кніжку есеїстики
“Апантаны Бацькаўшчынай”
*(Радзім Гарэцкі. Апантаны Бацькаўшчынай. Жыццёвы меланж-2. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 504 с.)*
*М.Київ 26 січня 2020 року*

Апрача Дыплома, букета руж, Барыс Пятровіч уручыў канверт з Прэміяй (500 беларускіх рублёў). Сфатаграфаваліся, паразмаўлялі і шчыра развіталіся.

26.02.2021

## Прэзідэнцкія пасады ў Беларусі

Слова “прэзідэнт” лацінскага паходжання – які сядзіць наперадзе, старшынствуе. 1) У некаторых краінах выбраны на пэўны тэрмін кіраўнік дзяржавы; 2) старшыня, абраны для кіравання арганізацыяй, установай.

Першым і апошнім Прэзідэнтам СССР быў Міхаіл Гарбачоў, 90-годдзе якога вельмі шырока адзначалі 2 сакавіка 2021 года. Пасля распаду СССР і абвяшчэння незалежнасці большасці былых рэспублік (Расійская Федэрацыя, Україна, Казахстан і інш.) адбыліся выбары Прэзідэнтаў гэтых краін. У ліпені 1994 года Першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь быў абраны Аляксандр Лукашэнка.

Зусім іншая справа з прэзідэнтамі арганізацый, устаноў. Яны існавалі і выбіраліся згодна са статутам ці правіламі той арганізацыі, якой яны павінны кіраваць, і адбывалася гэта не толькі ў СССР, а і ва

ўсе часы яшчэ царскай Расіі, а затым і незалежных дзяржаў, і іх было вельмі шмат. Напрыклад, першы Прэзідэнт Імпе-ратарскай акадэміі навук быў прызначаны яшчэ ў 1725 годзе, у 1917 годзе першым выбраным Прэзідэнтам Акадэміі навук (з 1925 года – Акадэміі навук СССР) стаў А.П.Карпінскі (1917-1936) і г.д.

У Беларусі да прэзідэнцкай дзяржавы і ў першы час пры ўладзе Прэзідэнта А. Лукашэнкі шмат пасад займалі прэзідэнты: Акадэміі навук БССР (ці НАН Беларусі), Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", Геаграфічнага таварыства БССР, Беларускага геалагічнага таварыства, Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (заснавана ў Менску), Беларускага Саюза прадпрымальнікаў і г.д.

У 2004 годзе Прэзідэнт РБ А. Лукашэнка сваім указам забараніў выкарыстоўваць слова "прэзідэнт" і мецьь каму б ні было такі тытул, і загадаў ім усім звацца "старшынямі" ці "кіраўнікамі". Магчыма, А. Лукашэнку стала няўтульна: куды ні паглядзі – вакол прэзідэнты. Пасада "Прэзідэнт" павінна быць толькі ў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Паколькі А. Лукашэнка быў і Прэзідэнтам Нацыянальнага Алімпійскага камітэту (НАК) Беларусі, ён у Беларусі застаўся двойчы прэзідэнтам у адной асобе.

26 лютага 2021 года А. Лукашэнка склікаў Нацыянальны Алімпійскі камітэт Беларусі, на якім, апрача шматлікіх пытанняў (справаздача, абмеркаванне сітуацыі ў сувязі з рашэннямі Міжнароднага Алімпійскага камітэта, падрыхтоўка да Алімпійскіх гульняў у Японіі і інш.) былі выбары Прэзідэнта НАК Беларусі, што трансліравалі па тэлебачанні. Прапанавалі самога А. Лукашэнку і яго старшага сына віцэ-прэзідэнта НАК Беларусі Віктара. Бацька здзівіўся, што яго канкурэнтам на гэтую пасаду будзе сын, але вырашыў самому адмовіцца і прызначыць Віктара, што і адбылося без усякага галасавання, а пасаду віцэ-прэзідэнта ліквідаваў. Ён павіншаваў сына, а ўсім паведаміў, што пасаду Прэзідэнта РБ ніколі не перадасць нікому з сыноў і растлумачыў, што не хоча, каб яны мелі такія цяжкасці, такую адказнасць, якую перажыў і яшчэ вымушаны пера-жываць. Тады прапанавалі абраць А. Лукашэнка ганаровым прэзі-дэнтам НАК Беларусі, але ён адмовіўся, бо такога пытання не было ў парадку дня, але дадаў, што ён застаецца ў НАК, бо гэта для яго, як і наогул спорт, – самае галоўнае. Такім чынам, у Беларусі аказаліся занятыя дзве прэзідэнцкія пасады не адной асобай, а рознымі: Аляксандр Лукашэнка – Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь і Віктар Лукашэнка – Прэзідэнт Нацыянальнага Алімпійскага камітэту Беларусі. Пазней А. Лукашэнка вызваліў Віктара з пасады намесніка старшыні Камітэта па нацыянальнай

бяспецы, а таксама разам з 5 палкоўнікамі, якіх зрабіў генерал-маёрамі, прысвоіў званне генерал-маёра запасу.

30.02.2021 г.

## Пра волата навукі – тры кнігі

У 2020–2021 гадах з друку выйшлі тры найцікавейшыя кнігі, прысвечаныя жыццю і творчасці выдатнага дзеяча нацыянальнай культуры, аднаго з заснавальнікаў беларускай тэксталагічнай школы, найлепшага знаўца беларускай літаратуры – Міхася Восіпавіча Мушынскага:

1. Мушынская Таццяна Міхайлаўна, *Сямейны партрэт на фоне эпохі: аповесць, эсе, падарожныя нататкі* / Мінск: Беларусь 2020, 271 с.
2. *Застаецца святло! Успаміны пра Міхася Мушынскага* / склад. А.А. Васілевіч, Т.М. Мушынская, Мінск: 3-36-Ковчег 2021, 312 с.
3. Мушынскі М.І., *Свайму часу і вечнасці*: зборнік артыкулаў; уклад. Т.Ф. Мушынская, Т.М. Мушынская; навук. рэд. І.В. Саверчанка, Мінск: Беларуская навука 2021, 480 с.

***

Аўтар **першай кнігі** – вядомая таленавітая шматгранная пісьменніца, журналістка, тэатральны крытык Таццяна Міхайлаўна Мушынская. Кніга мае дзве часткі: **1) Мастацка-дакументальная аповесць “Сямейны партрэт на фоне эпохі”; 2) Эсе і падарожныя нататкі.**

Успаміны любай дачкі – майстра слова пра даражэнькіх бацькоў, усю іх цудоўную сям’ю, гісторыю іх жыцця і творчасці ў тую складаную эпоху напісаны так яскрава з такімі шчырымі пачуц-цямі, што чытаеш аповесць на адным дыханні з вялікім захапленнем і перажываеш разам з аўтарам розныя адчуванні: замілаванне, хваляванне, радасць, гонар, а то і шкадаванне, крыўду, сум і інш.

Аповесць складаюць дванаццаць раздзелаў. **Першы “Сілуэты”:** карыстаючыся здымкамі рознага часу і ўспамінамі родных, аўтар паведамляе пра нараджэнне і маладыя гады бацькоў. Міхась Мушынскі – з вёскі Мокрае Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці; маці – Марфа Іванаўна, бацька – Іосіф Кірылавіч і старэйшы брат Іван. Тамара Кляноўская і яе сёстры нарадзіліся ў Менску. Міхась і Тамара вучыліся на філфаку БДУ – у 1955 годзе ён ужо заканчваў, а яна яшчэ была студэнткай трэцяга курса. Ён атрымаў фотаздымак падпісаны акуратным почыркам: “Другу Мише на память от Тамары”.

На наступны год яны пажаніліся і з’явілася шчаслівая сям’я Мушынскіх, пра іх жыццё, адносіны і іншыя асаблівасці можна даведацца з далейшага тэксту.

**Раздзел другі “Грушаўка”** – па назве ўскраіны Мінска, дзе ў звычай-най вясковай хаце Мушынскія пражылі восем гадоў (з 1956 па 1964 гады). Здарылася так, што якраз бацька Міхася – чыгуначнік Іосіф Кірылавіч памёр зімой у пачатку 1956 года, а 29 жніўня, таксама ў Быхаве, якраз на дзень нараджэння Тамары Фёдараўны, маладыя законна ажаніліся. Недалёка ад хаты, дзе жылі Мушынскія, знаходзіўся дом Тамары Фёдараўны – Марыі Іванаўны і Фёдара Фёдаравіча, паміж дамамі быў агульны агарод. Тут былі ўсе выгоды і недахопы сялянскага жыцця. У Грушаўцы нарадзіліся і дачка Таццяна (1958) і сын Андрэй (1964). У 1963 годзе Міхась Іосіфавіч Мушынскі абараніў кандыдацкую дысертацыю “Творчая гісторыя паэм Якуба Коласа «Новая зямля» і «Сымон-музыка». Абарона дысертацыі і нараджэнне Андрэя паўплывала на атрыманне кватэры ў мікрараёне Зялёны Луг, што і вызначыла назву.

**Трэці раздзел кнігі “Зялёны Луг”.** Вакол быў малаасвоены лес, які з маленства любіў Міхась Мушынскі, і таму часта гуляў тут са сваімі дзеткамі, прычым нярэдка ў тых месцах, дзе пазней знайшлі пахаванні ахвяр рэпрэсій – у Курапатах. Уласная кватэра для сям’і вялікае шчасце, але з аповесці можна даведацца пра шматлікія цяжкасці ў жыцці маладой сям’і не толькі ў сувязі з агульнай сітуацыяй у краіне (галеча савецкага побыту), але і з выхаваннем дзетак. Апошняе ўся сям’я  – бабуля, дзядуля, цёткі і дзядзькі, (асабліва бацькі) – рабіла з вялікай любоўю, цярпліва – перш-наперш дзякуючы Тамары Фёдараўне, якая была інтэлектуальным душэўным і эмацыйным цэнтрам сям’і.

У 1965 годзе выйшла з друку манаграфія Міхася Мушынскага “Ад задумы да здзяйснення. Творчая гісторыя «Новай зямлі» і «Сымона-музыкі» – пачатак шматгадовага вывучэння творчасці Якуба Коласа.

У раздзеле **“Быхаў”** – аўтарка апавядае пра родныя мясціны бацькі. У Быхаве жыла маці Міхася Іосіфавіча Марфа Іванаўна. Любімы сын Міша наведваў Быхаў, яго маці – Менск. Мушынскія амаль кожнае лета па месяцу разам з дзеткамі гасцявалі ў Быхаве. Дзеці Таццяна і Андрэй цікавіліся радаводам Мушынскіх, а з многімі сваякамі пазнаёміліся. Цікава, што ў 1960-я і 1970-я гады ў невялікім райцэнтры працавала царква. Марыя Іванаўна кожную нядзелю, завязаўшы святочную белую хустку, адпраўлялася на службу. У той

жа царкве хрысцілі Таццяну і Андрэя. У кухні ў куце заўжды вісела ікона.

**Раздзел “Кнігі, музыка, танцы”**

Бацькі Тані і Андрэя паступова збіралі вялікую бібліятэку, а таксама выпісвалі шмат перыёдыкі, што станоўча паўплывала на развіццё дзяцей. Таня захапілася кнігамі, звязанымі з музыкай, танцамі, тэатрам. Бацькі купілі для яе чорнае піяніна “Беларусь” – сем гадоў яна займалася музыкай. Тамара Фёдараўна была выдатнай настаўніцай, якая ўласную захопленасць літаратурай імкнулася перадаць вучням – на яе ўроках было неверагодна цікава. У мікрараёне яе ведалі ўсе бацькі яе вучняў. Міхась Іосіфавіч купіў кінакамеру, праектар і экран. Прагляды яго фільмаў ператвараліся ў свята, і не толькі сямейнае. У 1973 годзе пасля заняткаў музыкай Таццяна паступіла ў студыю класічнага танца пад кіраўніцтвам А.В. Ніка-лаевай, народнай артысткі Беларусі. Бацька перыядычна з’яўляўся ў студыі з кінакамерай і многія ўдалыя балетныя сцэны мог ўбачыць шэраг новых гледачоў.

Таццяна Міхайлаўна ўспамінае: “Бацька любіў чытаць уголас. Часцей жонцы. Часам маме і мне. Для чаго? Думаю, зусім натуральнае памкненне падзяліцца эстэтычнай асалодай, якую адчуваў, паглыбляючыся ў вершаваныя ці празаічныя старонкі”. Аднойчы бацька чытаў празаічны ўрывак, трымаючы ў руках аркушы паперы. Падзеі ў час вайны. Спыталася: “Татка, а гэта чыя проза?” – “Мая…” – “Так цікава было слухаць! А чаму ты прозай не займаешся?” Бацька адказаў: “А хто сям’ю карміць будзе?”

**Раздзел “Журфак”** – Таццяне бацькі раілі пайсці на журфак і яна засталася задаволенай. Дзед Фёдар Фёдаравіч адразу купіў для дачкі і ўнучкі пішучую машынку, якая была вельмі патрэбна – паершае, для Міхася, а па-другое – для Таццяны, бо друкавалася не толькі ў розных газетах, але і ў часопісах. Андрэй вучыўся ў Маскоўскім фізіка-тэхнічным інстытуце і аднойчы намаляваў родным такі прагноз: па ўсёй краіне будуць у кожнай краме сканаваць штрыхкоды, а камп’ютары з’явяцца паўсюль (у пачатку 1980-х пра іх ніхто не чуў).

**Раздзел “Эпоха “ЛіМ”** – Таццяна на пераддыпломную практыку выправілася ў “ЛіМ”, дзе потым працавала на працягу пяці гадоў пры двух галоўных рэдактарах – Алесю Жуку і Анатолю Вярцінскаму. Таіса Бондар перайшла працаваць у часопіс “Беларусь”, а на яе месца ўзялі Таццяну Мушынскую. Калектыў рэдакцыі “ЛіМ” быў надзіва моцны і многім адчыніў дарогу ў літаратуру, у крытыку,

у мастацтва. “Лімаўскі” перыяд жыцця аказаўся яркім і насычаным (вандроўкі ў Арменію, прыбалтыйскія рэс-публікі, на тэатральныя прэм’еры ў Маскву і г.д.)

Канец 1970-х і пачатак 1980-х аказаліся для ўсёй сям’і перыядам творчага ўздыму. У 1975 годзе выйшла ўнікальная манаграфія М.І. Мушынскага “Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 20–30-я гады”, якая стала асновай доктарскай дысертацыі. У 1978 годзе абарона зацвярджалася ў Маскве, таму, каб даслаць дакументы ў Маскву, трэба было перакласці ўсё на рускую мову. Міхась і Тамара Мушынскія разам зрабілі велізарную працу і з дапамогай Таццяны і некаторых студэнтаў паслалі ў ВАК усе дакументы. Нарэшце прыйшла белая паштовая картка з такім зместам: “Рашэннем Вышэйшай атэс-тацыйнай камісіі адпаведнага аддзела ваша праца зацверджана”. Бацька выглядаў невымерна шчаслівым. Ледзь не танцаваў. З 1979 года Міхась Мушынскі – загадчык сектара выданняў і тэксталогіі. Заставаўся ім больш за два дзесяцтгоддзя. У 1980 годзе за свае раздзелы ў “Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры” і “Гісторыі беларускай савецкай літаратуры” ён атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.

У 1982 годзе, калі шырока адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа, выйшла ў свет праца Міхася Мушынскага “Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа”.

**Раздзел “Серабранка”** – Летам 1985 года Таццяна Міхайлаўна выйшла замуж і пераехала ў іншую частку горада, у Серабранку. Пачалося іншае жыццё – у іншых рэаліях і прасторы.

У 1985 годзе ў М.І. Мушынскага выйшла грунтоўная кніга “Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 40-я – першая палова 60-х гадоў”. Тамара Фёдараўна не толькі выкладала ў школе, але і працавала над дысертацыяй. Ездзіла на навуковыя канферэнцыі і ў бібліятэкі Масквы. Андрэй працаваў у навукова-даследчым інстытуце ў Падмаскоўе (Даўгапрудны).

У Серабранцы – толькі адзін пакой (18 м), агульная кухня. Тут пражылі чатыры гады. Галоўныя падзеі – у 1986 годзе нарадзіўся Дзяніс (больш падобны на маму – з блакітнымі вочыма і светлай скурай), у 1988 годзе нарадзіўся Ягорка (больш падобны на бацьку, смуглявы).

Дапамога бацькоў, асабліва Тамары Фёдараўны, якая часта сама прыязджала, а яшчэ часцей забірала да сябе то аднаго Дзяніса, а то і абодвух – дазволіла Таццяне Міхайлаўне шмат часу прысвячаць не толькі сваёй шматграннай працы, але нават выязджаць у Варшаву, удзельнічаць ва Усесаюзным фестывалі тэатраў оперы і балета і інш.

У канцы 1989 года сям'я Таццяны Міхайлаўны атрымала кватэру на вуліцы Янкі Маўра.

Нягледзячы на сталы ўзрост, маючы дарослых дзяцей і ўнукаў, Тамара Фёдараўна ў тыя ж гады абараніла дысертацыю на ступень кандытата педагагічных навук, якую апанент з Масквы ацаніў як доктарскую.

**Раздзел "1990-я гады"** – пачалася "перабудова", распад СССР, забарона КПСС, нараджэнне незалежнай Беларусі. З кватэрай пашанцавала, бо пазней ужо бясплатна кватэры даваць не будуць. У 1990 годзе Таццяне Міхайлаўне пашчасціла трапіць у Ялту, у Дом творчасці пісьменнікаў, дзе яна прывяла ў парадак надрукаваныя на машынцы партрэты балетных салістаў, якія пазней зрабіліся кнігай "Гаркавы смак ісціны". У Мінску для сыноў пачала сачыняць казкі, якія вырашыла прапанаваць выданнем для дзяцей. Яны спадабаліся і шырока выкарыстоўліся на беларускім радыё, у дзіцячых часопісах і газетах, друкаваліся ў зборніках. Міхась Іосіфавіч быў здзіўлены і рады, што дачка адкрыла для сябе такі новы жанр. У тым жа годзе і пазней Таццяна Міхайлаўна з вялікай цікавасцю працавала ў "Мастацтве", а ў 1996 годзе задалося трапіць у вандроўку ў Італію (усе 10 дзён да ўнукаў прыходзіла самаахвярная Тамара Фёдараўна). У 1996-1997 годзе Скарынаўскі цэнтр (Адам Мальдзіс) вылучыў яе на конкурс стыпендыі ад Ежы Гедройца (Тамара Фёдараўна зноў падтрымала і надрукавала спіс апублікаваных прац дачкі). Адбылася выдатная вандроўка па Польшчы ("Варшаўскі дзённік. Музейна-тэатральныя нататкі" – у двух нумарах часопіса "Мастацтва"). У 2000 годзе Таццяну Міхайлаўну прынялі ў Саюз пісьменнікаў ("Прыемна і ганарова!")

**Раздзел "У новым стагоддзі"** – у нашым стагоддзі (у 90-я гады і пазней) Міхась Мушынскі выдаваў манаграфію за манаграфіяй. У 1990 годзе выйшла кніга "І нічога, апроч праўды: якой быць "Гісторыі беларускай літаратуры", а ў 1991 годзе – "Нескароны талент. Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага". У тым жа 1991 годзе Міхася Мушынскага амаль аднагалосна абралі членам-карэспандэнтам Акадэміі навук, на што паўплывала бездакорная навуковая рэпутацыя, аб'ём і грунтоўнасць зробленага за мінулы час. Дачка ўспамінае: "Ён меў больш за 75, калі ў 2007-м падрыхтаваў кнігу «Тэксталогія твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа», дзе 400 старонак. У 2008-м апублікаваў том «Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі» пра Максіма Гарэцкага ў 500 старонак. Праз два гады – зборнік «Мае Каласавіны», таксама 400 старонак. Гэтыя выданні аказаліся не толькі

аб'ёмныя, але і наватарскія па духу". "Калі 1990-я гады сталіся часам нацыянальнага Адраджэння, часам свабоды і спадзяванняў, калі адкрыліся архівы, публікаваліся незаслужана забытыя ці забароненыя творы, тады найбольш дальнабачная частка навукоўцаў здолела пераглядзець іерархію літаратурных аўтарытэтаў, сістэму мастацкіх каштоўнасцей".

"Як навукоўца Мушынскі лічыў справай жыцця аднавіць гістарычную справядлівасць, вярнуць літаратуры – і шырэй – куль-туры творы рэпрэсаваных пісьменнікаў, чыё жыццё абарвалася ў самым росквіце, класікаў, якія маглі яшчэ столькі зрабіць для сваёй краіны. Іх трагічны і горкі лёс бацька ўспрымаў як асабістую знявагу, абразу, крыўду, а іх – як блізкіх і родных людзей. Міхась Іосіфавіч шмат гадоў сябраваў і перапісваўся з Галінай Максімаўнай, дачкой Максіма Гарэцкага. Яе каштоўныя ўспаміны спатрэбіліся потым, каб дэталёва аднавіць багатую біяграфію пісьменніка.

Міхась Іосіфавіч ганарыўся тым, што шмат гадоў кіраваў сектарам тэксталогіі і разам з калегамі рыхтаваў поўныя зборы твораў М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага, К. Чорнага, М. Зарэцкага, І. Мележа".

На пачатку новага стагоддзя пры канцы 2000 года Міхась Мушынскі з дапамогай дачкі распавёў на дыктафон успаміны пра вайну, якія ў студзені 2001 года надрукаваў "ЛіМ". Многія былі ўражаны такім драматычным маленствам Мушынскага.

У 2009 годзе Тамары Фёдараўне ноччу зрабілася кепска – "хуткая" завезла ў стацыянар. Зрабілі складаную паласную аперацыю – дактары ўратавалі. Дапамагаў невынішчальны аптымізм. Праз пэўны час – яшчэ адну аперацыю – "адрамантаваць" аорту. Хворая супакойвала не столькі сябе, колькі родных: усё будзе добра!

**Раздзел "Юбілеі і летапісы"** – У студзені 2011 года адзначалі 80-годдзе з дня нараджэння Міхася Мушынскага. Таццяна Міхайлаўна ў сваім дзённіку тады запісала (прывяду яшчэ больш кароткія фрагменты):

*24 студзеня, панядзелак*. Міхася Іосіфавіча віншавалі на Прэзідыуме Акадэміі навук.

*26 студзеня, серада*. Працяг юбілейных урачыстасцей у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа. У адной з залаў – выстава з дзесяці кніжных шафаў, прысвечаная навуковай творчасці Мушынскага. У той жа дзень прэзентацыя яго біябібліяграфічнага даведніка. Атмасфера была цёплая, душэўная, шчырая. Юбіляра засыпалі кветкамі, падарункамі, кнігамі, віншавальнымі адрасамі.

Шмат выступоўцаў (каля 20 чалавек, з іх 4 акадэмікі).

*2 лютага, серада*. Тамара Фёдараўна ў Лечкамісіі, хірург-кардыёлаг Сяргей Сівак зрабіў аперацыю – паведаміў: “Усё нармальна!”

***

Міхась Іосіфавіч візіты да дактароў адкладваў да апошняга (бо “няма часу”, “хутка канферэнцыя”). Але аднойчы прыйшлося выправіцца да афтальмолага – прыйшлося два тыдні прабыць у бальніцы, а потым – ездзіць на ўколы ў лечкамісію. Але апошнія гады ён бачыў фактычна адным вокам. Тым не менш працаваў увесь час (праз “не магу”).

***

2011 год – юбілейны год, а блізкія сябры сыходзяць назаўсёды.

*23 жніўня (аўторак) 2011 года* – сумная падзея – памёр Віталь Скалабан (было 65 гадоў).

*27 жніўня (субота)* – памёр Аляксандр Станюта (яму 75 год).

*18 верасня (нядзеля*) – Міхася Мушынскага паклалі ў стацыянар – абследаванне, абыйшлося без аперацыі.

*22 верасня* – зноў кепска – мігальная арытмія. Прыйдзецца прайсці курс кропельніц і ўколаў – адчуваў сябе лепей. У палаце адзін – спакайней. У адзін дзень нават займаўся дакладам для “Каласавінаў”.

*15 кастрычніка (субота) 2011 года*. Міхась Іосіфавіч ужо даўно ў хаце, але ў Тамары Фёдараўны час ад часу ўзнікае мігальная арытмія. Тым не менш яна раздрукавала дзве часткі кнігі пра Якуба Коласа.

*12 лістапада (субота)*. Дзядуля Міша павіншаваў Дзяніса з артыкулам пра Станюту ў “ЛіМе”

*30 снежня (пятніца).* Міхась Іосіфавіч кепска сябе адчувае – збоі рытму і тахікардыя. Падчас заканчэння другога “Летапісу” ён фактычна надарваўся. Здарыўся цяжкі інсульт.

Праз месяц, яго выпісалі, але рухацца, свабодна размаўляць мала надзеі. Пра яго стан родныя нікому нічога не распавядалі. Тамара Фёдараўна давяла “Летапіс” да завяршэння. Ягор завёз бабулю разам з агромістымі папкамі ў выдавецтва “Беларуская навука”.

Жонка, дактары, магутная воля да жыцця зрабілі немагчымае: адолеўшы хваробу, Міхась Мушынскі не толькі вярнуўся да нармальнага жыцця, але пражыў яшчэ шэсць гадоў, удзельнічаў у пасяджэннях Прэзідыума Акадэміі, рыхтаваў даклады для выступленняў на канферэнцыях, працаваў над наступным “Летапісам”,

прысвечаным Івану Шамякіну. У студзені 2016 года ў Інстытуце літаратуры ўрачыста адзначылі 85-годдзе Міхася Мушынскага, а ў сярэдзіне 2016 года ён вырашыў сысці са сваёй шматгадовай пасады, але дамовіўся з кіраўніцтвам Акадэміі, каб яго невялікі кабінецік застаўся ў яго распараджэнні, бо без навуковай працы ён не мог існаваць.

**Раздзел** “**Змаганне за жыццё**”. Пры канцы 2017 года Міхася Іосіфавіча прыгнечвала незразумелая фізічная слабасць і 2 студзеня 2018 года – ён у стацыянары на абследаванні, а ў пачатку лютага злягла Тамара Фёдараўна. У канцы сакавіка ёй зрабілася лепей – яна магла гатаваць мужу і сабе. Таццяна Міхайлаўна ўжо магла троху радзей ездзіць да іх. У сакавіку і красавіку яна разам з Татам часам выходзіла на прагулкі. У сярэдзіне і ў канцы траўня Міхасю Іосіфавічу пагоршыла. Не было сіл хадзіць нават па кватэры. З дзённікавых запісаў Таццяны Міхайлаўны:

*6 чэрвеня (серада)* – сумная навіна: памёр Эдуард Зарыцкі, вядомы кампазітар, народны артыст Беларусі.

*8 чэрвеня (пятніца)* – Таццяна Міхайлаўна (з 12 да 14 гадзін) на паніхідзе па Зарыцкаму. Званок ад сына, каб патэлефанавала бабулі. Высветлілася: ноччу ў бацькі ўпаў ціск – да крытычных лічбаў. “Хуткая” праз 10 хвілін – ціск узнялі да нормы – 120 на 70. Вырашылі – лепей пакінуць дома, бо транспарціроўкі можа не вытрымаць. На паніхідзе – па мабільным званок ад Ягора: “Ну усё! Бабуля патэлефанавала, што дзед памёр…” Дачка ішла на сустрэчу з сынам і душылася слязьмі. Доктар сядзеў і пісаў паперы – афіцыйнае медзаключэнне. “Фактычна бацька памёр у сне. Ад таго, што спынілася сэрца”.

Калі я гэта пачуў ад Таццяны Міхайлаўны, у маім сэрцы нешта абарвалося, яно проста амаль супынілася і я змог толькі адказаць з жахам: “Ой! Якая бяда!”

Пахаванне адбылося на Маскоўскіх могілках.

***

Рэдактар і складальнік **другой кнігі** Таццяна Міхайлаўна Мушынская прэзентавала мне гэтыя найвыдатнейшыя ўспаміны з такім надпісам: *Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму – з удзячнасцю за сардэчныя ўспаміны і гады сяброўства з Міхасём Іосіфавічам! Т. Мушынская. 14.02.2021 г.*

Кніга мае чатыры часткі.

Частка першая**. *Згадкі пра маладосць*.**

*Міхась Мушынскі.* Мокрае. Клімчыкі. Вайна. Фрагменты ненапісаных успамінаў.

*Валянціна Сыракваш (Мушынская).* Макранскія карцінкі.

*Тамара Мушынская.* Успаміны пра філфак.

*Вера Черняева (Москва).* Мои благодетели.

Частка другая. ***Абсягі думкі. Дакументы, навуковыя артыкулы, рэцэнзіі.***

Выписка из протокола № 1 заседания Учёного совета Института литературы им. Я.Купалы АН БССР от 16 января 1991 г.

*Леонид Новиченко (Киев).* В Президиум Академии наук Белорусской ССР. Отзыв о научной деятельности доктора филологических наук Мушинского М.И. (в связи с выдвижением его кандидатуры в члены-корреспонденты АН БССР).

*Володимир Мельник (Україна).* Досвід білоруького науковця.

*Віктар Каваленка, доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук.* Ключавая фігура беларускай тэксталогіі. Да 70-годдзя з дня нараджэння.

*Мікола Мішчанчук (Брэст), прафесар, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі адукацыі*. Дабрыня і спагада.

*Вера Ляшчук (Брэст), прафесар, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі адукацыі*. Адданасць прызванню.

*Іван Штэйкер (Гомель), доктар філалагічных навук, прафесар*. Святло душы. Да 80-годдзя Міхася Мушынскага.

*Міхась Тычына, доктар філалагічных навук.* Больш за паўстагоддзя. Да 80-годдзя з дня нараджэння.

*Вячаслаў Рагойша*, *доктар філалагічных навук, прафесар*. Вучоны, які ўздымае цаліну.

*Алесь Макарэвіч*, *доктар філалагічных навук, прафесар Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.Куляшова.* Знакавая асоба. Да 85-годдзя з дня нараджэння.

*Серафім Андраюк, кандыдыт філалагічных навук*. Жыццё. Літаратура. Чытач.

*Тамара Тарасава*, *доктар філалагічных навук, прафесар*. Маштабны даследчык спадчыны Максіма Гарэцкага.

*Зоя Мельнікава (Брэст), доктар філалагічных навук, прафесар*. Настаўнікі не паміраюць…

*Вольга Губская, кандыдат філалагічных навук*. Адзін з заснавальнікаў Гарэцказнаўства.

*Анжэла Мельнікава (Гомель), доктар філалагічных навук*. Шчыра і зацікаўлена.

*Зоя Траццяк (Полацк), кандыдат філалагічных навук*. Спадчына Максіма Гарэцкага ў навуковым спасціжэнні Міхася Мушынскага.

*Лада Алейнік, кандыдат філалагічных навук*. Задумы і здзяйсненні.

*Дзяніс Марціновіч, журналіст, кандыдат гістарычных навук*. Дзень за днём. "Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа". 2012.

*Ціхан Чарнякевіч, літаратуразнаўца, крытык.* Коласаў люстрадзён.

*Аляксандр Федута, литературовед, политический обозреватель, доктор гуманитарных наук.* Книга – как подвиг**.**

Частка трэцяя***. Маштаб асобы.***

*Уладзімір Гніламёдаў, доктар філалагічных навук, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук.* Міхась Мушынскі, Якуб Колас і пан Бог.

*Радзім Гарэцкі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук, прафесар, старшыня Фонду братоў Гарэцкіх.* Апантаны навукай.

*Игорь Волотовский, доктор биологических наук, профессор, академик Национальной академии наук.* Профессионализм и преданность делу.

*Александр Данилов, доктор социологических наук, профессор, член-корреспондент Национальной академии наук.* "Летапісец Пімен, ён жа – Міхась Мушынскі…"

*Сцяпан Лаўшук, доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук.* Docendo discimus.

*Васіль Жураўлёў, доктар філалагічных навук.* Запатрабаваны часам.

*Леонтий Гаранин, кандидат филологических наук.* О Мушинском. Из неопубликованных воспоминаний.

*Иван Чарота, доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Сербскай акадэміі навук і мастацтваў.* Так адгукаюцца словы і справы.

*Тэрэза Голуб, кандыдат філалагічных навук, загадчык сектара тэксталогіі ў 2002-2013 гадах.* Незабыўная памяць.

*Ганна Запартыка, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.* З пачуццём доўгу.

*Эма Золава, тэкстолаг, навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры ў 1959-2010 гадах.* Вечны працаўнік.

*Анатоль Бутэвіч, пісьменнік, палітык, дыпламат.* Няўрымслівы. Нястомны. Чалавечны.

*Людміла Сінькова, доктар філалагічных навук, прафесар.* Майстар-клас ад Міхася Мушынскага.

*Генрых Далідовіч, пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" (1991-2002).* Дасведчаны, паімкнённы да рэальнасці, свежатворны.

*Павел Навуменка, кандыдат філалагічных навук*. Дапытлівы позірк з-пад акуляраў.

*Гун-Брыт Колер, прафесар, доктар габілітаваны, дырэктар Інстытута славістыкі Ольдэнбургскага ўніверсітэта імя Карла Асецкага (Германія)*. Пра Мушынскага.

*Георгій Кісялёў, вядучы рэдактар выдавецкага дома "Беларуская навука"*. Наш любімы аўтар.

*Вольга Шынкарэнка (Гомель), доктар філалагічных навук*. Падзвіжнік з Быхаўшчыны.

*Вольга Нікіфарава (Гродна), кандыдат філалагічных навук*. Засталося святло…

*Міхась Кенька, кандыдат філалагічных навук*. Адчуваў ягоны клопат.

*Галіна Шаблінская, загадчык аддзела літаратурна-мастацкіх праграм Першага нацыянальнага канала радыё*. Пайсці, каб застацца…

*Вера Міцкевіч, навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. "Сцежкі мудрыя жыцця"*. Міхась Мушынскі і Якуб Колас.

*Генадзь Кажамякін, кандыдат філалагічных навук.* Зробленае ўражвае.

*Алеся Шамякіна, кандыдат філалагічных навук.* Слова пра настаўніка і калегу.

*Жанна Шаладонава, кандыдат філалагічных навук*. Святло ў вакне.

*Віктар Шніп, паэт, галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура".* Мудры Беларус.

Частка чацвёртая. ***У сямейным коле***.

*Міхась Мушынскі.* "Когда ты на свет явилась…", "Моих поступков, Боже милый…", "Мая мілая Танечка…", "Вера наша, Верачка!" Погоня, "Адплываюць гады…" Вершы.

*Андрей Мушинский*. Папа и я. Детство.

*Дзяніс Марціновіч*. Дзіду.
*Таццяна Мушынская*. Бацька. Вучоны. Мысляр.

***

У кнізе змешчана больш за семдзесят арыгінальных фотаздымкаў, якія вельмі яскрава раскрываюць аблічча перш-наперш самога Міхася Іосіфавіча Мушынскага, яго родных, а таксама большасці аўтараў артыкулаў, сяброў, знаёмых і інш.

***

**Трэцяя кніга** належыць Міхасю Мушынскаму, працы якога “будуць актуальнымі і для наступных пакаленняў айчынных навукоўцаў”, таму мае такі праўздівы загаловак – “Свайму часу і вечнасці”.

Кніга складаецца з шасці частак.

Частка 1. Актуальнасць класікі.

Частка 2. “Збіраўся скарб, струменіўся няспынна…”. Якуб Колас і праблемы яго творчасці.

Частка 3. “…ва ймя святога ўсім нам адраджэння”. Матэрыялы пра Максіма, Гаўрылу і Галіну Гарэцкіх.

Частка 4. “Ад роднае зямлі…” Пра беларускіх пісьменнікаў.

Частка 5. “Як доўг, як дар…” Пра беларускіх навукоўцаў.

Частка 6. Рэцэнзіі, водзывы, экспертныя заключэнні, рэкамендацыі.

*Менск, травень 2020 – красавік 2021 г.*

*Радзім Гарэцкі*

# ПЕРАКЛАДЫ

## Сусанна ГІНЦБУРГ
пераклаў Ян Чыквін

### Мы...

Хаос арэшнікаў, расхлістаных ветрам,
пахне мяккасцю тлустых арэхаў,
каровы целяцца ў парным паветры
кароўнікаў – ясляў іхняга грэху.
О, парэчкі, жыты набрынялыя,
сакавітасцю гатовыя выліцца,
о, ваўчыцы з галоднымі малымі,
вочы ваўцыц, як салодкія лілііі.
Жывіц сцякае мёдная пасечнасць,
казінае вымя цяжэй дыні –
плыве малако як вечнасць
у матчыных грудзях-святынях.

### А мы...

... у герметычных,
як шчыльны тэрмас,
хатніх пакойчыках у шпалеры
ружова-кволыя,
ублытаныя па шыю ў сукенкі
вядзем
культурныя
размовы.

(1936-1939)

## Canticum canticorum

Буйнеюць вінныя лозы,
Пахучы нард
Густа ліецца на сад –
Я пасла братоў маіх коз
У спёку, у вар –
Таму смуглы мой твар;
Сіняя ноч цямнее.
Ад жоўтых зораў
Гарыць, спапяляецца неба.
Сваіх вачэй хаваю агонь
Пад кіпарысавых веек гай,
Як сажалкі ў Газебон.

“О, мілая мая, адчыні –
У садзе тваім пуста –
Раса з мяне сыплецца густа.
Пашавялі, адкрый вусны,
Каб мог здагадацца зноўку
Ці піла яблыкі надвячоркам” –
“Як магу табе адчыніць
Дзверы рыпучыя –
Калі ўжо скінула сукенку,
Маці трыкроць мяне праклянуць,
А статкі коз
Салодкага малака не дадуць”.

Гранатава ноч шуміць.
Ашчэпкі вінніц ў развеі
І лісце фіг –
А я заснуць не ўмею,
Адчыняю драўляныя веі –
– А мілы знік.

Шафрану і касіі пахі.
Эфірных маслаў след
І міра цячэ па клямцы.
Павольны сцежкі бег
Гіне ў цёмнай алеі –
Змрок чарнавокі за ганкам.

Шукала паўсюль – дарэмна,
Клікала, звала яго.
Аднак не азваўся ён мне.
(А прыгожы, як зорка тая,
Як нябёсаў дно –
Кожны яго апазнае).
Вас заклінаю, духмяныя панны,
сарнай з лясных гушчароў,
раптоўнай як помста ланню:
Не шукайце заўчасна кахання,
Не будзіце яго,
Пакуль само не прыйдзе да вас нечакана.
(1936-1939)

## Між іншым кажучы

Не ўзнікла я
з праху
і не стануся
прахам.
З нябёс
не сышла
і не вярнуся ў неба.
Я сама сабе неба,
як шклістае скляпенне.
І сама сабе я зямля,
як ураджайная глеба.
Ніадкуль я не збегла
і не вярнуся я
ў нікуды.
Апроч самой сябе не ведаю іншае далі.
У надзьмутых ветрам грудзях
і дзявочага цярпення-грацыі
я мушу
сябе
тут,
расцярушаную,
пазнаходзіць і пазбіраці.
(1936-1939)

## Канстанцін БАЛЬМОНТ

*пераклала* Ганна Крофта

### ЛЯСНЫЯ КАРАЛІ

Зялёныя мшынкі
Раслі на сасне.
Смарагдовыя мшынкі-пушынкі
Жылі ў зачарованым сне.
Соснаў дужыя кроны,
І шматзвонна гудзеў гэты бор.
Ды каралі зялёныя мшынак, нясмелых і мройных,
Не пачулі вяршынны той хор.
І не бачылі мшынкі,
Як трывожна тады,
Прытаіўшы расінкі,
Разгортвалі кветкі лісты.
Не хацелі нічога яны, акрамя як расці і расці, і ўсё плодзіць
Сотні выспаў караляў зялёных на шэрай смалістай кары,
Анікому не шкодзіць,
І пад промнем свяціцца, і тройчы свяціцца ў зары.

### ВОЎК ФЕІ

Дзіўны Воўк у гэтай Феі.
Я спытаў: «Ты злосны, так?» –
У адказ лізнуў лілею,
Галавою даўшы знак:
Так раней бывала, дружа,
У мінулыя часы,
Як Чырвоны Капялюшык
Вабіў злосць маю ў лясы.
Ды заўзяты Паляўнічы,
Распароўшы мой жывот,

Адмяніў былыя звычкі,
І пайшло наадварот.
Вось і ціхі я, і мірны
Стаў пры Феі пажываць.
Я на балях гукам ліры
Навучыўся падвываць.
Мой жывот надзейна сшыты,
Не ахвяры ў ім цяпер.
Спажываю травы, жыта,
Я хоць Воўк, але не звер.
Так прашамкаўшы, адразу
Воўк прашамкаў і адразу
Занурыўся ў клець з аўсом,
Я ж здзівіўся невыказна
І падаўся ў глыб лясоў.
Можа, ходзіць там зацяты
Іншы Воўк і люты Воўк,
Прычакае порах свята,
І курок на стрэльбе – шчоўк.
А ўжо гэты Воўк, лілейны,
Лірны, мірны, ды з аўсом,
Хай у казцы будзе Фейнай
І сабаку сябруком.

## СВЕТЛЫ СВЕТ

Вузкі лаз уніз ідзе,
Мару пад зямлю вядзе.
Толькі спусцішся туды,
Замкаў заблішчаць ільды.
Як уніз ты зробіш крок,
Зачаруюць фарбы зрок.
Чыйсці свеціцца пагляд,
Водбліск месяца, брыльянт.
Вось заснежыўся апал,
Фарбамі смарагд заззяў.
І пачуеш, як хацеў,
Мілы смех і флейты спеў,
Будзе падаць на зямлю
Чаравічак з крышталю.

Лёд, калоны і снягі,
Бляск, пяшчота, жамчугі.
Вузкі лаз уніз ідзе,
Ён у светлы свет вядзе.
Каб здабыць адтуль ключы,
Трэба мару берагчы.

## БОГ І Д’ЯБАЛ

Я люблю вас, і Д’ябал, і Бог, удваіх,
Аднаму – мае стогны, другому – уздых,
Аднаму – мае мары, а іншаму – крык,
Вы абодва прыгожыя ў сілах сваіх.
Я, як хмара, блукаю, безліч фарбаў вакол,
То на поўнач імкнуся, то на поўдзень пайшоў,
Адплываю на ўсход я і потым назад,
І палаюць рубіны, і чарнее агат.
О, як радасна жыць мне, я мілую палі,
Пад дажджом абуджаюцца сокі зямлі,
І змяіцца маланка, і рассыпаўся гром,
І разбураны сны ўсе, і спалены дом.
Цесна ў доме было, дзе спыняліся сны,
А свабодныя неба прасторы адны.
Завяршэнне пакутаў – паветра глыток.
О, таемны мой Д’ябал, о, адзіны мой Бог!

**Да 90-годдзя Анатоля Вярцінскага**

Яўген Гарадніцкі

# КОЛЬКІ РАЗВАГ НАД ПАЭЗІЯЙ АНАТОЛЯ ВЯРЦІНСКАГА

Прытча – асаблівы від мовы мастацтва, здаўна яму ўласцівы.

Гэта мова бібліі, мова старажытных паданняў, трактатаў, казанняў, павучанняў.

Прытчавасць характэрна і для эпікі, і для паэзіі. Найбольш выразна сцвердзілася яна, напэўна, у беларускай прозе. Аднак і ў паэзіі, асабліва ў другой палове XX стагоддзя, яна выявілася таксама яскрава, хоць пра гэта пісалі крытыкі значна менш.

Завёў гаворку пра прытчу і прытчавасць таму, што, мяркую, гэта адна з вызначальных і характэрных рыс паэзіі Анатоля Вярцінскага, аўтара адметнага стылю, з непадобным на іншыя голасам у нацыянальным паэтычным шматгалоссі.

Анатоль Вярцінскі, несумненна, адзін з найбольш яскравых прадстаўнікоў таго пакалення, якое атрымала годнае найменне “шасцідзясятнікі”. Дарэчы, ён адзін з тых, хто сваё “шасцідзясятніцтва”, гэты ўнікальны досвед духоўнай і мастацкай незалежнасці, актыўнай грамадзянскай заклапочанасці, захаваў назаўжды.

У часы акрыяння і ўздыму беларускай літаратуры пасля некалькіх дзесяцігоддзяў здушэння ўсяго творчага, свабодалюбнага і нацыянальна арыентаванага, адбывалася рэабілітацыя чалавечага ў чалавеку, адкрыццё ў кожным яго духоўнай самасці і незалежнасці. Такім быў духоўны пасыл “шасцідзясятнікаў”.

Чалавек – духоўная велічыня, самакаштоўная і ўнікальная. Зусім не “шрубок” механістычнай, пазбаўленай звычайных людскіх пачуццяў сістэмы. Менавіта чалавек як асоба стаў асноўнай тэмай паэзіі Анатоля Вярцінскага. Чалавек у паўсядзённасці яго бытавання і, разам з тым, чалавек, які паўстае ў творах паэта шматзначным сімвалам, знакам прыналежнасці да “высокага неба ідэалу”. Нездарма адна, мабыць, з галоўных ягоных кніг атрымала назву “Чалавечы знак”.

Можна гаварыць і пра натурфіласофію Вярцінскага, пра ягоную чуйнасць да прыродных станаў, выяўленне іх адпаведнасці самапачуванню героя, самога аўтара. Гэтая еднасць прыроднага і чалавечага прыкмечана і адзначана паэтам яшчэ ў раннім вершы “Дожджык”. Цёплы, лагодны дожджык, што жывіць сабой усё наваколле, прыпадабняецца добраму чалавеку, які “жыве дзесь побач”, быццам і непрыкметны сам па сабе, але суцяшае і саграває сваёй дабрынёй іншых.

Еднасць чалавека са светам знайшла гарманічнае ўвасабленне ў вершы “Тры цішыні”, які даў назву зборніку 1966 года. Тут ужо выразна выявіліся асноўныя прыкметы стылю Вярцінскага, ягонага светаўспрымання, натуральнай спалучанасці рэфлексіі са шматстайнасцю і невычэрпнасцю быцця. Рэальнасць штодзённага жыцця паўстае ў вершы як неад’емная частка існавання ўніверсуму. Цішыня, што настае пасля клопатаў працоўнага дня, мае сваю градацыю. Яна падзяляецца аўтарам на вечаровую, паўночную і світальную, кожная з якіх вызначаецца сваёй адметнасцю. Гэтыя тры цішыні зыходзяць “аднекуль з касмічнай вышыні”, то бок належаць адначасова і ўніверсуму, і “тутэйшаму” жыццю. Пераходзячы ад адной цішыні да другой, ад аднаго стану паяднанасці са светам да іншага, герой Вярцінскага адчувае адзінства з усімі людзьмі, з чалавецтвам наогул. І ў той жа час для яго адкрываюцца магчымасці самапазнання, паглыблення ў свой унутраны свет. Для кагосьці вечаровае супакаенне прыносіць проста палёгку і адпачынак. А для некага акурат пасярод ночы настае самая прыдатная часіна для роздуму, магчымасць “застацца з той цішынёю, / з ёю, сівой савой, – / стаць сутнасцю сваёю, / стаць самім сабой”. Так вось чалавеку ў хвіліну найбольшай шчырасці з самім сабой выпадае застацца “сам-насам з сусветам” і тым самым наблізіцца да ўласнай сутнасці, знайсці ў сабе

сутнаснае і сапраўднае. На змену гэтай роздумнай, найбольш набліжанай да касмічнага ладу цішыні прыходзіць трэцяя, якая пакрысе перарастае ў сваю супрацьлегласць, напаўняючыся гукамі абуджанага да стваральнай працы ранку. Каб перадаць напружанасць гэтага паяднання супрацьлегласцей, паэт карыстаецца аксюмаранам:

Яна заводзіць гадзіннікі,
і разам з імі яна
пазвоньвае-падзіньквае,
і – трубіць цішыня.
Трубіць ціша світальная
у свой сярэбраны рог,
заве у далі дальнія,
да новых спраў і дарог.
Трубіць ціша світальная,
крыштальная, развітальная,
і патанае яна
у вадаспадзе дня.

Звернем увагу на тое, як натуральна і дакладна дапасоўваюцца ў працытаваным урыўку розныя па сваёй стылёвай афарбоўцы формы моўнага выражэння. Характэрная для Вярцінскага празаізацыя паэтычнай мовы, дакладней, свядомае ўжыванне "простых", самых звычайных слоў і выразаў, спалучаецца з выкшталцонай метафарычнасцю. У стварэнні пачуццёва адчувальнай выявы-ўражання немалую ролю грае гукапіс, які таксама з'яўляецца характэрнай адзнакай стылю паэта. Асаблівы гукавы эфект у гэтым вершы, як, дарэчы, і ў многіх іншых, дасягаецца з дапамогай рыфмы. І што паказальна, у творах Вярцінскага суперскладаныя рыфмы пера-мяжоўваюцца, з, на першы погляд, самымі просценькімі, што добра бачна і з вышэйпрыведзенай цытаты. Але ў выніку атрымоўваецца, што ўсе рыфмы (і простыя, і складаныя) апынаюцца ў асаблівым становішчы, выступаюць як канцэнтрат паэтычнай энергіі. Рыфма, хоць ёй і завяршаецца радок, у Вярцінскага заўсёды навідавоку. У ёй гучанне набывае асэнсаваную накіраванасць.

Сваім гучаннем (рыфмоўка, гукапіс, сінтаксіс), знітаваным з маніфестацыяй актуальных у сацыякультурнай прасторы ідэй і каштоўнасцей, паэзія Вярцінскага суладна з мастацкімі пошукамі пакалення паэтаў-"шасцідзясятнікаў", чыя творчасць была арыентавана на

наўпроставы кантакт з аўдыторыяй. Для вершаў і паэм Вярцінскага характэрны поліфанічнасць гучання, дыялагізм.

Дыялог можа быць іманентным, можа весціся аўтарам з самім сабою або з умоўным апанентам. Можа таксама паўставаць у выразна драматызаванай форме, як размова двух носьбітаў антаганістычных поглядаў, як гэта адбываецца, напрыклад, у вершы, што так і называецца – “Размова”. У гэтым творы прадстаўлены толькі два галасы, якія вядуць між сабой дыялог. Мы як быццам нічога не ведаем пра іх носьбітаў. Дамаляваць аблічча, характэрныя прыкметы людзей, якім належаць гэтыя галасы, даецца магчымасць чытачу. А між тым псіхалагічныя партрэты даволі выяўна можна разгледзець менавіта за прамаўлянымі словамі. Такое становіцца магчымым праз самую шчыльную сувязь агульнага і індывідуальнага, сімвалічнага і канкрэтнага.

Выяўленню разбежнасці паміж дзвюма абазначанымі ў вершы жыццёвымі пазіцыямі садзейнічае якраз паэтыка. Амаль увесь сэнсавы цяжар прыпадае на рыфмаваныя заканчэнні вершаваных радкоў. Сумежная рыфмоўка яшчэ больш узмацняе, азванчае гукавы эфект. Вербальна яго не перакажаш. Тут адно варта чытаць або слухаць прамаўлянае ў голас. Напэўна, і цытаванне не вельмі дапаможа. “Як падарожжа? Якія ўражанні? / Я не заўважыў, мяне не заўважылі…” – так пачынаецца гаворка двух людзей, якія па-рознаму ўспрымаюць свет, і мы не толькі ўражаныя эмацыйнай нячуласцю аднаго з іх, але і суперажываем яму, той сітуацыі душэўнай самаізаляцыі, у якой ён апынуўся.

Звышзадача паэта Анатоля Вярцінскага і палягае ў тым найперш, каб раскрыць драму незаўважнасці, непрыкметнасці чалавека ў яго штодзённым існаванні. Каб угледзець у кожным стоены патэнцыял духоўнай самарэалізацыі. Каб у кожным са сваіх герояў – простых, зямных, з іхнімі слабасцямі і дзівацтвамі – убачыць Чалавека.

*Яўген Гарадніцкі*

Анатоль Брусэвіч

# АД МІЦКЕВІЧА ДА ЛЯНГЭ: ДЫСКУРС МАСТАЦКАГА КАСМАПАЛІТЫЗМУ

Вербальнаму мастацтву, як правіла, цесна ў нацыянальных рамках, яно пастаянна імкнецца пашыраць ўласныя далягляды, прынамсі за кошт суседніх літаратур. У выніку падобнай «экспансіі» адбываецца насычэнне прыгожага пісьменства новымі эстэтычнымі ідэямі, формамі, нечаканымі вобразамі і матывамі, запазычанымі звонку. Даследаваннем гэтай праблемы ўшчыльную займаецца кампаратывістыка, аднак вывучэнне літаратурных аналогій не дае адказу на шэраг пытанняў, звязаных, напрыклад, з жаданнем тых ці іншых аўтараў апынуцца па-за межамі свайго культурнага канону, адмовіўшыся ад спрадвечных традыцый на карысць экзотыкі іншаземных тэндэнцый. Адным словам, тут узнікае адмысловы дыскурс, які можна назваць дыскурсам мастацкага касмапалітызму і ён патрабуе больш пільнай увагі з боку літаратуразнаўства, чым гэтаназтраецца на сённяшні дзень.

Тэму мастацкага касмапалітызму нельга назваць новай – яе ўздымалі ў сваіх творах пісьменнікі і філосафы яшчэ ў эпоху Асветніцтва. А нават і раней, бо, як заўважае Кацярына Дзмітрыева, вытокі палемікі, што ўзнікла вакол ідэй універсалізму і касмапалітызму, «выяўляюцца яшчэ ў канцы XVI стагоддзя ў Мантэня» [1]. Асабліва ярка гэта прасочваецца, канешне, на прыкладзе французскай літаратуры (у творчасці Дэні Дзідро, Жана Жака Русо, Шарля Луі дэ Мантэск'ё і іншых аўтараў). Сярод французскіх творцаў, дарэчы, нават у часы рамантызму, калі цікавасць да ўсяго нацыянальнага вызначала асноўныя накірункі развіцця культуры і мастацтва, знаходзіліся прыхільнікі альтэрнатыўнага светапогляду. У Францыі, на думку Юрыя Борэва, «ідэям нацыянальнай своеасаблівасці культуры

супрацьстаяў «літаратурны касмапалітызм», прыхільнікамі якога былі Б. Констан і мадам дэ Сталь» [2, с. 231]. У суседняй Германіі таксама існавалі самыя розныя погляды на праблему суадносін паміж «нацыянальным» і «агульначалавечым». Сярод немцаў у XIX стагоддзі, напрыклад, існавала даволі распаўсюджанае меркаванне, што яны з-за свайго касмапалітызму не маюць ярка выражанага нацыянальнага характару. Як сцвярджае Марыя Бурханава, «тэндэнцыю касмапалітызму заклаў Ёган Вольфганг фон Гётэ, развіваючы сусветную літаратуру (Weltliteratur), але найбольш выразна гэтая ідэя прасочваецца ў працах Фрыдрыха Ніцшэ» [3, с. 36]. У сваёй дысертацыі, прысвечанай пошукам нацыянальнай ідэнтычнасці і праблемам самаідэнтыфікацыі ў нямецкай літаратуры, даследчыца называе касмапалітам і Генрыха Гейнэ, паколькі ў яго «Германіі» лірычны герой хоць і прызнаецца ў любові да радзімы, «вобразы і карціны паэмы выкрываюць непрывабныя бакі жыцця немцаў» [3, с. 40]. Зрэшты, «сумнеўны» патрыятызм апошняга нямецкага рамантыка, яго схільнасць да культывацыі ідэй касмапалітычнага характару, можна часткова патлумачыць яўрэйскім паходжаннем паэта. Не сакрэт, што прыналежнасць да «народа абранага» стварала ў тагачаснай Еўропе шэраг перашкод: усе ведаюць гісторыю самога Г. Гейнэ, якому дзеля атрымання ўніверсітэцкай адукацыі давялося прыняць хрысціянства, бо дыпломы выдаваліся толькі хрысціянам.

Эстэтычныя і філасофскія ідэі, якія нараджаліся і бытавалі ў заходнееўрапейскай вербальнай прасторы, асабліва ў Германіі, адразу ж рабіліся здабыткам пісьменнікаў і навукоўцаў на ўсходніх абшарах Еўропы. Гэта тычыцца і прадстаўнікоў нашага прыгожага пісьменства – літаратараў з так званага беларуска-польскага культурнага памежжа. Тут таксама ўзнікае дыскурс мастацкага касмапалітызму, які праяўляецца, напрыклад, у знакамітай спрэчцы паміж класіцыстамі і рамантыкамі. Апошнія, чыё мастацтва грунтавалася пераважна на мясцовым культурным субстраце, не жадалі мірыцца з фактам навязвання ім абсалютна чужых канонаў, узораў і шаблонаў. Кожны ліцвінскі (беларуска-польскі) рамантык, пачынаючы з Адама Міцкевіча, ледзь не кожным творам стараўся сцвердзіць перавагу

«свайго» над «чужым», часам нават не ўнікаючы ў сутнасць су-працьпастаўленых з’яў, бо «сваё» ўжо і так несла ў сабе неаспрэчныя вартасці. Таму пытанне, якое задаецца лірычным героем кветцы пралесцы з аднайменнага міцкевічаўскага верша наконт таго, адкуль у яе столькі пыхі, калі яна вырасла сярод дзікай травы, ды не вылучаецца тымі якасцямі, што другія кветкі (цюльпан, лілія, ружа), выглядае, па вялікаму рахунку, рытарычным:

W podłej trawce, w dzikim lasku
Urosłeś, o kwiatku luby!
Mało wzrostu, mało blasku,
Cóż ci daje tyle chluby?

Ni to kolory jutrzenki,
Ni zawoje tulipana,
Ni lilijowe sukienki,
Ni róży pierś malowana [4, s. 54].

Заўважым, вершам А. Міцкевіча «Pierwiosnek» («Пралеска»), радкі з якога мы вышэй працытавалі, адкрываецца чароўны свет першага тому яго «Паэзіі», а па сутнасці, уся літаратура рамантызму – і польская, і беларуская. Таму, канешне, гэты тэкст мае ключавое значэнне ў разуменні і творчасці А. Міцкевіча, і тых культурна-гістарычных працэсаў, што адбываліся ў эстэтычнай прасторы колішняй Рэчы Паспалітай. Можна сказаць, сваім ідэйным зместам, сэнсавым напаўненнем верш «Пралеска» вельмі вылучаецца на фоне астатніх балад і рамансаў, адыгрываючы ролю філасофскага маніфесту, закранаючы між іншым і праблему мастацкага касмапалітызму. Цікава, што згаданы дыскурс даволі выразна праявіў сябе і ў самай высокай кропцы паэзіі А. Міцкевіча – у «Пане Тадэвушы», дзе з’яўляюцца такія героі, як Талімэна, як Граф, чый касмапалітызм кантрастуе з ліцвінскім патрыятызмам і патрыярхальным светапоглядам шэрагу іншых герояў паэмы-эпапеі. Гэтую тэму пазней працягнуць наступныя пакаленні паэтаў. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, напрыклад, ледзь не з пагардай выкажацца пра найпрывабнейшыя «сталіцы свету», маўляў, яны – нішто ў параўнанні з родным краем:

«Co mi wykwintny Paryż – co Rzymu skulptury <...> Ja nad wszystko przekładam kraj mój ulubiony!» [5, с. 6]. Праўда, па меры аддалення ад эпохі рамантызму апазіцыя «свой-чужы» пачынае паволі разбурацца. І вось ужо ў паэзіі Янкі Купалы, здавалася б, прамога спадкаемца рамантычных традыцый, знікае ранейшая ідэалізацыя «свайго», якое, зрэшты, і надалей застаецца абсалютнай каштоўнасцю, як, скажам, для лірычнага героя ў вершы «Мая хатка»:

Хоць старая, хоць крывая,
З аднаго гнілля, –
Не аддам яе нікому,
Бо яна мая!
Бо яна мая! [6, с. 235].

Такім чынам, з усведамлення недасканаласці акаляючай рэчаіснасці на беларуска-польскім літаратурным памежжы неўзабаве пачаўся працэс пераацэнкі існуючых эстэтычных мадэлей і пошук станоўчага выйсця з той сітуацыі, што склалася. А выглядала сітуацыя наступным чынам: у канцы XIX – пачатку XX ст. і польская літаратура, і тым больш беларуская, у параўнанні з нямецкай, французскай ці англійскай, здавалася, застылі ў часе, альбо, у лепшым выпадку, папросту паўтаралі саміх сябе. Прыроду гэтага «самапаўтарэння» можна, вядома, вытлумачыць кругазваротам розных, пераважна трагічных момантаў у нашай супольнай гісторыі, але ўсё ж такі знаходзіліся творцы, якія спрабавалі, не гледзячы ні на што, пакінуць межы зачараванага кола айчыннай вербальнай традыцыі. І адным з такіх творцаў, каго можна смела назваць ці не першым сапраўдным літаратурным касмапалітам, быў Антоні Лянгэ – пашаноўнік паэзіі А. Міцкевіча, стваральнік анталогій асірыйска-вавілонскай, егіпецкай, персідскай, індыйскай і японскай паэзіі, перакладчык французскіх сімвалістаў (самога ж А. Лянге ў сваю чаргу высока ціаніў і перакладаў беларускі паэт-нашанівец Гальяш Леўчык). Як бачым, постаць гэтага пісьменніка вельмі ўдала ўпісваецца ў кантэкст нашых разважанняў і пра спецыфіку беларуска-польска-еўрапейскіх літаратурных узаемаадносін, і пра дыскурс мастацкага

касмапалітызму. Але адразу ж мусім канстатаваць і той факт, што арыгінальную і шматгранную творчасць А. Лянгэ да нашага часу даследчыкі пакідаюць па-за належнай увагай. Нават не гледзячы на тое, што літаратурны працэс канца XIX – першай чвэрці XX стагоддзя складана ўявіць без гэтай асобы. Канешне, нельга сцвярджаць, што літаратуразнаўства, асабліва польскае, цалкам праігнаравала прысутнасць А. Лянгэ ў культурнай прасторы. Проста такога матэрыялу катастрафічна недастаткова на фоне кніг пра іншых творцаў, у тым ліку пра сучаснікаў пісьменніка, якім А. Лянгэ ні ў чым не саступае, а часта нават апераджае іх у творчым асэнсаванні новай мастацка-эстэтычнай парадыгмы, што склалася на мяжы стагоддзяў, у асваенні новых формаў і выяўленчых сродкаў. Заўважым, што за апошнія 80 гадоў у Польшчы выйшлі з друку ўсяго тры кнігі манаграфічнага характару, прысвечаныя творчасці А. Лянгэ. Так, у 1937 г. з'явілася манаграфія Францішка Махальскага «Orientalizm Antoniego Langego» («Арыенталізм Антонія Лянгэ»), у 1979 г. ўбачыла свет кніга Бэаты Шыманьскай «Poeta i nieznane. Poglądy filozoficzne Antoniego Langego» («Паэт і неспазнанае. Філасофскія погляды Антонія Лянгэ»), а ў 2010 г. на паліцах кнігарняў і бібліятэк знайшлося дысертацыйнае даследаванне Паўла Вайцехоўскага «Logos, byt, harmonia. Antoniego Langego czytanie kultury» («Логас, быт, гармонія. Прачытанне культуры Антоніем Лянгэ»). Акрамя згаданых аўтараў, праблеме рэцэпцыі творчай свядомасці А. Лянгэ час ад часу прысвячалі свае нешматслоўныя артыкулы і раздзелы ў падручніках такія даследчыкі, як Вацлаў Баровы, Ян Прокап, Казімеж Выка, Марэк Куркевіч, Анна Выдрыцка і некаторыя іншыя. Зрэшты, усе яны даволі фрагментарна разглядаюць постаць і творчасць А. Лянгэ: кожны канцэнтруецца на нейкім адносна невялікім аспекце спадчыны пісьменніка, што, зрэшты, абумоўлена шматграннасцю і разнастайнасцю таленту апошняга. Так, напрыклад, іраніста Ф. Махальскага цікавяць найперш усходнія матывы ў творчасці А. Лянгэ. У сваю чаргу гісторык філасофіі Б. Шыманьска сочыць за эвалюцыяй філасофскай думкі паэта. Найбольшы тэматычны спектр у кнізе гісторыка літаратуры П. Вайцехоўскага. Аўтар самай сучаснай манаграфіі пра

А. Лянгэ, абапіраючыся на вопыт сваіх папярэднікаў, звяртае ўвагу на філасофска-эстэтычны змест мастацкіх тэкстаў пісьменніка, іх інтэртэкстуальнасць, а таксама вызначае месца творцы ў айчынным і замежным гісторыка-літаратурным кантэксце. У працы П. Вайцехоўскага мы бачым цікавыя паралелі, праведзеныя паміж А. Лянгэ і некаторымі яго сучаснікамі: мадэрністамі Стэфанам Жэромскім, Уладзіславам Рэймантам, Янам Каспровічам і іншымі літаратарамі. У той жа час даследчык абмінае шэраг другіх важных вектараў у сферы эстэтыкі і паэтыкі А. Лянгэ, у прыватнасці, у яго працы адсутнічае рамантычны «ліцвінскі», альбо так званы «міцкевічаўскі» вектар.

Што тычыцца літаратуразнаўчага асваення творчых пошукаў А. Лянгэ на постсавецкай прасторы, то яно яшчэ больш сціплае. У апошніх даследаваннях па гісторыі польскай літаратуры імя пісьменніка згадваецца толькі мімалётна. Так, у кнізе расійскага паланіста Віктара Хорава «Польская літаратура XX стагоддзя. 1890 – 1990», выдадзенай у 2009 г., постаць А. Лянгэ ўзнікае двойчы: у раздзеле «Польская літаратура ў канцы XIX – пачатку XX ст. (1890–1918)» знакамітаму творцу даецца невялікая, у адзін сказ характарыстыка, а крыху ніжэй ён фігуруе сярод паэтаў, што «прысвячаюць вершы рэвалюцыі» [7. с. 45]. Усяго двойчы сустракаем А. Лянгэ і ў навучальным дапаможніку «Сучасная польская літаратура», выдадзеным у 2010 г. паланісткай з Азербайджана Г. Абдулабекавай, якая згадвае пісьменніка як прадстаўніка «Маладой Польшчы» і называе яго адным з «самых таленавітых прадстаўнікоў гэтай групы» [8. с. 12]. Не шмат і асобных артыкулаў, прысвечаных постаці паэта. Звяртаюць, напрыклад, увагу публікацыі ўкраінскага паланіста Яраслава Нахліка, які даследуе ўжыванне топасаў «душа» і «цела» ў паэтычнай творчасці польскага пісьменніка, праводзячы некаторыя паралелі паміж вобразамі А. Лянгэ і ідэямі Зігмунда Фрэйда, Анры Бергсона, філасофскімі пошукамі экзістэнцыялістаў. Увогуле, аналізуючы стан літаратуразнаўчай думкі, што склаўся вакол постаці А. Лянгэ, можна зафіксаваць яго фрагментарнасць. Гэта значыць, што існуе кола праблем, якое патрабуе вывучэння, асэнсавання і навуковай інтэрпрэтацыі. Да сённяшняга дня, дарэчы, нават не высветлена, калі

дакладна нарадзіўся будучы літаратар. Ва ўсіх даведніках фігуруе альбо 1861, альбо 1863 год. Затое вядомыя дата і месца смерці: 17 сакавіка 1929 г., Варшава. У такім парадоксе ёсць і свая сімвалічнасць: смерць для А. Лянгэ вельмі часта становіцца дамінантным вобразам, скразным матывам, цэнтральнай фігурай мастацкай светабудовы ягоных твораў. Цікавую думку выказвае на гэты конт Ф. Махальскі: «смерць для паэта з'яўляецца мілай прагулянкай па дарозе, што выводзіць з хаосу жыцця» [9, с. 12]. Заўважым, матыў смерці існаваў ва ўсе літаратурныя эпохі і ва ўсіх літаратурах свету, фактычна яднаючы іх, і менавіта гэты факт, думаецца, вабіў А. Лянгэ як паэта-касмапаліта.

Мастацкі «касмапалітызм» польскага пісьменніка выявіўся ўжо ў «Паэзіі», першай кнізе А. Лянгэ. Па-першае, здзіўляе ў ёй разнастайнасць мастацкіх формаў верша, выкарыстаных аўтарам. Тут знаходзім ідыліі, санеты, трыялеты, балады, вершаваныя аповесці і шэраг іншых цікавых формаў. Па-другое, інтрыгуе зместавае напаўненне твораў. Паэта цікавіць увесь свет: Еўропа, Блізкі і Далёкі Ўсход, Індыя, Японія, Новая Зеландыя, Гватэмала, Мексіка, нават выспы Тонга. Дарэчы, гэты «касмапалітызм», будучы ўсяго толькі касмапалітызмам літаратурным, мог стацца для А. Лянгэ так званай «кропкай невяртання» ў айчынны культурны канон. Адсюль, па ўсёй верагоднасці, якраз і вынікае адсутнасць пастаяннай увагі да пісьменніка з боку польскага літаратуразнаўства. Бо касмапалітызм, няхай сабе і мастацкі, не дазваляе знаходзіцца ў рамках нацыянальнага культурнага канону, таячы ў сабе патэнцыяльную небяспеку яго разбурэння. Разважаючы над дадзенай праблемай, у чарговы раз згадваецца А. Міцкевіч, якога палякі аб'явілі нацыянальным геніем, узнеслі на самую вяршыню «алімпу польскасці», хоць той, як і А. Лянгэ, ніяк не месціцца ў сістэме польскай нацыянальнай культуры. Зрэшты, «пясняр Літвы» спатрэбіўся палякам дзеля пашырэння межаў той самай польскасці, каб неўзабаве сцерці іх паміж Польшчай і Рэччу Паспалітай. А вось асобу А. Лянгэ ў падобных мэтах выкарыстаць немагчыма па прычынах згаданага вышэй касмапалітызму. Праўда, калі задумацца, то і А. Міцкевіч, хутчэй не пашырае, а

наадварот, разбурае польскі культурны канон. Насычаючы мастацка-стваральную прастору вершаў беларускай народнай культурай і ліцвінскім патрыятызмам, наш першы рамантык трымаецца ад польскасці на пэўнай дыстанцыі. Тое самае робіць і А. Лянгэ, напаўняючы сваю творчасць элементамі і фрагментамі культур з усяго свету. Такім чынам, можна назіраць пэўнае спадкаемства А. Лянгэ ў адносінах да А. Міцкевіча. З аднаго боку, у гэтым няма нічога дзіўнага – сярод прадстаўнікоў польскай літаратуры немагчыма знайсці аўтара, які б здолеў абстрагавацца ад песняра Літвы, апынуцца па-за ягоным прыцягненнем. З іншага ж боку, паміж першым польскім рамантыкам і астатнімі прадстаўнікамі польскай літаратурнай традыцыі заўсёды назіраўся працэс узаемнага «адштур-хоўвання». Чаму так адбываецца? Адказ крыецца ў тым самым культурным каноне: калі паралельна разглядаць творчасць А. Міц-кевіча праз прызму «польскасці» і «беларускасці», то будзе віда-вочным факт прыналежнасці паэта хутчэй да беларускай традыцыі, чым да польскай, бо «Балады і рамансы», «Дзяды», «Пан Тадэвуш» і шэраг іншых твораў класіка цалкам упісваюцца ў сістэму беларускага культурнага канону і толькі часткова ў сістэму польскага. Па гэтай прычыне ў А. Міцкевіча многа спадкаемцаў сярод беларускіх літа-ратараў і мала сярод польскіх. А. Лянгэ, дарэчы, мы можам аднесці да групы спадкаемцаў. Зрэшты, ён і сам гаворыць пра духоўную сувязь з вялікім рамантыкам. Праўда, гаворыць не наўпрост, а праз насле-даванне мастацкіх тэм, эстэтычных ідэй і філасофскіх поглядаў, праз дасягненне сугучнасці вобразаў і матываў. Якраз такая форма вы-казвання характэрна і для нашага знакамітага земляка. Таму зусім не выпадкова, што першая кніга А. Лянгэ мае тую самую назву, якую даў сваёй першай кнізе А. Міцкевіч: «Poezye». Цікава і тое, што у абодвух паэтаў першыя зборнікі атрымаліся як бы падвойныя: «Poezye» А. Міцкевіча складаецца з двух тамоў (першы том з’явіўся ў Вільні ў 1822 г., другі – там жа ў 1823 г.), «Poezye» А. Лянгэ таксама з двух частак (1-я частка выйшла у Кракаве ў 1895 г., 2-я частка – там жа ў 1898 г.). Можна, зрэшты, у аднолькавых назвах кніг бачыць усяго толькі даніну тагачаснай модзе. Слова «Паэзія», адыгрываючы

ролю назвы, красавалася, напрыклад, на кнігах Ю. Славацкага, К. Пшэрвы-Тэтмайера, Я. Каспровіча і шэрагу іншых творцаў. Аднак, варта помніць пра захапленне А. Лянгэ іншымі, чужаземнымі літаратурнымі і культурнымі традыцыямі. Прыгадаем, між іншым, што ён з’яўляецца галоўным пашаноўнікам і першым перакладчыкам на польскую мову твораў Эдгара Алана По і Шарля Бадлера – паэтаў, якія давалі сваім зборнікам арыгінальныя назвы. У такім разе ў назве першай кнігі самога А. Лянгэ варта бачыць перадусім даніну А. Міцкевічу і сваёй, нібыта, айчыннай традыцыі, але, па вялікаму рахунку не сваёй, а суседняй – ліцвінска-беларускай, што акурат адпавядае абранаму паэтам цвёрдаму курсу ў бок мастацкага касмапалітызму.

Захапляючыся амерыканскім рамантызмам (Э. А. По) і еўрапейскім сімвалізмам (Ш. Бадлер), А. Лянгэ і ўласнае мастацтва кіруе падобным, дэкадэнцкім фарватарам. Канешне, дэкаданс – з’ява шматгранная і неадназначная, асабліва ў межах еўрапейскага літаратурнага кантэксту, таму для яе літаратуразнаўцы прыдумалі даволі шмат дэфініцый. Але сярод шэрагу меркаванняў ёсць думка, што дэкаданс – пераходная эпоха паміж рамантызмам і мадэрнізмам. Творчасць А. Лянгэ стаіць акурат на такім памежжы. Яскравым доказам гэтаму служаць згаданыя намі дзве часткі «Паэзіі», якія былі выдадзеныя пісьменнікам напрыканцы XIX стагоддзя, але сталі літаратурным фактам ужо для стагоддзя наступнага. У гэтай кнізе вельмі арганічна спалучаюцца чыста рамантычныя па сваім духу і гучанні творы («Powieść o płanetniku» («Аповед пра Планетніка»), урывак з паэмы «Powieść o Waligórze i Wyrwidębie» («Аповед пра Вярнігора і Вырвідуба»), вершы «Posąg i dziewczyna» («Пасаг і дзяўчына»), «Wiosenna pieśń» («Вясновая песня»), «Sonet (Czasami śród kochanków...)» («Санэт (Часамі між каханкаў…)»), «Nie, ja nie będę nigdy cichy i pokorny» («Ніколі я не буду ціхім і рахманым»), «Na Świtezi» («На Свіцязі») і шэраг іншых) з вершамі глыбока мадэрнісцкімі (цыклы «Sonety wedyckie» («Ведычныя санэты»), «Księgi proroków» («Кнігі пракаў»), «Rytmy»(«Рытмы»), «Exotica» («Экзотыка») і іншыя).

Калі разглядаць рамантычны бок паэзіі А. Лянгэ, то адразу робіцца відавочным факт прысутнасці тут моцнай міцкевічаўскай традыцыі. Адзін з найбольш яскравых прыкладаў – «Аповед пра Планетніка». Пачынаецца ён так:

Na podolu biały kamień,
Młode dziewczę siedzi na nim,
Siedzi na nim, lamentuje,
Białe rączki załamuje [10, s. 113].

Знаўцы творчасці А. Міцкевіча адразу ж заўважаць, што дадзенае чатырохрадкоўе з верша А. Лянгэ не проста пераклікаецца з вядомай баладай «Рыбка», але амаль паўтарае асобныя адтуль радкі. Вось што робіць гераіня Міцкевічавай балады:

Przybiega na koniec łączki,
Gdzie w jezioro wpada rzeka;
Załamuje białe rączki
I tak żałośnie narzeka [4, s. 71].

Падабенства відавочнае. Калі ж прыгадаць, што паэзія першага рамантыка бярэ свае вытокі ў вуснай народнай творчасці беларусаў, то можна сцвердзіць наступнае: беларускі фальклор апасродкавана, праз А. Міцкевіча, уплываў і на творчую свядомасць А. Лянгэ. Нялішнім у дадзеным кантэксце будзе прывесці і радкі з беларускай народнай песні, занатаванай на Навагрудчыне:

Быстра рэка корэнь мые,
А ў дзеўчыны сэрца ные.
Белы ручкі заламаны,
Чорны очкі заплаканы [11, с. 342].

Вяртаючыся да «Рыбкі» А. Міцкевіча, згадаем, што гэтая балада мае падтытул «ze śpiewu gminnego» («з народнай песні»), і аўтар сапраўды ў некалькіх месцах стылізуе верш пад беларускую народную песню (зразумела, перакладаючы яе на польскую мову). У

«Аповедзе пра Планетніка» таксама не аднойчы бачым падобную стылізацыю. Ёсць тут і шэраг іншых цікавых вобразаў і матываў, запазычаных з народных песень, легендаў, паданняў, прымхаў і забабонаў. Праўда, калі А. Міцкевіч пазычае і творча апрацоўвае беларускі фальклорны матэрыял, то А. Лянгэ часцей за ўсё сягае да крыніц агульнаславянскай міфалогіі:

Za górami, za morzami,
Na wyraju, na poraju,
Niżej tuczy, wyżej drzewa,
Jakiś oman się rozwiewa... [10, s. 117].

У славянскіх народаў, як вядома, падобным чынам прынята было пачынаць чарадзейныя казкі. А следам і некаторыя славянскія паэты, асабліва ў часы рамантызму, пачалі выкарыстоўваць гэты мастацкі прыём. У рускай літаратуры можна згадаць, напрыклад, каз-ку Пятра Яршова «Канёк-Гарбунок», дзе маецца цалкам падобны зачын:

За горами, за лесами,
За широкими морями,
Против неба – на земле
Жил старик в одном селе [12, с. 7].

Беларускія літаратары таксама не цураліся падобнай традыцыі. Дзеля прыкладу можна згадаць вершаваную казку Алеся Якімовіча «Каваль Вярнідуб», аздобленую падобнымі радкамі:

Адным словам, за марамі,
За лясамі, за гарамі
Жыў лі быў найлюты цар,
Той краіны уладар [13, с. 416].

А. Лянгэ, як і згаданыя вышэй паэты – П. Яршоў і А. Якімовіч, таксама выкарыстоўвае ўсходнеславянскі фальклор, пра што, напрыклад, сведчыць слова «tucza», якое прадстаўнік польскай літаратуры спецыяльна пакідае без перакладу, каб чытач не забыўся, што знаходзіцца ў чужой мастацка-эстэтычнай прасторы. Такім чынам, усхо-

днеславянскі пласт культуры становіцца для А. Лянгэ чарговай крыніцай для мастацкіх пошукаў па-за польскай лакальнай традыцыяй. Шукае паэт і там, дзе ў свой час шукаў А. Міцкевіч. Таму побач з рознымі міфічнымі істотамі, якіх сустракаем у «Аповедзе пра Планетніка», знаходзіцца месца і згадцы пра беларускую русалку-свіцязянку:

Ni to ciało, ni to pianka,
Ni to wodna świtezianka,
Ni to chmurka ozłocona,
Wyszła, wyszła dziwożona! [10, s. 118].

Канешне, з'яўленне беларускай воднай німфы ў вершы польскага мадэрніста – гэта перадусім даніна павагі А. Міцкевічу, які ўпершыню ўвёў вобраз Свіцязянкі ў літаратуру. Дарэчы, да гэтага часу дакладна не вядома, ці сам рамантык прыдумаў такое імя для русалкі, ці ўзяў яго з народных крыніц. У кожным выпадку, наследуючы А. Міцкевіча, А. Лянгэ разам з ім паглыбляецца ў таямніцы беларускай народнай культуры. А для яго гэта экзотыка. Можа не такая, канешне, як індыйская або японская, але ўсё ж... Зрэшты, нельга цалкам выключаць магчымасці таго, што аўтар «Аповеда пра Планетніка» і сам непасрэдна цікавіўся беларускай культурай: прынамсі, да выхаду яго «Паэзіі» ўжо меліся грунтоўныя даследа-ванні ў гэтай галіне, з якімі А. Лянгэ мог пазнаёміцца. Паміж А. Лянгэ і А. Міцкевічам можна, вядома, правесці не адну паралель. Да таго ж нельга забываць, што прыцягненне апошняга давялося адчуць многім пісьменнікам Еўропы. Іншая справа – як успрымалася і ацэньвалася тое прыцягненне. Паэт А. Лянгэ высока цаніў не проста мастацкія традыцыі, закладзеныя паэтам А. Міцкевічам, але найперш той «каштоўнасны бок яго чалавечай сутнасці» [14, с. 16], які прынята называць духам. Пра гэта прыгожа сведчыць верш «Na Świtezi» («На Свіцязі»), асабліва яго заключныя радкі:

Z fal, kołysanych w śpiewny ruch,
Pieśń idzie tajemnicza:

W powietrzu święty płynie duch,
Duch święty Mickiewicza! [10, s. 96].

Увогуле, для паэтычнай творчасці А. Лянгэ, як спадкаемца рамантычнай эпохі, тэарэтыка і практыка сімвалізму, прыхільніка інтуітывізму і спірытызму, асэнсаванне «прыроды» трансцэндэнтнага, выражанага ў тым ліку і праз катэгорыю «духу», становіцца фактычна дамінантнай тэмай. І яна раскрываецца не толькі наўпрост, калі, скажам, А. Лянгэ заглыбляецца ў філасофскія разважанні «аб абсурднасці чалавечага лёсу і адначасова распачынае пошук абгрунтавання чалавечай свабоды» [15, с. 77]. Дадзеная тэма можа праяўляць сябе і апасродкавана, напрыклад, хаваючыся між радкоў пейзажнай лірыкі, што таксама выглядае значным наватарствам – не меншым за аздабленне творчасці ўсходнім ідэйна-вобразным арнаментам, які назіраем у цыклах «Ведычныя санеты», «Кнігі прарокаў» і ў некаторых іншых вершах. Аднак наватарства, на якое мы звернем увагу, не тычыцца ні арыенталізму, якім шчыра захапляўся пісьменнік, ні інтэрпрэтацыі заходніх філасофска-эстэтычных канцэпцый, паколькі гэтыя праблемы збольшага разглядаліся ў згаданых вышэй навуковых працах. Нас цікавяць перадусім некаторыя творчыя эксперыменты А. Лянгэ, звязаныя з новым зместавым напаўненнем традыцыйных паэтычных форм і ідэй. Так, напрыклад, вельмі традыцыйна выглядае першы раздзел першай кнігі паэта. «Паэзія» распачынаецца з цыкла «Sielanki (Plein-Air)» – ідылій, якія ўяўляюць сабой кранальныя замалёўкі польскай прыроды і сялянскага быту. Насамрэч аўтар не збіраецца задавольвацца сузіраннем прыгажосці вясковага пейзажу. Перад сабой ён ставіць вельмі канкрэтную задачу: не проста паказаць велічную прыгажосць родных краявідаў, але зрабіць радзіму своеасаблівым пунктам адліку ва ўласнай мастацкай сістэме каардынат. Відаць, для таго, каб усё ж такі не быць беспадстаўна абвінавачаным у бяздумным касмапалітызме – нічым не апраўданай адмове ад свайго на карысць чужога. Дзеля рэалізацыі задуманага А. Лянгэ карыстаецца цікавым мастацкім прыёмам – вядомае паказвае ў новым, нечаканым ракурсе. У выніку такога эксперыменту звыклая зяляніна

лістоты, якую бачым кожны дзень, раптам насычаецца мноствам іншых нечаканых фарбаў:

Zieleń srebrna, zieleń złota,
W szary popiół, w biel odziana –
Kirem smętna jak sierota,
Lub w błękitach wykąpana [16, s. 8].

Дзякуючы згаданаму прыёму паэт раскрывае сапраўдныя дзівосы, якімі поўніцца навакольны свет. Ад чытача патрабуецца толькі здольнасць іх заўважаць. З нечаканага боку паўстаюць у паэзіі А. Лянгэ і іншыя вобразы, на першы погляд таксама традыцыйныя. Напрыклад, дрэва можа набываць дынаміку, большую чым наратар. Так сталася з вобразам клёна, які праходзіць праз большасць вершаў цыкла «Sielanki». У параўнанні з клёнам вобраз лірычнага героя-апавядальніка тут даволі невыразны, бо апошні ўвесь час зліваецца з аўтарам. А клён у сваю чаргу выконвае яшчэ і мноства ідэйна-мастацкіх функцый: выступае не толькі ў ролі своеасаблівай дэка-рацыі, на фоне якой разгортваюцца ўсе падзеі, але становіцца цэнтрам мастацка-эстэтычнай прасторы вершаванага цыкла. Акрамя таго ён сімвалізуе крыніцу натхнення, мудрасці, маральнасці, урэшце рэшт – крыніцу творчасці. Нездарма лірычны герой (аўтар) просіць у клёна, нібы ў якога чараўніка, даць яму паболей сіл, надзяліць адчуваннем прыгажосці і гармоніі, якой так не стае:

Gdybyś dał mi stary klonie,
Pierś i głos pasikonika
I namiętną ich harmonię,
Cudnaż byłaby muzyka!

Daj mi stary – dobry klonie,
Taką moc i takie echo!
Ja ci taką pieśń zadzwonię,
Że pod każdą zabrzmi strzechą [16, s. 7].

Такім чынам, клён у А. Лянгэ – сімвал мастацтва. І тут мы можам зноў заўважыць, што для паэта вельмі блізкая эстэтыка рамантызму, якая каранямі глыбока ў зямлі (народная творчасць), а сваім голлем сягае неба (свабода выяўлення, ірацыянальнасць, пазачасавасць). Заўважаецца ў дадзеным цыкле (як зрэшты і ва ўсёй творчасці пісьменніка) уплыў і больш старой мастацкай традыцыі – барочнай: па словах П. Вайцехоўскага, у паэзіі А. Лянгэ маюцца такія рысы як «дынамізм прасторы, яркая кантраснасць, вербальная і стылістычная дэкаратыўнасць» [17, с. 159]. Дарэчы, адзін з распаўсюджаных прыёмаў у літаратуры барока – прыём персаніфікацыі. Выкарыстоўвае яго ў якасці эксперыменту і А. Лянгэ: у цыкле «Sielanki» маем цікавую персаніфікацыю дрэва (клён набывае дар мовы, пасля становіцца суразмоўцам лірычнага героя і, нарэшце, выцясняе апошняга ў цень аўтара, а сам займае вызваленае месца).

Наступны эксперымент паэта, які назіраем у згаданым цыкле, звязаны з цалкам новай інтэрпрэтацыяй традыцыйнага жанру ідыліі. Прыгадаем: у назве цыкла – «Sielanki (Plein-Air)» ёсць удакладненне, пададзенае ў дужках, на якім акцэнтуецца большая візуальная ўвага, чым на першым слове, што вызначае яго жанравую прыналежнасць. Аднак звернем спачатку ўвагу на першую частку назвы. Sielanka (ідылія) паводле «Паэтычнага слоўніка» В. Рагойшы – «невялікі лірычны твор, у якім падаецца малюнак чароўнай прыроды, што супрацьпастаўляецца цяжкаму чалавечаму жыццю, або малюецца шчаслівае і мірнае жыццё простых людзей на лоне прыроды» [18, с. 261]. На першы погляд, А. Лянгэ нібыта не адыходзіць ад абвешчаных жанравых рамак. У «Ідыліях» ёсць і маляўнічае апісанне наваколля, і «шчаслівае жыццё на лоне прыроды» (герой-апавядальнік, прынамсі, выглядае шчаслівым), і паказ нялёгкага жыцця селяніна:

Raźny, chociaż niewesoły,
Idzie bruzdą i powraca
I pogania swoje woły.
Skroń mu potem zlewa praca [16, s. 14].

Праўда, усе гэтыя рысы не прысутнічаюць ў межах кожнага верша. Гэта значыць, у цыкле ёсць асобныя вершы з апісаннем маляўнічага пейзажу, ёсць вершы пра сялянскую працу, але па-за цыклам ніводны з іх нельга было б акрэсліць як ідылію. Разам з тым, кожны з вершаў мог бы свабодна існаваць па-за цыклам. А вось супольна яны акурат і ствараюць тую самую, сапраўдную ідылію (ад лац. idyllium – малюнак), цэласную карціну, дзе кожны верш – асобны яе эпізод. Таму зусім не выпадкова аўтар уводзіць нелітаратурны тэрмін «Plein-Air» (ад франц. plein air – адкрытае паветра), што абазначае жывапіс на адкрытым паветры – творчы метад, які «дазваляе перадаць у карціне багацце і разнастайнасць градацый колеру, каляровых ценяў, нюансаў, абумоўленых уздзеяннем сонечнага святла і станам атмасферы» [19, с. 423]. Што ж, мы назіраем чарговы эксперымент у паэзіі А. Лянгэ: праз выкарыстанне творчага метаду выяўленчага мастацтва ў мастацтве вербальным робіцца спроба аб’яднання гэтых двух відаў. Такі прынцып падачы матэрыялу нагадвае яшчэ і прыём кадравай пабудовы твору, калі толькі «рух» асобных эпізодаў дазваляе бачыць цэласную карціну, задуманую аўтарам. На з’яўленне дадзенага прыёму паўплываў кінематограф, а выкарыстоўваць яго шырока пісьменнікі пачалі толькі ў перыяд міжваеннага дваццацігоддзя.

Акрамя эксперыменту з «візуалізацыяй» сваёй паэзіі, А. Лянгэ клапоціцца яшчэ і пра запамінальнае гукавое афармленне вершаў. І рэч тут ідзе не столькі аб гука ці шумаперайманні (хаця і такая форматворчасць знаходзіць пачэснае месца ў творчасці паэта), колькі пра татальную метафарызацыю звычайных прыродных гукаў. Вось як, напрыклад, можна перадаць цвырканне ў траве коніка:

Ach, jak płacze – jak zawodzi,
Zrywa serce swe sieroce,
Skrzydełkami takty godzi:
Smutneż jego dni a noce!

I powietrzną toń przebija
Namiętnością, ogniem, szałem

Niespokojna melodyja
Niewidzialnem wstrząsa ciałem [16, s. 6].

Гэтыя два чатырохрадкоўі – толькі невялікая частка айсбергу нязвыклых мастацкіх сродкаў, з дапамогай якіх А. Лянгэ апісвае самыя звыклыя гукі. Не менш арыгінальна паэт перадае шум дрэваў. Па -першае, ён старанна падбірае такія словы, якія б сваім гучаннем нагадвалі шэлест лістоты, па-другое, стараецца ўжыць паўтор гэтых словаў, чым узмацняе эфект ад шумаперайманння (Szumią – szumią – szumią drzewa // Szumem dziwnej melancholii [16, s. 9]), па-трэцяе, перадае сваё ўражанне ад пачутага, выкарыстоўваючы музыкальную тэрміналогію і тым самым канчаткова сцвярджае еднасць вербальнага мастацтва з музыкай:

Słuchaj, co to za kantata!
Te adagia, pianta, larga,
Dolorosa i irata:
Szmer – i szept – i łza – i skarga! [16, s. 10].

Працытаваныя радкі ў чарговы раз сведчаць пра мастацкі касмапалітызм паэта. Бо калі італьянскія словы «adagia» і «larga» ўжываюцца перш за ўсё як спецыяльныя тэрміны, што абазначаюць «марудны» і «вельмі марудны» тэмп у музыцы, то астатняя італьянская лексіка (pianta, dolorosa, irata) выкарыстоўваецца А. Лянгэ для стварэння адмысловых паралелей паміж песняй дрэваў і італьянскім музычна-драматычным мастацтвам, бо, як вядома, Італія – радзіма шматлікіх музычных жанраў. Праўда, такі «касмапалітызм» аўтара «Ідылій», як гэта ні дзіўна, адначасова становіцца ўвасабленнем патрыятызму: гукі і фарбы роднай прыроды лірычнаму герою ўяўляюцца не горшымі за еўрапейскае мастацтва, а вандроўкі па свету могуць падацца не такімі цікавымі, як сузіранне родных краявідаў, бо цэнтр свету, а нават і сусвету заўсёды мусіць знаходзіцца ў айчыне.

Зрэшты, паэзія А. Лянгэ вельмі складаная, шматузроўневая, а часам бескампрамісна парадаксальная, каб рабіць з яе нейкія адназначныя высновы. Можна заўважыць толькі тое, што разам з айчынай

(геаграфічнай, культурнай, ментальнай) своеасаблівым «цэнтрам» становіцца свядомасць, душа лірычнага героя, пад маскай якога найчасцей крыецца сам аўтар, ці, лепш сказаць, дух аўтара. Такім чынам, вандруючы з вершамі А. Лянгэ па нязвыклых мясцінах і знаёмячыся з рознымі культурамі, чытач на самой справе падарожнічае па бяскрайніх унутраных прасторах паэта, насычаючы разам з ім сваю свядомасць і рамантычным міцкевічаўскім патрыятызмам, і мастацкім касмапалітызмам.

Літаратура

1. Дмитриева Е., *Об истоках идеи космополитизма: русский и европейский взгляд* [Электронный ресурс], «Вопросы литературы», № 2, 2020. Режим доступа: https://voplit.ru/2020/04/27/ob-istokah-idei-kosmopo-litizma-russkij-i-evropejskij-vzglyad/ Дата доступа: 18.05.2021.

2.*Теория литературы в 4 т.* Редкол.: Ю. Б. Борев и др., Москва: ИМЛИ РАН: *Наследие*, 2001, т. 4: *Литературный процесс*.

3. Бурханова М. В., *Поиски национальной идентичности и проблема самоидентификации в литературе объединённой Германии*: дис. ... канд. филолог. наук: 10.01.03 / Нижний Новгород 2021.

4 Mickiewicz A., *Dzieła w XVII t.,* Warszawa: «Czytelnik» 1998, т. I, *Wiersze*.

5 Дунін-Марцінкевіч В., *Збор твораў у 2 т.,* Мінск: Маст. літ., 2008, т. 2: *Вершаваныя аповесці і апавяданні. Вершы. Публіыстыка. Лісты і пасланні. Пераклады. Dubia*.

6. Купала Я., *Поўны збор твораў у 9 т.,* Мінск: Маст. літ., 1995, т. 1, *Вершы, пераклады 1904 – 1907*.

7. Хорев В. А., *Польская литература XX века. 1890 – 1990,* Москва: Индрик, 2009.

8. Абдуллабекова Г. Г., *Современная польская литература*: учеб. пособие, Баку: БСУ, 2010.

9. Machalski F., *Orientalizm Antoniego Langego,* Tarnopol: Podolskie Towarzystwo Przyjaciół Nauk w Tarnopolu, 1937.

10. Lange A., *Poezye w II cz*., Kraków: Drukarnia Związkowa, 1898, cz. II.

11. Шейн П., *Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края в 3 т*., СПб: Типогр. Император. Акад. наук, 1902, т. 3.

12. Ершов П., *Конек-Горбунок,* Москва: Худ. лит., 1968.

13.Якімовіч А., *Выбраныя творы ў 2 т.* Мінск: Беларусь, т. 1: *Апавяданні, казкі*.

14. Малышевский А. Ф., *Философско-терминологический словарь,* Калуга: Гриф, 2004.

15. Szymańska B., *Poeta i nieznane. Poglądy filozoficzne Antoniego Langego,* Wrocław: PAN, 1979.

16. Lange A., *Poezye w II cz.,* Kraków: Drukarnia W. L. Anczyca i Spółki, 1895, cz. I.
17. Wojciechowski P., *Logos, byt, harmonia. Antoniego Langego czytanie kultury,* Lublin: Norbertinum, 2010.
18. Рагойша В. П., *Паэтычны слоўнік,* Мінск: Вышэйшая школа, 1979.
19. Шунейка Я. Ф., *Пленэр*, (у:) *Беларуская энцыклапедыя ў 18 т.* Рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.], Мінск 2001, т.12.

*Анатоль Брусевіч*

Галіна Тварановіч

# ПАЭТЫЧНЫ СВЕТ НАДЗЕІ АРТЫМОВІЧ І МІРЫ ЛУКШЫ: АГУЛЬНАЕ І АДРОЗНАЕ

Феномен звыш шасцідзесяцігадовага існавання літаратурнага аб’яднання беларусаў Польшчы “Белавежа”, адзінай арганізацыі такога кшталту, заснаванай прадстаўнікамі нацыянальнай меншасці, на працягу многіх гадоў разглядаецца, даследуецца на самых розных узроўнях – ад студэнцкіх дыпломных прац да кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый, акадэмічных асэнсаванняў. І як адзначае ва ўнісон з меркаваннем шэрагу калег-літаратуразнаўцаў Аксана Данільчык: “Творчасць беларускіх пісьменнікаў Беласточчыны ёсць неад’емнай часткай сучаснай беларускай літаратуры, само яе існаванне спрыяе стварэнню шматпалярнасці і дэцэнтралізацыі літаратурнага працэсу, неабходных для паўнавартаснага развіцця нашай літаратуры” (Danilczyk, 2018, s. 128).

Дваццаць гадоў таму Уладзімір Конан у грунтоўнай прадмове да “белавежскай” анталогіі, якая выйшла ў Мінску, звярнуў увагу на тое, што беларуская літаратура Польшчы прадстаўлена трыма плынямі: традыцыйнай нацыянальна-адраджэнскай, мадэрнісцкай і постмадэрнісцкай (Конан, 2000, с. 10). Аб тым, што пытанне традыцый і наватарства было актуальным для “Белавежы” з першых гадоў існавання, яскрава сведчыць дыскусія *Якой павінна быць паэзія?*, разгорнутая па ініцыятыве тагачаснага старшыні “Белавежы” Алеся Барскага ў студзені 1963 года на Літаратурнай старонцы ў беларускім беластоцкім штотыднёвіку “Ніва”. Між іншым, у кастрычніку 1962 года дыскусію *Пісьменнік і час* (працягвалася да мая 1963-га) адносна традыцый і наватарства ў беларускай літаратуры распачаў на старонках мінскага штотыднёвіка “Літаратура і мастацтва” Міхась Стральцоў. Безумоўна,

сінхроннасць гэтых крытычна-літаратуразнаўчых дыскусій наводзіць на думку аб агульным вектары творчых пошукаў беларусаў Беласточчыны і Беларусі пачатку 60-х гадоў.

Аб тэндэнцыях, заканамернасцях развіцця літаратурнай "Белавежы" надзвычай дакладна выказаўся пару гадоў таму Ян Чыквін:

> Творчасць беларускіх пісьменнікаў у Польшчы развівалася ў адметным асяроддзі, калі асяроддзе рознілася і ад савецкага, і ад цяперашняга беларускага, і эмігранцкага. А адначасова літаратура "белавежцаў" не выпадала ані з польскага, ані з беларускага нацыянальна-культурнага кантэксту. Параўнальна невялікая тэрыторыя нашага рэальнага існавання і поўная агульнасць лёсаў спараджалі два вектары развіцця літаратурных тэм і матываў "белавежцаў". З аднаго боку, памкненне да паэтызацыі сваёй малой айчыны, заземленасць у штодзённай і непаўторнай нашай эмпірыі, нашай рэчыўнасці, а з другога, патрэба філасофскай заглыбленасці, абагуленасці ў асэнсаванні ўніверсальных чалавечых каштоўнасцей...(Чыквін , 2017, с. 1).

Гэтая лапідарная характарыстыка ніякім чынам не пярэчыць усведамленню, што беларуская паэзія (літаратура), дзе б яна ні стваралася (у Беларусі ці ў Польшчы), захоўвае сваё адзінства (Сідарэвіч, 2003, с. 27).

Тым болей, што ўзнікненне ў 1958 годзе ў Беластоку Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" пры штотыднёвіку "Ніва", які, па сведчанні яго стваральніка і шматгадовага першага рэдактара, пачынальніка своеасаблівага беларускага адраджэння на Беласточчыне ў сярэдзіне мінулага міленіума Георгія Валкавыцкага, нават назву наследаваў ад віленскай "Нашай Нівы", можна разглядаць як рэалізацыю аднаго з галоўных нацыянальных імпульсаў "нашаніўскага" адраджэнскага працэсу. У свой час "нашаніўская" культурная прастора ахоплівала і ўсю ўсходнюю Беласточчыну, прадстаўленую карэспандэнтамі з Сакольшчыны, Бельшчыны, Гайнаўшчыны. Так што з'яўленне "Белавежы" ўвідавочніла на Беласточчыне тутэйшы працэс стварэння тэксту беларускай літаратуры, вызваліла яго са своеасаблівага, нібы няміжскага, сацыяльна-гістарычнага калектару.

У анталогіі беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду "Бліскавіцы", над выданнем якой парупіліся Аксана Данільчык і Віктар Жыбуль, сярод паэтак Заходняй Беларусі называецца сярод

іншых і Вера Мурашка (1896—1981), народжаная ў Супраслі і вырасшая ў бацькоўскім доме ў вёсцы Агароднічкі Беластоцкага павета Гродзенскай вобласці. Дэбютавала яна вершам *Малітва* ў віленскай газеце ”Homan” у кастрычніку 1918 года. *Забытая ліра Веры Мурашкі* назваў свой артыкул на “ніўскай” Літаратурнай старонцы Юры Туронак, прадставіўшы і пяць вершаў “цікавага прадстаўніка беларускай паэзіі Беласточчыны міжваеннай пары” (Туронак, 1978, с. 3). У “Ніве”, як і ў “Бліскавіцах”, былі надрукаваны вершы паэткі толькі 20-х гадоў. Лірычная гераіня выяўляе ў іх сваю выразную чалавечую, грамадзянскую, патрыятычную пазіцыю, вернасць якой пацвярджалася суровым шасцігадовым зняволеннем за турэмнымі кратамі.

Так сталася, што Вера Мурашка (Маслоўская) не была непасрэдна ахоплена “белавежскім” рухам, відаць, найтворчы яе час прыйшоўся на міжваенны перыяд. Аднак творчасць паэтэсы, несумненна, пасвойму тлумачыць і ўзбагачае “белавежскі” кантэкст, як арганічную частку агульнабеларускага.

Пра творчых наступніц Веры Мурашкі, прадстаўніц “Белавежы”, пра жаночыя праблемы ў “жаночай” паэзіі “Белавежы” нам ужо даводзілася пісаць (Твары́новіч Г. 2012, с. 291 –305), звярнуўшы ўвагу ў артыкуле на вершы Марыі Аліфер, Марылі Базылюк, Ірыны Баравік, Алены Анішэўскай, Жэні Мартынюк – некаторых паэтэс з шаснаццаці (сярод 54 аўтараў), прадстаўленых у кнізе *Букет Белавежжа. Анталогія краялюбнай паэзіі “белавежцаў*”, складзенай Георгіем Валкавыцкім (Букет Белавежжа, 2001). Пры тым тады ў артыкуле свядома была абыйдзена творчасць Надзеі Артымовіч і Міры Лукшы, як паэтэс, пра якіх, прынамсі, пра першую, сказана ўжо даволі шмат. Аднак наспела патрэба менавіта тыпалагічнага параўнання паэтычнага свету гэтых яркіх індывідуальнасцей, прадстаўніц беларускай літаратуры Польшчы.

Надзея Артымовіч (1946) дэбютавала на красавіцкай “ніўскай” Літаратурнай старонцы ў 1970 годзе вершам *Ой ляцелі гусі*. Першы зборнік яе паэзіі, як ні парадаксальна, польскамоўны, *We śnie, w bolu słowa*” (пер. Яна Леаньчука), выйшаў у 1979 годзе. Першая ж беларускамоўная кніга *Роздумы* пабачыла свет двума гадамі пазней пад

рэдактарскай апекай і з прадмовай Юрыя Туронка, выдадзеная Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку. Наступны паэтычны зборнік *Сезон у белых пейзажах* распачынаў у 1990 годзе доўгае жыццё толькі што заснаванай серыі “Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб’яднання <Белавежа>”. І трыма гадамі пазней, нарэшце, з паэзіяй Надзеі Артымовіч бліжэй змагла пазнаёміцца чытацкая аўдыторыя Беларусі: у мінскай “Мастацкай літаратуры” пабачыў свет зборнік *З неспакойных дарог* (1993). Неўзабаве, у 1994 годзе ў “Бібліятэчцы БЛА <Белавежа>” (11-ай пазіцыяй), з’явілася выданне, якое актывізавала цікавасць да творчасці “белавяжанкі”. Маецца на ўвазе зборнік *Дзверы*, адметны найперш тым, “што ў ім паралельна з вершамі Надзеі Артымовіч змяшчаецца і прачытанне іх – маргіналіі паэта Алеся Разанава: удакладняючы тапаграфію вершаў і актывізуючы сэнсы, што тояцца ў іхняй, даволі герметычнай, прасторы, яны ўводзяць вершы ў кантэкст дыялогу” (Артымовіч, Разанаў, 1994, с. 5). У кнізе змешчана 28 твораў Н. Артымовіч і гэтулькі ж інтэрпрэтацый А. Разанава. У 1998 годзе ў Любліне пабачыў свет білінгвальны зборнік вершаў Н. Артымовіч *Łagodny czas.* Наступныя кнігі паэтэсы выдадзены праграмнай радай тыднёвіка “Ніва”: *Адплывае спакойнае неба* (1999) – да 30-годдзя “ніўскага” дэбюту, як падкрэсліў у слове ад рэдактара Яўген Мірановіч, *Жоўтая музыка* (2005) і білінгвальны зборнік *Краявід з невідочнай памылкай* (2018).

Леанід Галубовіч у сваіх развагах над творчасцю Н. Артымовіч заўважае:

> І што ж, калі быць абсалютна шчырым, то паэтка напісала не больш адной кніжкі арыгінальных вершаў, хоць выдала іх у пяці зборніках, кампануючы змест залежна ад задумы, дадаючы некалькі новых тэкстаў да ўжо вядомых. Не “Вянок”, вядома, але – вянец свайго сціплага па аб’ёму паэтычнага плёну (Галубовіч, 2016, с. 291).

На тое, што Н. Артымовіч піша няшмат, звярнуў увагу ў прадмове да *Роздумаў* яшчэ Ю. Туронак, адзначыўшы: “Аднак больш істотным, чым колькасныя паказчыкі, з’яўляецца дыяпазон праблемаў, якімі займаецца паэтэса” (Туронак, 1981, с. 3). Аб тым жа, што Н. Арты-

мовіч заняла, несумненна, сваё ўласнае месца на мапе беларускай паэзіі 80 – 90-х гадоў мінулага стагоддзя як з пункту погляду ўражлівасці, так і спосабу выяўлення гэтай уражлівасці, выказаўся ў пасляслоўі да люблінскага выдання яе паэзіі Фларыян Няўважны:

Jej poezja to najczęściej muzyczno-graficzne impresje, odgłosy przeżyć, ujęte w kształt wiersza białego i wolnego, który dyscyplinuje jedynie myśli, obrazy i tropy. Twórczość Artymowicz to proces przetwarzania żywiołu w krysztaliki przeżyć, uczuć, nastroju czy refleksji i … niedomówień (Nieuważny, 1998, c. 106 – 107).

Зборнік Н. Артымовіч *Роздумы* склалі тры цыклы вершаў (*Грудка зямлі*, *Мы так блізка сябе* і *Варшаўскія пейзажы*), напісаныя на працягу 1970 – 1977 гадоў, падчас побыту Н. Артымовіч у Варшаве. Відаць, менавіта ў сталіцы ўзнік і яе дэбютны "ніўскі" верш. Я. Чыквін заўважае ў артыкуле *"І дзверы зрабіліся сцяной" (Катастрафізм у лірыцы Надзеі Артымовіч)*, што пераезд Н. Артымовіч з Бельска ў Варшаву – паступіла на філалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта – стаўся нечаканым для яе самой пераскокам

ад "знешняй" біяграфіі як паслядоўнага "некантраляванага" наступства здарэнняў да разгортвання глыбока рэфлексаванай унутранай, душэўнай біяграфіі. Вось тады і адбываецца ў будучай паэтэсы пераключэнне з усяго толькі простага перажывання свайго жыцця на ўспрыманне яго як канструктыўнага элементу эстэтычна-мастацкага свету. Менавіта ў Варшаве Надзея Артымовіч і пачынае сваю літаратурную дзейнасць; яна давярае свае думкі паперы (...)" (Чыквін, 1997, c. 146 – 147).

Праз некалькі дзесяткаў гадоў сама паэтэса ва ўласцівай ёй лапідарнай манеры ўспомніць і ацэніць свой даўнішні стан, шчырыя спадзяванні: "у Варшаву/ ляцелася ў голай непрытомнасці/ з мокрай незапісанай карткай// там шукалася ценю/ для безабаронных прадчуванняў// цяпер бачу/ асіметрычнасць сэрца/ і першага запаху" (Артымовіч, 2005, c. 12).

*Роздумы* знамянальна распачынаюцца вершам, які даў назву першаму іх цыклу: "Ты падарыў мне/ грудку зямлі,/ якая мяне карміла,/ паіла/ а я,/ што ж, / яе забыла. // Забыла, / як і некаторыя забываюць/ крыніцы,/ якія нам шчодрай, вялікай рукой/ памагалі, / няслі нас у

жыццё./ Шкада, /што так часта/ наша памяць /такая скупая" (Артымовіч, 1981, с. 8). Сярод сталічных муроў, зняволенай асфальтам зямлі, абыякавых чужых твараў надыходзіць імгненне, калі лірычная гераіня ўсведамляе сябе раптам здрадніцай і ніякім чынам не апраўдвае сябе тым, што, на жаль, не толькі яе памяць "скупая" ў адносінах да жыццёвых крыніц. Няма адказу ў вершы да каго – да Усявышняга, да Лёсу – звяртаецца лірычная гераіня, каму скрушліва наракае на сваю няўдзячнасць роднаму. Аднак відавочна, што *грудок зямлі* і *крыніцы* ў гэтым лаканічным вершы традыцыйна выступаюць сімваламі малой Радзімы, па якой з пачуццём віны настальгіруе лірычная гераіня.

Цалкам інакшым настроем прасякнуты наступны верш, народжаны любоўю да родных ваколіц: *Прысвячаю Бельску* занатуе паэтэса. З ажыўленых, шырокіх варшаўскіх праспектаў і вуліц родны горад бачыцца ёй маленькім "як кропля дажджу", можна дадаць, горадам на *грудку зямлі*. Ды па кантрасту з кароткім жыццём кроплі дажджу, родны горад, нібы спачатку безапеляцыйна ўпадоблены ёй, ніколі не расплывецца, не будзе знішчаны бурай і спалены агнём – ён належыць жывой вечнасці. І далей лірычная гераіня звяртаецца непасрэдна да Бельска: "Горад мой/ Твае вузкія вуліцы/ Поўны людзей/ Людзей старых/ І дзяцей/ Як добра/ Уліцца / у раку старых людзей і дзяцей/ Удыхаць/ Паветра./ Дрэва без кораня/ Усыхае/ Чалавек без паветра /Уміраe" (Артымовіч, 1981, с. 8). Відаць, старыя людзі ўвасабляюць тут прошласць, з якой вырастае, у якой карэніцца прышласць, што належыць дзецям і вызначаецца разгортваннем іхніх лёсаў. Відавочна, што жыватворныя *корань* і *паветра* самой лірычнай гераіні, як і паэтэсы, належаць Бельску. Нават, як пранікліва адзначыла Бэата Сівэк у манаграфіі *Ojczyzna duża i mała*: "Czytając utwory Nadziei Artymowicz, mamy czasem wrażenie, że poetka jest jakby uwięziona w tej małej ojczyźnie, w Bielsku. Temu poczuciu uwięzienia odpowiada poczucie uwięzienia w kręgu własnych przeżyć jako jedynym materiale twórczości" (Siwek, 2004, c. 116).

Ю. Туронак адным з істотных адрозненняў паэзіі Н. Артымовіч ад большасці "белавежцаў" старэйшага пакалення лічыць тое, што

паэтэса “па-майстэрску” асэнсоўвае “пытанні адаптацыі” чалавека ў вялікім горадзе, “шчасліва пазбягае плыткага сентыменталізму і настальгіі па адыходзячай вёсцы” (Туронак, 1981, с. 3). Гэтаму назіранню аднак выразна пярэчаць у першай кнізе яе ж вершы, як напрыклад: “Калі загіне сон/ і ноч перастане быць ноччу/ (...) Ты думаеш/ Там маё месца/ Дзе ходзяць цені маіх продкаў/ Там маё месца/ Дзе родная хата прыснула над ракой/ Там маё месца/ Дзе блізкія дзеляцца духмяным хлебам” (Артымовіч, 1981, с. 14). Гэта ў нязменна блізкае дарагое *там* па кантрасту імкнецца душа з цяперашняга мітуслівага *тут,* абцяжаранага кепскімі прадчуваннямі: “А тут/ Ты адкідаеш/ Рассыпаеш як пясок/ Свае думкі/ Імкненні/ Ты будуеш шкілет хаты/ Якая згубіць цябе” (Артымовіч, 1981, с. 8). Трэба адзначыць, што слова “Бацькаўшчына” ўжыта Н. Артымовіч толькі аднойчы, якраз у першай кнізе пры назве аднайменнага верша: “Ёсць тое/ І ў штодзённым першым маім слове/ І ў далёкіх вуліцах./ Ёсць тое/ І ў начных аўтобусах/ І ў вясенніх дажджах./ Ёсць тое/ І ва ўсходах і захадах сонца/ І ў мокрай цішыні/ Ёсць тое/ Ва ўсім/ Гэта – дарога да цябе” (Артымовіч Н. 1981, с. 12). Відавочна, што ў свядомасці паэтэсы Бацькаўшчына, малая Радзіма атаясам-ліваюцца найперш з Бельскам, ростань з якім спрычынілася да паэ-тычнага разгортвання “душэўнай біяграфіі” ў Варшаве. Пасля вяртання Н. Артымовіч у Бельск адпала праблема “адаптацыі”, тугі, настальгіі па родным. Бельск, які для лірычнай гераіні Н. Артымовіч і яе самой, як адзначалася, з’яўляецца “коранем і паветрам”, вобраз роднага горада, назаўсёды станецца адным з галоўных стымулаў натхнення і цэнтрам мастацка-эстэтычнага свету паэтэсы.

У цыкл *Грудка зямлі* ўвайшлі і вершы, якія больш адпавядаюць зместу наступнай часткі, дзе прадстаўлена лірыка кахання. Не бракуе вершаў пра каханне і ў заключных *Варшаўскіх пейзажах*. Можна з поўным правам сказаць, што ў першай паэтычнай кнізе Н. Артымовіч своеасабліва раскрываецца гісторыя адносін, эвалюцыя пачуццяў маладой асобы – ад кранальнага даверу, надзеі на шчаслівую прышласць, узаемнасць – да сумнення і нават трагічнага расчаравання. “Пазаві мяне/ Пазаві/ Мы заблудзімся/ У хмельных травах/ Мы

пасеем/ Дзікія макі/ Макі чырвоныя/ Якіх даўно / Не бачылі/ Пазаві мяне/ Пазаві/ Мы знойдзем/ Кветку папараці/ У якую/ Мы хочам паверыць" (Артымовіч, 1981, с. 15) – лірычная гераіня адкрытая свету і шчасцю, хоць апошні радок сваёй нечаканай мадальнасцю сігналізуе аб тым, што ў душы гераіні затоены і водгалас сумнення. І сумненне гэтае будзе набіраць сілу ад верша да верша, каб урэшце выліцца ў драматычныя радкі: "Сэрца/ Ты плакала/ І ты смяялася/ Ты жыло/ Вялікай надзеяй/ І часам/ Марай-кропляй/ Цвіло ты/ Як першы майскі бэз/ І ты купалася/ У восеньскіх дажджах/ Трывога, радасць, боль/ Вялікі смутак/ Усё расло ў табе/ Цяпер/ Ты мёртвае (...)" (Артымовіч, 1981, с. 25).

З пункту погляду рэдактара *Роздумаў*, найбольш выразна творчая манера паэтэсы выявілася ў цыкле рэфлексійных вершаў *Варшаўскія пейзажы*. І менавіта творы гэтага цыкла далі падставу некаторым крытыкам убачыць у вершах Н. Артымовіч "перш за ўсё фаталізм, трагізм, катастрафізм на меру польскага паэта Ваячэка" (Туронак, 1981, с. 4). Сапраўды, комплекс прычын і найперш перажытая любоўная драма выліліся ў радкі, поўныя безвыходнасці, трагізму з адпаведным лексічным выяўленнем, калі "Чарнее ноч/ Мая душа/ Усё чарнее" (Артымовіч, 1981, с. 32), "У сэрцы,/ Не пачуеш ты/ Ні халоднай кроплі дажджу/ Ні шкілетаў/ Чужых і сваіх/ Слоў/ (...) Тут можна часам/ Нават паволі віруючы/ Выпасці..." (Артымовіч, 1981, с. 34), "(...) За горадам за горадам/ У чорным полі/ Ветры калышуць, калышуць/ Апошнюю маску/ Маску разбітую/ Маску з вялікімі вачамі..." (Артымовіч, 1981, с. 36). Ю. Туронак аднак рашуча аспрэчвае залічэнне Н. Артымовіч у шэрагі "праклятых паэтаў", аргументуючы сваё меркаванне фінальнымі вершамі зборніка, у якіх напачатку асцярожна выяўляюцца вера і надзея, "каб урэшце ўспыхнуць моцным акордам упэўненасці перамогі дабра над злом, выліцца ў аптымістычную візію будучыні (*Не гавары*) (Туронак, 1981, с. 5).

Адна з найталенавітых "белавяжанак" Міра Лукша (1958) ліцэісткай першага класа дэбютавала ў 1973 годзе на верасьнёўскай Літаратурнай старонцы "Нівы" вершам *Сэрца*, зычліва падтрыманая рэдактарам Георгіем Валкавыцкім. Трэба нагадаць, толькі трыма га-

дамі пазней за Н. Артымовіч. Адразу распачала працу і на празаічнай, і паэтычнай дзялянках, а ў 1985 годзе пасля заканчэння ў Беластоку філіяла філалагічнага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта была прынята на працу ў "Ніву".

У творчым актыве М. Лукшы – зборнікі прозы, усе выдадзеныя ў Беластоку, *Дзікі птах верабей* (1992) *Выспа* (1994), *Бабскія гісторыі* (2001), *Дзяўчынка і хмарка* (2006), *Гісторыі з белага свету* (2008), *Życie pozagrobowe i inne* (2013), *Гражынка і Грак* ( 2016), у якіх, як заўважыла Ала Петрушкевіч, М. Лукша "вядзе чытача ў свет жыцця роднай Беласточчыны, што няспынна змяняе свой воблік, знікае, саступаючы новым парадкам" (Петрушкевіч, 2018, с. 88). Пра мастацкі патэнцыял прозы М. Лукшы яскрава сведчыць і дзесяты нумар штогодніка "Białorutenistyka Białostocka" (2018), прысвечаны 60-годдзю БЛА "Белавежа", у трох артыкулах якога разглядаецца проза пісьменніцы. Амаль адначасова з кнігамі прозы пачынаюць выходзіць ў Беластоку і зборнікі паэзіі М. Лукшы: у 1993-ім – *Замова*, у 1994 – *Ёсць*, *Wiersze tutejsze* (2003), *Пад знакам скарпіёна* (2011), *Biały stok* (2012), *Спеў дрэў* (2017), кніга *Радаслаў* (2017), выдадзеная варшаўскім выдавецтвам IBiS, за якую М. Лукша была ўганаравана прэміяй Веслава Казанэцкага; значнае месца ў творчым наробку паэтэсы займаюць зборнікі для дзяцей, як *Жывінкі з глыбінкі* (2009), *Падарункі* (2014), *Żubr na zebrze* (2018).

І, нават парадаксальна, але надзвычай цікавая паэтычная творчасць М. Лукшы дасюль амаль не аналізавалася. Магчыма, яна міжволі аказалася ў "ценю" прызнанай паэзіі Н. Артымовіч. Нават такая ўважлівая даследчыца, як Б. Сівэк, у згаданай ужо грунтоўнай кнізе *Ojczyzna duża i mała* не звяртаецца да творчасці М. Лукшы, нягледзячы на тое, што многія яе творы сваімі ідэйна-тэматычнымі параметрамі цалкам адпавядаюць разглядаемай у манаграфіі праблематыцы. Не спяшалася і сама М. Лукша з выданнем першай сваёй паэтычнай кнігі. Звяртае на сябе ўвагу і тое, што яна не палічыла патрэбным уключыць у сваю *Замову* ні дэбютнага "ніўскага" верша, ні многіх наступных.

У адрозненне ад Н. Артымовіч, "унутраная душэўная біяграфія"

М. Лукшы, відаць, разгортвалася больш лагодна, без грозных катаклізмаў, якія выпальваюць душу, аб чым, прынамсі, і засведчыла першая яе кніга. З Беластоку з яго беларускім асяроддзем – не вельмі далёка да роднай вёскі паэтэсы Баравых, да любай нарвянскай плыні, а непазбежная адаптацыя з новым сваім сацыяльным статусам, месцам жыхарства ў ваяводскім горадзе не прымае формы гвалтоўнага “пераскоку” ў чужую рэчаіснасць, не адымае зашмат сіл на супраціўленне і сцвярджэнне ў новых варунках дзеля захавання сваёй асабовай, творчай тоеснасці. У першым вершы з кнігі *Замова*, здавалася б, вельмі асабістым, прыватным, акрэсліваюцца і абсягі малой Радзімы, і выяўляецца адкрытасць паэтэсы народнаму светабачанню:

Народжаным у Гайнаўцы/ ў золкі восеньскі ранак/ народжаным у Нарве/ ў гуллівую летнюю ноч/ народжаным у Саколцы/ на руках цёці Надзі і Веры/ народжаным у Бельску...\ у белых шпіталях/ калі апошнія цягнікі/ ад’ехалі ў морак/ маёй маме ў 39 годзе/ вынятай з жывога жывата/ паміж Сямёнаўкай а Беластокам // выйшла з лямпай у агарод/ наша баба Люба/ вецер вецер/ баба Люба нам свеціць/ рукою шкло захіляе/ ад злога вока/ ад павору/ ад нажа/ ад каменя (Лукша, с. 3).

Вызначэнне каардынатаў малой Радзімы, Беластоцкага краю, зварот да родных Мора, Дубіч Царкоўных, Полымя, Маліннікаў, Мокрага, Зубава, і асабліва пашанцавала тут Бельску, апетаму не толькі Н. Артымовіч, уласцівы для творчасці ці не ўсіх “белавежцаў”.

Цалкам невыпадковым выглядае выбар М. Лукшай назвы сваёй першай кнігі. Вершам-ключом *Замова* акцэнтуецца адна з важнейшых, асноватворных крыніц яе натхнення – ужо згаданая глыбокая прасякнутасць паэтэсы традыцыйнай народнай культурай, народнымі звычаямі:

– Сею, сею.../ –Што ты сееш?/ – Пярэпалахі!.../ – То сей, каб не было! (...) Не бойся... Сею-сею.../ З попелу быльнёжнага, / з вады свянцонай,/ слёзкі калёнай/ з відушчых вачэй./ З крывінкі чырвонай, / З сэрца адданага,/ збалелага./ Не байся!// На чорны лес,/ на зялёныя лугі,/ на сіне мора,/ твой ляк, мой любы (Лукша, 1993, с. 5 – 6).

У творчасці М. Лукшы яскрава выяўляецца светабачанне чалавека, асаджанага менавіта сярод родных падляшскіх даляглядаў. Больш таго, некаторыя яе паэтычныя радкі ўспрымаюцца як лекавая замова, імкненне лірычнай гераіні ацаліць не толькі чалавека, але і час, сам соцыум: “адыдзіце ад нас/ злосныя прывіды/ дзяды хворых бацькоў/ акалелых без часу/ хто мячом ваяваў/ брата пікай прабіў/ ламаў дзверы суседа/ піце кроў чорнай вады/ не закусіце хлебам/ не падзелімсяч з вамі/ у час новай бяды (...)” (Лукша, 1993, с. 20). Тут варта ўзгадаць, што дэбютны верш Н. Артымовіч *Ой ляцелі гусі*, што мог абяцаць і надалей зварот да стыхіі народнай творчасці, застаўся ці не адзінкавым творчым фактам у яе паэзіі.

Важную ролю адыгрывае, як у першай кнізе М. Лукшы, так і ў наступных яе паэтычных зборніках, паглыбляючы патрыятычны, нацыянальны аспект. Праблема суадносін у творчасці “белавежцаў” “малой” і “вялікай” Айчыны прыцягвае ўвагу даследчыкаў здаўна. І прыкметна, што М. Лукша ў адрозненне ад некаторых сваіх сяброў па Аб’яднанні адчувае сябе сваёй, грамадзянкай не толькі малой падляшскай радзімы, а і – агульнай беларускай культурна-гістарычнай прасторы, якая існуе насуперак сацыяльным зменам, што абумоўлены памежнымі слупамі. У яе вершы *іду белым горадам* “анёл ходзіць па вуліцы/ і спявае/ песню беларускую” (Лукша, 1993, с. 39), “на белых сукнях сцягоў макам гарыць Алаіза” (Лукша, 1993, с. 38), “застукаў у дзверы госць з маёй Айчыны/ пабіты парог перакрочыў пакалечаны босы/ і маўчалі мы доўга глядзелі ў агонь” (Лукша, 1993, с. 24). Такое натуральнае для творчай асобы культурна-гістарычнае грамадзянства выклікае ў паэтэсы, дасведчанай аб драматычнай гісторыі беларускага шляху, лёсу роднага слова, журботныя, скрушлівыя рэфлексіі, як у вершы *Каласы*:

Над пожняй счарнелай, над з’езджаным полем,
Над каменем гострым, над каменем гладкім...
Як цяжка таму, хто ведае болей,
Стаптанага жыта збіраці астаткі,

Не меўшы надзеі, хоць маючы Слова,
Якое з пачатку сусвета гучала...
О, Ойча, ты ж нашаю, простаю мовай
Сказаў жа: “Хай будзе!” – і ўсё так паўстала.

Не дай жа таму, што ходзіць па полі,
Скалоўшы да крові і рукі, і ногі,
Не дай жа яму, не дай жа ніколі,
Каб болю не чуў; хай крычыць ад знямогі (...) (Лукша, 1993, с. 40)

Невыпадкова голас лірычнай гераіні “белавяжанкі” напрыканцы дваццатага стагоддзя гучыць ва ўнісон, як сэнсава, так і рытмічна, з прамоўленым, выгукнутым у класічнай *Пагоні* Максіма Багдановіча: “Бійце ў сэрцы іх – бійце мячамі,/ Не давайце чужынцамі быць!” ( Багдановіч, 1996, с. 176).

У кнізе М. Лукшы *Пад знакам Скарпіёна* суседнічаюць два практычна аднайменныя вершы: *Няміга I* і *Няміга II*. Першы з іх – гарачы водгук на трагічныя падзеі, калі звыш дваццаці гадоў таму падчас аднаго з гарадскіх свят, ратуючыся ад залевы, на ўваходзе ў станцыю мятро “Няміга” ахвярамі чалавечага тлуму сталі дзесяткі людзей і найбольш маладых. Сучасныя падзеі ўспрымаюцца паэтэсай у культурна-гістарычным кантэксце, калі, згодна са *Словам аб палку Ігаравым*, у часы княскіх міжусобіц “Нямігі крывавыя берагі/ не дабром былі засеяны/ засеяны касцямі рускіх сыноў” (*Слова аб палку Ігаравым*, 2004, с. 170). Летапісная Няміга, гістарычны цэнтр тысячагадовага сталічнага Менску, здаўна сталася сімвалам Беларусі, культурным архетыпам, крыніцай натхнення. Міра Лукша таксама ўпісала свае радкі ў своеасаблівую паэтычную няміжскую анталогію. Няўрымслівая лірычная гераіня *Нямігі II* жыве мінулым і сучасным, адчувае сваю адказнасць за прышласць роднай зямлі, за суайчыннікаў:

Ці да Айчыны дакрануся,
Калі з гарачым сэрцам еду,
Бягу навыперадкі з лёсавм,
Цераз стагоддзі губляю вочы,

Пасланцаў высылаю ранкам
Зведаць, з якой крыніцы мне напіцца,/
Дзе акунуцца з галавою (...)
Было мне добра. Ветрам гнаная
Адчула пад стапой Нямігу (...)
На сэрцы попел. Пасыпаю
Я галаву і плечы. Каюсь.
Усіх грахі бяру (...) (Лукша, 2011, с. 50).

Перспектыва бачання цяперашняга вялікай Радзімы са сваіх родных сцежак, уласцівая большасці паэтаў-“белавежцаў”, у творчасці М. Лукшы выўляецца паглыбленнем філасофскага пачатку. Паэтэса імкнецца ўсвядоміць сваё месца на зямлі, задумваецца над сувяззю пакаленняў, адчувае сябе часцінкай чалавечага ўніверсуму, асаджанай пры тым у канкрэтыку свайго тутэйшага часу:

О, як калюча вее вецер з Беларусі!
Паўз могілкі іду сцяжынкай і малюся.
Расуе жыта, сонца хістка падае ў хваіну.
За мной – дыханне тых, хто ўжо загінуў,

А перад тварам мрояцца ў тумане
Постаці тых, хто пасля мяне тут стане.
Няма мяжы між учора, заўтра і сягоння.
І разам з жытам я хвалююся ў паклоне (Лукша, 2011, с. 21).

Сыходзячы з класіфікацыі “белавежскай” паэзіі У. Конанам, разгледжаныя вершы М. Лукшы адносяцца да традыцыйнай нацыянальна-адраджэнскай плыні. Аднак важнае месца ў паэтычным набытку паэтэсы займае падуладная ёй і мадэрнісцкая плынь. Відаць, пра такое гарманічнае спалучэнне традыцый і наватарства ў творчым працэсе думалі ў свой час некаторыя “белавежцы”-пачынальнікі, разважаючы на пачатку шасцідзесятых гадоў аб шляхах развіцця паэзіі. Яскравым увасабленнем наватарскіх пошукаў маладой “Белавежы” тады стала паэтычная практыка і маніфестацыя сваіх творчых пазіцый паэтам і мастаком Яшам Буршам. Напрыканцы дзевяностых гадоў Я. Чыквін у артыкуле *Пад двума ветразямі*, мабыць, адным з

першых аналізуючы творчасць Яшы Бурша, адзначыў, што рэха яго асацыятыўнай “вобразнасці і ідэйна-эстэтычных памкненняў адгукаецца ў маладых нашых паэтаў і дагэтуль” (Чыквін, 1997, с. 128). Відавочна, што мелася на ўвазе найперш Н. Артымовіч з яе нязвыклай для беларускай паэзіі формай верша і зместам паэтычнай думкі, якія даюць падставы для разгляду і сюррэалістычных тэндэнцый у яе творчасці (Brusewicz, 2018, s. 51 – 60). Аб разнастайных эстэтычных пошуках М. Лукшы, зацікаўленасці творчасцю калег, у прыватнасці, Н. Артымовіч, сведчыць ужо першая яе кніга. Прыкметна, што часта пагаджаючыся са старэйшай калегай, карыстаючыся вольным вершам, яна ўступае з аўтаркай *Роздумаў* у палеміку, што датычыць найперш унутранага зместу твораў. Так, у зборніку Н. Артымовіч *Сезон у белых пейзажах* ёсць верш, прысвечаны “ад’язджаючым”, відаць, важны для паэтэсы, бо паўтораны пазней ва ўсіх яе наступных паэтычных кнігах:

ёсць такая пара перад ад’ездам
калі выходзіш з доўгага маўчання
у спакой
неба не змяняецца
ідзеш
голас вуліцы мяшаецца з чырвоным сігналам

кава папяроса без смаку
паўслова чужым – адыходзячы ад стала
        і гэта ўжо нічога не значыць
пераходзіш на другую вуліцу
бетон чысты
нагамі як надламанымі кветкамі
хочаш злавіць толькі адзін след
і ступіць на іншую дарогу
трымаешся свайго ценю хоць ведаеш
што твой цень гэта не ты

добра ведаеш як мураваць памяць белай цэглай
і чытаць з акторскіх вачэй
добра ведаеш як заплюшчыць вока
пераступаючы яшчэ адзін парог

ёсць такая пара перад ад’ездам (Артымовіч, 1990, с. 16 – 17)

М. Лукша эпіграфам да свайго верша бярэ першы радок працытаванага твора Н. Артымовіч. Стрыманаму, але ж глыбокаму песімізму, самотнасці лірычнай гераіні Артымовіч яна супрацьпастаўляе рухлівасць жыцця ва ўсіх яго формах і як бы падкрэслівае гэтым еднасць чалавечага свету ва ўсіх праявах:

(...)
затрымай свой профіль
на мурах горада –
яны тут застануцца
а толькі мы бачым
яны ж жывыя
і толькі чакаюць
каб заўважыць іх рух
хітрыя зіркі вокнаў
крананне часам
рэбраў жалезабетона
пяшчотнае нахіленне
сцен да паветра (...)
сёння
уцякаеш у свае сцены
нахіленыя дружна над табою
кажаш: мой мур мой выбар

слова не камень
а як косць жывая
ў горле... (...) (Лукша, 1993, с. 10 – 11)

Лірычнай гераіні М. Лукшы ўласціва актыўная жыццёвая пазіцыя, імкненне, як ужо падкрэслівалася, ацаліць іншага чалавека, хоць бы і коштам уласных пакут, знайсці выратавальныя лекавыя словы “замовы”. Яе паэтычны свет адкрыты ў шырокі свет людзей і культуры, якім жыве і наталяецца ў адрозненне ад Н. Артымовіч, якая непазбежны складнік паэтычных твораў, а менавіта душэўна-лірычныя перажыванні і эмоцыі, часта рэдуцыруе да знакаў, сігналаў, часам няясных ключавых слоў. На прыкладзе ўступнага аналізу гэтых дзвюх адрозных стылістычна-тэматычна паэтык бачым, як у даволі

невялікай беларускай прасторы Польшчы суіснуюць, адна другую ўзбагачаючы, па сутнасці, два супрацьлеглыя паэтычныя светапогляды, дзве як бы фармальныя школы вершаскладання. Н. Артымовіч выразна культывуе, чэрпае ўзоры з польскай традыцыі: ці не ўсе яе вершы напісаны польскім вершам зданёвым (polski wiersz zdaniowy) – арытмічным, астрафічным. М. Лукша, у сваю чаргу, прадаўжае карыстацца вершам сілабатанічным, узбагачаючы яго шматлікімі магчымасцямі верлібра. Такім чынам, можна сказаць, што ўся "белавежская" жаночая паэзія наогул месціцца, умоўна гаворачы, паміж гэтымі двума полюсамі вершаскладання, што, у сваю чаргу, прыдае вершам "белавежанак" рытмічную размаітасць і дынамічную свежасць.

На заканчэнне трэба падкрэсліць, што, пры ўсіх адрозненнях паэтычнага свету і прадстаўлення гэтага свету, Н. Артымовіч і М. Лукшу яднае, па-першае, вялікая любоў да беларускага літаратурнага слова, па-другое, вялікая пашана да сваіх каранёў, малой Радзімы і духоўных традыцый усходняй славяншчыны.

## Źródła


Артымовіч, Надзея, *Роздумы*, Беласток: "Галоўнае праўленне БГКТ" 1981.

Артымовіч, Надзея, *Сезон у белых пейзажах*, Беласток: "Бібліятэчка БЛА <Белавежа>" 1990.

Артымовіч, Надзея, Разанаў Алесь, *Дзверы*, Беласток: "Бібліятэчка БЛА <Белавежа>" 1994.

Артымовіч, Надзея, *Жоўтая музыка*, Беласток: Праграмная рада Тыднёвіка „Ніва", 2005.

Багдановіч, Максім, *Выбраныя творы,* Мінск: "Беларускі кнігазбор 1996.

*Бліскавіцы. Анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду*. Укладанне, каментар Аксаны Данільчык, Віктара Жыбуля, Мінск: "Кнігазбор" 2017.

*Букет Белавежжа. Анталогія краялюбнай паэзіі "белавежцаў"*, укладанне Георгія Валкавыцкага, Беласток: Бібліятэка БЛА "Белавежа" 2001.

Лукша, Міра, *Замова*, Беласток: "ABZ Czsopis" 1993.

Лукша, Міра, *Пад знакам Скарпіёна*, Беласток: Бібліятэка БЛА "Белавежа" 2011.

*Слова аб палку Ігаравым,* пераклад Віктара Дарашкевіча, (у:) *Старабеларуская літаратура XI – XVIII стст. Хрэстаматыя*, Беласток: Wydawnictwo Uniwersytetu w Białymstoku, 2004.

**Opracowania**

Brusewicz, Anatol, *Сюррэалістычныя тэндэнцыі ў паэзіі "белавежцаў"*, "Białorutenistyka Białostocka" 2018, t. 10.

Галубовіч, Леанід, *За прычыненымі дзвярыма. Развагі пра творчасць паэткі Надзеі Артымовіч*, "Дзеяслоў", 2016, № 1.

Danilczyk, Aksana, *Традыцыі заходнебеларускай паэзіі і творчасць Надзеі Артымовіч*, "Białorutenistyka Białostocka" 2018, t. 10.

Конан, Уладзімір, *Белая вежа паэзіі*, (у:) *Беларускія пісьменнікі Польшчы. Другая палова XX стагоддзя*, Мінск: "Беларускі кнігазбор" 2000.

Петрушкевіч, Ала, *Пад таямнічым знакам – паэзія Міры Лукшы*, (у:) *"Белавежа": постаці, творы, асобы, Беласток:* "Бібліятэка БЛА <Белавежа>" 2018.

Сідарэвіч, Анатоль, *Стагоддзе паэзіі. Слова рэдактара*, (у:) Міхась Скобла, *Краса і сіла. Анталогія беларускай паэзіі XX стагоддзя*, Мінск: "Лімарыус" 2003.

Галіна Твардовіч, *Літаратурнае аб'яднанне "Белавежа": станаўленне, праблемы, асобы*, Беласток: Wydawnictwo Uniwersytetu w Białymstoku 2012.

Туронак, Юры, *Забытая ліра Веры Мурашкі*, "Ніва" 5.03.1978.

Туронак, Юры, *Прадмова*, (у:) Надзея Артымовіч, *Роздумы*, Беласток: "Галоўнае праўленне БГКТ" 1981.

Чыквін, Ян., *"Белавежа" перад юбілеем,* "Ніва" 3 снежня 2017.

Чыквін, Ян, *Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа*, Беласток: "Бібліятэчка БЛА <Белавежа>" 1997.

Nieuważny, Florian, *W krysztale łzy. O poezji Nadziei Artymowicz*, (w:) Nadzieja Artymowicz, *Łagodny czas*, Lublin: „Ośrodek Brama Grodzka Teatr NN", 1998.

Siwek, Beata, *Ojczyzna duża i mała. Poeci Białoruskiego Stowarzyszenia Literackiego „Białowieża" wobec problematyki ojczyźnianej*, Lublin: Wydawnictwo KUL, 2004.

*Галіна Тварановіч*

Алесь Сімакоў

# НАШ КУПЕР
## (Індзейская сцежка праз Беларусь)

«Чытач, які разгарне гэтую кнігу ў надзеі знайсці ў ёй выдуманую, рамантычную карціну падзей, што ніколі не мелі месца ў сапраўднасці, мабыць, расчаравана адкладзе яе ў бок» – так пачынаў Джэймс Фенімор Купер (15.9.1789 – 14.9.1851) прадмову да «Апошняга з магікан». Дзеянне рамана, які знаходзіцца ў складанай храналагічнай і сюжэтнай сувязі з іншымі творамі знакамітай «пенталогіі», адбываецца ў месцах, вядомых некаторым нашым суайчыннікам па ўласным вопыце другой паловы 18 стагоддзя. Калі прыгадваюць Касцюшку – інжынера-фартыфікатара, не вельмі добра ўяўляюць, якой была яго амерыканская служба. Калі няма нічога іншага пад рукой – перачытайце Купера. Пісьменнік задумаў сваю «Аповесць пра 1757 год» пасля паездкі на азёры Джордж і Шамплейн у 1825 г., таму мог унесці ў тэкст разважанне і пра тое, што здарылася там праз два дзесяцігоддзя пасля падзей рамана. У 1777 г. Тадэвуш Касцюшка спрабаваў закончыць умацаванні на беразе Шамплейна, якія б спынілі рух англійскіх войск, але генерал Бэргайн перамог, пра што з лёгкім дакорам гаворыць Купер, не называючы імёнаў, у «Апошнім з магікан»: «Цяпер ужо добра вядома, што грэбаванне вышынямі ... адразу згубіла б рэпутацыю інжынера, уздумай ён пабудаваць умацаванне ў падэшвы гары, а заадно і рэпутацыю генерала, вымушанага абараняць такое ўмацаванне», хаця віны Касцюшкі ў паражэнні каля форта “Цікандэрога” не было.

Агульная карціна войнаў можа адрозніваецца ў дэталях, але былі і індзейцы – 400 іракезаў, якім разам з англічанамі прыходзілася пераадольваць перашкоды на дарогах, зробленыя Касцюшкам, рэкі са

знішчанымі мастамі... былі і групы варожых адзін да аднаго еўрапейцаў, тыя ж блакгаўзы, нарэшце, той жа самы форт. Каб Купер, якога папракаюць у ахвяраванні дакладнасцю апісання дзеля паэтычнай выразнасці, выклікаў больш даверу, можна спаслацца на рускую спявачку Фелію Літвін, дзеда якой – шатландскага палкоўніка Манра дэ Фаулі пісьменнік зрабіў сваёй дзеючай асобай, і на іншыя «сапраўдныя факты», узятыя Куперам з прац місіянераў, справаздач пра падарожжы і ўспамінаў дзяцінства.

Хаця Джэймс Фенімор Купер напісаў шмат раманаў і выступіў як публіцыст і гісторык, вядомы ён галоўным чынам як аўтар пяці твораў, у якіх з выдатным майстэрствам апавядальніка адлюстраваў жыццё індзейцаў і белых каланістаў у лясах і прэрыях Амерыкі. Калі з 1820 г. адна за адной пачалі выходзіць кнігі Купера і ў французскіх, а затым рускіх і польскіх, уключаючы віленскія, выданнях, і яны пачалі трапляць да беларускага чытача, рэакцыя апошняга была амаль адназначнай: здзіўленне, захапленне высакароднасцю герояў – Наці Бумпа, Чынгачгука, велічнымі карцінамі прыроды, барацьбой пачуццяў і характараў, сапраўдным драматызмам.

Калі «першы амерыканскі раманіст», які пісаў «для амерыканцаў пра саміх амерыканцаў», у 1826 г. прыехаў у Еўропу, ён трапіў на «радзіму» сваёй славы, але мала ўзяў ад Старога Свету, хаця асяроддзе, у якім знаходзіўся пісьменнік, паўплывала, верагодна, у некаторай ступені на эвалюцыю яго поглядаў. Сярод еўрапейскіх сяброў Купера быў Адам Міцкевіч. Уплыў чытання Купера і знаёмства з ім прыкметны ў творчасці вялікага паэта, аб чым сведчаць неаднаразовыя згадкі амерыканскага калегі і яго «дзікіх герояў» у літаратуразнаўчых і публіцыстычных творах нашага земляка. Пазнаёміліся яны ў 1829 г. у Рыме, дзе Купер з дачкой правялі шмат прыемных гадзін і з сем'ямі рускіх, якія асабліва цёпла прынялі ўсё напісанае госцем з-за акіяна.

У час паўстання 1830-1831 гг. у Парыжы быў створаны камітэт дапамогі паўстанцам, старшынёй якога стаў Купер. Амерыкана-польскі камітэт звярнуўся да народа ЗША з просьбай падтрымаць барацьбу патрыётаў, збіраў грошы, арганізоўваў мітынгі – ва ўсім Купер

прымаў самы актыўны ўдзел, што, па збегу акалічнасцей, прывяло нават да «службовых непрыемнасцей», паколькі пісьменнік прадстаўляў у Еўропе Амерыку, выконваючы некаторы час абавязкі консула ў Ліёне, а сваімі справамі пагражаў добрым руска-амерыканскім адносінам.

Пры ўсёй сімпатыі да палякаў Купер любіў і Расію, пісаў пра перавагу, якую ён аддае рускім перад іншымі еўрапейцамі. Можна сказаць, амерыканец у роўнай ступені цікавіўся літаратурай, гісторыяй і сучаснасцю абодвух народаў... А Беларусь? «Польская правінцыя» – «крэсы», «Паўночна-Заходні край»... Што мог ведаць пра яго? Калі толькі чытаў выдадзены ў ЗША ў 1832 г. авантурна-дыдактычны раман Ф. Булгарына «Іван Выжыгін», які адлюстраваў беларускія рэаліі. У Купера была магчымасць – услед за іншым пачынальнікам амерыканскай літаратуры Дж. Барлаў – адкрыць для сябе Беларусь, бо ён спадзяваўся пабываць і на ўсходзе Еўропы, у Расіі.

У той жа год, калі «Іван Выжыгін» – парадаксальна – стаў «першай ластаўкай» рускай літаратуры за акіянам, паклаўшы пачатак сур'ёзным перакладам, у часопісе Булгарына «Сын отечества» ўпершыню друкуюцца ўрыўкі з «Апошняга з магікан». Крыху пазней Купер і яго раманы аказаліся пад пагрозай «вольнай інтэрпрэтацыі». Славуты амерыканец не прайшоў міма ўвагі В. Сянкоўскага, які рэдагаваў «Библиотеку для чтения». Як вядома, з перакладнымі раманамі гэты ўраджэнец Віленскага павета абыходзіўся «надзвычай вольна», прыдумваючы або выкідваючы асобныя эпізоды. У часопісе былі змешчаны і творы Купера, напрыклад, «рэзкія» «Мінікіны», і крытычныя артыкулы ў сувязі з яго новымі раманамі, напрыклад, з такой стрымана-пахвальнай назвай: «Талент Купера».

Магчыма, якраз з гэтага часу пачалася «перапрацоўка», паступовы паварот Купера ад «дарослага» пісьменніка да «дзіцячага», хаця яшчэ доўга яго раманы лічыліся ўзорнымі і ніякія сянкоўскія не маглі канчаткова «палепшыць» не заўсёды ідэальную стылістыку арыгіналаў і зацягнутае выкладанне фабулы.

Калі ў 1851 г., не дажыўшы аднаго дня да 62-х, пісьменнік памёр, франціір – заходняя граніца адсоўвалася аж да самага ціхаакіянскага

ўзбярэжжа, а аднапляменнікі індзейскіх герояў Купера былі раскіданы па велізарнай тэрыторыі, чакаючы далейшай «канцэнтрацыі» ў рэзервацыях. Надышоў час новых герояў і новых ахвяр: замест Скураной Панчохі – Кіт Карсан, замест іракезаў і дэлавараў – каманчы і чаены, замест Ункаса – Сядзячы Бык і Херонiма, але не знайшлося вялікага песняра тых цудоўных і суровых зямель, роўнага Куперу.

У 60-я гады ім «зачытваўся па начах» гімназіст Мікалай Судзілоўскі – будучы вядомы рэвалюцыянер, адзін з самых выдатных за ўсю гісторыю беларускі абаронца правоў пазаеўрапейскіх народаў, які спрабаваў спыніць «заходні франціp» Злучаных Штатаў, які перакідваўся ўжо на астравы Ціхага акіяна, змагаўся за тое, каб канакі – карэнныя жыхары Гаваяў не сталі чарговымі «апошнімі магіканамі». А перад тым, яшчэ ў 70-я, Судзілоўскі з сябрамі планаваў стварэнне абшчыны на «Дзікім Захадзе», у Канзасе.

Матыў «уцёкаў у Амерыку», «да індзейцаў» гучыць у гэты час як адзін з водгукаў папулярнасці Купера ў літаратуры. Ф. Дастаеўскі ўкладвае ў вусны Міці Карамазава словы: «Там, кажуць, ёсць яшчэ чырванаскурыя, дзесьці там у іх на краю гарызонту, ну дык вось у той край, да апошніх магікан». Зусім не выпадковая фраза для Дастаеўскага, які меў французскі збор твораў Купера, а ў дзяцінстве не толькі чытаў яго, а і раіў сябрам.

Як мяркуе літаратуразнаўца Г. Кісялёў, «Шпіён» Купера быў сярод кніг, канфіскаваных паліцыяй у забароненай у 1876 г. люцынкаўскай школцы, дзе выкладала дачка В. Дуніна-Марцінкевіча Цэзарына. Больш таго, ёсць нават такі ўскосны доказ чытання Купера ў гэтай сям'і, як прашэнне да мінскага генерал-губернатара другой жонкі Дуніна-Марцінкевіча Марыі, якое цытуе той жа Кісялёў: «Дачка мая, Каміла Марцінкевіч, за тое, за што не толькі ад асвечанай Еўропы, але нават ад дзікіх гуронаў атрымала б падзяку, а менавіта, што час, вольны ад працы, якая прыносіць ёй карысць, скарыстоўвала, каб вучыць чытанню і катэхізісу дзяцей рамеснікаў і сялян… людзей бедных, якія, не маючы ніякіх сродкаў, вымушаны пакідаць дзяцей сваіх… у грубым невуцтве… за гэта менавіта пасаджана ў Мінскі

астрог і ўжо шосты тыдзень пакутуе пад ключом у пакоі, які сырасцю наносіць шкоду яе здароўю, бо ўжо, як я чула, плюе крывёю» (8.3.1863, Люцынка).

У 80-я гады раманы Купера ілюстраваў Андрыёлі. Цесна звязаны з Беларуссю і Літвой – нарадзіўся тут, наносіў на аркушы і палотны вобразы радзімы, змагаўся за яе свабоду ў паўстанні 1863-1864 гг. – Міхал Эльвіра Андрыёлі прыняў у Парыжы прапанову выдаўца Фірмен-Дзідо. У 1884 г. выйшаў «Апошні з магікан», у 1885 г. – «Піянеры», да канца наступнага года працягвалася работа над «Прэрыяй» і «Шпіёнам». Усяго было выканана мноства малюнкаў – некалькі сот вялікіх і маленькіх – віньетак і ініцыялаў на кожны том. Ілюстрацыі карысталіся вялікай папулярнасцю, і Андрыёлі меў шанс «ахапіць» усю пенталогію. «Англічане ўчынілі на мяне напад, – пісаў мастак у лісце. – Захварэўшы, відаць, на Купера, яны жадаюць, каб я ім ілюстраваў у той жа момант...» Гаворка ішла пра раманы «Следапыт» і «Зверабой». Малюнкі Андрыёлі можна знайсці ў многіх савецкіх выданнях «Апошняга з магікан», у томе Купера з «Бібліятэкі сусветнай літаратуры». Цікава, што беларускія савецкія ілюстратары Купера ўзяліся за работу амаль роўна праз сто гадоў пасля Андрыёлі; з 1982 па 1985 г. у «Бібліятэцы прыгод і фантастыкі» вялікімі тыражамі выдадзены «Апошні з магікан» (гэта быў увогуле першы том, якім распачалася гэтая выдавецкая серыя), «Зверабой» і «Следапыт», аформленыя Г. Паплаўскім, Н. Паплаўскай, В. Кліменкам і А. Шэвыравым.

Пра тое, што творчая спадчына Купера працягвала сваё «заваявальнае існаванне» і на мяжы стагоддзяў, сведчаць шматлікія друкаваныя каталогі беларускіх бібліятэк. Адразу пасля рэвалюцыі ў Савецкай Расіі Купера працягвалі выдаваць, у чым асаблівая заслуга М. Горкага, але потым адносіны змяніліся. Купер стаў «персонай нон грата», «крыміналам» у руках дзяцей. На мяжу змены адносін прыходзіцца выказванне Р. Бярозкі: «Фэнімор Купэр быў не толькі майстрам захапляючага сюжэту, але і патрыётам і маралістам. ... Ён наскрозь буржуазны, – Фэнімор Купэр, – ён сантыментальны і квакерска-рэлігіёзны, але сацыяльная тэма яго раманаў, тэма інды-

відуальнай адвагі і прадпрымальнасці, была актуальнай, баявой і прагрэсіўнай тэмай яго часу».

Крытыка Купера ў Беларусі вялася адначасова і ў сувязі з нападкамі на творчасць Янкі Маўра. «Піянер» прыгодніцкага жанру ў беларускай літаратуры сярод сваіх «літаратурных настаўнікаў» меў, вядома ж, і амерыканскага раманіста, хаця, як лічыцца, яго творчы метад быў узбагачаны сацыялістычным рэалізмам. Аднойчы, згодна з пісьменнікам А. Міронавым, Цішка Гартны, тады дырэктар дзяржаўнага выдавецтва, параіў Маўру пісаць «не пра амерыканскіх індзейцаў і трапераў: пра іх у Рыда і Купера зусім дастаткова», а даць чытачу зразумець, што “кніга напісана савецкім аўтарам, яшчэ лепш – нашым, беларускім»...

Тым не менш Янка Маўр усе ж напісаў пра індзейцаў у «Сыне вады», і існуе гіпотэза, што ён мог звярнуцца да вобразаў апачаў і дакотаў, калі б не творчы крызіс, які выклікала літаратурная крытыка. Услед за М. Бухарыным, які заклікаў да стварэння «камуністычнага Пінкертона», крытыкі працягвалі настойваць на станаўленні «рэвалюцыйна-экзатычнай аповесці». Беларускаму літаратуразнаўцу Я. Бранштэйну гэта бачылася так: «Знікае вялікадзяржаўна-каланізатарскае сюсюканне, прыкрываючае самую бязлітасную эксплаатацыю «меншага брата». Адыходзіць час «развесістай клюквы» з усімі суправаджаючымі яе «краснакожымі людаедамі», скальпамі, тамагаўкамі і іншымі экзатычнымі пабракушкамі».

Але Купер вярнуўся. У рамках гэтага вяртання быў выдадзены першы беларускі пераклад – «Апошняга з магікан» з малюнкамі Андрыёлі (1940), а людзі ўжо не так сумняваліся ў тым, бяспечна або небяспечна згадваць пра свае сімпатыі да класіка сусветнай літаратуры. Некаторыя беларускія пісьменнікі адзначалі, кожны па-свойму, месца Купера ў сваім чытанні – Янка Купала, напрыклад, а пасля яго У. Дубоўка, М. Паслядовіч і іншыя, але нельга сказаць, што яны зазналі яго ўплыў. Увогуле, здаецца, «школа Купера» адсутнічае ў беларускай літаратуры, а прадаўжальнікамі маўраўскай традыцыі можна назваць толькі аднаго-двух пісьменнікаў.

Праўда, вобразы купераўскіх індзейцаў настолькі моцна ўвайшлі

ў свядомасць, што нашы землякі-літаратары, якія сустракаліся з «сапраўднымі» індзейцамі, вымушаны былі канстатаваць, што мелі пра іх толькі тое ўяўленне, якое чэрпалася з «Апошняга з магікан» (прызнанне Я. Марціноўскай у Нью-Мексіка ў 1927 г.).

Сам выраз «апошні з магікан» з дзіўнай трываласцю ўвайшоў у беларускі фразеалагічны слоўнік. Як вядома, яго неаднойчы ўжываў У. І. Ленін, і «магіканамі» ў яго былі як станоўчыя, так і адмоўныя прадстаўнікі адміраючых груп. Таксама і ў беларускай практыцы магіканамі называліся і пасляскарынаўскія «лідары» Рэнесансу, і заслужаныя ветэраны спорту, нават стары будынак чыгуначнай станцыі, а таксама вандроўнае «племя» белбурнацаў, прычым не ўсім такі плюралізм здаваўся праяўленнем патрабавальнага густу. Найбольш блізкія да першапачатковага сэнсу выразу, безумоўна, такія з'явы, як «выміранне» вёскі і небяспека страты нацыянальнай адметнасці. Узяць хаця б радкі маладых беларускіх паэтаў В. Сахарчука: «Бы магікане, /Уміраюць сяляне / І незваротна пусцее сяло...» («Звон прыдарожных асін») або А. Мінкіна: «Сніўся сон мне жахлівы, трывожны: / Я застаўся адзін, я – апошні / З племя вынішчанага магікан...» («Перачытваючы “Апошняга з магікан”»).

Дарэчы – для некаторых гэта, магчыма, будзе нечаканасцю – магікане ўсе ж не вымерлі, а пасля многіх ваенных сутычак і прымусовых перамяшчэнняў былі паселены ў рэзервацыі Стокбрыдж, штат Вісконсін; разам з метысамі, якія жывуць у Масачусетсе і Канектыкуце, яны налічваюць цяпер некалькі сот чалавек.

Рэчаіснасць, аднак, змянілася, і індзейцы не засталіся такімі, якімі былі, хаця і не сталі шчаслівымі. Л. Яўменаў убачыў у канцы 60-х індзейца у кабіне аўтамабіля: «У далані – не тамагаўк, / Віхлясты руль, / Ён сам – жабрак...» («Аб адным з апошніх «магікан»).

У новыя часы і ўцёкі ў Амерыку напоўніліся новым зместам: мара свабоднага жыцця сярод індзейцаў змешваецца ў развагах «перабежчыкаў» з буржуазнымі свабодамі, прычым зноў гучыць: Джэймс Фенімор Купер. І забываецца, як рэзка сам пісьменнік крытыкаваў парадкі ў ЗША, заўважаючы «маральнае зацьменне», што ахапіла Амерыку.

Як індзейцы цяжка сумяшчаюцца з капіталізмам, так і Купер. які прапаведвае маральнасць і гуманізм, практыкуючы павучанні, якія мала дзейнічаюць на людзей у іх рэальным жыцці, «не ўпісваецца» ў буржуазную дэмакратызацыю, а хутчэй збліжаецца з наіўным і «ўстарэлым» сацрэалізмам. Мяшчанства мае ўніверсальнае распаўсюджанне; крыўдна было б рамантыку, якому прыйшлося перанесці шматлікія нападкі на свае «літаратурныя грахі», пачуць наступны дыялог у савецкай гандлёвай кропцы: «Што даюць? – Кажуць, Купрына. – А што? – Штосьці пра індзейцаў».

У 70-80-я гады тыя, хто раней проста гуляў у купераўскіх індзейцаў, пазнаёміліся з індзейскімі культурамі па больш надзейных крыніцах, набылі вытанчанасць, можна сказаць – арганізаваліся і... павялі атаку супраць аднаго з сваіх «духоўных бацькоў». У колах індзеяністаў, г. зн. хабістаў, сяброў індзейцаў, распаўсюджана меркаванне, што Купер сапсаваў індзейцаў, нашкодзіў іх аўтарытэту, звёўшы іх да прадмета дзіцячых захапленняў. Сапраўды, калі глядзець на Купера вачыма гэтых кампетэнтных у індзеяністыцы людзей, можна знайсці вялікую колькасць недакладнасцей і скажэнняў, адыходаў ад «праўды індзейскага жыцця», можна злавацца на фальклор у форме анекдотаў «пра Чынгачгука». Але тысячы «жорсткіх» рэалістаў не дасягнулі таго, што ўдалося Куперу.

Наўрад ці калі-небудзь знікне з прыроды дабраякасны «індзейскі вірус», які перыядычна «падхоплівае» кожнае новае пакаленне, а з душ – імкненне «ўцячы на індзейскую тэрыторыю», і высакародныя героі – і індзейцы і белыя – нашага Купера былі першымі, хто ствараў новы духоўны свет.

Пераклады Купера на беларускую мову асобнымі выданнямі выйшлі ў 1940, 1996 і 1997 гг. На рускай у Мінску шматразова выходзілі ўсе кнігі пенталогіі і “Шпіён”. Выходзілі ў зборах твораў і асобна таксама менш вядомыя творы Купера. Экранізацыі Купера, якія былі ў пракаце ў Беларусі, уключаюць фільмы: “Чынгачгук – Вялікі Змей”, “Апошні з магікан” (з удзелам Р. Мінса), “Прыгоды на берагах Антарыё”, “Прэрыя” і інш.

*Алесь Сімакоў*

Юрый Паталкоў

# ЭМПАТЫЧНАЯ МЕГАІДЭЯ*: АЎТАР І ПЕРШААЎТАР

## Прарочы інскрыпт

Сённяшнія гуманітарныя навукі шукаюць шляхоў да гарманізацыі маральнага стану чалавецтва. ***Эмпатыя*** ў гэтых пошуках усё больш выступае як выратавальная **мегаідея**. Літаратуразнаўства нашых часоў выразна імкнецца да суперажывальнасці.Становіцца відавочным, што гэтае імкненне абумоўлена “уласнымі традыцыямі крытыкі, сабраным ёю “мысліцельным матэрыялам”, папярэдняй мастацка-крытычнай думкай. Неабходна ўзяць усе метадалагічныя каштоўнасці з папярэдняй крытыкі дзеля сучаснага яе развіцця” (1, с. 567). У згодзе з гэтай неабходнасцю мы звярнуліся да літаратуразнаўчай кнігі Ул. Калесніка “Час і песні”, апублікаванай даўно, яшчэ ў 1962 годзе і, безумоўна, выступаючай сёння як “каштоўнасць папярэдняй крытыкі”.

Пачатак 60-х годоў. Аўтар дадзенага артыкула служыць у войску. І вось - пошта. Лісты з дому, а з імі – кніга: “Уладзімір Калеснік. Час і песні Літаратурныя нарысы і партрэты, Мінск.1962”. Вось нечаканы і значны падарунак ад дарагога студэнцкаму сэрцу выкладчыка! На тытульным лісце – ад рукі: *“Юры Паталкову з пажаданнем: – любі ў мастацтве цуда жыцця”.*

Далёка не адразу зразумеў вучань, што ў гэтым пажаданні (можа, нечакана і для самога аўтара кнігі) мімаволі праявілася прынцыповая маральная першапатрэбнасць: наблізіць літаратуразнаўства да ўсвядомленнага суперажывання эмацыянальнаму стану іншых лю-

---

**Пад эмпатычнай мегаідэяй мы маем на ўвазе падначаленасць усяго існага суперажывальнай сутнасці быцця. Названая мегаідея – не чыясь з людзей гіпотэза, прапанова, тэорыя. Яна – адвечная Божая дадзенасць.*

дзей, надаць яму здольнасць распазнаваць іх пачуцці, перадаць чытачам свой жаль, сваю спагаду. З гадамі ў свядомасці вучня акрэслілася: гэтай першапатрэбнасцю ў пажаданні настаўніка праграмна прамовіла сябе з'ява, тэрміналагічна афармленая значна пазней – **эмпатычнае літаратураўнаўства.**

Паступова салдат (а потым – малады даследчык) павінуючыся запаветнаму інскрыпту з кнігі "Час і песні", прыходзіў да неабходнасці адказваць на трывожныя пытанні: "Што такое "цуд (цуда) жыцця"? Незвычайнасць, нечаканасць, таямнічасць, непазнавальнасць вобразу ці – прыгажосць, гарманічнасць, Боская адухоўленасць мастацтва? Чаму "любі" ў пажаданні існуе як імператыў? Што ўвогуле трэба разумець (альбо адчуваць?), выконваючы загад "любі"? Як пры "цудзе жыцця" любіць не толькі узнёслае, але і ганебнае? Якім быць чытачу: адно "спажыўцом" вобраза ці ўносіць у скарбніцу прыгожага і свае дары?

Афарыстычна выказаны ў інскрыпце запавет праз гады паўстаў ва ўспрыняцці вучня міжвольным ***прадвесцем эмпатычнага поглядy*** на прыгожае. Можа, сам погляд на літаратурную рэчаіснасць праз гады будзе патрактаваны былым студэнтам менавіта як праява фе-номена адвечнасці. Шасцідзесятыя ж гады суперажывальных задач перед даследчыкамі вобразу яшчэ не ставілі. Але гэта зусім не азначала, што феномен не існаваў. Пажаданні Ул. Калесніка з тых далёкіх часоў аказаліся, такім чынам, прарочымі.

Эмпатыя, як вядома, азначае "спасціжэнне эмацыянальнага стану іншага чалавека пачуццём, пранікненне ў гэты стан (…). У якасці асаблівых формаў вылучаюць суперажыванне – перажыванне аб'ектам уласных эмацыянальных станаў з нагоды пачуццяў другога. (…) Устаноўлена што эмпатычная здольнасць індывідаў узрастае, як правіла, з назапашваннем жыццёвага вопыту" ( 2 с. 463).

Пры эмпатычным падыходзе даследчыка да вобразу літаратурны твор выступае ў якасці "іншага чалавека", маючага ўласны "эмацыянальны стан" і прэтэндуючага ў сувязі з гэтым на "суперажыванне - перажыванне" рэцыпіента. Пры эмпатычным падыходзе кожная су-

стрэча чытача з кнігаю – новая (бо безупынна ідзе “назапашванне жыццёвага вопыту” і мяняецца “эмпатычная здольнасць” чалавека).

Зыходзячы з такіх высноваў, можна канстатаваць: у афарызме “любі ў мастацтве цуда жыцця” імператыў “любі” гучыць як *праява эмпатыі.* Асабліва, калі браць пад увагу зацікаўленасць сучаснага грамадства пытаннямі рэлігійнай веры. Да чаго трэба імкнуцца даследчыку суперажывання пры спасціжэнні мастацтва: да ўсхваляванага “любі” ці да лагічнага “разумей”? Жыццё падказвае: эмпатычнае літаратуразнаўства, імкнучыся *зразумець* жыццё, ідзе да гэтага разумення шляхам сардэчнай любові. Іншага шляху чалавецтву не патрэбна: моц любові межаў не мае.

### ***Трыадзіны аўтар***

Пры літаратуразнаўчым асэнсаванні эмпатычнай мегаідэі паўстае пільная патрэба вызначыцца з паняццем **“аўтар мастацкага вобраза”.** Названае паняцце мае глыбокую повязь са з’явамі пачуццёвымі: праца над мастацкім вобразам – гэта адказнасць за кожны напісаны радок. А значыць – адважнае – да рызыкі – прызнанне чытачу ў сваім аўтарстве .Чалавек ў момант тварэння вобразу аказваецца жывым увасабленнем стваральнага пачуцця.

У “любі!”, як на наш час, прамаўляе эмпатычная неабходнасць падрабязна асэнсаваць “маральную кампазіцыю” паняцця “аўтар” . Эмпатычнае літаратуразнаўства трактуе паняцце “аўтар” як субстанцыю **трыадзіную.** У такой якасці згаданае паняцце ўключае ў сябе тры *асобы творчасці*: “Перадаўтар”; непасрэдны мастак; чытач – інтэрпрэтатар. 1.“Перадаўтарам” у мастацкім працэсе выступае Бог: Ён – Першазадума, надчалавечае наканаванне, Муза, адвечны парадак быцця, мегаэмпатыя, шматгранны і бязмежны “*цуд жыцця*”, які існаваў да мастака, снуе адначасова з ім і працягне сваё быццё назаўсёды. 2. *“Мастацтва*” (у інскрыпце настаўніка) – метафара творчай дзейнасці чалавека, выказ беспасрэднай працы мастака як рэальнай асобы, ствараючай вобраз. Пісьменнік не *піша* твор, а даступнымі для яго сродкамі *запісвае* змест, падказаны яму патаемнай Боскай справядлівасцю. Тут дарэчы працытаваць словы Г. Гегеля (у пераказе І.А.

Ільіна): “Адкрыццё ёсць змест мастацтва, і чалавек, які творыць эстэтычна, ёсць мастак Бога”(3, с. 245). 3. “*Любі*” – заданне да рэцыпіента (які сам з’яўляецца жывою часткай быцця мастацкага вобраза, “аўтарам”). Рэцыпіент завяршае вобразатворчую дзейнасць Бога і мастака і дае падставу для далейшага руху першых двух іпастасяў. Ён і “спажывец” прыгожага, і творца новых духоўных каштоўнасцей. З пункту гледжання эмпатычнага літаратуразнаўства чытач адно *чытае кнігу,* але ніколі не *прачытвае* яе: вычарпальнае спасціжэнне “Перадаўтара” для чалавека немагчыма).

Усе тры “*асобы творчасці”* яўляюць сабою адзінства. Узнікае аўтар – суперажыванне: траістая іпастась адзінага стану душы. З гэтага вынікае: для эмпатычнага літаратуразнаўства аўтар мастацкага вобраза – суперажывальная творчасць эстэтычна адоранага чалавека, яго духоўнае дзеянне, накіраванае на ратаванне людскасці ад духоўнага заняпаду. Так што ўсе тры прадстаўленыя тут *асобы творчасці* існуюць адначасова як і адзіныя, і трыадзіныя феномены Духа. Суадносіны паміж згаданымі асобамі мімаволі прыводзяць на памяць Біблейскую Тройцу. Бог Айцец у ёй – прычына і выток адвечнага Быцця Бога, Сына і Святаго Духа. Пры працы чалавека над творам мастацтва “Перадаўтар” – прычына і выток мастацкага вобраза.

***Эмпатычная мегаідэя,*** якая сцвярджае прасякнутасць усяго існага сардэчнай узаемаадказнасцю, аказваецца абавязковым законам і для літаратуразнаўства. Разглядаючы праблемы рэцэпцыі прыго-жага, даследчыкі немінуча прыходзяць да высновы пра “адзінства-неадзінства” мастацкага вобраза. Прыпомнім: Бог-тройца ёсць дасканалы саюз любові. Такім жа саюзам аказваюцца ў мастацтве тры *асобы творчасці*, згаданыя вышэй. Літаратуразнаўства гэтую эмпатычную заканамернасць улічвае. Даследчык Яўген Гарадніцкі, да прыкладу, слушна сцвярджае непарыўную сувязь паміж місіямі мастака і рэцыпіента:

*Немагчымасць адназначнага размежавання крэатыўнай і рэцэптыўнай сфер адзінага працэсу ўзнікнення і функцыянавання літаратурнага твора абумоўлена тым, што аўтар з’яўляецца не толькі ствральнікам мастацкага свету свайго твора. Ён адначасова і*

*рэцыпіент гэтага мастацкага свету, пры тым не толькі ў яго завершанай тэкставай увасобленасці, але і падчас самога творчага акту (4, с. 24)*

Па думцы Я. Гарадніцкага: *Аўтар з'яўляецца, безумоўна, адзіным стваральнікам літаратурнага твора. Ва ўсякім выпадку тады, калі яго аўтарства юрыдычна пацверджана, замацавана нормамі аўтарскага права, факталагічна абгрунтавана літаратуразнаўцамі-тэкстолагамі. Калі ж размова ідзе пра мастацкі свет, то тут справа ўскладняецца. Таму, што літаратурны твор і мастацкі свет гэтага твора – з'явы не тоесныя, хоць і ўзаемазалежныя. (...) Мастацкі свет прадстаўляе сабой двуадзіны працэс спараджэння рэцэпцыі літаратурнага твора (4, с. 23)*

Ёсць усе падставы, пагадзіцца з думкай паважанага даследчыка пра "двуадзіны" працэс". Але ўзяўшы за аснову эмпатычную мегаідэю, мы атрымліваем мажлівасць да згаданай двуадзінасці мастацкага твора дадаць і яшчэ адно звяно (найвышэйшая духоўная моц ,"цуд жыцця", творчасць Усявышняга).

Першасную, зыходную ролю гэтага "звяна" беларускія літаратуразнаўцы падкрэслівалі не аднойчы. Даследчыца Галіна Тварановіч слушна сцвярджае: *Ды незалежна ад таго, усведамляецца, прызнаецца ці адмаўляецца сэнс Падзеі, – усе мы адбываемся ў сваіх лёсах пад засенню Крыжа Збаўцы. І нічога сваёй маральна-этычнай сутнасцю актуальней, універсальней за яшчэ старазапаветныя дзесяць запаведзей, а таксама праграмы-поклічу да ўзрастання ў духоўных магчымасцях, выказанай ў Нагорнай пропаведзі Хрыстом, чалавецтва дасюль не вынайшла (5, 37*)

Прыглядаючыяся да гэтага назірання з пазіцый эмпатычнай мегаідэі, мы бачым у ім адзіна-трыадзінае быццё "аўтара": Усявышні ("цуд жыцця"); "мастак" (творчая праца асэнсавання Слова Божага); рэцыпіент (асоба, спасцігаючая словы пра запаведзі Хрыста). Даследчыца выводзіць паняцце "змест вобраза" з "Сэнсу Падзеі" і аб'яўляе бязмежнасць суперажывальнай улады "Перадаўтара". Так, чалавецтва не толькі дасюль не вынайшла нічога больш універсальнага за дзесяць запаведзяў, але і не вынайдзе ніколі – таму, што

Бог назаўсёды застанецца “Перадаўтарам”. На сцверджанні гэтай канстанты трымаецца сутнасць эмпатычнай мегаідэі.

Літаратуразнаўцы шукаюць голас Падзеі не толькі вакол сябе, але і ў глыбінях душы – сваёй і кожнага з людзей. Так, артыкул даследчыцы Алы Сямёнавай называецца вельмі характэрна і пераканаўча: “Спроба адчуць духоўную рэальнасць неадчутага” ( 6, с. 73) Ідучы да мастацкага вобраза шляхам эмпатычнага пачуцця, удзячна спасцігаеш неабходнасць такой спробы. У артыкуле ідзе шляхетная размова пра “унутраны дыялог”, пра “ паяднанасць са светам і адстароненасць ад яго як норму Быцця” (6, с. 75)”. Гэтыя асаблівасці даследчыца з піетэтам прыкмячае ў творчасці Яна Чыквіна – паэта і навукоўца. У размове пра эмпатычную мегаідэю асэнсаванне А. Сямёнавай творчага даробку гэтага выдатнага літаратара слушна асэнсоўваецца як шлях глыбока апраўданы і патрэбны, а значыць – у чымсьці дапамагаючы наблізіцца да мегаідэі, пра якую тут мова… І відавочна, аўтар мастацкага твора назаўсёды застанецца “адзінатрыадзінай “*асобай творчасці*, дасканалым саюзам любові. Мегаідэя успрымае паняцці “аўтар” і “суперажыванне” як сінанімічныя выразы непадзельнага творчага феномена.

### *“Час і песні”: ранняя праява эмпатычнай мегаідэі*

У кнізе Ул. Калесніка і ў інскрыпце, звернутым да вучня, лексікі, блізкай да “сэнсу Падзеі” і да “духоўнай рэальнасці неадчутага” няма. Але само суперажыванне – прысутнічае. Таму мы і ўспрымаем кнігу Ул. Калесніка як *прадвесце* менавіта эмпатычнай трыадзінасці. Сама назва кнігі “Час і песня” як мастацкі вобраз увасабляе ў сабе суперажывальную трыадзінасць,. *“Час*“ – гэта сітуацыя, у якой вобраз паўставаў, (“Перадаўтар”, духоўны стан чалавецтва, прычына і выток прадвечнага быцця). *“Песні”* – сама творчасць, “матэрыя” працы мастака; здзяйсненне волі Бога пісьменнікам (“мастак Бога”). А вось грамадская *рэцэпцыя* кнігі прадстаўляе сабою заключную (адначасова і пачатковую) іпастась быцця даследчыцкай думкі. Усе згаданыя праявы мастацкага вобраза знаходзяцца ў суперажывальных адносінах паміж сабою.

Трыадзінасць праяўляе сябе і ў самым змесце разглядаемай кнігі Ул. Калесніка. Галоўным прадметам вывучэння ў ім – лёс і прызначэнне пісьменніка ў соцыуме. Грамадства для Уладзіміра Андрэевіча – не столькі ўвасабленне дзяржаўных інстытутаў і пастаноў, колькі феномен маральнай самадастатковасці этнасу і чалавецтва ў сучаснасці і ў гісторыі:

*У другой палове 50-х гадоў, калі стала адыходзіць ад дагматычнага здранцвення наша літаратурная думка, пачуліся то абураныя, то заклапочаныя, то вінаватыя галасы і адгалосы ў абарону сярэдняга пісьменніка, радавога салдата літаратуры. Грамадскасць прыкмеціла, што раней крытыка найчасцей выхваляла паасобных майстроў слова ды праз пальцы глядзела на руплівую працу ўсяго творчага калектыву (7, с 5).*

Наўрад ці Ул. Калеснік суадносіў свой маналог пра "радавых салдатаў літаратуры" з Нагорнай пропаведдзю Хрыста. Верагодней за ўсё – зусім не суадносіў: ён быў чалавекам свайго часу. Такой жа была і пастава тагачасных чытачоў кнігі. Але маналог – з'явіўся! І сёння за яго радкамі мімаволі вымалёўваецца выраз "Блажэнны згаладалыя!" Нагорнай пропаведзі Сына Божага. Больш таго, відавочна, што менавіта эмпатычныя пачуцці даюць Ул. Калесніку моц прыгледзецца да *ўсіх* "жабракоў духа": і абураных, і заклапочаных, і вінаватых. Ва ўсім гэтым чуецца векавечная трывога Усявышняга з нагоды пакут чалавечых ("Прыйдзіце да Мяне ўсе спрацаваныя і прыгнечаныя цяжарам, і Я заспакою вас"). Такім чынам, *мімавольнай прычынай* паўстання кнігі "Час і песні" аказаўся покліч Усявышняга. (аўтар кнігі "Час і песні" заклікае да сябе абыйдзеных лёсам майстроў літаратуры і заспакойвае іх).Так што ва ўступным у кнізе маналогу, працытаваным тут, выразна праяўляе сабе "Першааўтар"

Сам жа рэальны творца кнігі "Час і песні" (згодна з эмпатычнай мегаідэяй) – толькі другая з *асоб творчасці,* адно "мастак Бога", канкрэтны працаўнік прыгажосці. Ён апісвае акаляючую яго грамадскую сітуацыю і выказвае ў адносінах да яе свае заўвагі.

Ул. Калеснік выступае і трэцяй (з нагаданых вышэй) *асобай творчасці*. Гэта значыць, праяўляе сябе адным з суперажываючых

рэцыпіентаў ім створанага. Эмпатыя падтэкстава існуе ў ім. Больш таго: яна жыве тут у кожным радку кодэксам гонару, своеасаблівай “клятвай Гіпакрата”. “Любі” тут – не пажаданне, а загад перад боем. Менавіта таму галоўнае, “ключавое” слова ў дадзеным фрагменце – “абарона”. Уся творчая і жыццёвая практыка Ул. Калесніка была абаронай чалавека. У кнізе “Час і песні” даследчык адстойваў права творчай асобы на грамадскае прызнанне. Адстойваў і ў імя гэтай самай асобы, і дзеля неабходнасці перасцерагаць соцыум ад “дагматычнага здранцвення” – ад небяспечнага анабіёзу.

## Дэфініцыя

Такім чынам, інскрыпт настаўніка, адрасаваны да вучня, і ўсё даследванне беларускай масавай паэзіі ў кнізе “Час і песні” прадстаюць сёння раннімі праявамі суперажывальнага літаратуразнаўства. Сучасныя меркаванні беларускіх даследчыкаў, разгледжаныя ў нашым артыкуле, таксама носяць суперажывальны характар. Па іншаму быць і не магло: кожны твор мастацтва апрыоры выказваецца эмпатычна. З пункту гледжання эмпатычнай мегаідэі мастацтва не бывае “супраць”, яно бывае толькі “за”. Так адбываецца таму, што тварэннне вобраза пачынаецца з суперажывальнай працы Першааўтара. Гэтай жа працай і працягваецца.

Літаратура:


1. Борев Ю.Б., *Эстетика*. В 2-х т., Смоленск 1997, т. 2.

2. *Психология. Словарь*, Москва 1990.

3. Ильин И.А., *Философия И.А.Гегеля как учение о конкретности Бога и человека,* Спб 1994.

4. Гарадніцкі Я.А., *Літаратура як мастацтва: камунікатыўнасць, інтэрмедыяльнасць, наратыўнасць,* Мінск 2014.

5. Тварановіч Г.П., *Пад небам Айчыны,* Беласток 2005.

6 Сямёнава А., *Спроба адчуць духоўную рэальнасць неадчутага,* (у:) *Шлях па прамой часу*, Беласток 2007.

7. Калеснік Ул., *Час і песні,* Мінск 1962.


*Юрый Паталкоў*

Людміла Зарэмба

# ПЕРСПЕКТИВНОСТЬ ЛИТЕРАТУРНО-КРИТИЧЕСКОЙ ПАНОРАМЫ

*Над святою студняй. Творчая індывідуальнасць Яна Чыквіна.* Пад рэд. Галіны Тварановіч і Анны Альштынюк, Беласток 2020, 438 с.

Юбилейное издание, о котором пойдет речь, сочетает в себе охват наиболее значительных процессов внеграничного белорусского художественно-интеллектуального бытия на переломе XX-XXI веков с убедительным утверждением их безраздельной сопричастности творчеству и деятельности Яна Чиквина. Такой взгляд и оценка писателя, конечно же, вовсе не новы, они присутствуют в обобщениях практически всех статей данной этапной для нас книги и их подробный и многосторонний анализ еще предстоит сделать. Сегодня же непременно хочется высказать, адресуясь к широкой аудитории, самое первое впечатление о подарочном фолианте: неординарное, драгоценное и раскошное литературное явление, оркестровая гармоничность и единство представленных материалов.

Полагаю, что состоявшаяся дискуссионная площадка организована очень продумано – как в высшей степени гуманитарная с серьезными проекциями в общественную жизнь, а также текущую культурную ситуацию.

Созданное Чиквиным предстает здесь в снятом состоянии, будто рождённым самой объективной необходимостью из недр доминантных реалий, вне каких-либо преобразовательных напряжений со стороны субъективной авторской воли. Эта учреждающая мысль пронизывает её, подчиняя себе все компоненты, включая оформительную атрибутику.

Взглянем на обложку (художник не указан, потому можно предположить издательский коллектив). Перед нами высвобождённый из привычных картинных штриховых ограничителей, «размытый» род-

ной пейзаж, как он существует извечно в колористических переходах-импульсах, где истина макроестества не терпит, потому что не имеет в себе насилия линий, которые привносятся в изображения человеческим ratio. От яруса светонапоенной густой зелени Беловежи – плавное движение к антропологической насыщенности жизнью «творчай індывідуальнасці» и солярности, а далее – в синеву верха. Солнечнородным предстаёт вербальное означение святого колодезя поэзии. Будто по счастливому совпадению общее название тома координирует с заголовком чиквинского поэтической книги «Святая студня», где наиболее ощутимо стремление поэта к свободному употреблению элитарных устойчивых форм.

Такой подход к чтению последовательности разноавторских нарративов предлагается читателю и титульным листом, где в качестве подзаголовочных данных второго заглавия – сведения не жанрового, а объединяющего характером содержания: «Творчая індывідуальнасць Яна Чыквіна».

Связь опубликованных 34 штудий сборника с конкретным для каждого случая предметом рассуждений подчеркнуто тесна и непосредственна. Общее содержание арт-издания – критика в её изначальном, наиболее ценном понимании термина. Это отклики-впечатления о произведениях из среды именно тех, для кого они прежде всего и создавались – читателей современного общества преимущественно близких филологическому кругу, реагирующих на явления исскуства активно и неординарно, опираясь на культурный базис, исторический опыт, знания. Не станем забывать, что и последовательность представленного материала в соответствии с хронологией выхода в свет произведений делают книгу дополнительно диалектически насыщенной, обогащают познавательностью конкретики фактических деталей, идей времени и времен. Более того, книга дает основания говорить о существовании особого достаточно цельного исследовательского направления – чиквиноведения. Оно перспективно своей открытостью в сегодняшние и предстоящие нацио-нально-европейские дилеммы. Влечением этой стремнины оказались охвачены литераторы, внимательные к разножанровым прозведениям

нашего соотечественника, их поэтике и проблематике. Здесь благотворно взаимовлияют, «организуют» работу научные изыскания самого Чиквина (см. об этом например в статье Л. Д. Синьковой «З любоўю да красы: беларусазнаўчыя даследаванні Яна Чыквіна», с. 229-244).

В выдвижении на первый план родовых, обобщающих задач белорусской культуры мыслится основная заслуга, общественная полезность и этическая востребованность юбилейной книги. Эти обстоятельства в большой степени сформулированы её энергией надобыденности, которой воссоздаются стихия и логос содержания открытий, ориентация внутреннего облика, личностная доминанта главы белорусского зарубежья как человека в высшей степени преданного нравственным идеалам своей профессии – призвания, аскетичного в отношении к административным регалиям. Между тем они высоко дополняют заслуги в успешном руководстве большим творческим коллективом. Об этом, общепризнанном, серьёзный разговор в национальном культурном пространстве, безусловно, назревает и, конечно же, состоится.

Очевидно, что традиционный подход XX века к последовательно-описательному процессу творчества как неуклонному приращению показателей не привлекает литераторов. Действительно, он недостаточно гибко учитывает природу искусства. Ныне актуален разброс мнений, точек отчета, координат, что свидетельствует о заинтересованном поиске наряду с результатами оптимальных методов познания. Один из них – критический поток – нам представлен. Он еще нуждается в глубоком базисном изучении, выделении конк-ретных вариантов, которые более всего отвечают постижению граней индивидуальности Яна Чиквина. Текущую ситуацию в известной мере характеризуют самые близкие к нам по времени материалы рецензируемой книни – Ольги Шинкаренко «Калі ратуе роднае” (2018 г.) и Ольги Никифоровой “Новая кніга паэта” (2019 г.), посвященные анализу книги прозы Яна Чиквина «Трохкрылыя птушки» (2018 г.), составляющие для толкования взаимокоординационный блок. Очевидные авторские приоритеты последних десятилетий (обращение к

прозе малых форм), к сожалению, еще не стали таковыми для ученых-филологов. О. Никифорова отмечает: «...загадкавы вобраз, вынесены ў назвы цыклу і кнігі. Ці не суадносіцца ён менавіта з памяццю мастака – свабоднай і імклівай ў пераадоленні межаў (птушкі) і разам з тым неразгаданай сімволікай нечага трывожнага (трокрылыя), пакольні пагражае болем дотыку да запаветнага, глыбока схаванага?.. (с. 429). А если при этом учесть, что о заголовках рассуждали все, кто ни писал о дискретно-циклических сочинениях нашего уважаемого автора, то станет понятно – перед нами наисущественнейшая гносеологическая цель.

Предлагаем свое толкование непознанного образа третьего крыла: эта поднимающая над бытом творческая сила энергии чувства и мысли, предвидения и создания идеальной виртуальной реальности, изменения мира по своему свободному творческому протеизму. Юмором и жизнелюбием наполнены все перипетии интенсивного и эстэнсивного роста, внутреннего мира лирического «я» в рассказе «Кніжка ў зеленаватых вокладках", написанном победно, оптимистично и даже с «хепи-эндом».

Стремление к овладению субстанцией зияющей, неизвестной, манящей, подъем душевных сил, вдохновение – вот третье крыло. Оно поднимает над привычкой, скудостью, сном воображения.

Вся книга прозы Я. Чиквина – это художественное рассмотрение модусов такой крылатости. Если второй, центральный её раздел "Трохкрылыя птушкі" не вызывает сомнений в своей причастности идее книги как одноименный, то заключительный «Няскончанае маўчанне» очень любопытен сопряжением в психологическом ключе идеально-личностной проблематики с остро общественной. Повествование обретает часто жанровые черты параболы.

Вот в «Прысутнасці" стилистически «замаскированное» под привычное плавно-свободное сообщение о локально-нейтральном: торговый зал небольшого почтового отделения, середина дня. Между тем акцентное указание на место событий прозаизмом, совпадающее с началом произведения «На пошце...» есть эвфеминистическое обозначение *ожидаемой* неизвестности, некоей эмоциональной стрем-

нины. Латентное напряжение в том, что отсутствуют привычные для середины дня посетители, тенденциозно названные автором “інтэрэсантамі” (от франц. коммерчески окрашенная заинтересованность). Они как референтная возможность именно в такой коннотации заявлены и остались в тексте лишь регистрацией отсутствия, т.е. тенью, полу –, как бы существованием.

Нарушили уже тревожащую, нестабильную устойчивость предметного мира своим движением весы. С их-то физического «первотолчка» все и началось, пошло-поехало... Не станем забывать, что для этого легли на «шалю» экземпляры новоизданного томика. (Перед нами наглядное нерасторжимое единство материального мира с идеальным!).

В такую-то сферу вступает наш персонаж – человек в состоянии эйфории, торжествующий, гордый своим созданием автор. Ему “карцела пільна выслаць фундатару... кнігу, якая толькі што з’явілася”. Косвенно указывается на предполагаемый контакт с адресатом, который своей увлеченностью подстать писателю: «кніга з'явілася дзякуючы яго дабрачыннасці». Из таких вступлений последующее действо формируется и развивается быстро и в иной плоскости: «раптам адчуў нечую прысутнасць. Азірнуўся», «на імгненне... сустрэліся вачыма. Здалося», «непамерна здзівіўся», «галюцынірую».

Лирический герой – тонко чувствующий субъект, в топосе психически напряженных мотивов особенно легко пересекает границы привычно-предметного антуража, обращается к иллюзорности. Параболические устремления повествования здесь базируются и поддерживаются первичной связующе-коммуникативной функцией любого искусства и важнейшим предметом его – духовной стороной жизни.

Как отмечалось, в книге «Над святою студняй» преимущественно рассматривается поэзия юбиляра. В двух частях представлена эволюция поэтического слова Яна Чиквина. Можно сказать, предпринята периодизация творческого пути автора «Трохкрылых птушак». В первой части «З другога боку слова» (1970 – 1992) выступают в основном польские авторы: Вальдэмар Смащ, Эльжбета Феликсяк, Тэрэса Заневска, Франтишек Кабрынчук, а также Сакрат Янович и Масей Седнёв.

В свою очередь, во вторую часть рассматриваемой книги «У свеце – нашым і бясконцым» вошли статьи свыше двадцати авторов, написанные на протяжении почти тридцати лет – от начала 90-х и до времени выхода книги – при том преимущественно исследователями из Беларуси. И как верно отметила во «Уступным слове» книги Галина Тваранович, один из её редакторов, книгой «Над святой студняй» отдается должное не только юбиляру, но и «усяму літаратурнаму аб'яднанню "Белавежа", яе паэтам і празаікам, творчасць якіх з'яўляецца арганічнай часткай усёй беларускай літаратуры".

*Людміла Зарэмба*

**ТЭРМАПІЛЫ**
Адрас: 15-420 Białystok, Plac NZS 1

выдае
*Беларускае літаратурнае аб'яднанне „БЕЛАВЕЖА”*

**Zrealizowano dzięki dotacji
Ministra Spraw Wewnętrznych i
Administracji**

Да ведама аўтараў

Рэдакцыя прымае да разгляду празаічныя творы аб'ёмам не болей 5 друкаваных аркушаў (прыблізна 120 стр. машынапісу), паэтычныя да 200 радкоў, артыкулы да 2 друкаваных аркушаў. Усе матэрыялы прымаюцца ў электроннай і раздрукаванай форме. Рукапісы не вяртаюцца.

Аўтары нясуць адказнасць за свае матэрыялы ў адпаведнасці з законам аб друку Польшчы.

Апублікаваныя матэрыялы неабавязкова адлюстроўваюць пункт погляду рэдакцыі часопіса.